Народ пачаў разыходзіцца. Гоман зрабіўся больш ціхамірным, часьцей узьвіваўся вясёлы, здаволены сьмех. І вось раптам ускочыў на пляцоўку вагона жудасна-вялікі грамоздны матрос, пачаў гаварыць гарачым сіплым голасам, пачаў распальваць ужо троху астыглае абурэньне натоўпу. І з кожным словам яго зноў закіпала, зноў узьнімалася бура, зноў густа нахлынулі к вагону, загрымелі лютым бурлівым гоманам. Крычалі ў нейкім шалёным запале, патрабавалі, каб зноў вывелі, паказалі Духоніна. На пляцоўцы зьявіўся Духонін. І вось тут адбылася крывавая драма. Як толькі паказаўся недалужна-спалоханы твар генэрала, нешта завілося ў натоўпе—такое едкае, вострае, нешта звыш таго гнеўнага абурэньня, і пачало шпарка-шпарка расьці, закруцілася віхрам, зьліло ўсіх у адно агнёва-прагнае.

Першы ўдар грамозднага матроса паслужыў сыгналам. Быццам усе напружна чакалі гэтага першага ўдару, быццам узрадваў ён усіх—узьвіўся рэзкі крык, грузна матнулася ў паветры скарабачанае цела генэрала, усе сударгава памкнуліся туды, да яго,—і перамяшалася ўсё ў нявымоўна-тлумным, шумлівым.

Быў адзін момант, калі пад напорам задніх радоў пераліваўся некалькі раз натоўп праз тое месца.

Потым матросы, што вартавалі поезд, разагналі народ, зараз-жа нечым накрылі труп і праз момант панясьлі некуды на насілках.

Здалося Лясьніцкаму, што ў гэты момант шырока пранёсься недзе ў паветры ўздых здаволенага палягчэньня. Яго ахапіла дзікая жудасьць, ён затросься ўвесь, быццам фізычна пачуў ледзяны подых сьмерці. Потым туманна ўсплыло ў памяці, што ў той гарачы момант у яго ў самога сударгава сьціснуліся былі кулакі, і ён разам з усімі быў памкнуўся наперад, гатовы ўпіцца ў бясьсільнае акрываўленае цела. І яшчэ чорна мігнула страшнае падазрэньне, што ў той дзікі, радасна-крыважэрны крык уліўся быў апантаным віскам і яго ўласны голас.

Ідучы ад крывавага месца, ён ня мог зірнуць у твар сустрэчным—яму здавалася, што яшчэ ня сьцёрлася тая грымаса, што яшчэ чакаюць нечага, што жорстка стаіць ува ўсіх маўклівае запытаньне:

— Хто наступны?

І не паверыў, што гэта праўда, калі няўмысьля ўпёрся ў нейкага ласкавабародага селяніна, які зусім пахатняму выціраў аб палу запэцканыя ў кроў рукі і вінавата ўсьміхаўся яшчэ белымі ад хваляваньня вуснамі.

— Так яму й трэба, сволачы... Ах ты, буржуйская морда... Яшчэ аб'ясьняецца.

Раіса чакала Лясьніцкага на тым самым месцы. Яна была бледная, устрывожаная. Яна нецярпліва кінулася насустрэчу Лясьніцкаму, запытала:

— Васіль Данілавіч! Што там было? Што гэта панясьлі тут, абкручанае брэзэнтам?..

Ён адказаў ёй:

— Толькі што тут натоўп разарваў генэрала Духоніна.

І раптам ён са страхам заўважыў, што вусны Раісы пачалі дрыжэць, вочы заміргалі, глыбока наліліся сьлязьмі—яна ня вытрымала моцнага нэрвовага ўзрушэньня і сударгава заплакала. І тут-жа пачуўся з боку пагрозна-насьмешлівы голас:

— Іш ты, пашкадавала... Адразу відаць панская костка...

Лясьніцкага ахапіў шалёны спалох. Ён з усіх сіл сьціснуў Раісу за руку, засіпеў сярдзітым шопатам:

— Маўчыце!

І пасьпешна павёў яе ў бок, дзе было менш народу. Яна да крыві закусіла губу, каб стрымаць свой мімавольны плач, і толькі зрэдку балюча ўсхліпвала, а сьлёзы ліліся бязгучным дажджом і таму былі дзіўныя, недарэчныя.

Лясьніцкі ўсё так-жа сур'ёзна і строга зьвярнуўся да яе:

— Цяпер што-небудзь з двух—выбірайце... Або вярнуцца назад, або пайсьці шукаць эшалону і ехаць з салдатамі.

Яна рашуча адказала:

— Я не вярнуся, Васіль Данілавіч!

Тады яны пайшлі па пуцях і з паўгадзіны шукалі, пакуль натрапілі на эшалон, які павінен быў неўзабаве пайсьці ў іхны бок. Яны падышлі да таварнага вагону, у якім праз адчыненыя дзьверы відаць было яшчэ ня мала вольных месц, і Лясьніцкі запытаўся ў тых, што сядзелі бліжэй да дзьвярэй:

— Ці можна з вамі праехаць?

Адзін паджылы салдат адказаў навучальна-сур'ёзным тонам:

— Чаго пытаешся? Бачыш—месца ёсьць, значыць і можна. Гэта-ж табе не даўнейшае, што сюды—можна, а туды—няможна.

У гэты час падскачыў да дзьвярэй юркі лёгенькі салдацік, закрычаў фамільярна і тонка:

— А, даёш, даёш, даёш!.. Любачка, красачка!.. Ай-яй-яй, што за золатца!..

Раіса спалохана ўхапілася за руку Лясьніцкага. Але разважаць было позна. Ён памог ёй, дрыжачай ад страху, улезьці ў вагон, ускочыў сам, і яны занялі сабе ў кутку прытульнае і ціхамірнае месца.

Салдаты пазіралі на Раісу з адкрытым салодкім замілаваньнем, кідалі досыць выразныя і ня зусім сьціплыя жарты. Потым адзін падсеў к Лясьніцкаму, ляпнуў яго па плячы.

— Што, зямляк, жонку вязеш?..

І раптам мільгнула ў Лясьніцкага радасна-хітрая думка. Ён адказаў з прыветна-вясёлай шчырасьцю:

— Так... Прыехала вось да мяне, пагасьцявала троху... Цяпер я ўзяў невялічкі водпуск...

— Іш ты... У войску жаніўся?..

— Так, нядаўна зусім... У Смаленску раней мы стаялі, там я й жаніўся. Дык як вышла! Вось сёньня жаніўся, а праз тры дні выступаць... Нават не паглядзелі добра адзін на аднаго...

— Ды ўжо такая наша доля... Глядзі што ў кожнага так...

І вось пад уплывам мабыць наіўна-шчырага тону гэтага выдуманага апавяданьня, усе, хто быў у вагоне, працяліся нейкім асаблівым спачуваньнем к Лясьніцкаму, пазіралі ўжо й на яго і на Раісу з таварыскай ласкай, пачалі расказваць адзін аднаму пра свае сямейныя справы. Нават дайшло да таго, што калі нехта занадта востра вылаяўся, дык усе на яго дружна тукнулі:

— Ціху! Ня бачыш—жанчына сядзіць.

Тады Лясьніцкаму стала зусім добра, прыемна. Радасна-заспакоены ён сам сабе думаў:

— Гэта-ж усё такія добрыя, любыя мальцы...

І нават рабілася сорамна, што падмануў іх, што ашуканствам дасягнуў такога цёплага спачуваньня.

Поезд пайшоў, як ужо зусім сьцямнела. Тады шчытна зачынілі дзьверы і ў вагоне асталася глухая цемра, мяккі грукат каткоў ды прыглушаны ціхамірны гоман зблiжаных дарогай людзей. І паплыло тады ў роўным калыханьні нешта млява-цягучае, спакойна-бязьмежнае, як ціхі сум па мінулым, мякка адкрыла сэрцы для сьвежай пяшчоты.

Раіса прымасьцілася, як котка, на руках у Лясьніцкага, шчыльна прытулілася к яму так, што ён чуў чароўна-мяккую цяплыню яе любых грудзей, і ціха шаптала, каб ніхто не пачуў:

— Ну, абнімі мацней, мне холадна... Сагрэй мяне... Вася...

А яму цяпер хацелася, каб ня было нідзе станцый на гэтым пуці, каб ехаць так без канца краю, каб вечна трымаць у руках свой многацэнны скарб, сваё шчасьце. Працяты непазбыўна-глыбокай пяшчотай ён шаптаў ёй скрозь ціхія (каб ніхто не пачуў) пацалункі:

— Ты—жонка мая... ты—дарагая любая жоначка... Я цябе не аддам нікому, буду ўвесь век трымаць так... буду моцна-моцна абнімаць... во так... во...

На вузловай станцыі, дзе была ім перасядка, давялося чакаць да самага раньня. Раіса пайшла ў жаночы пакой—адзіны пункт, дзе яшчэ можна было знайсьці вольнае месца, а Лясьніцкі пачаў бадзяцца па вялізнаму змрочнаму памяшканьню вакзалу, цэрціся сярод шчытнашэрага людзкога натоўпу. І чым больш ён хадзіў, чым больш прыслухоўваўся да нэрвова-ўзрушанага говару людзей, тым глыбей працінаўся

нейкім новым нявыразным пачуцьцём, падобным на шчымлівае імкненьне некуды ў далеч, на ласкавы сум па прасторах, па нечым шырокабязьмежным. Ён памалу заражаўся агульным настроем, якім быў ахоплены ўвесь гэты шэры натоўп, у нутры ў яго пачынала расьці тая разгонкая лёгкасьць, вальготнасьць, якая характарызуе псыхолёгію паўстаньня, якая вырастае з протэсту супроць усяго таго, што гняло дасюль, што адбірала вольную волю. Калі ён слухаў, як на лятучых, тут-жа ў вакзале або на пэроне наладжаных мітынгах з радаснаўрачыстым запінаньнем (бо ня ўмелі) гаварылі шэрыя салдаты свае нямудрыя прамовы, у якіх з асаблівым замілаваньнем выгаварваліся крывава-блізкія словы „мір“, „зямля“, „заводы“,—дык у яго сьціскалася сэрца і хацелася самому гаварыць, хацелася зрабіць нешта, пайсьці куды-небудзь з гарача-распаленымі вачмі, з вольным захапленьнем.

Але зьяўлялася прыкра-даўкая думка, што ён ня можа, ня ўмее быць разам з усімі, што ён чамусьці збоку стаіць, што не запрошан на гэты бурлівы баль, нават не разумее яго гістарычнай сутнасьці і справядлівасьці. Разам з гэтай думкай выплывала ў уяўленьні вёска, мільгала чорная варожасьць, тупое неўразуменьне, якое жорстка застрала паміж ім і сялянамі. І было тады дужа няёмка, хацелася схавацца куды-небудзь, уцячы ад самога сябе.

У адным кутку вакзала ён убачыў ідылічна-сьмешную карцінку. На нейкай скрынцы сядзелі поплеч афіцэр і салдат—абое п'яныя. Афіцэр абнімаў салдата і ўсё тлумачыў, што яны цяпер роўныя, што яны любяць адзін аднаго і г. д. А салдат у гэты час задуменна спусьціў галаву і ціхенька пеў тонкім, але поўным заўзятай гульлівасьці голасам:

Па...ці...рала я калечка-чка,
Па ..ці...рала я любоў—
Я любоў.
Наверна,
Па...ці...рала я любоў...
І...з-за...гэтага калечка-чка
Бу...ду...плакаць дзень і ноч—
Дзень і ноч.
Наверна,
Бу...ду...плакаць дзень і ноч...

Лясьніцкі падышоў і зьвярнуўся да іх:

— Што, весяліцеся?..

Салдат і не павярнуўся—мармытаў сабе сваю песьню, а афіцэр адгукнуўся ахвотна, пачаў гаварыць з ім—балазе знайшоў размоўцу. І Лясьніцкі цэлую гадзіну сядзеў з гэтым афіцэрам, рады, што хоць з п'яным здолеў знайсьці нешта супольнае, дружнае, што хоць праз яго падыйдзе бліжэй да гэтага дзіўна-сьмелага ўзрушэньня.

## VIII

Чым бліжэй падыходзілі да вёскі (са станцыі ішлі пехатой—не знайшлі падводы), тым больш і больш халадзеў настрой Раісы—яна рабілася такой самай ледзяна-замкнёнай, як мёрзлае восенскае раньне, праз якое ішла іх дарога. Яна была зноў чужая, далёкая—з глыбока-таемнымі сваімі думкамі, з глуха закрытым для Лясьніцкага сьветам сваіх пачуцьцяў і перажываньняў. Лясьніцкі стараўся як-небудзь затрымаць нядаўную блізкасьць—ён многа гаварыў, наўмысьля надаваў свайму голасу сяброўскую прастату і фамільярнасьць, выбіраў словы такія сваяцка-цёплыя—думаў словамі зьвяжа, зацягне шчыліну халоднае чужасьці. Гаварыў датуль, пакуль не прымячаў, што словы, як іскры, гаснуць у нейкай нямотнай пустэчы, што выходзіць недарэчна, што ў яе на твары ледзь прыметна зьбіраецца цень дасадлівага неўразуменьня. Тады некаторы час маўчаў і з недалужнай роспаччу глядзеў на халодную чужую Раісу.

Калі праяжджалі праз Дняпро (хадзілі глыбокія сінія хвалі і вецер дзіка пеў у чорна-аголеным лазьняку), Раіса чамусьці запытала ў Лясьніцкага:

— Васіль Данілавіч! Вам не пашкодзіла гэта паездка—па службе, ці так у чым-небудзь?..

Ён, вядома, не сказаў ёй праўды, запэўніў, што нічым не пашкодзіла.

— Я так вам удзячна, Васіль Данілавіч. Я ня ведаю, што-б я рабіла, каб ня вы...

Тады ў Лясьніцкага ў думках рэзка, нахабна мільгнула:

— Што гэта? Расквітваецца?...

Бацька Раісы жыў пасьля пажару на вёсцы, у папоўскім доме. Палавіну вёскі трэба было прайсьці ім да гэтага дома. Лясьніцкі бачыў, як у вокнах зьяўляліся цікавыя твары дзяцей, як сьледам за імі прыліпалі да шыб ня менш цікавыя твары дарослых—усе праводзілі іх зьдзіўлена-ўсьмешлівымі поглядамі. Лясьніцкі фізычна адчуваў на сабе прыкра-калючае прыткненьне гэтых поглядаў, і ў яго ўсплывала едкае пачуцьцё ні-то сораму, ні-то адчаю, ад якога хацелася пабегчы, уцячы, зьнікнуць ад людзей і ад самога сябе.

Раіса папрасіла яго зайсьці на хвіліну да іх.

— Тата страшэнна спалохаецца, што я адна... Вы мне пасобіце запэўніць, што ўсё было добра, што я нічым не рызыкавала, выправіўшыся ў гэту дарогу. Добра?..

Гэта быў першы выпадак, калі Лясьніцкі з вялікім нездаволеньнем выконваў просьбу Раісы—дужа не хацелася яму сустракацца з старым панам.

Пан быў ужо ўстаўшы. Ён сустрэў дачку з спалохана-сумятлівай радасьцю, пастарчаму разам сьмяяўся і плакаў, шапялявіў у пасьпешным хваляваньні:

— Божа мой!.. Як-жа ты?.. Дачушка, дзетачка... У такую пару... адна... родная... як-жа гэта ты?..

Раіса нецярпліва прымала сьлязьлівыя бацькавы ласкі, сьпяшалася яго заспакоіць:

— Я не адна, тата, я з Васілём Данілавічам... І нічога тут страшнога... Да-душы, татачка, усё было зусім-зусім добра... Вось і Васіль Данілавіч можа сказаць...

Пан заўважыў Лясьніцкага, ветла яму заўсьміхаўся.

— А-а-а... малады чалавек... Я ўжо недзе бачыў вас... Ага, помню-помню... Шчыра дзякую... Шчыра дзякую... Ведаеце, у такі нядобры час усё можа здарыцца... Дык як, нішто, добра праехалі?.. Сядайце, калі ласка!..

Лясьніцкі для прылікі нешта сказаў пра дарогу, але сесьці адмовіўся, сказаў, што зараз пойдзе да хаты. У гэты момант Раіса запытала:

— А дзе Карл Іванавіч?

Пан прыняў трывожна-маркотную міну, з глыбокай скрухай уздыхнуў.

— Забралі Карла Іванавіча, арыштавалі... Нейкае дзікае бязладзьдзе пайшло тут у нас. Робяць, што хочаць, не баяцца нікога, свавольле, самаўладзтва ўсюды... Ужо й зямлю нашу забралі, лес раздаюць каму хоця... Нейкая дзікая зьвярыная анархія...

Раіса перабіла яго:

— Даўно арыштавалі?

— Тры дні ўжо.

— Яму нічога не пагражае?

— Хто-ж іх ведае, дзетачка. Усё ў іхнай волі. Зробяць, што толькі захочуць.

Раіса зьвярнулася да Лясьніцкага, спакойна, троху сарамліва ўсьміхнулася.

— Васіль Данілавіч! Выбачайце, што я так часта карыстаюся дадзеным мне правам... Але-ж мне няма да каго больш зьвярнуцца. Вы тут ведаеце ўсіх, яны таксама вас ведаюць добра. Я прашу вас толькі дакладна даведацца, у чым тут справа, і што можна зрабіць, каб памагчы яму.

Лясьніцкі згадзіўся. Ён запытаў, хто на вёсцы кіруе гэтымі справамі, і аказалася, што ўсім заварачвае камітэт і што на чале яго стаіць Рыгор.

— Я пайду зараз-жа і аба ўсім даведаюся. Я зраблю ўсё, што толькі здолею, каб як хутчэй ліквідаваць гэтае непаразуменьне.

І ён пайшоў, троху зьдзіўлены тым роўным спакоем, з якім сустрэла Раіса вестку аб арышце свайго роднага дзядзькі.

Рыгор сустрэў яго едка накіраванай некуды ў бок усьмешкай, запытаў з варожым закідам:

— Што, паненку прывёз з гораду?..

Лясьніцкі чамусьці зманіў:

— Сустрэліся на станцыі, дык разам прышлі. Слухай, Рыгор, што гэта здарылася тут з „Карлам“, за што яго арыштавалі?

— А гэта ўжо ведалі, мусіць, за што... Некаторых зусім ня пыталіся...

Лясьніцкі закіпеў:

— Я думаю, што кожны грамадзянін можа знаць, што робяць прадстаўнікі ўсёй грамады.

Рыгор нібы памякчэў.

— Папытайся ў воласьці, што ты ў нас пытаешся...

— Хіба ён у воласьці?

— А так. Яшчэ ўчора адправілі ў распараджэньне.

І Рыгор праводзіў Лясьніцкага той-жа едкай усьмешкай, якой і сустрэў, толькі ўжо ня вёў яе ў бок, а ўпяў проста ў яго ды больш выразна, чымся раней, заблішчэў злымі вачмі.

А Лясьніцкага ахапіла злосная ўпартая рашучасьць. Перш ён падумаў быў, каб пайсьці дамоў ды запрэгчы каня, але потым схапянуўся.

— Дома напэўна затрымаюць.

І зараз-жа, не заходзячыся дамоў, падаўся пяхотай у воласьць.

У воласьці доўга глядзелі на яго з дапытлівым недаверрам, падазронна шапталіся, патрабавалі, каб ён паказаў свае дакуманты і, нарэшце, далі яму зусім нечаканы адказ:

— Ужо гадзіна, як яго выпусьцілі.

Лясьніцкі пацягнуўся назад—да краю зьбянтэжаны, працяты злосьцю, дасадай і вострым пякучым сорамам. Ён страшэнна каяўся, нашто пайшоў быў, нашто наогул так горача ўцяўся ў гэтую справу.

Да яго прыходу ўся ўжо вёска ведала, што ён прыехаў з паненкай, што хадзіў у воласьць выручаць „Карлу“, што нават не зайшоўся, прыехаўшы, у родную хату. І ўсе пазіралі на яго з пагардлівым адчужэньнем, варожасьцю, як на нейкага злачынца. Ён чуў гэта і мімаволі тупіў у дол свае вочы і ўсё прысьпяшаў ход, разважаючы з нейкай ліхаманкавай пасьпешнасьцю:

„Зайсьціся, пабачыцца ды зараз-жа ехаць... Сягоньня-ж... адразу... толькі зайсьціся...“

Родная хата здалася чамусьці закінутай, нахмурна ціхай, старой, быццам ня жыў тут ніхто, павымерлі ўсе. І толькі цяпер, як убачыў гэтую хату, засадніла сэрца шчымлівай турботай.

— Як-то, ці ўсе жывы-здаровы?..

На двары пад павецьцю ўбачыў браценьніка. Ён з нейкай невясёлай млявай упартасьцю дрэсыраваў нязграбна-пузатага шчанюка.

— Цю-цю!.. Буржуй!.. Служы, ну?.. Мц-ц... Буржуй!.. Фю!..

Лясьніцкі гукнуў яго:

— Здароў, Пётра! Ну, як тут у вас?..

Той адразу радасна ўсхапіўся, потым сумна скругліў свае блакітна-чыстыя вочы.

— Татка хварэе... А мамкі няма, паехала сёньня ў мястэчка...

У Лясьніцкага ёкнула сэрца. Ён увайшоў у хату з палахлівым замяшаньнем, падышоў, вінавата схіліўшы галаву, да полу, дзе ляжаў хворы бацька. Бацька заўважыў яго і з турботнай патугай узьняўся на локаць, каб прывітацца.

— Здароў, сынок... здароў... Ну, маладзец... А я, вось бачыш, нешта зблышыў...

І быццам убачыўшы думкі сынавы, яго цяжкое душэўнае мятушэньне, бацька загаварыў адразу глыбокім ласкавым голасам:

— Нічога, сынок... Усяк бывае ў жыцьці, усяго чалавеку прыдзецца... Калі там найдзеш сваю тую пуцявіну... І пакрыўдзяць, і сам пакрыўдзіш каго... А потым усё пярэйдзе на лепшае...

Лясьніцкі сеў за стол, узьлёгся галавой на рукі і з цягуча-салодкім болем слухаў бацькаў ласкавы голас. Мякка ціхамірыла ціхасьць роднае хаты, пачынаў уяўляць сябе маленькім зусім, бясьпечна-шчасьлівым, як калісьці ў дзяцінстве, і ані-ні ня пужала думка, што ўжо ня прыдзецца ехаць, што трэба астацца каля хворага бацькі. Толькі каб ня было таго, надворнага, варожага. Каб толькі тут, у гэтай пяшчотнай ціхасьці, у прытульным спакоі.

Бацька праз хвілін дзесяць сьціх, пачулася яго роўнае дыханьне. Заснуў, стомлены доўгай гаворкай. А сын нярухома сядзеў за сталом у плаўным забыцьці, слухаў мяккае зьнібеньне свайго ўсхваляванага сэрца.

Потым нясьмела прачыніліся дзьверы і ўвайшла Макрына. Яна падышла да яго, сказала ціха, асьцярожна:

— Здароў, Васілёк! Я на адну часінку да цябе...

Ён падняў галаву, дапытліва зірнуў на яе, быццам спытаўся:

— Ну, што табе трэба?..

Ад гэтага погляду ў яе ясных вачох замітусіўся трывожны спалох. Тое, што яна мелася сказаць, відаць, застыгла на яе вуснах, і яна хвіліну стаяла ў цяжкім маўчаньні. Потым села на лаўку і прашаптала ледзь чутна:

— Васіль! нашто ты так робіш?

— Як гэта так?..

Ёй, відаць, трудна было сказаць тое, што яна думала.

— Ну... я ня ведаю. Ты неяк ня так... ты раней не такі быў... Быццам ты стаў зусім другі чалавек, не такі, як мы,—ужо нейкі вышэйшы...

Ён дасадліва спыніў яе.

— Макрына! ты не разумееш... Тут зусім другое... Я такі самы, як і быў, толькі проста склаліся так недарэчна абставіны, непаразуменьне можа нейкае вышла.

Макрына памаўчала троху ды зноў загаварыла таксама ціха, амаль што шэптам:

— Я ўжо раней ведала, што ў нас кончыцца так... Дык спачатку мне дужа дрэнна было... Я ўсё плакала, думала—нашто я яго пакахала так, нашто зьвязала долю сваю? Але-ткі звыклася, ведама—нічым ужо тут не парадзіш, ня пара мы адно аднаму...

Лясьніцкі зноў перабіў яе:

— Макрына! што ты гаворыш? Ты нават не папытала, ці люблю я цябе, ці не, не папытала, што ў мяне ў думках цяпер...

— Нашто пытацца? хіба я сама ня бачу... Ды я, Васілёк, ня крыўдую. Хай сабе... Можа другая лепш палюбіць цябе, можа будзеш з ёй шчасьлівей... Што мне... Ведаеш, Васілёк, аб чым я рада? Што не замела ад цябе дзяцёнка. Гэта была-б нешчасьлівая душа... сіротка была-б горкая...

— Макрына, кінь ты... Мне цяжка цяпер... Мы яшчэ пагамонім пасьля...

— Я зараз пайду... А гаварыць яшчэ—не ўжо, хай лепш ня будзем. Я ўжо надумала, што мне рабіць... Досыць ужо... Пакахала цябе колькі гадкоў, зазнала і шчасьця і гора... Можа й яшчэ буду кахаць, пакуль не забудуся... Цяжка забыцца на гэта... на першую любасьць... Але нішто, неяк абыйдзецца... Ты даруй, Васілёк, калі што... за ўсё... за ўсё чысьценька... дзякуй табе...

І не пасьпеў схамянуцца Лясьніцкі, як яна ў глыбокім узрушэньні схапіла яго руку і пацалавала. Адна сьляза пасьпела скаціцца на руку, і Лясьніцкаму здалося, што была яна дужа-дужа гарачая. Ён хацеў затрымаць Макрыну, нешта сказаць, але яна з рашучай пасьпешнасьцю пайшла к дзьвярам і, не азірнуўшыся, вышла з хаты.

З глыбокага, драўлянага аслупяненьня вывеў яго потым брацеьнік, які прынёс сьвежую навіну:

— Паехалі ўжо нашы паны. Усе: і пан, і паненка, і Карла... Тры падводы наклалі розных скрынак ды кашалёў—павязьлі ўсё на станцыю.

Тады Лясьніцкі моўчкі ўстаў і ціха, паволі—як лунацік — пайшоў к Дняпру.

*(Працяг будзе).*

# НА ПАВАРОЦЕ*)

*(Апавяданьне)*

**Н. Беліна-Падгаецкі**

Усё здавалася такім дзіўным і незразумелым Уладзімеру ў гэтым чужым для яго цэнтры фабрычнага жыцьця—і гэты аднастайны гук машын, і пануканьні майстраў і наглядчыкаў, часта такія грубыя, і сінія доўгія, амаль не да пят, халаты інжынэраў, і схудалыя, зморaныя бязупыннай няўдзячнай працай твары працаўнікоў.

Здавалася яму, што жыве ён у нейкім ненормальным сьвеце жудасных лятуценьняў, што гэта толькі сон, страшны для яго і доўгі, які скора перапыніцца, каб даць месца іншаму, нормальнаму і прывычнаму для яго з дзяцінства жыцьцю. Але сон не праходзіў, а балюча ныючыя ад нялюбай яму працы сьпіна і плечы казалі яму настойліва і ўпарта, што гэта не лятуценьні, ня плод хворага выабражэньня, а сапраўдная сумная рачаіснасьць, што гэта і ёсьць тое жудаснае жыцьцё, або лепш—убогае існаваньне, на якое асуджаны мільёны і мільёны такіх-жа, як і ён, людзей у краёх капіталу.

У першы дзень свайго паступленьня на фабрыку самалётаў Уладзімер папаў пад загад аднэй з работніц—трохі строгай, на погляд трыццацілетняй, жанчыны са схудалым выцягнутым тварам, з запалымі грудзьмі, якая, каб мець магчымасьць пракарміць сваіх чацьвярых малалетніх дзяцей, замяніла на машыне свайго мужа, хутка пасьля абвяшчэньня імпэрыялістычнай вайны забітага куляй ворагаў дзесь на Марне падчас першага нямецкага наступленьня на Парыж. Праца, якую далі для пачатку Уладзімеру, была аднэй з самых лёгкіх. Трэба было ў нарыхтаваных і пазначаных ужо драўляных частках будучых зьнішчыцеляў прасьвідроўваць машынай дзюркі, але і гэта з няпрывычкі здавалася Уладзімеру надзвычайна складаным і цяжкім. Не прызвычаеныя да такой працы рукі дрыжэлі і ня слухаліся, дзюрка выходзіла крывою і дрэнна

---

*) Аўтар гэтага апавяданьня тав. Н. Беліна-Падгаецкі б. афіцэр (падпаручнік) рускага экспэдыцыйнага корпусу, які ў 1916 г. быў адпраўлен царскім урадам на францускі і салоніцкі фронты. Па зьліквідаваньні рускага корпусу ва Францыі, аўтар працаваў на фабрыках Францыі аж да 1926 г. У белых авантурах ніякага ўдзелу ня прымаў. Супрацоўнічаў у савецкіх органах друку заграніцы, чым наклікаў на сябе нянавісьць і розныя рэпрэсіі з боку белагвардзейцаў. Быў старшынёю Саюзу Рускіх Рабочых поўдня Францыі і членам францускай компартыі. У сучасны момант тав. Н. Беліна-Падгаецкі знаходзіцца ў Менску. *Рэдакцыя*.

зробленай. Жанчына паглядала на яго, як здавалася яму, з насьмешлівай ухмылкай, некалькі разоў прызвычаенымі і пасьпешнымі рукамі выпраўляючы і тлумачачы яму яго памылкі. Так прайшло некалькі дзён нуднай адзінаццацігадзіннай працы. Уладзімер ні з кім не размаўляў і не з-за якой-небудзь там напышлівасьці, а проста таму, што ён ня ведаў, як падыйсьці да гэтай новай для яго масы працаўнікоў, таму што ён баяўся паказацца назольным і сьмешным у вачох рабочых і работніц фабрыкі.

Апрача таго, ён перажываў у гэты час цяжкую асабістую драму, якая адбірала ўсе яго думы, прымушала яго ўглыбіцца ў самога сябе, адыйсьці ад усяго таго, што так ці іначай магло перашкаджаць яму пакутаваць і мучыцца. Яго маладая жонка, у замілаваньне да якое ён уклаў усю сваю юнацкую палкую душу, адыйшла ад яго з другім багатым армянінам, таму што буржуйка па выхаваньню, яна не змагла пагадзіцца ні з беднасьцю, ні з цяжкім і аднастайным фабрычным існаваньнем. Працоўныя таксама ўхіляліся ад Уладзімера, нездаволеныя яго, як яны думалі, напышлівасьцю і буржуазнаю пагардаю да іх мазолістых рук і да іх зашмальцаваных у масьле і гразі сініх сарочак. „Калі ён працуе разам з намі, дык няхай і жыве нашым агульным пролетарскім жыцьцём!“—казалі рабочыя і работніцы ў атэлье і ў тавэрне падчас перапынку на абед. Уладзімер чуў усе гэтыя гутаркі, якія прымушалі яго яшчэ больш замыкацца ў сябе, яшчэ больш аддаляцца ад сваіх таварышоў па працы. Так і жылі-б яны, гэтыя прадстаўнікі дзьвюх розных і варожых кляс, адгароджаныя непрапушчальнай сьцяною ўзаемнага незразуменьня, калі-б маленькі, нязначны на погляд, выпадак не разваліў гэтую лёдавую, ненатуральную пры даных умовах, перагародку. Адзін раз, месяцы праз два пасьля паступленьня на фабрыку, Уладзімера ў ліку іншых чорнарабочых адправілі на другую працу. Трэба было па крутых і нязручных сходах насіць цяжкія мяшкі з матэрыялам на другі паверх, дзе мясьціліся склады і магазыны фабрыкі. Уладзімер стаяў, нерашуча ператоптваючыся на адным месцы, каля прызначанага для яго грузу, ня ведаючы, як-бы пазручней узваліць сабе на сьпіну цяжкі трохпудовы мяшок з матэрыялам.

— Хутчэй, хутчэй,—грозна гукнуў наглядчык—чаго ты там марудзіш!

Уладзімер, баючыся безадкладнага разьліку за нерастаропнасьць, схапіў мяшок абедзьвюма рукамі, напружваючы ўсе свае сілы, каб узваліць сабе яго на сьпіну, але, пасьлізнуўшыся, упаў пры ўсеагульным добрадушным сьмеху прысутных рабочых і работніц.

— Ня трэба так крычаць на яго,—зазначыў адзін з працаўнікоў, малады восемнаццацілетні хлапец з адкрытай яснай усьмешкай на шырокім чырвонашчокім твары, які з дня-на-дзень чакаў сваёй чаргі адпраўляцца на позыцыі,—ня трэба так крычаць на яго дзеля таго, што ён яшчэ навічок у справе і ня мае спрыту!

Ён падышоў да Уладзімера, памог яму ўзваліць мяшок на сьпіну і, папрыяцельску пахлопаўшы яго па плячы, дадаў:

— Чаму ты ўхіляешся нас, таварыш? Бо ты такі самы цяпер рабочы, як і мы, а мы ня кусаемся!

— Дзякую!—адказаў Уладзімер, і, цяжка ступаючы пад няпрывычнай яшчэ ношкай, ён стаў паволі падымацца па сходах.

А позьнім вечарам, скончыўшы працу, Уладзімер і яго новы прыяцель сядзелі за бутэлькай чырвонага віна ў суседняй тавэрне. Франсуа (так звалі маладога рабочага) распытваўся аб мінулым, аб рэволюцыі, аб Расіі. Уладзімер нічога не хаваў. Ён лічыў нягодным ашукаць маною, хоць-бы і не наўмыснай, даверлівасьць маладога рабочага, а таму ён расказваў яму аб усім—і аб сваім буржуазным мінулым, і аб сваім удзеле ў контр-рэволюцыйным руху белых генэралаў, і аб сваёй цяжкой сямейнай трагедыі.

— Так,—сказаў рабочы, задумліва водзячы пальцам па разьлітаму на кляёнцы віну,—так, дрэнна зрабіў ты, напэўна, што ішоў са зброяю ў руках супроць свайго-ж рэволюцыйнага народу. Ну, нічога, таварыш. Вось абжывешся, папрацуеш з намі, убачыш на сваёй сьпіне, што гэта за існаваньне ў скуры экспләатаванага, і тады, быць можа, зразумееш і яшчэ лепш, чым цяпер, адчуеш сваю памылку!

У хуткім часе пасьля гэтай гутаркі з маладым рабочым, гутаркі, якая засталася назаўсёды глыбока ў памяці Ўладзімера, яго разьлічылі са службы. Разьлічылі груба і крыўдна, як ні да чаго непатрэбнага чалавека, ня гледзячы на тое, што ён прыкладаў усе намаганьні, каб не выдзяляцца з асяродку звычайных працаўнікоў; разьлічылі, ня гледзячы на тое, што ён сумленна, як мог, выконваў усе свае абавязкі, як і ўсе загады майстраў і наглядчыкаў.

І пачалося для Ўладзімера цяжкое, поўнае ўсялякіх мытарстваў, поўгалоднае, а часта нават і зусім галоднае існаваньне. Чаго ён толькі ні рабіў за гэты час, шукаючы кавалка штодзеннага хлеба! І падмятаў вуліцы на Монпарнаскім бульвары, штомінутна баязьліва аглядаючыся па бакох, каб хто-небудзь з яго ранейшых знаёмых не пазнаў яго ў засаленай куртцы, з мятлою і лапатаю ў руках; і грузіў вугаль і смалу на фабрыках; і выгружаў на вакзалах вагоны; і развозіў па горадзе ў тачцы розныя інструмэнты і машынныя часьці ў дамы і ў майстэрні багатых кліентаў, іх купляўшых. Здавалася, ня было такой профэсіі, ня было такое самае бруднае, самае цяжкое фізычнае працы, якую не прайшоў-бы ён за гэты час у сваёй лютай адзінокай барацьбе за існаваньне на чужыне. Адно толькі, з чым ён доўга ня мог ніяк пагадзіцца, дык гэта з „чаявымі“, якія ён калі-ні-калі атрымліваў. Тады ўся ранейшая, зарытая ў глыбінях душы, напышлівасьць выплывала наверх, і было крыўдна і балюча. Але і з гэтым прышлося, нарэшце, пагадзіцца, прышлося і на гэта навучыцца глядзець, як на пабочны заработак, як на дадатковую прыплату за тваю часта такую цяжкую працу і за зробленыя табою паслугі. Нарэшце, настаў дваццаты год, год беспрацоўя, страшнейшага

пасьляваеннага экономічнага крызісу і гішпанкі, якая забірае ў Парыжы штодзенна ў магілу сотні і тысячы людзей. Уладзімер, у ліку шмат іншых нешчасьлівых, застаўся бяз працы. Ня гледзячы на ўсё яго намаганьні, ня гледзячы на ўсе яго мальбы і просьбы, яму непашчасьціла знайсьці хоць які-небудзь заработак, і хутка пахмурая і беспрасьветная беднасьць запанавала ў яго маленькім, бедна абмэбляваным пакоі, як у сваёй сядзібе. Запанавала, каб ужо доўга ня выходзіць адтуль. Усё, што было магчыма прадаць—гарнітур, паліто, стары рэвольвэр і заржавеўшую шаблю,—усё было прадана за бясцэнак на таўкучцы. Рэшта—сарочкі, прос-тыні і да апошняй падушкі з коўдрай заложана ў ламбард, каб задаволіць страшное жаданьне паесьці, абы не памерці з голаду. Нарэшце, і ўсе гэтыя мізэрныя крошкі былі зьедзены, і тады настаў голад сапраўдны, які ўсё перамагае і кідае чалавека на злачынствы і на забойствы. Сьціснуўшы зубы і глытаючы сьліну, Уладзімер адправіўся аднаго разу ў так званы Камітэт дапамогі бежанцам, дзе ён раней ніколі ня быў, цьвёрда пастанавіўшы на гэты раз настойліва прасіць, патрабаваць сабе дапамогі і падтрыманьня.

— Чорт пабяры,—ярасна мармытаў ён праз сьціснутыя зубы, крок за крокам ідучы па мокрых ад лістападавага дажджу вуліцах вялікага гораду,—чорт пабяры, дык я-ж біўся, нарэшце, за іх інтарэсы, і калі-б не яны з іх на векі праклятай эвакуацыяй заграніцу, дык ці-ж сядзеў-бы я галодны і халодны ў Парыжы? Павінны-ж і яны дапамагчы мне цяпер чым-небудзь у такую жудасна-цяжкую для мяне мінуту!“

У Камітэце гэтым назойліва старшынстваваў апошні опэрэтачны „пасол“ ня менш сапраўды опэрэтачнага часовага ўраду, вялікі аматар парыскіх мідынэтак і наогул маладых прыгожанькіх жанчын. Усімі-ж справамі там верхаводзіла вельмі блізкая сваячка „яго прэвасхадзіцельства“, жоўчная трыццацілетняя жанчына, зьневажаўшая, як апошніх лёкаяў, эмігрантаў, якія звярачаліся ў Камітэт за дапамогай, але затое яна падлыжна схілялася і сумленна выконвала волю, выказаную нядбайна ў напарфумленай запісцы якое-небудзь баронэсы або графіні. Уся гэта цёплая кампанія белых авантурнікаў, прыпраўленая некалькімі лысымі генэраламі ў адстаўцы, ды парай-другою напамаджаных і падмалёваных „дабрачыньніц,“—уся гэтая цёплая белая банда засядала ў будынку былога царскага пасольства, займаючы толькі для сваіх асабістых патрэб вялізнае памяшканьне, у той час, як іх-жа галодныя „арлы“ пухлі з холаду і начавалі пад парыскімі платамі і мастамі. Калі Ўладзімер дабраўся, нарэшце, да пасольства, разьмешчанага на Грэннэлеўскай вуліцы, дык там ужо стаяла вялізарная чарга старыкоў, жанчын з дзяцьмі і такіх самых, як ён, абадраных і патрабуючых чорствага куска хлеба, эмігрантаў. Па незадаволенаму выразу наведнікаў, якія выходзілі з маленькіх бакавых дзьвярэй, дзе мясьціўся прыймовы пакой „пасьліхі“ (так называлі паміж са-

бою эмігранты шаноўную верхаводніцу белагвардзейскай банды), па расчараваных і невясёлых выразах гэтых згаладалых і нязвычайна зморaных твараў можна было ясна бачыць, што іх падарожжа за запаведную дзьверку ў большасьці выпадкаў ня мела ніякага посьпеху і што ім прыходзіцца яшчэ і сягоньня варочацца дадому, як гаворыцца, ня солана хлябаўшы.

Час-ад-часу ў пасольскім прыймовым пакоі зьяўляліся з голачкі апранутыя маладыя людзі або напарфумленыя і напудраныя дамачкі, якія, таемна пашаптаўшыся з паважным і самавітым швэйцарам і паказаўшы яму кончык канвэрту з графскай або княжацкай каронай, зьнікалі наперакор усякай чарзе за дзьвярыма, якія вядуць ва ўнутраныя пакоі Камітэту. Праз тоўстыя пасольскія сьцены глуха даляталі тады да цярпліва чакаючых эмігрантаў радасныя воклічы, салодлівыя пытаньні і адказы, адрыўкі нікчэмных і пустых сьвецкіх гутарак і ласкавасьцяй. Праз некаторы, часта давалі доўгі, прамежак часу наведнік або наведніца зноў зьяўляліся ў прыймовым пакоі пасольства з вялікім пакетам пад пахай, або адкрыта і бяссорамна падлічваючы на вачох у прысутных атрыманыя імі ў Камітэце крэдытныя паперкі. То была ўпрывілееваная кляса эміграцкіх дармаедаў, якія ніколі нідзе не працуюць і, дзякуючы сваім сувязям з рознымі былымі князямі, пасламі і дыплёматамі, маюць свабодны доступ да скарбу розных дабрачынных таварыстваў і камітэтаў. Нарэшце, пасьля нудна-доўгага чаканьня настала чарга і Ўладзімера стаць перад яснымі вачыма ўсемагутнай „дабрачыньніцы“.

— Вам што патрэбна? Толькі будзьце карацей, бо я ня маю часу, — раздаўся жоўчны, скрыпучы, як нямазаныя калёсы павозкі, голас.

Адчуваючы сябе нязручна і блытаючыся, Уладзімер коратка апавядаў аб сваіх няўдачах, просячы хоць якой-небудзь дапамогі.

— Дапамогі не атрымаеце,—холадна адрэзала „дабрачыньніца“, круцячы каштоўным, усыпаным дыямэнтамі лёрнэтам,—вы можаце працаваць.

— Ды я нічога лепшага і не жадаю,—адказаў Уладзімер,—дайце мне што-небудзь і напэўна вы мяне тут ніколі ня ўбачыце!

— Працы ў мяне ніякай для вас няма,—роўнадушна паціснула плячыма шаноўная дама і, зварочваючыся да зачыненых дзьвярэй, голасна дадала: „наступнага“!

Уладзімер запаліўся.

— Калі вам мы былі патрэбны для абароны вашых фабрык і ўладаньняў, тады вы, напэўна, іначай размаўлялі!—сказаў ён з вялікай нянавісьцю, гледзячы на тлустую, ня ведаючую ні бяды, ні гора фігуру „дабрачыньніцы“.

Пара вялікіх падфарбованых вачэй шырока раскрыліся, з жахам аглядаючы з галавы да ног дзіўнага ў гэтых сьценах наведніка.

— Да вы бальшавік! Адыйдзеце! Зараж-жа адходзьце адсюль!— закрычала „пасьліха“, стукаючы прыгожа абутымі ў дарагія туфэлькі ножкамі.

— Не бальшавік я яшчэ, але вы нас самі імі робіце!—адказаў Уладзімер і, моцна стукнуўшы дзьвярыма, шпаркім крокам вышаў з памяшканьня Камітэту.

А калі ўжо позьнім вечарам, пасьля бяссэнсных блуканьняў па горадзе, Уладзімер вярнуўся да сябе на кватэру, ён знайшоў дзьверы свайго пакою зачыненымі на ключ з прыбітай ад гаспадара запіскай, на якой стаяла: „адчыню толькі пасьля выплаты доўгу“.

Уладзімер надта добра ведаў, што пайдзі ён зараз уніз, адкуль данасіліся вясёлыя і здаволеныя галасы пансыянэраў, пагутары ён як сьлед з тоўстым Дзювалем, або ў крайнім выпадку зьвярніся ён у бліжэйшы паліцэйскі вучастак—і дзьверы яго пакою яму ўсё-ж будуць адчынены; але калі ён прадставіў сабе драбязьлівую чыста мяшчанскую ярасьць гаспадара, фальшыва спачуваючыя ўздыхі пансыянэраў, гэтыя так абрыдзеўшыя, бясконцыя роспыты аб „няшчаснай“ Расіі, аб „бязьлітасных“ бальшавікох і аб „абрабаваных“ маёнтках, калі ён прадставіў сабе ўсе гэтыя глыбока-мяшчанскія абставіны, у якія трэба было зноў акунуцца дзеля таго, каб атрымаць ключ ад свайго беднага халоднага і няпрытульнага пакою, дык такая агіднасьць, такая надзвычайная зморанасьць заўладалі ўсёю яго істотаю, што, ня гледзячы на дождж і асеньні холад, ня гледзячы на балючыя прыступы голаду і страшнае жаданьне выцягнуцца і заснуць на ўсё-ж мяккай і цёплай пасьцелі, што, ня гледзячы на ўсю прынаднасьць заслужанага ім за сёнешні такі няўдачлівы для яго дзень адпачынку,—ён усё-ж рашыў ісьці на вуліцу, у беспрасьветную цемру лістападаўскай ночы, туды, дзе такія-ж, як і ён, нешчасьлівыя і абяздоленыя праводзяць існаваньне пад платамі і мастамі вялікага гораду. І зморана паціснуўшы плячыма, яшчэ глыбей засунуўшы свае мокрыя ад дажджу рукі ў дзіравыя кішэні, увесь сагнуўшыся і нізка схіліўшы галаву, ён стаў паволі спускацца па сходах, якія вядуць да выхаду з дому адмовіўшага яму ў прытулку Дзюваля.

Уладзімер вышаў на Санкт-Такоўскую вуліцу, збочыў на Гун-Люссакоўскую і хутка апынуўся на вялікім і шырокім Санкт-Мітэльскім бульвары—штаб-кватэры студэнцтва і грызэтак Парыжу. Марасіў дробны і прыкры лістападаўскі дождждык, і ўвесь такі вясёлы і жывы ў другі час бульвар здаваўся патануўшым у тумане і вільгаці. Рэдкія ў гэты ўжо даволі позьні час падарожныя, засланяючы твары ад балюча біўшага ў твар дажджу парасонамі, як духі, шмыгалі ўсьцяж мокрых сьцен, сьпяшаючыся схавацца ад дрэннага надвор'я. З дзьвярэй многалікіх кафэ і рэстаранаў, што часта адчыняліся, разам са струменем гарачага насычанага чалавечымі параваньнямі паветра, даляталі да цёмнай вуліцы гукі оркестраў і поўны заўзятага вясельля і гульлівасьці сьмех грызэ-

так. Уладзімер ішоў, наўмысьля шлёпаючы па лужынах, ні аб чым ня думаючы і з палкасьцю жадаючы толькі аднаго—хоць якога-небудзь кута, аж да больніцы, дзе-б ён мог адпачыць ад гэтага бесьперапыннага хаджэньня бяз мэты, дзе-б ён, нарэшце, атрымаў-бы магчымасьць хоць на момант схіліць да мяккай падушкі сваю змучаную благімі часамі апошніх гадоў галаву.

— Куды ідзеш ты, мілы, у такое надвор'е?—раздаўся каля яго чыйсьці голас, і з мокрага начнога туману выплыла перад ім фігура вулічнай жанчыны, падмалёванай, з моцна падфарбованымі, хоць і прыгожымі яшчэ вачыма. Уладзімер прыпыніўся. Яму здалося надзвычайна сьмешным і надта ў той-жа час журботным, што бульварная прастытутка ў цемры дажджлівай асеньняй ночы прыняла яго—галоднага і абадранага, які знаходзіцца ўжо амаль-што на дне жыцьця—за заможнага кліента, на якім можна пажывіцца.

— Пойдзем са мною, мілы, хочаш?—гаварыла далей вулічная жанчына, бяручы яго пад руку і кацячым рухам тулячыся да яго ўсім сваім прадажным зморaным целам,—тут недалёка мая кватэра, і я вазьму з цябе ня вельмі дорага.

І такая нуда ахапіла Ўладзімера ад гэтых слоў і ад гэтай прапазыцыі, так балюча і цяжка стала ў яго на сэрцы, што хацелася крычаць і плакаць і праклінаць кагосьці, толькі-б зьняць з душы гэты цяжкі камень, які мучыў і настойліва цягнуў яго на дно жыцьцёвага балота.

— Глядзі,—глуха зашаптаў ён, хапаючы прастытутку за абедзьве рукі і набліжаючыся з ёю да асьвечанага вялікім электрычным ліхтаром месца бульвару,—глядзі на мяне добранька, бо вы зьвярнуліся не па адрасу.

І на дрэннай ломанай францускай мове, на якой гавораць амаль што ўсе чужаземцы Парыжу, ён прыняўся расказваць ёй, сьпяшаючыся і зьбіваючыся, аб сваім бяссэнсным і цяжкім эмігранцкім жыцьці. І аб тым, як страляў ён, як загадваў другім страляць у сваіх-жа братоўрэволюцыянэраў, і аб беднасьці і голадзе ўжо тут ва Францыі, і аб беспрацоўі, і аб надта лютым эгоізьме белых генэралаў і кіраўнікоў, піхаўшых яшчэ так нядаўна такіх-жа, як і ён, на змаганьне з рэволюцыйным народам, а цяпер ужо тут у Парыжы роўнадушна выкінуўшых іх на вуліцу без дапамогі і падтрыманьня. Яна слухала яго з шырока раскрытымі вачыма і неяк комічна ўздрыгваючы кончыкамі густа нафарбаваных губ, шмат чаго не разумела, але сваім хворым, таксама змучаным сэрцам адчуваючы яго мукі і перажываньні.

— Бедны, бедны!—сказала яна і, нерашуча прыкранаючыся да яго зашмальцаванага рукава, дадала ціха і лагодна: „пойдзем са мною!“

І ён пайшоў. Яна накарміла яго ў сваім маленькім пакойчыку на Рымскай вуліцы, дзе да яго перабывала ўжо столькі мужчын, напаіла гарачай кавай, якая агнёвым струменем разьлілася па жылах, пачаста-

вала турэцкай папяроскай, выпадкова пакінутай на століку каля пасьцелі мінулай ноччу якімсьці ангельцам ці амэрыканцам. А потым пад глухі вый асеньняга ветру расказвала і яму сваю гісторыю, такую, здаецца, маленькую і звычайную, гісторыю дзесяткаў тысяч жанчын парыскіх, ды бадай што і ўсіх іншых бульвараў і вуліц. Але яе гісторыя была ў гэту ноч значнай і страшной, бо казала яна яму нічым не падмалёваную голую праўду, таму, што ёй ня мела ні сэнсу, ні інтарэсу маніць такому-ж, як і яна, беднаму затраўленаму жыцьцём чалавеку. Уладзімер слухаў аповесьць простытукі і думаў. Ён успамінаў цяжкія ўмовы працы на фабрыках, успомніў пануканьні, часта такія рэзкія і грубыя, майстраў і дзесяцкіх, успомніў голад і патрэбу ў самым патрэбным, успомніў жыцьцё ў дзіравых брудных бараках і бязьлітасную эксплёатацыю рабочых капіталістымі і памешчыкамі.

„Вось яна простытутка, прапашчая жанчына, сьмецьце грамадзтва, прытуліла, накарміла і напаіла яго халоднага і галоднага, а расійскія генэралы, за інтарэсы якіх ён вольна ці нявольна праліваў кроў сваіх-жа братоў, з ганьбай выгналі яго сёньня з Камітэту, адмовіўшы нават у пяціфранкавай дапамозе. А гаспадар кватэры, таксама буржуа, пакінуў яго ў дажджлівую ноч на вуліцы“.

Так думаў Уладзімер, і крыха-па-крысе пад уплывам усяго перажытага ён стаў бачыць ясьней у жыцьці, ён стаў больш правільна разьбірацца ў многіх пытаньнях, якіх ён не разумеў або на якіх ён ня спыняўся са здавальняючай паважнасьцю раней.

— Калі-б ты ведаў, з якою асалодаю я выкрадаю падчас бумажнікі ў маіх тоўстапузых заможных кліентаў,—казала Люіза (так звалі простытутку, яго прытуліўшую),—і не таму зусім, каб пажывіцца, а проста з прыемнасьці адабраць у нягоднага распусьніка не яго працаю набытае багацьце. Потым мы прапіваем і прайграём на скачках з прыяцелямі і прыяцелькамі захопленыя грошыкі. На жаль, толькі мне гэта цяпер надта рэдка ўдаецца!

І доўга яшчэ гаварыла Люіза, а на панадворку невясёла завываў асеньні вецер, і дождж з нуднай аднастайнасьцю стукаў па мокрых і сьлізкіх шыбах вакон.

Яна палюбіла яго няцікавага, абадранага і такога ад яе далёкага, палюбіла з усім палам спакушэньняў у распусьце, але сэрцам так рэдка любіўшай амаль што саракалетняй жанчыны. А ён, што ён мог даць ёй замест гэтага пачуцьця—змучаны, змораны з незажыўшай яшчэ асабістай ранай у грудзёх, які ўвесь увайшоў у тыя складаныя перажываньні, які ўвесь аддаўся таму глыбокаму пералому, які пад уплывам усяго бачанага і перажытага адбываўся там у глыбінях яго душы. Таму што нялёгка адыходзіць ад старога, усасанага з малаком маткі, ня лёгка паліць і адкідаць былое, традыцыі і вераваньні, з якімі ты зжыўся, на якіх ты быў выхаваны, якім ты некалі так наіўна і так падурному пакланяўся.

Яна-ж, адчуваючы, што ён яе ня любіць, што ён ня можа любіць яе, але жаласьліва чапляючыся за гэта апошняе ў яе сумным жыцьці сьветлае бясьцікаўнае пачуцьцё, яна ўсімі сіламі свае душы парывалася ўтрымаць яго ў сябе і, наіўна думаючы, што ён яе зайздросьціць, што яму не ў магату такая сувязь з вулічнай жанчынай, якая прадае сябе гуртом і ў раздроб, яна старалася запэўніць яго, што тыя іншыя гэта нічога, што яна толькі па неабходнасьці прадаецца, што гэтыя гадзіны і ночы, якія яна правяла ня з ім, не пакідаюць ніякага сьледу ў яе сэрцы. Яму было шкада яе, не хапала сьмеласьці адным лютым ударам разьбіць усе яе ілюзіі, і потым было ўсё-ж так прыемна, ня гледзячы ні на што, сузнаваць, што ён усё-ж не адзін на гэтым сьвеце, што ёсьць і тут у гэтым вялікім і чужым горадзе істота, якая аб ім, забытым і непатрэбным, клапоціцца і апякуецца. Так жылі яны далёкія і незразумелыя адзін другому, пакуль не настаў цяжкі пералом у іх ненормальных адносінах, пераломам, якога яны абодва ўжо даўно чакалі, які яны ўсімі сіламі адцягвалі, але які быў нямінучым, як нямінуча сьмерць і руйнаваньне ў гэтым сьвеце. Цёплая майская ноч чула іх рыданьні, калі яна, уткнуўшы ў падушкі сваю курчавую абстрыжаную галоўку, горка плакала аб сваім няўдалым жыцьці, аб разьбітых апошніх ілюзіях і яшчэ адзін лішні раз ашуканых надзеях. А ён, курачы папяроску за папяроскай, сядзеў у крэсьле каля пасьцелі і думаў сваю горкую эміграцкую думу, чакаючы сьвітаньня. І калі настала раніца, азалаціўшы сваімі першымі сонечнымі праменьнямі цяжкія ваконныя фіранкі, разьвязаньне было зроблена бязьлітаснае, няўмольнае, але і адзіна магчымае.

— Прашчай, Луіза!—глуха прашаптаў Уладзімер, нежна сьціскаючы маленькія цёплыя ручкі плачучай жанчыны, —прасьці і не асуджай мяне занадта моцна!

— Уладзімер!—стагнаньнем вырвалася ў пакідаемай вулічнай прастытуткі.

Вырвалася і патанула ў агульным штодзенным гуле прасыпаючагася да жыцьця дому.

У поўным моральным разбродзе, з хаосам самых супярэчных пачуцьцяў і перажываньняў у душы Уладзімер выбег на вуліцу з дому пакінутай ім рыдаючай прастытуткі. Ад мінулага, ад старых традыцый і пераконаньняў нічога не засталося, апрача яшчэ нияснай прывітай з дзяцінства выхаваньнем веры ў бога, у яго дапамогу і міласьцівасьць. І ў гэтую цяжкую мінуту яго думкі нявольна паплылі туды, да гэтай вышэйшай, як яго да гэтай пары вучылі, істоты, і так захацелася яму адыйсьці ад гэтага жыцьця з яго складаным супярэчным зьместам, закапацца, зарыцца ў які-небудзь далёкі чорны манастыр, каб ня чуць гэтых штодзенных пакут, каб ня бачыць гэтых супярэчнасьцяй, гэтай маны і нікчэмнасьці чалавечых адносін. Даведаўшыся ў бліжэйшым рэсторане адрас мясцовага каталіцкага папа (да нашых эміграцкіх папоў ён ужо

даўно страціў усякае паважаньне), Уладзімер шпаркім крокам накіраваўся да яго на кватэру.

— Вам што патрэбна?—раздаўся чыйсьці халодны глыбока роўнадушны да ўсяго чужога голас, калі Ўладзімер, пазваніўшы ў пад'езьдзе, быў уведзены ўроднай наймічкай у габінэт мясцовага каталіцкага папа, або „пана кюрэ“, як іх там звычайна называюць. Пара тонучых у тлушчы падманных і хітрых вачэй, абвіслае пуза, гладкія, белыя, ніколі ня ведаўшыя цяжкай фізычнай працы, рукі, адкормлены сьвінападобны твар, ня дрэннае прытуляючае абмэбляваньне габінэту,—усё гэта казала аб зусім ня дрэнным і далёка ня цяжкім зямным жыцьці „пакорнага“ слугі божага. Захлябаючыся ад хваляваньня, Уладзімер стаў выкладаць яму ўсе свае перажываньні і сумненьні, просячы яго ўдзелу і маральнай дапамогі. Шаноўны кюрэ з нудным відам слухаў яго шчырую споведзь, гладзіў сябе па жывоціку, соладка пазяхаў і так і паглядаў з нецярплівасьцю на кухонныя дзьверы, адкуль далятаў, казычучы ноздры, пах сьвежа-сьпечаных і падсмажаных на лепшым масьле булачак.

— Я нічым не магу дапамагчы вам, малады чалавек,—лёдавым, чыноўнічым тонам перапыніў кюрэ Ўладзімера і, працягваючы яму паперку з адрасамі некалькіх дабрачынна-рэлігійных установ, дадаў:—вось, зьвярнецеся туды-та, дзе, можа быць, вам і дапамогуць. Маю гонар кланяцца.

Як ашпараны, выскачыў Уладзімер з габінэту каталіцкага папа і, разадраўшы на дробныя кусочкі паперку з адрасамі, ён пакляўся ў душы ніколі больш ня пераступаць парогу гэтых профэсыянальных ашуканцаў і двудушцаў. Гэта была апошняя капля ў перапоўненым келіху. Зрокшыся ўсіх буржуазных забабонаў і вераваньняў, ён канчаткова і беспаваротна стаў бязбожнікам і комуністым.

* * *

Стаяла дзіўная майская раніца. Сьпявалі птушкі, бурчліва гурчэлі фонтаны, красавалі старыя, векавыя дубы і ліпы, а яскравае веснавое сонейка радасна гуляла сваімі гарачымі праменьнямі ў густой, зноў прабуджанай да жыцьця зеляніне люксэнбурскага саду. Уладзімер ішоў па ўсыпаных гравіем дарожках, і на душы ў яго пасьля ўчарайшых бур і сумненьняў было ціха і мірна. Ён ясна бачыў перад сабою той шлях змаганьня за рабочую свабоду, той шлях бязьлітаснага змаганьня з буржуазнай фальшывасьцю, забабонамі і эгоізмам, якім ён пойдзе цяпер, з якога цяпер нішто ня сьпіхне яго—ні праца, ні небясьпекі, ні спакусы. Углыблены ў свае думы, ён і не заўважыў, як дайшоў да штучнага вялікага возера, дзе напышліва плавалі лебедзі і дзе вясёлая поўная жыцьця дзятва забаўлялася, пускаючы ў ледзь калышучыя воды самадзельныя лодачкі і карабельчыкі. Адсюль направа і налева ішлі дзьве дарогі. Адна шырокая і выгодная вяла проста да люксэнбурскага палацу, дзе

засядае сэнат—вышэйшая законадаўчая ўстанова буржуазнай Францускай рэспублікі. Другая—вузкая і мала даведваемая—ішла проста ў глыбіню цяністага саду, губляючыся недзе там за агарожай, за якой пачынаўся шумны монтпарнаскі квартал—традыцыйны прытулак усяго нездаволенага і протэстуючага. Уладзімер усьміхнуўся гэтаму выбару, і сьмела і незадумваючыся павярнуў налева да агарожы, якая ледзь віднелася за зялёным гушчаром.

Зьзяла сонца, сьпявалі птушкі, гурчэлі фонтаны і далёка да сінеючых нябёс нясьліся радасныя крыкі гуляючай дзятвы.

## КАЛІ ЧАСЫ АСТУДЗЯЦЬ...

### Кляшторны

Калі часы астудзяць жыцьця хвалі—
Крычым у роспачы за небасхіл гадоў:
Зачым юнацтва мы не закілзалі,
Зачым замылілі жыцьцёвых рысакоў...
Праходзяць дні,
А з днямі ўсё праходзіць.

На сходзе дзён праз чорнае вакно
Стары карчмар нас разьлічыцца просіць
За п'янае юнацкае віно.
Ў юнацтве душы ў сонечных лілеях
(Юнацтва ў квецені,
Юнацтву не астыць),

Мы запрагаем дні у казачныя шлеі
І топчам ў просіні жыцьцёвыя цьвяты.
У верасьні за залатыя сьцежкі
Мы і душу і сэрца аддаём;
Цалуем сонца мілыя усьмешкі
І молімся над кожным васільком.
Навошта так,
Браточкі дарагія!..

Нашто ў пацёмках душы разьліваць,
Нашто таптать пялёсткі залатыя,
Каб посьле лісьця жоўтыя зьбіраць...
Праходзяць дні,
А з днямі ўсё праходзіць.

На сходзе дзён праз чорнае вакно
Стары карчмар нас разьлічыцца просіць
За п'янае юнацкае віно.

## НЕ ГЛЯДЗІ З ДАКОРАМ...

### Кляшторны

Не глядзі з дакорам, дарагая,
Не глядзі...
Ня будзі загубленага маю,
Ня будзі...
Не адна ты сэрца хвалявала,
Не адна...
Пі юнацтва палкія бакалы,
Пі да дна.
Адшуміць бярозавая просінь
І любоў.
Не спаткаем дагарэўшых вёсен
Зноў...
Пі юнацтва палкія бакалы,
Пі да дна...
Не адна ты сэрца хвалявала,
Не адна.

# ПЕСЬНЯ АБ ВАЙНЕ ГРАМАДЗКАЙ

*Уступ да поэмы*

**Уладыслаў Бранеўскі**

О, глянь! праз небны шлях панура
Цяжкім галёпам прад віхурай
Ўцякае войска хмар разьбіта,
Надходзіць дзень з разьвеўным сьвітам,
А сонца — вой з злацістай каскай —
Стрэл першы выпускае бляску.

А долам, краем горызонту,
З імглы ўсплывае цёмны контур,
Як прывід з жудкімі вачыма,
Бязўладны ў мгле, скаваны ў дыме,
Як човен сонных акіянаў,
Абліты пенай вадатканай,
Плыве, ўзрастае, нібы з цеста,
У каменны, просты вобраз места.

Ня раз, ня раз о плыў я гэтак
Вянкамі дымнымі адзеты,
Каменнай, нярухомай явай
Над сьпячай Прагай і Варшавай.
І мае словы выраслі,
Як карабель імглісты з сталі,
Як места простае з каменьня,
Як ноч бяссонная з цярпеньня,
Расьлі ў паходзе гэты словы,
Штодзень ясьней, штодзень сталёвей.
Я іх у вулічным чуў груку,
Я чуў жывое сэрца бруку,
Той шум балесны і фатальны,
Той крык на пляцу Тэатральным,
І плюск крыві ля сьцен цагляных,
І подых бітых, катаваных.

Чуў сэрца места зблізка—й сёньня
Рву словы з бруку, хай гамоняць!

Я знаю, што бег колаў кажа,
Чым вуліца дрыжыць пад сажай,
Як з фабрык вострых сырэн сьвісты
У шыбы ўдарацъ сьвітам мглістым,
Як пойдуць людзі ў сьвіт шарэгам
Праз места злых, чырвоных цэгел,
З праклятым лёсам, з цьвёрдай доляй
У мглу, ў лянівы дым над Воляй...

Ў фабрычнай празьвінеўшы нетры,
Завіснуць молаты ў паветры
І рынуць разам з дзікім рэзам,
Сплятуцца іскрамі з жалезам,
Пад гнётам сілы без палёгкі,
Націскам рук, уздымам лёгкіх;
Разгону трэба, ўдараў верных
Крутым трансьмісьям і шасьцерням,
Націску трэба цьвёрдым шынам,
Хай блиснуць сталяй цёмна-сіняй,
Хай мкнуцца сьмела, проста ў сьветы,
Вязучы для мастоў шкілеты,
З агню хай вырве стальны розум
Стальныя сэрцы паравозам,
Махавіком, турбінам—сьпіцы,
Пяруназводы—бліскавіцам,
Вуглі і дымы—печным грудзям,
А гордасьць і магутнасьць—людзям!

Ў фабрычным склепе жару поўна,
Ў фабрычным склепе труд бязмоўны,
Машыны, з гону ашалеўшы,
Глядзяцца ў сьценны, дух запершы,
Б'юць лапамі навосьлеп, хутка,
Зубамі давяць, грозяць рукам,
Дрыжаць і пружацца ў варотнях,
І мусяць свой разгон усотніць,
І—сільныя—ўгнуцца прад сілай,
Бы ўсьцяж грымела, бы ўсьцяж біла
Грукотам молатаў расьпетых
Жалезнае права ўсясьвету.

Штодня ў змаганьні, ў незабаўцы
На машын горлах млеюць пальцы,
Штодня, зьяданы печаў пеклам,
Крывёй заліты вочы блекнуць,
Штодня ў змаганьні трэба падаць,
Сьпеў заглушыць, забыцца радасьць;
Высяцца комінаў чалесьні
Над чалавечым шчасьцем, песьняй
І дымы сноўдаюць жалобай
Каменным местам—жывым гробам...

Ў машынным груку—ніжай, вышай,
Ці чуеш, песьню?—громка, цішай,
Прыціхла... Зноў тут... цісьне ціскам,
Для вуш—далёка, для сэрц—блізка...
Нічога... гэта сталь сыкоча,
А ў сыку сталі—шорах мрочны;
Чуваць яе ў такарнях, гутах...
Як полымя, паўзе раскута,
Плыве, як воды, ціха, глуха,
Як віхар, круціцца ў падмухах,—
Аж раптам з цемры рукі ўздойме,
Аж раптам дзьверы ўсе паломе,
Над вуліцамі завагніцца
Крывой, чырвонай бліскавіцай!

О песьня гневу! сьмела выплынь!
Рві грудзі подыхам ахрыплым,
І вейні, вейні па-над клумам
Шырокіх, вольных крыльляў шумам,
Над гоманам машын і местаў
Ўздымай сваіх крыльляў шалестам
Выдзёрты з цела сэрцы сонных;
Ты—стравай жыўнай слоў штодзённых,
Крывавым сьвітам ў ночы дзеях,
О песьня гневу!—ты надзеяй!
Вей, пралятай над маім краем
І расьцьвітай зялёным маем,
Віхром плыві над шляхам польным,
Дзе сэрцу—сьмела, вочам—вольна,
Збажовым шнурам, борам, Віслай,
Над ворным полем блісьні іскрай,
Ідзі да фабрык, гут мазольных,

Як громы крыкні:—Устаньце вольны!
Удар у молата:—Рвеце краты!
Удар сарцамі:—Дзень заплаты!
. . . . . . .
Як цяжка сёньня пець мне з вамі,
Як баляць грудзі пад славамі,
Але калісь з сьлёз, пакуль высохнуць,
Я песьню радасную высьню
І тое, што любіў так з болем,
На сэрцы вашы ляжа доляй,
Як кветкі першых дзён маёвых...

Але гнеў сёньня ў маіх словах,
І калі йду да вас са сьпевам,
То каб уплесьці сваім гневам
У вадно сэрца сэрц мільёны
І ў лёс піргнуць—
як гром натхнёны.

Перакл. з польск. **Я. Купала.**

# ЗАКЛІК

*III-му Зьезду Ўсенямецкага Саюзу Чырвоных Франтавікоў*

**Іоганэс Бэхэр**

З генэраламі мы ваявалі,
У крывавай, цяжкой барацьбе,
Сьцяной цьвёрдай ў страю мы стаялі
І яшчэ пастаім за сябе.
Мы ня згінем: жалезны
Фронт аджыў, фронт вялікі, бязьмежны.

Пасьля-ж бойкі, зьвязаўшы ім вочы,
Каты-зьверы бяз сэрца й душы
Іх расстрэльвалі сотнямі ноччу.
Памяць вечная, таварышы!
За свабоду барцы, слава вам!

Вы чуеце, браты; у Кітаі зноў вайна.
Ангелец паліць ўсё ў злабе шалёнай.
Прывет, Чырвонага Шанхаю батальёны,
Змагайцеся за мір: вайне вайна!

Чырвоны фронт! Узброіўся Кітай,
Паўзуць вужакі-танкі, грук гармат...
Але, як непарушны мур, трымай,
Кітайскай рэволюцыі салдат,
Ты свой чырвоны фронт, савецкі фронт!

Ўсіх краін люд рабочы, працоўны!
Калі пыл тваіх згасьне пакут
І лёс новы шчасьлівы, цудоўны
Зальле зьзяньнем маленькі твой кут?
Памятаеш, як гналі ўсіх вас
У акопы—трухлець, дыхаць газ,
І калі вы братоў забівалі,
Вам бляшаны кавалак давалі.

Працаўнік! Селянін, што на полі
Ты пацееш, сагнуўшы сьпіну!
Ну, падумай ты: радасьці-волі
Хто пазбавіў барцоў і ў турму
Іх за праўду запёр, зачыніў?
Ну, падумай: буржуям здабыў
Ты аўто, і шаўкі, і палацы,
І той хлеб, што табе-ж, як сабацы,
Яны кінуць. Так доўгія годы
І стагодзьдзі так нават цяглось,
Але будзе яно не заўсёды,
Бо акцябр ужо сьвет ўвесь затрос.

Не, ня будзе, бо фронтам чырвоным
Ўвесь пролетарыят, ўсіх краін,
Ў бойку йдзе. Мы пачуем, як звонам
Прасьвідруе паветра наш гімн.
Вось палаюць сьцягі, к барацьбе
Клічуць вас—пастаяць за сябе.
Так трымай-жа ты фронт свой жалезны,
Фронт вялікі, савецкі, бязьмежны!
Будзь ты цьвёрдым, як сталь!

Пераклаў з нямецкае **Р—ч**.

## З ЦЫКЛЮ „КВЕТКІ КАХАНЬНЯ“

### Я. Івашын

Я сустрэўся з табой
сярод кветак,
сярод шоўку мурожнай травы.
З вежы сіняе звоны прывету
нам у душу струменьнем ліліс
і ўздымалі ў блакітную высь.

Апрануў нас
дзень сонечна-новы
ў злататканыя шаты вясны.
Луг мігцеў пераліўна-шаўковы,
рэчка зорыла срэбрам агнёвым,
сонца сеяла іскры на дол.

Нас віталі
званочкі й гвазьдзіка,
незабудкі й рамашка сям'ёй.
Іх ірвала ты шчодрай рукою,—
сама кветкай цьвіла веснавою.
І сьпяваў нам казюлечак рой.

Твае вочкі
іскрыліс заранкай,
твае шчочкі ірдзеліс агнём.
Пацалунак пунсовага ранку
запаліў нас, бы хмелем віно...
Сонцавейным мы шляхам ідзём.

Цёплы ветрык,
дуронік гульлівы,
налятаў матыльком залатым,
веяў мёдам з грачнёвае нівы,
лашчыў подыхам буйна-шчасьлівым.
І наперад ляцелі мы з ім.

Мы ляцелі,
працятыя сонцам,
жыцьцявейнаю сілай яго.
Мы ляцелі ў магутным злучэньні
да вялікае творчае працы,
што бурліла-зьвінела наўкол.

## З ЛІСТУ

### О. Олесь

Кветку першую з-пад сьнегу,
У чужым знайшоўшы краю,
Я табе, мая галубка,
Ў край наш родны пасылаю...

Хай цябе яна вітае
Пацалункамі і сьмехам
І раскажа, як зімою
Вецер вые па-застрэхам...

Хай раскаже, як вясною
Кожны корчык аджывае,
Як зяленіцца галінка
І травіца прарастае...

Папытайся, як скурлычуць
Жураўлі ў нябесным лёце
І як сонейка сьмяецца,
Калі сьвеціцца ў балоце...

Хай твой жаль яна разьвее,
Поўніць пахам твой куточак,
Каб з грудзей тваіх раздаўся
Сьмех дзявочы, як званочак...

Пераклад з украінскае **А. Зіміонка.**

## НАВАЛЬНІЦА

**П. Росіч**

Ў небе радзілася хмарка, сплялася з другою,
К сонцу паўзе па блакітным пляцу;
Лапы свае падымае; а там за ракою
Шэрую к лесу спусьціла дажджу паласу.

* * *

Змрок насуваецца, блікі на ўсім пагашае.
Вецер, сарваўшыся, космы расчэсвае дрэў;
Дым з дымара сьцеражэ і ў шматкі разрывае...
Бліскаўка! Вецер на момант ў кустох прысьмірэў.

* * *

Ледзь-ледзь бярозы паркаль варухнецца дрыгучы...
Раптам пярун грозны стрэльнуў з гармат агнявых,
Грукат той ў горы ударыўся рэхам магучым
І, на кагосьці сярдуючы, ў хмарах заціх.

* * *

Кропля упала, другая, й шугнулі струменьні;
Дождж сваёй сеткай-абрусам ўсю вёску закрыў.
Неба сярдуе, імкнецца разбурыць скляпеньні,
Пенаю-крэмам з гары вадаспад забурліў...

* * *

Як-жа ня сорам, бабуля, баяцца. Грамніцу
Кінь ты паліць: мілагучны мне буры напеў.
Лепш ад унука паслухай, адкуль навальніца,
Ён ужо ў школе ўсё тое даўно зразумеў.

## ЗАВІЛІСЯ ВЯНКІ...

**Аркадзь Моркаўка**

Завіліся вянкі надзей,
залатыя, сінія
завіліся вянкі.
Не спаткаць нам тугу нідзе,
чорную, нахмурную
не спаткаць вякі.

Паляцелі за гай вятры,
цёмнакрылыя, сіберныя
паляцелі за гай.
Зелянівам гады накрыў,
радасным, аквечаным
зелянівам май.

Адляцела туга з грудзей,
ёлкая, калючая
адляцела ў пару.
Завіліся вянкі надзей,
залатыя, сінія...
Табе, Беларусь!

28/III-27.

## НАД ІМКЛІВЫМ СЭРЦАМ

**Аркадзь Моркаўка**

Над імклівым сэрцам будуць зоры вечна,
будуць вечна зоры залатым узорам.
Прыдзе двойчы раньне, прыдзе двойчы вечар—
пахаваць бяз гімнаў сумнае учора.

Будуць зоры вечна вабіць дзіўнай казкай,
дзіўнай казкай будуць над сусьветам новым,
дзе пад небам сінім лятуценьні-краскі
зацьвілі зарою, зыркаю ліпнёвай.

Ой, за вольнасьць сьвету разьбяры ў тумане,
разьбяры заснулі у тумане чорным.
Прыдзе двойчы вечар, прыдзе двойчы раньне
пахаваць бяз жалю сумнае учора.

31/III-27.

# ГІМН

## Е. Пфляумбаум

Бы вадазбор ў люстранасьці бліскучай,
Хароніць золак пераліўнай хвалі,
І плыньню ціхай, плыньню мілагуччаў
Цалуе кропель сьлёзныя караліт...

Бы ціхі шэпт пралескі сьнежна-сьвежай,
Ледзь чутны шэпт абуджанай вясны,
Глыбокі подых сівых узьбярэжжаў,
І ў дыямэнтах сонечныя сны...

Бы лёгкі дым празрыстае тканіны,
Ласкавы зрок і маладосьць душы,
І пераліvы ў радасьці даліны,
І веснавая парываньняў шыр...

...Так я адчула радасьць існаваньня,
І самацьветны золак у жыцьці,
І безнадзейнасьць першага расстаньня,
І услаўленьне вольнага пуці...

Красу мэлёдый гордых і крыштальных,
Прароцтва сноў у чыстаце душы,
Жалобны стогн у песьні пахавальнай,
І серабрыстага каханьня шыр...

Шаўковы шолах веснавейнай плыні,
Знаёмы рытм сугучнасьці палёў,
І непарушны подых багавіньня
У каляровасьці пяшчотных слоў...

І я панаваму люблю нябёсы,
І услаўляю хмельны пах зямлі,
І сіратлівую ў тумане просінь,
І чорнакудрыя у сьне палі...

## УСПАМІНЫ

**Юр. Лявонны**

У краі далёкім,
Сіняй старане,
Нехта сумным зрокам
Марыць аба мне...

Парасьлі асокай
Думак рубяжы;
Я цяпер далёка
І зусім чужы...

Пачуцьцё-ж ты сьцерці,
Зьнішчыць—не магла.
А таму й на сэрцы—
Чорная імгла...

Я свайго запалу
Прад табой ня крыў...
Сьнегавыя скалы
І блакітны Крым!..

Разышліся мэты,
Дзе калісьці граў...
Сінія бэшмэты—
Жоўтая чадра!

Адгучэла казка—
І сьлядоў няма...
Агнявыя ласкі
Мілай Хацімат!

Толькі часам рвецца
На душы імгла...
Пачуцьцё сьмяецца—
Зьнішчыць не магла!

І цяпер далёка...
І зусім чужы.
Парасла асокай
Прозалаць мяжы.

Што было глыбока,
Што было раней,—
У краі далёкім,
Сіняй старане!..

15-IX-1926.

## ЛЯ КОМІНУ

**З. Бандарына**

Чорныя стужкі на белай паперы,
Літары, словы ў агні...
Годзе мінулым маліцца і верыць.
З дымам зьнікаюць сьляды.

Словы ня наскія, словы чужыя...
Сьлёзы і лемант у жвір.
З шумаю нікнуць далёкія межы.
Промень мінулае зьвіў...

Чорныя стужкі на белай паперы,
Літары, словы ў агні...
Годзе мінулым маліцца і верыць,—
З дымам зьнікаюць сьляды.

Дружа!.. апошняе наша спатканьне.
Сінія пырскі-агні...
Ой, пахаваліся белыя зданi.
Сэрца прасіла—любі...

Падаюць словы людзкія—каменьні,
Хай не шкадуюць яны...
Вецер ў палёх завывае васеньні,
Выцьвітуць новыя дні.

Чорныя стужкі на белай паперы,
Літары, словы ў агні...
Годзе мінулым маліцца і верыць,—
З дымам зьнікаюць сьляды.

Сьмелага ветра бязьмерна кахала,
З сонцам за волю ішоў на нажы.
Толькі ня сёнешнім, накшым я знала,
Сёньня-ж нязнаны, далёкі, чужы...

Ўсё папаліла... Ўзьнімаліся, гінулі
Полымем сінім агні...
Белыя здані ў вачох паланелі,
Хвіля за хвіляй плылі...

Чорныя стужкі на белай паперы,
Літары, словы ў агні...
Годзе мінулым маліцца і верыць.
Верыма: выцьвітуць новыя дні!..

20/XII-26

# УВОДЗІНЫ Ў ФІЛЁЗОФІЮ ДЫЯЛЕКТЫЧНАГА МАТЭРЫЯЛІЗМУ *)

**Б. Быхоўскі**

## Разьдзел V

## Пытаньне аб свабодзе волі

Нават сярод вучоных, згодных паміж сабою адносна прынцыпу законамернасьці, вельмі шырока распаўсюджана пераканаsuccessivaньне ў тым, што прынцып гэты правільны ў адносінах да неорганічнае прыроды, да зьяў расьліннага царства і царства жывёл, але не пашыраецца на паводзіны чалавека. Чалавек, паколькі ён зьяўляецца істотай фізыка-хэмічнай, біолёгічнай, падлягае законам фізычнага сьвету: залежыць і ад закону сусьветнага цяжэньня і закону захаваньня матэрыі і г. д.; але гэта толькі адзін бок зьявішча. Чалавек ня толькі біо-хэмічнае адзінства, але ён мае і волю. І калі ўсе апошнія рэчы, не падзеленыя воляй, толькі сьлепа мэханічна дзейнічаюць пад уплывам знадворных прычын, то чалавек, дзякуючы ўласнай волі, вырываецца з ціскоў законамернасьці. Ён дзейнічае так ці інача не па канечнасьці, а па свабоднаму выбару ўласнай волі, адпаведна з рашэньнямі і пабуджэньнямі. Калі ўсе астатнія істоты, будучы пастаўлены ў вядомыя ўмовы, трымаюць сябе з канечнасьцю, няўхільнасьцю, якая наўперад можа быць прадбачана на падставе вывучэньня натуральных законаў, то чалавек пры ўсякіх абставінах зможа дзейнічаць так ці інача па сваёй самаволі, кіруючыся свабоднай, незалежнай ад законамернасьцяй, воляй. Такі ў агульных рысах погляд, які называецца індэтэрмінізмам. Разгледзім уважліва, ці сапраўды гэта так, што воля свабодна, ці траціць сваё значэньне прынцып прычыннай канечнасьці ва ўжываньні да чалавечых паводзін? Перш усяго адзначым, што свабода—паняцьце адмоўнае, яна выражае адмоўнасьць, скасаваньне чаго-небудзь, свабоду *ад чаго-небудзь*. Можна быць свабодным—ад заняткаў, ад турмы, ад забабонаў. У даным выпадку, відавочна, гутарка ідзе аб свабодзе волі ад прычыннай залежнасьці, ад абмежаванасьці, канечнасьці.

Прыпамятаем, што поводзіны чалавека і кіруемыя воляй паводзіны чалавека—паняцьці, якія не пакрываюць адно другога. Паводзіны чалавека непараўнана шырэй яго „валявых“ паводзін, ня вычэрпваюцца імі; апошнія толькі адна з форм нашых паводзін. Мы маем на ўвазе не

*) Гл. „Полымя“ № 1 за 1927 г.

агульныя ўсім рэчам фізыка-хэмічныя працэсы, якія адбываюцца ў чалавеку і дзейнічаюць на яго, а самыя яго рэакцыі, складаныя элемэнты яго паводзін. Ці прыплюшчыць чалавек вочы пры яркім сьвятле, ці адхопіць руку, калі ўколе іголкай,—ва ўсіх гэтых актах, простых рэфлексах, яго воля ня будзе прымаць удзелу, яны адбываюцца з біолёгічнай канечнасьцю, якая агульна і людзям, і ўсякім жывёлам. Такімі-ж рэакцыямі зьяўляюцца, напр., паводзіны чалавека ў час сну: чалавек варочаецца, моршчыцца, адганяючы муху, папраўляе коўдру—бяз усякага ўдзелу волі. Таксама вядзе ён сябе, калі чым-небудзь вельмі захоплены, напр., углыбіўся ў разважаньні: ён ідзе, мінае падарожных, зварочвае за вугал зусім аўтоматычна, бесьсьвядома.

Пяройдзем да больш складаных формаў паводзін. Чалавек хоча есьці, і таму ён учыняе цэлы рад дзеяньняў. Ці адвольна зьяўляецца ў ім гэтае жаданьне? Ці бяспрычынна мая воля да яды выяўляецца штодзень у час абеду? Ці не абумоўлена гэта пабуджэньне волі? Ці выпадкова ў падросткаў ва ўзросьце 14—16 гадоў прачынаюцца некаторыя комплексы імкненьняў, імпэтаў, пабуджэньняў, спачатку няясных, якія пасьля ўсё больш і больш афармляюцца ў каханьне? Ці свабодна наша воля ў гэтых выпадках? Ці яе выяўленьні прычынна-абумоўлены біо-хэмічнымі працэсамі, што маюць месца ў організьме гаспадара волі?

Падыйдзем да пытаньня з другога боку. Калі воля не свабодна, то павінна быць магчымым прычынна абумовіць яе акты. Ці магчыма, выклікаўшы вядомыя прычыны, выклікаць абумоўліваемыя імі валявыя акты? Зрабеце чалавека п'яным, і стане п'яная яго воля, інтоксыкацыя (хэмічны працэс) абумовіць некаторыя спэцыфічныя нахілы яго волі. Пакармеце чалавека салёным, і яго воля „свабодна“ захоча піць. А хіба ўсе пэдагогі-выхавальнікі не займаюцца накіраваньнем і зьменаю волі сваіх выхаванцаў, ня выхоўваюць у іх тых ці іншых звычак, нахілаў, жаданьняў? Дапусьцеце, што вы радзіліся ня ў царскай Расіі, а старажытнай Халдэі,—хіба ваша воля была-б такою-ж, як цяпер, хіба іншае соцыяльнас асяродзьдзе не абумовіла-б канечна іншых вашых паводзін? Гэта было-б таксама канечна, калі-б вы выхоўваліся, напр., не ў сялянскай хаце, а ў графскай вільле.

Не, нашыя жаданьні родзяцца не свабодна, а ў сілу тых ці іншых прычын, яны родзяцца такімі ці іншымі ў сілу вядомай канечнасьці, яны ўзьнікаюць і зьмяняюцца законамерна. Задача навукі—выявіць прычынную канечнасьць валявых актаў. І калі чалавек дзейнічае „свабодна“ так ці іначай, то задача навукі—пазнаць законамернасьць гэтага „свабоднага“ выбару, тыя прычыны, якія абумовілі ўчынак таго ці іншага роду.

„Валявыя“ паводзіны ня вычэрпваюць нашых паводзін. „Валявыя“ паводзіны ёсьць сьвядомыя паводзіны. Апрача іх, ёсьць і падсьвядомыя

паводзіны, рэакцыі бяз удзелу сьвядомасьці: рэфлекторныя, інстынктыўныя, аўтоматычныя. Але і сьвядомыя паводзіны не супадаюць з „валявымі“. Зусім правільна прыказка, якая кажа, што „мы і многа лепш, і многа горш, як мы аб сабе думаем“. Як часта мы самі сабе, сваёй волі не падпарадкаваемся. Да чаго-небудзь імкнемся і не адважваемся гэтага зрабіць, ня здольны на гэта. Жадаем аднаго, а робім другое. Штосьці аказваецца сільней ад рашэньня нашай „свабоднай“ волі, супроць волі цягне нас, і мы ня маем улады тут што-небудзь зьмяніць, ня маем сілы перамагчы сябе.

Могуць заўважыць: а хіба мы ня можам намаганьнем нашае волі затрымаць нашу руку пры ўколваньні? Хіба ў гэтым выпадку мы, у адзнаку ад ніжэйшых істот, не перамагаем па свабоднай волі канечнасьць? Самы факт паказаны правільна, але вывад з яго няправільны. Калі законамерна адхопваньне рукі, то ня менш законамерна і адваротнае. Хіба нельга паставіць пытаньне аб тым, чаму ў гэтым выпадку, наперакор звычайнасьці, чалавек затармазіў рэфлекс? Захацеў затрымаць яго? Ці можна дапусьціць адваротнае? Каб, жадаючы давесьці сваю здольнасьць неадхопліваць руку, чалавек яе адхапіў? І хіба выпадкова да гэтага разу воля не выяўляла жаданьня затрымліваць рэфлекс? Тое, што асаблівага ў данай абстаноўцы параўнаўча з звычайнай, і ёсьць прычына „свабоднага“ волявыказваньня. Зробім дапушчэньне, што два дакладна аднолькавых індывіды аказаліся ў тожсамых умовах, і ці можна дапусьціць, што адзін будзе весьці сябе інакш, чым другі? Дапусьцеце розьніцу ў абставінах—яна абумовіць розьніцу ў паводзінах. Дапусьцеце розьніцу ў індывідах пры аднолькавых абставінах—гэта розьніца абумовіць неаднолькавыя паводзіны. Ці можна задацца пытаньнем аб тым, чаму людзі вядуць сябе парознаму ў аднолькавых умовах? Чаму людзі *хочуць* весьці сябе парознаму? Калі гэтыя пытаньні паддаюцца вывучэньню,—а таму парукай псыхолёгічныя дысцыпліны,—то воля дэтэрмінавана. Калі можна выявіць прычыны розьніцы жаданьняў людзей і фактары зьменнасьці гэтых жаданьняў,—нельга гаварыць аб выключэньні волі з каузальнага ланцуга.

Якія прычыны, што абумоўліваюць волю? Гэта, папершае, біолёгічныя і, падругое, соцыяльныя фактары. Дасканала ведаючы біолёгічную і соцыяльную прыроду асобы, мы маглі-б беспамылкова прадбачыць яе паводзіны. Будова організма і яго функцыі, яго асаблівасьці і пазывы, з аднаго боку, соцыяльнае асяродзьдзе, якое выхавала псыхіку асобы, соцыяльныя ўмовы існаваньня, якія азначаюць характар запатрабаваньняў, звычак, поглядаў і інтарэсаў,—цалкам азначаюць волю асобы і характар яе пабуджэньняў пры любых акалічнасьцях. Біолёгічныя зьмены і соцыяльныя зрушэньні ў жыцьці індывіда ва ўсёй іх рознастайнасьці прывядуць да конфлікту з тымі, што ўстанавіліся, рысамі „волі“.

Азнаямленьне з выяўленьнямі ненормальнай „волі“, з яе патолёгічнымі формамі, вельмі навочна паказвае яе залежнасьць ад біо-хэмічных

працэсаў. Дзеяньні, выклікаемыя органічнымі і функцыянальнымі разладамі нэрвовай сыстэмы і ўхіленьнямі ад нормы хэмізма крыві, выразна паказваюць бязглуздзіцу вучэньня аб свабодзе волі. Так, напр., пры грыпе мазгоў (па Крэчмеру) дарослы пацыент ляжыць гадзінамі на канапе ў нязручным становішчы бяз руху; у яго няма ніякае патрэбы для руху, ён ня сумуе, ён зусім ні аб чым ня думае. Іншыя хворыя нічога ня могуць,—нічога не жадаюць. На дзіцячыя мазгі процэсы, якія выклікаюцца гэтай хваробай, утвараюць іншыя дзеяньні, як на дарослых. У іх наглядаецца не невыстарчальнасьць у пабуджэньні, а процілеглае: імкненьні растармажваюцца, зьяўляецца непакойная рухавасьць і стрымгалоўе, пераважаюць імкненьні хлусіць, красьці, бэсьціцца, быць надзвычайна, як кошка, рухавым з зьверападобнымі прыступамі злосьці, з дзікім кусаньнем, драпаньнем і г. д. Розум пры гэтым захоўваецца.

Гэты прыклад, адзін з безьлічнай колькасьці фактаў такога парадку, паказвае, што тып валявое дзейнасьці, які характарызуе нормальных людзей, ёсьць ні што іншае, як продукт вядомае біо-хэмічнае роўнавагі, і ўсялякае парушэньне гэтай роўнавагі зьмяняе і волю.

Інстынкты самазахаваньня, распладненьня і грамадзкасьці, поруч з звычкамі і інтарэсамі, якія ўкараніліся пры дапамозе выхаваньня і набыты ў наступнай індывідуальнай практыцы,—вось тыя рухаючыя нашу волю сілы. Запэўняць аб свабодзе волі—значыць закрываць шлях да разуменьня законамернасьцяй чалавечых паводзін, да прадбачаньня ў гэтай галіне, да ўспрыманьня і ўдасканальваньня гэтых паводзін. Задача сапраўднай навукі—паказваць гэту прычынную канечнасьць як у біолёгічных, так і ў соцыяльных (эпоха, кляса, профэсія, народнасьць, біографія і г. д.) яе сувязях.

Якія суадносіны знадворных і ўнутраных фактараў, якія дэтэрмінуюць нашу волю? Ці абумоўліваецца яна ўнутранымі стымулямі організма, ці знадворнымі ўзьдзеяньнямі? Нашыя паводзіны, кіраўніцтва якімі прыпісваецца волі, у кожным разе не азначаюцца непасрэдна знадворнымі прычынамі, як, напр., мэханічнае ўзьдзеяньне азначае рух каменя. Нашыя паводзіны складаюцца з рэакцый адказваючых рухаў організма на раздражэньні, і ня могуць быць зразумелымі, калі не ўясьніць законаў, якія азначаюць гэтыя рэакцыі. *Усякі* валявы акт таму абумоўлены ўнутраорганічнымі прычынамі, уласьцівымі організму законамернасьцямі. Але гэтыя адказваючыя рэакцыі організма павінны быць выкліканы некаторымі раздражальнікамі. Раздражальнікамі зьяўляюцца зьявішчы знадворнага сьвету. Але не адны яны. Раздражальнікамі могуць быць і ўнутраорганічныя пацягі: палавыя, пацягі да яды і інш., якія ўзьнікаюць з самага індывіда. Але, бач, і такія запатрабаваньні ўзьнікаюць, нарэшце, дзякуючы ўзаемаадносінам з знадворным асяродзьдзем—трата цяплыні, выдаткі энэргіі, атленьваньне і г. д. Урэшце, і будова організма і яго формы рэагаваньня выпрацоўваліся пад уплывам узьдзеяньня зна-

дворнага асяродзьдзя, прыстасоўваючыся да яго шляхам натуральнага адбору.

Такім чынам, фактары знадворныя і ўнутраныя непарыўна пераплятаюцца паміж сабою, і ўнутрыорганічныя фактары зьяўляюцца толькі *непасрэднымі*, але не аканчальнымі вытворцамі валявых актаў. Знадворнае асяродзьдзе стварае паводзіны, як-бы адбіваючыся, акумулюючыся ў нэрвовай сыстэме. Вось чаму здаецца, быццам валявая дзейнасьць адбываецца на аснове ўласных, ёй уласьцівых, незалежных законаў. Сапраўды-ж воля і яе законы—толькі акумулятар, які насычаны вельмі складанымі знадворнымі ўплывамі, і ня можа быць зразумелаю незалежна, абстрагавана ад усёй злучнасьці сучаснага і гістарычнага асяродзьдзя.

Як уяўляецца з нашага пункту гледжаньня перажываньне выбару, сумненьня, ваганьня? Як вытлумачыць гэтыя зьявы дэтэрмінічна?

Справа ў тым, што звычайна нашыя паводзіны азначаюцца не адным якім-небудзь фактарам, а адначасна цэлым комплексам розных прычын, якія цягнуць нас у розных кірунках. Тая ці іншая рэакцыя, тое ці іншае пабуджэньне волі абумоўліваецца ў выніку скрыжаваньня розных рухаючых сіл, як-бы па роўнадзейнай іх. Кірункам усіх рухаючых і сілай іх азначаецца характар складанай рэакцыі асобы. Пачуцьця выбару няма, калі пануе адзін які-небудзь фактар, роля-ж рэшты бясконцнамалая. Тады паводзіны носяць характар стыхійнага, бязумоўнага, што не патрабуе напружаньня волі. У адваротным выпадку, калі на нас дзейнічаюць процілеглыя і аднолькава магутныя фактары—мы ня йдзем ні ў адным з кірункаў, да якіх пабуджаемся, мы ў нерашучасьці вагаемся. Перавага, што ўтвараецца на адным з бакоў, часта вельмі нікчэмная, урэшце азначае наш „свабодны“ выбар, адчуваемы як напружаньне волі, як перамаганьне процілеглага імкненьня. Вось які гэты мэханізм, конкрэтны зьмест якога патрэбна выявіць у кожным асобным выпадку для ўразуменьня „свабоднага выбару“. Тут прычынна абумоўлен ня толькі вынік паводзін, але і самае пачуцьцё свабоды, як некаторай канечнай роўнавагі. Воля, усе яе адценьні і капрызы, як і ўсё ў прыродзе, дзейнічае па канечнасьці, пазнаньне каторай—задача псыхолёгічных навук.

Якія-ж карані звычайнага пераконаньня людзей у свабодзе волі? Чаму ў нас моцнае пачуцьцё гэтай свабоды? Таму, што чалавеку, калі ён чаго-небудзь жадае, звычайна невядомы таемныя прычыны, якія абумоўліваюць яго волю, і іх барацьба, сьвядомосьць гэтага чалавека ўспрымае толькі дзеяньне гэтых прычын—жаданьне,—як непасрэднае пачуцьцё.

Воля ёсьць там, дзе ёсьць сьвядомасьць. Яе няма ў падсьвядомым трыманьні. Прычыны волі, абумоўліваючы пэўны стан сьвядомасьці, самі могуць і не даходзіць да сьвядомасьці. Сьвядомасьць жадаючага чалавека накіравана ў сваім імкненьні не на прычыны жаданьня, а на мэту яго і на шляхі да дасягненьня гэтай мэты. Калі я буду разумець прычыны майго жаданьня есьці—мой голад ня пройдзе. Такім чынам, для

сьвядомасьці суб‘екта первястковым зьяўляецца жаданьне, воля, каторая ў сапраўднасьці об‘ектыўна,—другарадна, ёсьць выражэньне дзейнасьці некаторых прычын. Пры гэтым, як мы адзначалі, валявое адчуваньне характарызуе пэўнае выражэньне прычыннай абумоўленасьці паводзін—конкурэнцыю прычын. Такім чынам, свабодная воля—суб‘ектыўная ілюзія асобы, ілюзарны стан сьвядомасьці пры крыжаваньні дзейных сіл. Свабода—форма ўспрыняцьця канечнасьці; пры гэтым, форма адбівае канечнасьць з своеасаблівым скажэньнем. Індэтэрмінізму спрыяе тое, што законамернасьці сьвядомасьці вельмі складаныя, цяжка паддаюцца аналізу і іх пазнаньне знаходзіцца на досыць нізкім роўні. Шмат чаго застаецца яшчэ непазнаным у гэтай галіне, і вось, у гэтых-та няўзораных навукай вучастках, выростае індэтэрмінізм—продукт і прытулак цемры.

Пасьля сказанага ня трудна зразумець розьніцу поміж паняцьцямі „мотыў“ паводзін і „прычына“ паводзін. Мотыў ёсьць уяўленьне сьвядомасьці аб мэце таго ці іншага ўчынку так, як быццам гэта мэта, пастаўленая воляй, зьяўляецца яго рухаючай сілай. На самай-жа справе, самы мотыў, самая пастаноўка мэты ёсьць адбіцьцё ў сьвядомасьці дзеяньня некаторых біо-соцыяльных прычын; мотывы не вытлумачваюць учынкаў, а самі патрабуюць прычыннага тлумачэньня. Тое, што непасрэдная сьвядомасьць ня ведае прычыннай абумоўленасьці волі, часта вядзе к таму, што мотывы адваротна, няпраўдзіва паказваюць ісьцінныя мэты паводзін.

Толькі об‘ектыўны аналіз прычын паводзін дае магчымасьць накіраваць сапраўднае сьвятло на яго істоту.

Апрача таго, ёсьць некаторыя соцыяльныя прычыны, якія пабуджаюць ідэолёгаў пануючых кляс укараніць пераконаньне ў свабодзе волі. Гэтай прычынай зьяўляецца зацікаўленасьць пануючых кляс у захаваньні рэлігіі. Ня спыняючыся тут на сувязі паміж рэлігіяй і інтарэсамі клясавага панаваньня, абмяжуемся толькі паказаньнем на значэньне індэтэрмінізму для захаваньня рэлігійных падвалін. Рэлігія імкнецца рэгуляваць паводзіны людзей абяцаньнем нагароды альбо адплаты ў жыцьці на тым сьвеце. Ідэя адплаты—самы моцны аргумант для рэлігійнага ўплыву. Але каб надаць адплаце пэўнасьць, неабходна зрабіць дапушчэньне, што перад кожным чалавекам адчынены два шляхі паводзін: пабожнага і грахаводнага, па якіх ён можа ісьці, як пажадае. Толькі калі дапусьціць свабодны выбар, то можна апраўдаць адплату. Калі-ж грахаводныя паводзіны не залежаць ад свабоднае волі чалавека, а зьяўляюцца канечнымі, то не застаецца месца для боскае кары, бо канечнасьць самім богам вызначана. Такім чынам, дэтэрмінізм перанёсбы віну за грахі людзей на бога і падарваў-бы ідэю адплаты—самы моцны сродак рэлігійнага дурману. Вось зачым няма нічога дзіўнага ў тым, што вучэньне аб свабодзе волі ярасна ахоўваецца ўсімі абаронцамі і прыхільнікамі рэакцыйнага мракобесія. Бог стварыў волю свабоднай, каб

можна было караць і заахвочваць, абяцаць райскае жыцьцё і палражаць „геенай вогненай“.

Вучэньне аб свабоднай волі і з другога боку адбівае рэлігійныя погляды. Яно выключае чалавека з агульнай законамернасьці прыроды, вырывае яго з унівэрсальнага прычыннага ланцуга. Як істота матэрыяльная, чалавек падлягае законам прыроды, але ён ня толькі істота матэрыяльная,—у ім, у яго тленнай матэрыяльнай абалонцы, захоўваецца „іскра божая“; ён адначасова і зьвяно іншага сьвету. І як істота іншага сьвету, як госьць на зямлі, ён не падлягае законамернасьці—ён свабодны. Не навуковыя мотывы, ня факты пабуджаюць да індэтэрмінізму, яны яго абвяргаюць. Дэтэрмінізм трымаецца на неўласьцівых навуцы клясавых пабуджэньнях і абапіраецца на цемру.

Але чытач хоча запытаць: калі нашыя ўчынкі канечны, то які сэнс мае судовая кара і моральнае асуджэньне? Ці можна вінавацiць чалавека і судзіць яго за тое, што ён не залежыць ад яго свабоднага выбару, што ён зрабіў законамерна? Ці ня ўступае тут наша тэорыя ў конфлікты з нашай практыкай? Разгледзім, у чым памылковасьць такога дапушчэньня? Калі мы выполваем шкадлівую траву ў агародзе альбо саранчу, якая нішчыць засевы нашых палеткаў, нас аніяк ня цікавіць тая акалічнасьць, што сьметнякі растуць згодна законам прыроды, а саранча зьнішчае засевы ў сілу канечнасьці, ад яе незалежнай. Шкоднае ёсьць шкоднае, якія-б прычыны яго ні выклікалі. З прычыннае абумоўленасьці вынікае толькі, што ў барацьбе патрэбна не абмяжоўвацца зьнішчэньнем дзеяньняў, але імкнуцца зьнішчыць і прычыны, што абумоўліваюць гэтыя дзеяньні. Усё толькі што сказанае можна ў поўнай меры дастасаваць і да пытаньня з злачынствам і нашымі соцыяльнымі шкоднікамі. Ці сапраўды вынікае, што ня трэба змагацца з бюрократызмам і злоўжываньнямі па пасадзе з тае прычыны, што гэтыя зьявы канечна вырасьлі ў псыхолёгіі людзей, якія выхаваны ў атмосфэры самадзяржаўнага грамадзтва? Ці вынікае, што трэба спыніць барацьбу з контр-рэволюцыяй таму, што яна канечна вынікае ў прадстаўнікоў, варожых пролетарыяту кляс? Зразумела, не. Якія-б ні былі гэтыя зьявы, яны нам шкодны, мы іх выкараняем. Прычынная залежнасьць ня робіць іх менш шкоднымі. Пазнаньне іх законамернасьці вучыць нас выкараняць самую глебу іх, зьнішчаць самыя прычыны, якія выклікаюць шкодныя зьявы. Мы не абмяжоўваемся барацьбой з шкоднымі дзеяньнямі, але і перарабляем грамадзкі лад так, каб зьнішчыць іх прычыну. Не аб злой волі злачынца трэба гаварыць, а аб біо-соцыяльных фактарах гэтае злое волі. З гэтага, аднак, зусім не вынікае, што грамадзтва не павінна забясьпечыць сябе ад яго руйнавальнікаў, як-бы законамерна яны такімі зрабіліся. Апрача таго, самае існаваньне судоў, прасьледваньні, пакараньні зьяўляюцца ў нашых умовах немалаважнымі фактарамі, якія дзейнічаюць затрымліваюча на паводзіны некаторых людзей. Небясь-

пека пакараньня становіцца новым фактарам у шэрагу другіх, што азначаюць волю. Урэшце, наша пакаральная політыка імкнецца не караць людзей, але соцыяльна-прыстасаваць іх, перавыхаваць іх, даць другі напрамак іх волі. Такі ідэал нашай пакаральнай політыкі, якая, у такім выглядзе, мае патрэбу пазнаць законы паводзін, і ёсьць толькі адзін з тыпаў прыкладное соцыяльнае псыхолёгіі, свайго роду соцыяльная тэрапія і хірургія.

Агаляючы ненавуковасьць вучэньня аб абсолютнай свабодзе волі, свабодзе валявых актаў ад прычыннай залежнасьці, адмаўляючы правамернасьць супроцьстаўленьня свабоды канечнасьці, мы захоўваем разуменьне адноснай свабоды волі, разуменьне з зусім другім зьместам. Разуменьне свабоды павінна захавацца ў нашай мэтодолёгіі не як выключаючае канечнасьць, а як адзін з відаў канечнасьці, як свабодная канечнасьць. Свабода тут разумеецца ня ў сэнсе адсутнасьці абумоўленасьці, а ў процілегласьць прымусу. Свабодным называецца чалавек, які дзейнічае ў сілу канечнасьці, што выплывае толькі з яго ўласнай прыроды. Чалавек жыве ў фізычным і соцыяльным асяродзьдзі. Гэтае асяродзьдзе супроцьстаіць яму як знадворная сіла, уступаючы часта ў супярэчнасьць з яго інтарэсамі і патрэбамі, паралізуючы іх, прымушаючы яго дзейнічаць наперакор сваім нахілам, прыгнятаючы магчымасьць ажыцьцяўленьня апошніх. У адзнаку ад такіх вымушаных знадворнымі і варожымі чалавеку сіламі паводзінамі, чалавек падлеглы іншым канечнасьцям, абумоўленым яго ўласнай прыродай і яе інтарэсамі. Жаданьне жыць, кахаць—канечны, але яны выклікаюцца ня прымусам, ня сілай. Свабода ёсьць свабода ажыцьцяўленьня чалавекам сваіх пацяг. Свабодным можна назваць чалавека, які можа жыць у поўнай адпаведнасьці са сваімі імкненьнямі, незалежна ад супроцідзеяньня знадворнага асяродзьдзя. Гэта, зразумела, аніяк не азначае індэтэрмінаванасьці самых пацяг.

Але ці магчыма такая свабода? І які да яе шлях? Свабодная рэалізацыя жаданьняў, відавочна, нямысьліма па-зазнадворным асяродзьдзем, чалавек ня можа жыць па-за натуральнай і соцыяльнай ваколіцай. Гутарка можа ісьці толькі аб свабодзе ў межах, ва ўмовах асяродзьдзя, г. ё. аб тым, каб ад падлегласьці асяродзьдзю ісьці да падпарадкаваньня яго сабе, да аўладаньня ім, да прыстасаваньня яго сабе. Свабода месьціцца, такім чынам, у панаваньні над самім сабою і над знадворнай прыродай. А гэта магчыма толькі шляхам ведаў натуральнай канечнасьці, бо, каб заўладаць ёю, патрэбна раскрыць яе законы. Самі тэорытычныя веды яшчэ ня ёсьць свабода. Ведаць прычыны хваробы ня робіць яшчэ нас свабодным ад яе. Ведаць законы капіталістычнага грамадзтва—ня ёсьць яшчэ вызваленьне ад капіталізму. Гэтыя веды павінны быць такімі, каб яны маглі абярнуцца ва ўзьдзеяньне, у аўладаньне. Ня ўяўнае пазнаньне, а дзейнае, цераз усваеньне законаў

прыроды, якое прыводзіць да ўлады над ёю,—вось шлях да свабоды. Каб стаць свабодным, трэба мець здольнасьць ня толькі растлумачваць сьвет, але так растлумачыць, каб умець яго і перабудаваць.

Вось што значаць словы: свабода ёсьць пазнаная канечнасьць. Не адмаўленьне канечнасьці, а пазнаньне і дапасаваньне яе—вось з чаго складаецца свабода. Гістарычны прогрэс чалавечага грамадзтва азначае прасуваньне да свабоднай канечнасьці. Але кожны крок чалавецтва на шляху свабоды можа быць зразумелы, як гістарычная канечнасьць.

Прымус супроцьстаіць чалавеку ня толькі ў выглядзе прыроды, але ў выглядзе грамадзкага жыцьця. Калі капіталістычнае грамадзтва паказвае на высокую ступень заўладаньня прыродай, то, разам з тым, капіталізм ёсьць такі грамадзкі лад, калі грамадзкі парадак выступае супроць асобы, як супроцьлеглая, варожая, неперамажная сіла. Па меры таго, як чалавек станавіўся панам прыроды, ён абарачаўся ў нявольніка грамадзкага ладу. Клясавае прыгнечаньне, прамысловыя крызісы, беспрацоўе, войны—носяць характар варожай людзям неперамажнай стыхіі. У неарганізаваным капіталістычным грамадзтве, якое грунтуецца на конкурэнцыі і клясавай барацьбе, людзі не валодаюць уласнымі грамадзкімі адносінамі, што складаюцца як-бы за сьпінамі людзей, становяцца супроць іх. Прыгнечаньне неарганізаванага грамадзтва значна больш жорстка выступае супроць людзей, чым прыгнечаньне прыроды. Каб стаць свабодным і ў даным выпадку, патрэбна аўладаць грамадзкім жыцьцём, падпарадкаваць грамадзкае жыцьцё арганізаванаму кіраўніцтву людзей.

Ператварэньне неарганізаванага грамадзтва ў арганізаванае, соцыялістычнае грамадзтва азначае пераход з царства соцыяльнай канечнасьці ў царства чалавечай свабоды. Пазнаць законамернасьці ў гэтай галіне—справа нялёгкая, але, як паказвае практыка сучаснасьці, яна мажліва і ідзе наперад.

Такі наш шлях—цераз пазнаньне прыроды і грамадзтва да чалавечай свабоды, да свабоды ад вымушанай знадворнай канечнасьці, да свабоднага выяўленьня волі.

Іншы шлях, які прапаведуецца прыгнечаным клясам крывадушнымі ідэолёгамі пануючай клясы,—шлях вызваленьня не ад таго, што перашкаджае ажыцьцяўленьню патрабаваньняў людзей, а ад саміх патрабаваньняў. Калі патрэбы людзей уваходзяць у конфлікт з знадворнымі ўмовамі, то магчымы два шляхі да разьвязаньня конфлікту: альбо перамога перашкод, альбо перамога саміх нахілаў. Барацьба з пацягамі, абмежаваньнем патрабаваньняў, задушэньне імкненьняў—такі шлях да свабоды, што прапаведуецца імі. Свабода дасягаецца перамогаю жаданьняў. Воля становіцца супроць чалавека. З яго сродку абарачаецца ў яго ворага. Клясавыя інтарэсы, якія кіруюць такімі прапаведнікамі замірэньня, цярплівасьці, непраціўленьня,—зусім відавочны.

Такі ў агульных рысах круг пытаньняў, зьвязаных з проблемай свабоды волі. Як бачыць чытач, гэтая сфэра ні ў якім разе не складае выключэньня з прынцыпу законамернасьці, а, наадварот, дапасаваньне да яе дэтэрміністычнай мэтодолёгіі, і дае прыгожыя і карысныя вынікі.

Разьдзел VI

## Крытыка тэлеолёгіі

Ня ўсе мысьліцелі ўкладаюць у разуменьне законамернасьці той самы сэнс, што і прыхільнікі дыялектычнага матэрыялізму. Мы разумеем пад законамернасьцю нішто іншае, як канечную прычынную сувязь, каузальную (прычынную) абумоўленасьць усіх рэчаў. Самае існаваньне той ці іншай рэчы абумоўлівае, у залежнасьці ад яе ўласьцівасьцяй, тыя ці іншыя дзеяньні. Пазнаць рэч—значыць пазнаць яе ў яе канечнасьці, г. ё. як дзеяньне некаторых прычын. Задача навукі—выявіць законамернасьць прыроды, г. зн. пазнаць прычынную сувязь рэчаў. Адмаўляецца выпадковасьць у сэнсе беспрычыннасьці.

Але зусім іншы зьмест укладаюць у разуменьне законамернасьці прыхільнікі тэлеолёгічнага (мэтавага) мэтоду. Адсутнасьць выпадковасьцяй разумеецца ў тым сэнсе, што нішто не адбываецца „так сабе", бяз сэнсу, бязмэтна. Неабходнае разумеецца як патрэбнае, мэтазгоднае. Тэлеолёгамі сьвет разглядаецца не як сьляпая і бязмэтная ігра прычын, а як разумнае адзінства, як нешта мэтанакіраванае, рухомае да некаторай мэты, як да мяжы. Усякую падзею трэба вывучаць не як колца прычыннага ланцуга, а як колца шляху да мэты. Пазнаць рэч—значыць пазнаць яе мэтазгоднасьць, бо ня прычыны—рухаючая сіла прыроды, а мэты, падобна магнэсу, цягнуць яе да сябе. Сьвет існуе кіруемы разумнай воляй, мэтанакіравана.

Карэнная розьніца між абодвума поглядамі відавочна. Гэтая розьніца датычыцца самага разуменьня асноўнага прынцыпу сьветабудовы, яго рухаючых сіл, яна абумоўлівае супроцьлежны кірунак навукі. Прыхільнікі каузальнага мэтоду, якія адмаўляюць мэтанакіраванасьць прыроды, стараюцца разумець усякае зьявішча не як продукт некаторай сілы, што пранізвае прыроду і накіроўвае яе мэтазгодна, а як вынік фізыка-хэмічных уласьцівасьцяй рэчаў, бяз усякай мэтазгоднасьці. Тэлеолёгі, наадварот, лічаць нямысьлімым зразумець што-небудзь у прыродзе, калі адхіліцца ад яе мэтанакіраванасьці; дасканаласьць сьвету тады, паводле іх думкі, стане неразьвязанай загадкай, а яго непарыўнае ўдасканальваньне будзе кпіць над бясплоднасьцю навукі.

Мы разгледзім, наколькі лёгічна і фактычна абаснавана тэлеолёгічны пункт погляду і якая яго сапраўдная мэтодолёгічная вартасьць.

Пачнем з таго, што самае разуменьне мэтазгоды ў вышэйшай ступені—суб'ектыўнае і адноснае разуменьне, якое дае вельмі ўдзячную глебу для адвольных пабудоў. Што мэтазгодна, а што не? Для адказу на

гэтае пытаньне патрэбна ведаць, якія мэты перасьледуюцца сьветам, бо мэтазгодным зьяўляецца тое, што прыводзіць да *пэўных* мэт. Ад свавольства філёзофа залежыць прыпісаць сьвету тыя ці іншыя мэты, альбо заявіць „о неисповедимости путей господних“. А ня ведаючы мэт прыроды, няма нічога прасьцей, як усё лічыць мэтазгодным (адкуль даведацца, ці не вядзе гэта да невядомае мэты?). На самай-жа справе, ня ведаючы мэты, ня маючы *крытэрыя* мэтазгоднасьці, нельга гаварыць аб ёй зусім. А што-ж зьяўляецца мэтай прыроды? У імя чаго сьветы зьяўляюцца і зьнікаюць, адна геолёгічная эра зьмяняецца другою, віды жывёл нараджаюцца і паміраюць, грамадзтвы красуюць і разбураюцца? На падставе закону энтропіі (расьсейваньня энэргіі) сучасная навука праракае цеплавую сьмерць зямлі. Новыя зграмаджэньні энэргіі калісьці створаць іншы сьвет. Прырода як-бы забаўляецца, як-бы пускае мыльныя пузыркі: створыць сьвет, пажартуе з ім, населіць рознастайнымі стварэньнямі сваёй фантазіі і разбурыць. Альбо, прырода падобна малаздольнаму працавітаму вучню, які стварае нязграбныя няўдалыя творы і, незадаволены, зьнішчае іх, складаючы новыя, больш дасканалыя і г. д., ідучы да ўсё большага ўдасканаленьня. Але дзеля чаго? Мастацтва дзеля мастацтва? Усе гэтыя бязглуздыя і адвольныя вобразы яшчэ магчымы ў поэзіі, але навука на іх, відавочна, трымацца ня можа, ёй з імі няма чаго рабіць. А калі немагчыма адшукаць абсолютнай мэты, то ці нельга вывучаць прыватныя адносныя мэтазгоднасьці? Так, існаваньне кошак мэтазгодна, бо яны зьнішчаюць шкодных для нас мышэй, а існаваньне мышэй мэтазгодна, бо яны зьяўляюцца кормам для кошак.

Рот один бог нам дал оттого,  
Что иметь нездорово бы пару:  
И с одним-то чего уж, чего  
Наболтать не имеем мы дару!  
Будь двурот человек—верьте мне,  
Он и лгал бы, и жрал бы вдвойне.  
Нынче в рот коль вы каши набрали,  
Так молчите, пока не сожрали,  
А пры двух, дорогая моя,  
Лгали б мы и во время жранья.  
*(Гейнэ).*

Уласьцівыя чужаедам здольнасьці самазахаваньня мэтазгодны для іх, але наўрад ці гэта мэтазгоднасьць мэтазгодна для нас. Пункт погляду, ва ўсякім выпадку, вельмі зручны, бо пры дапамозе яго даказваецца ўсё, што хочаш, і пры тым без усялякае труднасьці, бяз усякіх досьледаў і напружнасьцяй. Калі даная ўласьцівасьць не мэтазгодна для індывіда, яна можа быць мэтазгоднай для віду альбо для наступных пакаленьняў, альбо для варожых відаў. Калі чалавечы організм забівае мікробы, якія ўтвараюць інфэкцыю,—гэта мэтазгодна для організму, калі не забівае—гэта мэтазгодна для мікробаў. У якіх-небудзь адносінах, для каго-небудзь, у якой-небудзь меры ўсё мэтазгодна. А ў крайнім выпадку, няцяжка да-

весьці і тое, што існаваньне немэтазгоднага таксама мэтазгодна (ці для навучаньня, ці як кружны шлях да мэтазгоднага). Але, карыстаючыся тымі-ж прыёмамі, лёгка паказаць, што нічога ў сьвеце мэтазгоднага *няма*, бо ў якіх-небудзь адносінах усё зьяўляецца і немэтазгодным.

Спадзяемся, што чытачу ясна, што тэлеолёгія у сілу крайняй адвольнасьці і суб'ектыўнасьці свайго цэнтральнага разуменьня ня можа абаснаваць навуковую мэтодолёгію.

Але калі-б мы ўмовіліся на якім-небудзь зразуменьні мэтазгоднасьці і калі-б згадзіліся з *наяўнасьцю факта* мэтазгоднасьці прыроды, ці значыла-б гэта прыняцьце тэлеолёгіі? Ні ў якім разе.

Асноўныя адменнасьці прыхільнікаў тэлеолёгіі ад прыхільнікаў каузальнага мэтоду складаюцца не з прызнаньня ці адмаўленьня мэтазгодных зьяў, а з тлумачэньня іх. Калі-б мы давялі, што мэтазгодныя зьявы, якія маюць месца, зьяўляюцца *вынікам* бесьсьвядомай і бязмэтнай фізыка-хэмічнай прычыннасьці—гэта было-б абвяржэньнем, а ня прызнаньнем тэлеолёгіі, бо апошная характарызуецца тым, што *тлумачыць* мэтазгодныя зьявішчы мэтанакіраванасьцю прыроды. Мэтазгоднасьць для тэлеолёгаў ня толькі вынік, але і рухаючая сіла, прынцып разьвіцьця. Тлумачэньне мэтазгоднага бязмэтнай прычыннасьцю і прызнаньне адначальнай мэтавай накіраванасьці сьвету, прызнаньне ў ім мэтапалагаючага пачатку—вось да чаго зводзіцца асноўная розьніца абодвух мэтодаў. З першага вынікае, што пры выяўленьні мэтазгодных зьяў, задача вучонага—зразумець гэту мэтазгоднасьць у яе прычыннай канечнасьці. З тэлеолёгічнага пункту гледжаньня—вытлумачыць яе з уласьцівай прыроды мэтаімкнёнасьці. Сумненьня няма, што першая задача шмат цяжэйшая і вымушае дасьледцу перамагаць безьліч перашкод, а другая надзвычайна лёгкая і выгодна. Але ці пасоўваемся мы хоць на адзін крок уперад, калі будзем тлумачыць мэтазгоднасьць уласьцівасьцю прыроды мэтазгодна разьвівацца? Зусім правільна разважаў выдатны біолёг В. Ру, кажучы, што „растлумачыць мэтазгоднасьць з дапамогаю мэтадзейнага пачатку раўнаважна таму, каб тварыць жыцьцё ад жыцьцёвага пачатку. Гэта не тлумачэньне, а таўтолёгія". Такое „тлумачэньне" вельмі напамінае мольераўскага вучонага, які глыбокадумна растлумачвае, што агонь паліць таму, што ён мае ўласьцівасьць паліць, сьвеціць у сілу сьвяцімасьці і г. д. На баку такога мэтоду ўсе перавагі, як вельмі „экономнага" мэтоду мысьленьня. Але дасьледваньне пры яго дапамозе настолькі-ж продукцыйна, як цыраваньне іголкай бяз ніткі.

Задача навукі *вытлумачыць* мэтазгоднасьць там, дзе яна ёсьць, г. ё. выявіць яе законамернасьць, не звapaчаючыся да маскіроўкі свайго няведаньня ўводзінамі, паняцьця мэты, якое нічога не вытлумачвае. Зразумець мэтазгоднасьць у прыродзе, не прыпісваючы ёй мэт (альбо, праўдзівей, не „адпісваючыся" ад яе „мэтамі")—вось лёзунг каузальнага мэтоду.

Рознастайныя тэлеолёгічныя погляды можна зьвясьці да двух асноўных тыпаў, у залежнасьці ад таго, дзе імі зьмяшчаецца мэтапалагаючы пачатак. Мэтаімкнёнасьць, канечна, робіць дапушчэньне некаторага насіцеля фактара яе, той пачатак, які ставіць мэты і накіроўвае да іх, абумоўліваючы мэтазгоднасьць, рухаючую сілу. Мэтапалагаючы пачатак можна мысьліць альбо як нешта знадворнае ў стасунку да рэчаў, альбо як унутрана-ўласьцівую рэчам сілу. Першы тып тэлеолёгіі носіць назву трансцэндэнтнага, другі—іманэнтнага. З пунку гледжаньня трансцэндэнтнай тэлеолёгіі, прырода ёсьць мёртвы мэханізм, накіроўваемы да вядомай мэты нейкім звышпрыродным пачаткам: богам, абсолютным духам, сусьветным розумам і г. п. Іманэнтныя тэлеолёгі прыпісваюць мэтадзейную сілу самім рэчам, організмам, лічачы іх ад асяродку рушымымі мэтапалагальным пачаткам. Між іншым, найбольш шчырыя з іманэнтных тэлеолёгаў прагаворваюцца, што іх погляд толькі захаваная форма багаслоўя, бо адкуль, як ня з неба, звальваюцца гэтыя ўласьцівыя паасобным рэчам нематэрыяльныя мэтадзейныя сілы? Гэтыя сілы, унутраўласьцівыя асобным рэчам, растуць з агульнага кораню—агульнасусьветнага мэтавага пачатку і зьліваюцца ў агульнай канечнай мэце. Абодва кірункі—адзін яўна, другі потайна—дапушчаюць звышпрыродную бажэственую руку, якая накіроўвае процэсы прыроды, што зьяўляецца рэакцыйным прытулкам цемры, бо ўсё невядомае можна „растлумачыць“ божым промыслам, г. зн. адно невядомае другім, яшчэ больш невядомым.

Сусьвет часта раўнаюць са складаным дасканальным мэханізмам. Ці будзе законным такое параўнаньне? Калі ім хочуць паказаць на тое, што прырода, падобна машыне, узьнікла з сьвядомага пляну, і мэты і яе мэханізм пабудаваны так, а ня іначай, выходзячы з прызначанай яму мэты, прычым бог уяўляецца тэхнолёгам-конструктарам,—такое параўнаньне ёсьць навукова-неабаснаваная тэлеолёгічная выдумка. Калі-ж мець на ўвазе, што прырода, падобна машыне, функцыянуе ў залежнасьці ад сваіх уласьцівасьцяй, паводле мэханічных і хэмічных законаў уласьцівых ёй,—гэта будзе правільнай заўвагаю і, ідучы за ёю, трэба імкнуцца не да вынаходкі мэт, а да выяўленьня законаў, уласьцівых прыродзе. Інжынэр не ставарае фізычных законаў, а мэтазгодна скарыстоўвае самі па сабе наяўныя абы якія законы прыроды. Чалавек, які ставіць мэты, надае мэтаімкнёнасьць фізычным законам.

Бескарыснае і няправільнае вучэньне аб сусьветнай мэтазгоднасьці крок за крокам выціскалася прогрэсам навукі. У сучасны момант сярод сур'ёзных вучоных досыць рэдкія мракобесы, якія зьяўляюцца прыхільнікамі яго ў такой унівэрсальнай форме. Бурны росквіт астрономіі, геолёгіі, фізыкі і хэміі пазбавілі тэолёгію ўсякага грунту ў галіне неорганічнай прыроды. У цяперашні час тэолёгі, якія выпіхнуты з навукі аб неорганічнай прыродзе, замацаваліся ў досыць маладой галіне навук

аб органічнай прыродзе. Геолёгія зараз улюбёная сфэра тэлеолёгаў, і ў ёй адбываецца цяпер найбольш заядлая барацьба паміж імі і намі. Зьвернемся мы да гэтай галіны і акінем вокам, ці моцна трымаюцца тэолёгі ў гэтай сваёй „крэпасьці".

Кіруючае палажэньне гэтага роду тэолёгаў-віталістых складаецца з прызнаньня прынцыповай розьніцы паміж жывой і мёртвай прыродаю, прычым характэрнай рысай жывога зьяўляецца яго здольнасьць мэтазгодна прыстасоўвацца і рэагаваць. Гэтая здольнасьць павінна, па думцы віталістых, растлумачыць усе ўласьцівасьці і функцыі органічнага сьвету, самую-ж яе (мэтазгодную сілу) нельга вытлумачыць і вывесьці з фізычна-хэмічных уласьцівасьцяй, а наадварот, яна не параўнальна з імі. Асноваю для віталістычных поглядаў служыцьназіраньне надзвычайна складанай і дасканалай прыстасаванасьці організмаў да вакольнага асяродзьдзя і іх прогрэсыўнае разьвіцьцё ў процэсе відавой эволюцыі. Жыцьцёвая сіла—насіцель мэтанакіраванасьці—павінна растлумачыць надта цудоўную анатомічную будову організмаў і іх функцыі, якія абумоўліваюць захаваньне і разьвіцьцё організмаў у вакольным асяродзьдзі. Абаронная афарбоўка організмаў адпаведна з акаляючай прыродай, рознастайныя спосабы дыханьня ў адпаведнасьці з тым, ці жыве жывёліна на сухазем'і ці ўвадзе, прыстасаванасьць органаў пачуцьцяў да асаблівасьці існаваньня і г. д.—бясконцныя анатомічныя і фізыолёгічныя прыстасаваньні, вельмі мэтазгодныя для сваіх уладальнікаў,—ці ня служаць яны бясспрэчным пацьвярджэньнем наяўнасьці ў жывых істотах мэтазгодна-кіруючага пачатку? Безьліч фактаў у карысьць прыстасаваньня організмаў зусім бясспрэчны, і ні адна біолёгічная тэорыя ня мае права іх абыйсьці. Усё пытаньне ў тым, ці неабходна для іх тлумачэньня дапусьціць мэтавы пачатак. Тыя даныя, што маюцца ў распараджэньні сучаснай біолёгіі, кажуць за тое, што мэтавы пачатак тут ня толькі не патрэбен, але і немагчымы. Ці ўсе продукты органічнага сьвету мэтазгодны? Ці ня ўзьнікаюць ня менш часта нямэтазгодныя органічныя формы побач з мэтазгоднымі? Даволі нават павярхоўнага погляду, каб ня было сумленьня ў тым, што мэтазгодна-прыстасаваныя зьявы—толькі рэдкія выспачкі ў моры органічна-мэтаадваротнага. Шмат біолёгічных відаў павымірала і выміраньне ня спыняецца: дзе быў мэтавы пачатак тэродактыляў і дынозаўраў, дзе жыцьцёвая сіла драконаў, зубраў? Толькі нікчэмнай меншасьці ўзьнікаўшых біолёгічных відаў удалося захавацца, рэшта-ж аказаліся непрыстасаванымі.

Але і ў асяродзьдзі „мэтазгодных" відаў ці ўсё ўжо так прыстасавана, як гэта здаецца? Прывядзем два прыклады. Адна амэрыканская лябораторыя зрабіла дасьледаваньне 1.090 сабраных коканаў матыля—папрадухі. Аказалася, што 93 з іх былі ўжо пустыя, 55 зьмяшчалі ссохлыя вусені, 623 былі з здохлымі куклачкамі, 9 не маглі праврваць абалонкі кокану. Жывых было толькі 310, але з іх толькі 181 далі нормаль-

ных матылькоў, г. зн. толькі 16,6 проц. агульнай колькасьці аказаліся прыстасаванымі да існаваньня. Другі прыклад: у сучасны момант вядома, што яйцо ўсякай марской касьцістай рыбы запладняецца семем любога другога прадстаўніка гэтае клясы. Лік існуючых відаў касьцістых рыб роўны прыблізна 10 тысячам. Значыцца, можна ўявіць узьнікненьне шляхам узаемнага крыжаваньня да 100 мільёнаў форм касьцістых рыб. Але жыцьцёвая здольнасьць аказваецца толькі нікчэмнай меншасьцю. Гэтых форм—каля сотай долі аднаго процанту, а апошнія—няжыцьцяздольны. Правільны таму словы выдатнага амэрыканскага біолёга М. Леба, які кажа: „Ня будзе пераўвялічэньнем сказаць, што лік існуючых форм нікчэмна малы ў параўнаньні з лікам тых, якія кожны дзень могуць узьнікаць і, напэўна, узьнікаюць, але ў выніку сваёй няжыцьцяздольнасьці скора гінуць, так што мы іх і ня бачым. Жыцьцёвасьцю адрозьніваюцца толькі надзвычайна нямногія формы, у каторых няма занадта рэзкіх дысгармоній у мэханізьме і будове. Дысгармоніі і няўдалыя выдумкі ў прыродзе складаюць правіла, тады як гармонічна зложаныя сыстэмы зьяўляюцца выключэньнямі“.

Мэтазгоднасьць, як уласьцівая жывой прыродзе якасьць,—толькі здань, ілюзія вопыту. Чаму мы сустракаемся з мэтазгодна-ўладжанымі формамі? Не таму, што органічным зьявам уласьціва мэтаімкнёнасьць, а таму, што ўзьнікаючыя немэтазгодна-ўладжаныя формы, у сілу сваёй непрыстасаванасьці, не захоўваюцца. Той просты факт, што непрыстасаванае зьяўляецца непрыстасаваным, абумоўлівае обэрацыю, быццам рэчам уласьціва немэтазгоднасьць. Не ад таго яны мэтазгодны, што існуюць, а затым існуюць, што аказаліся мэтазгоднымі. Вялікая большасьць немэтазгодна-ўладжаных форм, натуральна, не захоўваецца, і таму не парушае памылкі мэтазгоднасьці.

Але-ж з віталістычнага пункту гледжаньня нельга вытлумачыць, чаму мэтавы пачатак маўчыць у пераважнай большасьці выпадкаў. А якія дзікія па сваёй мэтазгоднасьці факты маюць месца ў праявах жывёльнага сьвету! Страказа можа адгрызьці сваю ўласную заднюю частку цела, калі апошняя зьяўляецца блізка да роту. Фалькельтаўскі павук памірае ад голаду поруч з мухай, калі справа ідзе па-за звычайнай абстаноўкай гнязда. Не, факты даводзяць, што ні аб якой мэтазгоднасьці, як прынцыпе існаваньня неорганічнай прыроды, гаварыць нельга, бачная мэтазгоднасьць захоўвае за сабою надзвычайную бязмэтнасьць і бяссэнснасьць.

Але з часоў Ч. Дарвіна мы ня толькі ведаем няправільнасьць тэлеолёгічнай тэорыі прыстасаваньня відаў, але і можам растлумачыць узьнікненьне мэтазгодных прыстасаваньняў, кіруючыся каузальным дэтэрмінізмам без дапамогі мэтазгоднай сілы. Каузальным *тлумачэньнем* прогрэсу ў органічным сьвеце зьяўляецца вучэньне Дарвіна аб выжываньні больш прыстасаванага альбо натуральным адборы. Знадворная прырода

ствapae рознастайныя зьмены ў органічных формах без усялякай мэтаімкнёнасьці. У шэрагу гэтых розных ўласьцівасьцяй, набываемых організмам, некаторыя з іх могуць зьявіцца карыснымі. Уладальнікі гэтых карысных прыстасаваньняў апыняцца ў больш памысных умовах у параўнаньні з рэштаю, лепш захоўваюцца і плодзяцца, паступова выціскаючы зьявіўшыхся менш прыстасаванымі. Прырода (і для гэтага няма патрэбы ў мэтавай сіле) жорстка зьнішчае непрыстасаваных і як-бы робіць адбор, захоўвае больш прыстасаваных. З зьменаю ўмоў больш прыстасаванымі могуць аказацца тыя, якія ў папярэдніх умовах паміралі. Ня прыходзіцца зварочвацца да гіпотэзы тэлеолёгаў, каб зразумець выжываньне больш прыстасаваных, няма месца гэтай гіпотэзе і пры тлумачэньні ўзьнікненьня адбіраемых адзнак. Для гэтага патрэбна толькі прызнаць зьменнасьць організмаў наогул, але ні ў якім разе ня здольнасьць мэтазгодна зьмяняцца. Так бяз усякай тэлеолёгіі робіцца зразумелым прогрэс у эволюцыі відаў. Характэрна, што якраз самыя высокія дасягненьні гэтага прогрэсу, найбольш складаныя і дыфэрэнцыяваныя віды, дзякуючы сваім адпаведна-вузкім асаблівасьцям асяродзьдзя, зьяўляюцца часта найменш прыстасаванымі пры зьмене гэтага асяродзьдзя. Гэта пацьвярджаецца, напрыклад, тым, што зьніклі буйныя земнаводнікі, напр., драконы, тады як прасьцейшыя організмы, ня маючы спэцыфічнай прыстасаванасьці, зьяўляюцца больш прыстасаванымі. Вось якія вывады біолёгіі дапасавальна да процэсу філёгенэтычнай (відавой) эволюцыі. Там, дзе мэтазгоднасьць не зьяўляецца ўяўнай, яна паддаецца каузальнаму тлумачэньню.

Улюбёным каньком тэлеолёгаў зьяўляецца адзін род біолёгічных зьяў, которы бязупынку рэклямуецца, які бяз стомленасьці рэклямуюць, як неабвяргальны довад, супроць каузальнага мэтоду дасьледваньня: гэта— зьявы рэгенэрацыі. Рэгенэрацыяй называецца здольнасьць організма аднаўляць, адраджаць страчаны орган. Вельмі „зручна" растлумачыць такую рэакцыю організма наяўнасьцю ў ім мэтазгодна-накіроўваючай яго сілы, якая дбайна ахоўвае яго дабрабыт. Але тое, што зручна, не заўсёды ісьцінна. Рэакцыя, якая здаецца найвышэйшай мэтазгоднасьцю, на самай справе ня можа быць сумяшчальнай з мэтаімкнёнасьцю. Перш за ўсё, нам вядома шмат мэтаадваротных рэгенэрацый. Што можа быць больш бяссэнсным і менш мэтазгодным, чым узьнікненьне двух галоў замест аднэй, адрэзанай у тубуалярыя? Можна экспэрымэнтальна выклікаць у плянарыі, якая мае галаву і хвост, зьяўленьне ў любым месцы цела новае галавы альбо хваста. Тая-ж самая плянарыя, калі разрэзаць яе ззаду вока, дае замест адрэзанага тулава другую галаву, з якою немагчыма яе далейшае існаваньне. Можна прывесьці безьліч прыкладаў адраджэньня ня тых органаў і не на тым месцы, дзе патрэбна (т. зв. гэтэромэтаморфозы). Такім чынам, тут, як і ў выпадку філёгенэтычнай эволюцыі, органічнаму сьвету зусім не ўласьціва пастаянная мэтазгоднасьць і няма падставы дапушчаць разумова-рэгулюючую сілу. Для гэтага

тым менш падстаў, што організмы рэгенэруюць не свабодна прыстасоўваючыся да ўмоў, а па цьвёрда ўстаноўленых законах, адменных для розных органічных відаў, ніколі ня зьменьваючы роду мэтазгоднасьці і не пашыраючы яго кола, так што, калі будзем вывучаць даны від, мы можам заўсёды прадбачыць характар яго рэакцый.

Мала пацьвярджае тэлеолёгічнае разуменьне і тая акалічнасьць, што організмы, якія старэюць, трацяць сваю здольнасьць рэгенэраваць, і што гэтая здольнасьць паступова зьмяншаецца ў вышэйшых, найбольш „мэтазгодна“ пабудаваных, жывёл: рэгенэруюць органы чарвяка, але не чалавека, аднаўляецца хрусталік вока ў трытона, але не ў сабакі. Справа тут, відавочна, зусім не ў мэтаімкнёнасьці, а ў будове, організацыі і дыфэрэнцыяцыі організмаў.

Нарэшце, гэтая ўласьцівасьць зусім не асаблівая здольнасьць надзеленых жыцьцёвай сілай організмаў, зьявы неорганічнай прыроды: крышталі таксама рэгенэруюць, аднаўляючы сваю форму.

У сучасны момант рэгенэрацыя знаходзіць сабе тлумачэньне, без дапушчэньня мэтадзейнай сілы, з уласьцівасьцяй зародкавай плязмы і абмену матэрыі ў організьме. Гэты процэс дапушчае хэмічную дыфэрэнцыяцыю організма, дзякуючы якой пры зьніканьні спэцыфічных клетак агульны абмен матэрый настолькі парушаецца, што адбываецца накапленьне спэцыфічных матэрый, якія раней паглыналіся стрэчанымі клеткамі, што выклікае рэгенэрацыйную дзейнасьць іншых клетак (па Б. Фішэру). Тлумачэньне тут хаваецца ў законамерных хэмічных процэсах, а не ў таемнай мэтанакіравальнай сіле. Таксама мала пераконваюць і іншыя факты, якія прыводзяцца тэлеолёгамі, як імунітэт альбо інстынкты. І гэтыя зьявы, якімі карыстаюцца ў якасьці зброі для барацьбы за віталізм, пры сур‘ёзным аналізе абарочваюцца супроць саміх віталістых. Мы тут ня маем магчымасьці займацца далейшым разборам гэтых спэцыяльных проблем і абмяжуемся прыведзенымі.

Урэшце, цэлая галіна біолёгіі існуе як-бы спэцыяльна каб зьняславіць тэлеолёгаў—мы маем на ўвазе патолёгію. Навука аб шкодных організму рэакцыях, аб мэтаадваротных утварэньнях у органічным сьвеце, аб калецтвах ад нараджэньня дае надзвычайна вялікі матэрыял абвяржэньня тэлеолёгіі. Калі прынцыпу мэтаімкнёнасьці організмаў не супярэчыць наяўнасьць хваравітых зьяў, якія зроблены організму знадворнымі ўзьдзеяньнямі, калі аб многіх патолёгічных зьявах можна сказаць, што яны толькі даводзяць абмежаванасьць, бясьсільле мэтавага пачатку, але сумесны з яго існаваньнем, то маецца безьліч такіх патолёгічных організмаў, якія ні ў якім разе не сумяшчальны з тэлеолёгіяй, бо ўзьнікаюць як функцыі самога організму. Так, напр., прыведзены вышэй выпадак утварэньня двух галоў ніяк немагчыма растлумачыць бясьсільлем мэтапалагаючага пачатку, а толькі яго адсутнасьцю. Шмат форм пазбаўляюцца ўсякай прыстасаванасьці, разьвіваючыся ўродліва, дзякуючы

ўзьдзеяньню на іх простых хэмічных матэрый (борнага квасу, кухеннай солі). Такое, здавалася-б, мэтазгоднае зьявішча, як зажываньне ран, асабліва зарубцаваньне, зьдзіўляе часта сваёю мэтаадваротнасьцю і шкоднасьцю для організма. Ня раз прыходзіцца наглядаць, як організм бесьперашкодна перажывае небясьпеку, якая выклікаецца балячкаю на кіньдзюку альбо атрутаю вадкага едкага натру, але потым рубцаватая тканіна, якая зьявілася, усё больш зморшчваецца, так што жыўленьне хворага становіцца ўсё больш і больш трудным (Фішэр). Аналёгічных прыкладаў, калі рэакцыя організму непараўнана больш згубна для яго, чым хваравіты пачатак, які абумовіў яе, сучасная патолёгія прыводзіць безьліч: бурныя процэсы гарачкі бываюць больш згубнымі, як іх інфэкцыі, што выклікалі гарачку, злаякасныя вопухі, якія зьяўляюцца прыкладамі тыпічна органічных процэсаў, і г. д..

Організмы ня толькі, наперакор усякай мэтазгоднасьці, праяўляюць патогенныя функцыі, але і перадаюць шмат з іх і ў спадчыну, вызначаючы пры гэтым няжыцьцяздольнасьць патомкаў. Сур'ёзны навуковы аналіз ня глыбей пранікае ў пазнаваньне ўсіх гэтых складаных процэсаў, якіх нельга растлумачыць з пункту гледжаньня тэлеолёгіі, якая высьняе фізыка-хэмічныя ўласьцівасьці матэрыі, якія прычынна іх абумоўліваюць. Спробы тэлеолёгаў схавацца ў галіне біо-хэмічных зьяў перамагаюцца з росквітам біолёгіі. Навукі аб жыцьці пры росквіце альбо расчыняюць уяўнасьць мэтазгоднасьці, альбо самую мэтазгоднасьць злучаюць атэлеолёгічнымі законамернасьцямі.

Адмаўляючы агульную мэтазгоднасьць у прыродзе альбо ў любой яе сфэры, мы ні ў якім разе не адмаўляем існаваньня поруч з нямэтазгоднымі таксама і мэтазгодных зьяў. Пры гэтым мы памятаем аб адноснасьці разуменьня мэтазгоднасьці. Пры гэтым, далей, мэтазгоднасьць намі тлумачыцца не таўтолёгічнымі імкненьнямі да мэты. Ня мэты родзяць мэтазгоднасьць, а неабходныя прычыны, пазбаўленыя мэт. Калі можна разглядаць *мэтазгоднасьць, як прыватны выпадак прычыннасьці*, якая не разрывае каузальны ланцуг, то няма ніякіх падстаў прыпісваць прыродзе *мэты*. Ня мэты ствараюць мэтазгоднасьць. У природы мэт няма, а ёсьць законы.

Дапушчэньне ў прыродзе мэт ёсьць ні што іншае, як антропоморфізм, прыпісваньне прыродзе ўласьцівасьцяй па вобразу і падабенству чалавека. Чалавек і вышэйшыя жывёлы, якія ўладаюць псыхічным жыцьцём, у сваёй дзейнасьці кіруюцца пастаўленымі перад сабой мэтамі. Тэлеолёгічнае сьветаразуменьне ёсьць сваеасаблівае ачалавечваньне прыроды, укладваньне ў неорганічныя і ніжэйшыя органічныя зьявы ўласьцівасьці, якая бывае толькі ў асобных органічных відаў,—мэтаімкнёнасьці. Чалавек памылкова мысьліць, быццам воля дана ўсяму, што яго акаляе, ён надзяляе псыхолёгіяй непсыхічныя рэчы, пераносіць уласьцівыя яму формы дзейнасьці на іншыя рэчы! Задача-ж навукі зразумець рэчы такімі, як яны ёсьць ў сапраўднасьці, а не стылізаваць іх „пад чалавека". Уся ненаву-

ковасьць гэтага мэтоду яшчэ больш выявіцца, калі прыпамятаем з папярэдняга разьдзелу, што самыя мэты, якія ставіць чалавек, выяўленьні яго волі, толькі здаюцца непадпарадкаванымі законамернасьці, у сапраўднасьці зьяўляюцца толькі суб'ектыўным выражэньнем прычыннай (бязмэтнай) канечнасьці. Ня мэты альбо мотывы абумоўліваюць нашы паводзіны, а некаторыя біо-соцыяльныя прычыны, якія ўспрымаюцца намі, як жаданьні, мэтавыя пабуджэньні. Калі ў адносінах да чалавека, катораму ўласьціва мэтаімкнёнасьць, як форма сьвядомасьці (т. зв. воля), задачаю навукі зьяўляецца зразумець яе, як канечнасьць, зразумець, як-бы свабодную мэтанакіраванасьць, як прычынную канечнасьць, то тым больш антынавукова тэлеолёгічнае разуменьне прыроды, пазбаўленай псыхікі і мэт. Трыста гадоў навуковага прогрэсу не абверглі, а бліскуча пацьвердзілі словы Бэкона: „Праўдзівыя веды ёсьць прычынныя веды“.

Тэлеолёгічны мэтод уяўляе з сябе ўкараненьне антынавуковай рэлігійнай мэтодолёгіі ў навуку. Прызнаньне бога неразрыўна зьвязана з тэлеолёгіяй. У асобе бога існуе разумная сіла, якая накіроўвае сьвет, якая кіруе ім, мэтапалагаючы пачатак усіх мэтапалагаючых пачаткаў. Рэлігійнае „ні адзін волас ня можа ўпасьці бяз волі боскай“, альбо „ўсе мы пад богам ходзім“—ёсьць пасьлядоўны тэлеолёгізм, бо парадак, устаноўлены богам, ёсьць разумны, мэтазгодны парадак, а не парадак прычын і дзеяньняў. Прычым, уся гэта тэлеолёгічная законамернасьць трымаецца на антызаконамерным фундаманце, бо бог ёсьць нешта беспрычыннае, г. зн., якое нельга прыняць з пункту гледжаньня законамернасьці, і якое свавольна, дзякуючы чаму ўся сусьветная законамернасьць трымаецца на свабодным, нікому непадлеглым свавольстве бога.

Сказаным мы хочам паказаць несумяшчальнасьць багаслоўя з навукай, якая прытрымоўваецца дэтэрмінізму. Тэлеолёгіі-ж якраз спадарожнічаць з багаслоўем, бо першая ні што іншае, як навукавобразнае ўжываньне багаслоўскага мэтоду мысьленьня. Прыведзены ў гэтым разьдзеле матэрыял, будучы накіраваны супроць тэлеолёгіі, адмаўляе і існаваньне надсусьветнай мэтадзейнай сілы, якая кіруе сьветам.

... Или богу
На земле не все доступно,
Или он играет нами;
Это подло и преступно
*(Гейнэ).*

Мэтодолёгічна тэлеолёгія крайне шкодна і рэакцыйна, бо тлумачэньне мэтаімкнёнасьцю ёсьць ня толькі няправільнае, але і ўяўнае тлумачэньне, маскіроўка нявытлумачанасьці, якая паралізуе навуковыя шуканьні. Няведаньне штурхае да вывучэньня, уяўнае знаньне—„тлумачэньне“ невядомым і непазнавальным затрымоўвае, тармозіць вывучэньне. Вось чаму мэтодолёгічна каштоўней тэлеолёгіі ня толькі каузальнае тлумачэньне, але і шчырая сьвядомасьць немагчымасьці растлумачыць што-небудзь пры сучасным стане ведаў.

# УСЕАГУЛЬНАЯ ЗАБАСТОЎКА І БАРАЦЬБА ЗА ВЫБАРНАЕ ПРАВА *)

**Роза Люксэмбург**

„Кожны раз, калі я кажу: усеагульнае выбарнае права—вы павінны разумець пад гэтым: рэвалюцыя і яшчэ раз рэвалюцыя“. Так гаварыў Ф. Лясаль у коле блізкіх яму людзей.

*К. Корш.—Уводзіны да крытыкі Гоцкай праграмы К. Маркса.*

## Прадмова

Прамова Розы Люксэмбург, якая падаецца тут у перакладзе з нямецкае мовы, прадстаўляе сабою выключна цікавы і каштоўны дакумант як для гісторыі германскага рабочага руху і германскай соцыял-дэмократычнай партыі, так і для гісторыі жыцьця і для характарыстыкі асобы самой Розы Люксэмбург.

Прамова была сказана ў надзвычайна важны і выключна цяжкі для рэволюцыйнай соцыял-дэмократкі, якою заўсёды была і засталася Р. Люксэмбург, гістарычны момант.

Расійская рэволюцыя 1905 году адбілася ростам рэволюцыйных настрояў у шырокіх масах насяленьня Германіі, узмацняючы левыя элемэнты соцыял-дэмократыі і ставячы ўрад буйных зямляўласьнікаў і буржуазію перад вельмі цяжкімі задачамі задушэньня гэтых рэволюцыйных настрояў. Барацьба з уплывам соцыял-дэмократыі, асабліва яе левага крыла, робіцца асноўнай задачай унутранай політыкі. Каб выканаць гэту задачу, забыўшы старыя непаразуменьні, пад аднолькавым уплывам страху перад рабочым рухам, які пашыраўся, злучаюцца ў гурт консэрватары, нацыянал-лібэралы і свабода-мысьлячыя людзі ў славуты „готэнтоскі блёк“.

Пад канец 1906 г. быў распушчаны рэйхстаг і назначаны новыя выбары на пачатак 1907 г. З гэтага моманту пачынаецца пэрыод яшчэ большага памацненьня рэакцыі. У процэсе выбараў выясьнілася, што опозыцыя, якую да гэтага часу прадстаўляла партыя цэнтру, дутая. Што фактычна цэнтр не адмяжоўваецца ад імпэрыялістычнай політыкі, якую

---

*) Пераклад з нямецкай мовы з прадмовай і заключэньнем І. Герчыкава.

ставіў сваёй мэтай „готэнтокскі блёк“, сумесна з урадам, і *што рабочая кляса аказалася зусім ізоляванай перад тварам аб'яднанага капіталізму*. Гэта быў самы важны факт палітычнага жыцьця Германіі таго часу.

Каб выявіць гэты факт, каб выявіць тое, што рабочай клясе няма чаго болей чакаць саюзьнікаў з якога-б то ні было боку, каб высьніць тое, што настаў час рабочай клясе зьбіраць свае сілы для таго, каб адзін на адзін схапіцца ў бойцы са ўсімі ўласьнікамі і тымі, хто з імі ідзе, што ніадкуль яна ня можа чакаць сабе саюзьнікаў і што ўсякія мары аб дапамозе з боку лібэралізму, аб коаліцыі з тым ці іншым крылом буржуазіі, усякія надзеі на дэмократыю і парлямантарызм зусім бязгрунтоўны, а таму толькі шкодны для рабочае клясы, і сказана была прамова Р. Люксэмбург. Пры такім становішчы рэчаў Р. Люксэмбург мела ўсе падставы запэўняць, што толькі самая рашучая барацьба са ўсёй аб'яднанай буржуазіяй можа сабраць вакол соцыял-дэмократыі ўвесь пролетарыят, як усякая політыка напалавіну можа толькі раскалоць пролетарыят, аслабіць яго позыцыі ў барацьбе, што ўсякае загульваньне буржуазных партый, накшталт цэнтру, з рабочымі, пад відам лібэралізму і антыімпэрыялізму, як гэта рабіў цэнтр, ёсьць непарыўнае ашуканства і провокацыя.

Зразумела, самая барацьба за выбарную рэформу, як такую, вельмі мала цікавіла Р. Люксэмбург; яна цікавіла яе толькі як пляцдарм, на якім разгортвалася клясавая барацьба, якая выяўляла сапраўды клясавыя адносіны, што не адпавядалі тым старым уяўленьням, якія ўсё яшчэ жылі ў пераважнай масе рабочых і лідэраў соцыял-дэмократыі.

У сваёй прамове яна азначана высоўвае, замест пытаньня аб зьмене выбарнага права, пытаньне аб зьмене ўсёй констытуцыі, скінуць монархію і ўстанавіць рэспубліку.

Прамова Р. Люксэмбург, якая падаецца ніжэй, адыграла вельмі вялікую ролю ў асабістым жыцьці самой Р. Люксэмбург і легла мяжою паміж ёю і ўсімі яе ў мінулым блізкімі сябрамі, якія засталіся ўправа ад яе, асабліва яна зьявілася пераломным момантам у яе адносінах з К. Каўцкім, з якім яна да гэтага часу была зьвязана дзесяцілетняю дружбаю, якога яна да гэтага часу лічыла сваім настаўнікам і кіраўніком, і які сапраўды быў такім у першыя гады яе работы ў германскай соцыял-дэмократыі.

Вось што адносна дружбы і разрыву паміж Р. Люксэмбург і К. Каўцкім паведамляе Клара Штэрн *): „Так ўсё больш і больш мацнеючы, на працягу дзесяці год існавала паміж імі (Р. Люксэмбург і К. Каўцкім. І. Г.) дружба, і, здавалася, што яна зрабілася жыцьцёваю асноваю

*) Clara Stern—„Rosa Luxemburg. Die Politikein, die Schriftstelerin, der Mensch“. Zürich, s. 20.

іх існаваньня. Хоць некаторая нязгоднасьць паміж імі выяўлялася ўжо пасьля расійскай рэволюцыі (1905 г. І Г.), мэтоды якое яна хацела скарыстаць і ў Германіі, але толькі ў 1910 г. паміж ёю і Кауцкім адбыўся разрыў, калі яна для таго, каб паказаць пануючай рэакцыі, што сьвет „ня зможа праіснаваць і дваццаці чатырох гадзін, калі рабочыя скрыжуюць рукі, кінула ў барацьбе за выбарнае права ідэю масавай забастоўкі, з усімі вывадамі, якія выплывалі з расійскае практыкі (1905 г. І. Г.), а Кауцкі быў упэўнены, што пролетарыят на гэтым шляху прыдзе да паражэньня. Па тэй-жа прычыне яна разышлася з Бэбэлем, які часта бараніў яе, асьвяжаючы пазбаўлены пашаны радыкалізм, і адзываўся аб ёй, як аб шчупаку сярод карасёў, якога трэба толькі ўмела скарыстаць". На гэтыя-ж акалічнасьці, як на прычыну разрыву паміж Р. Люксэмбург і К. Кауцкім, паказвае і Люіза Кауцкая ў прадмове да „Лістоў Р. Люксэмбург" *).

Зусім зразумела, што Роза Люксэмбург у гэты час была асабліва актыўнай і, апрача выступленьняў у друку, як яна сама паведамляла, у красавіку выступала ў шаснаццаці сабраньнях у Сілезіі, Кілі, Брэмене, Франкфурце на Майне, у Рэйнска-Вэстфальскіх акругах і 1-га мая ў Кельне. І ўсюды, без выключэньня, запэўняе яна, лёзунг масавай забастоўкі меў бурнае спачуваньне.

У гэтай сваёй чыннасьці ў 1910 г. Р. Люксэмбург ня спыняе па сутнасьці тэй-жа політыкі ў адносінах барацьбы за выбарнае права, скарыстаньне ўсеагульнага выбарнага права і парлямэнтарызму, якую вёў яшчэ К. Лібкнэхт ва ўсёй сваёй політычнай чыннасьці, асабліва з часу ўтварэньня Германскай імпэрыі і Германскага імпэрскага рэйхстагу, і У. І. Ленін з часу ўтварэньня Дзяржаўнай Думы, хоць умовы і гістарычныя моманты, у якіх дзейнічалі гэтыя тры асобы, зусім розныя. Тым цікавей тое, што Роза Люксэмбург выступае тут ня толькі як вучаніца Карла Маркса, але як адзін з тых дзеячаў марксызму, якім дана ўлада—вязаць і разьвязваць, якія абарачаюць марксызм у сапраўдную прыладу барацьбы рабочае клясы, у строгай адпаведнасьці з часам і *месцам*.

Некалькі слоў адносна перакладу. Паколькі мы маем справу з надзвычайна важным гістарычным дакумантам, мы стараліся захаваць найбольшую блізкасьць да нямецкага тэксту; але маючы на ўвазе зрабіць гэту прамову здабыткам шырокага кола чытачоў, мы ўводзілі больш простыя, больш пашыраныя словы. Прымаючы таксама пад увагу шырокае кола чытачоў, мы дадалі ўвагу і раім прачытаць яе перад чытаньнем прамовы для таго, каб лепш яе зразумець.

---

*) Роза Люксэмбург.—„Лісты к Карлу і Люізе Кауцкім". Выд. „Красная Новь". М. 1923 г.

## Навука барацьбы за выбарнае права ў Прусіі

*Прамова, сказаная 17-га красавіка 1910 г. ў цырку Шумана ў Франкфурце на Майне (стэнографічная справаздача).*

Паважанае сабраньне!

Якраз зараз разыгрываецца ў Прусіі апошні акт комэдыі, назва якой парляманцкае абгаворваньне законапроекту аб прускім выбарным праве. Гэты законапроект, як вы ведаеце, паўстаў цяпер перад вышэйшым законадаўчым форумам Прусіі, перад тэй палатай прыроджаных законадаўцаў, якія ў вядомай меры надзяляюцца вышэйшымі грамадзянскімі правамі непасрэдна зараз-жа па нараджэньні—перад Пруская Палатай Паноў. Весткі, якія мы маем да гэтага часу аб дэбатах, рысуюць нам малюнак, з якім мы, бяз усякага сумненьня, можам меркаваць, што законапроект вернецца з Палаты Паноў не бяз зьмен. Якія-б у прыватнасьці характар ні прынялі дэбаты, адно нясумненна: калі Пруская Палата Паноў унясе далейшыя зьмены ў законапроект аб выбарным праве ў Прусіі, то гэта будуць рэакцыйныя зьмены, гэта будуць зьмены ў бок дадачы выбарнай рэформе характару яшчэ болей варожага народу, чым гэта ўдалося зрабіць Палаце Дэпутататаў.

Я думаю, што мы, соцыял-дэмократы, маем усе падставы глядзець з поўным спакойствам на канец гэтай комэдыі, бо мы цалкам упэўнены, што ў выбарнай рэформе, якою яна вышла з рук Бэтман-Гольвэга, а потым з рук Прускай Палаты Дэпутатаў, што ў гэтым вялічавым творы нішто ня можа быць ні палепшана, ні сапсавана. Мы ўпэўнены, што адзінае, што з гэтай выбарнай рэформай павінна адбыцца, гэта—каб яна праваліласяда д'ябла.

Далей мы ўпэўнены ў тым, што гэта адзінае дзеяньне ратунку на карысьць рэформы ніколі ня будзе дасягнута парлямэнцкім шляхам. Адзіна карыснае, што павінна і можа адбыцца ў рэформе прускага выбарнага права, можа і павінна быць ажыцьцёўлена ўсёй краінай па-за парлямэнтам, сілаю і непасрэдным узьдзеяньнем шырокіх мас усяго насяленьня, працоўнага народу (гучныя воплескі).

Якраз апошнія падзеі далі нам у гэтых адносінах вельмі плённае навучаньне. Каротка кажучы, у нядзелю, 10 красавіка, мы былі сьведкамі відовішча, якога Прусія ніколі ня бачыла. Мы бачылі ў Бэрліне, таксама як і ва ўсіх вялікіх гарадох Прусіі, магутныя масавыя дэмонстрацыі пад адкрытым небам. І асабліва выдатным у гэтых дэмонстрацыях было тое, што гэта былі першыя ва ўсёй Прусіі дэмонстрацыі, якія адбываліся з дазволу высокапаважанай паліцыі.

Я нікольки не хачу гэтым сказаць, што дэмонстрацыі, якія адбываюцца без дазволу паліцыі, маюць меншае політычнае значэньне; наадварот, я хачу толькі сказаць, што нельга памяншаць значэньня таго факту, што мы першы раз вымусілі сабе права масавага выступленьня пад ад-

крытым небам, на вуліцах і плошчах Прусіі. Як сустракалі нас яшчэ некалькі месяцаў, некалькі тыдняў таму назад, калі мы не хацелі нічога большага, як такім-жа чынам выказаць на вуліцы нашы вымаганьні? Гэта было 6-га сакавіка ў Бэрліне, калі ўчынілі тут вялікую дэмонстрацыю ў цэнтры гораду ў Тыргартэне, вядомую пад назваю „выбарнай пагулянкі ў Трэнтаўскі Парк“. Гэта быў яркі веснавы дзень, мы стаялі стотысячным натоўпам пасярод прасторнага гарадзкога парку, які звычайна бачыць толькі прыгожа ўбраную публіку, і нічога не рабілі, апрача таго, што паперамення выкрыквалі: „Няхай жыве ўсеагульнае, роўнае, таемнае і простае выбарнае права“. Мы спакойна стаялі, аніводзін валасок ня быў закрануты на чыёй-небудзь галаве, ні адна травінка ня была растаптана, ні адна галінка ня была зламана. Раптам зьявіўся, размахваючы шаблямі, атрад паліцэйскіх коньнікаў, і бліскучыя лязы апусьціліся на галовы бяззбройных мужчын і жанчын, якія нічога не зрабілі, апрача таго, што патрабавалі сваіх элемэнтарных палітычных праў (бурнае цьфу, фуй). Так сустрэлі нас яшчэ 6-га сакавіка ў цэнтры сталіцы Прусіі. Прыблізна тое-ж адбывалася і ў шмат якіх іншых гарадох.

Яшчэ за некалькі дзён да дэмонстрацыі ў нядзелю 10-га красавіка у адказ на абвяшчэньне соцыял-дэмократыі, што яна зноў думае наладзіць дэмонстрацыі пад адкрытым небам, спрабавалі самымі строгімі паліцэйскімі забаронамі гэтыя дэмонстрацыі задушыць. Яшчэ на мінулым тыдні ў Брэмене, у гэтай лібэральнай рэспубліцы, у той дзень, калі я, як і тут, павінна была перад шматлюдным сабраньнем гаварыць аб выбарнай рэформе, былі вывешаны вялізарныя плякаты, у якіх лібэральная дырэкцыя паліцыі, зусім у стылі фон-Ягова, папераджала рабочых, каб яны ня грудзіліся пасьля сабраньня на вуліцы, у праціўным выпадку паліцыя прыме проці гэтага рашучыя меры. Яшчэ за некалькі дзён да дэманстрацыі ў нядзелю нас спрабавалі сустрэць строгімі паліцэйскімі забаронамі. У апошні момант дэмонстрацыі былі ўсюды дазволены. У чым, паважанае сабраньне, прычына гэтага надыходу палітычнае празорлівасьці? Ці гэта адбылося ад спагадлівасьці? О, не! Проста ўразумелі, што прыходзіцца дазволіць тое, чаго няма болей сілы забараніць. Зразумелі, што соцыял-дэмократыя адважылася вывесьці на вуліцу вялікія масы пролетарыяту, і што ніякія гвалты не запужаюць яе ажыцьцявіць гэты намер (гучныя воплескі).

Гэты паліцэйскі дазвол зусім не зьяўляецца чымсьці накшталт падарунку, які нам паднесьлі. Не, гэта права, якое мы вымусілі ў выніку нашай барацьбы, у выніку аднаго толькі зьяўленьня гатовых да бойкі мас. І якраз гэта першая перамога, гэта першая прабоіна, якую мы прабілі ў гэтым ладзе паліцэйскай шаблі, зьўяляецца для нас многазначным паказаньнем на тое, што толькі пад гэтым знакам, толькі па гэтым шляху мы і далей будзем перамагаць. Цяпер мы заваявалі сабе ў Прусіі права на вуліцу, на вуліцы-ж мы заваюем сабе ўсеагульнае выбарнае права.

Да такога заключэньня нас прымушае таксама прыйсьці лёс, які перацярпеў да гэтага часу законапроект аб выбарнай рэформе ў Прусіі. Таксама і ён паказвае нам на тое, што сур'ёзных вынікаў у выбарнай барацьбе мы можам чакаць толькі ад руху шырокіх мас па-за парлямэнтам.

Я не хачу перад вамі рабіць яшчэ раз агляд усіхпературбацый парлямэнцкай барацьбы за выбарную рэформу. Але некаторыя моманты я павінна выдзеліць і зьвесьці іх у вадно. Вы ўспамінаеце, які гомэрычны рогат пачуўся ва ўсім цывілізаваным сьвеце, калі ў парлямэнце зьявілася прапанова Бэтмана-Гольвэга. Таму што, таварышы, нельга сабе ўявіць больш пруска-бюрократычнага зьдзеку над патрабаваньнямі народнай масы ў пытаньні аб выбарах, як тое, што адважыліся прапанаваць у якасьці выбарнай рэформы. Досыць устанавіць, што гэта так званая выбарная рэформа павінна была захаваць у сябе і ўвекавечыць усе тыя вядомыя подласьці прускай выбарнай сыстэмы, якія так абуралі пролетарыят, супроць каторых ён вышаў на барацьбу. І раней усяго ў гэтай „рэформе“ павінна была захавацца славутая пруская трохклясавая сыстэма.

Паважанае сабраньне! Вы ведаеце, што з боку нашых супрацiўнікаў нам, соцыял-дэмократам, на кожным кроку кідаюць папрок у тым, што мы злыя падбухторшчыкі і бунтары, якія расколваюць на клясы адзіную нацыю, якія сеюць у ёй нянавісьць і распальваюць клясавую барацьбу. А што робяць тыя, якія кідаюць нам такія абвінавачаньні? Яны ідуць на тое, каб падзел нацыі на тры клясы ўзьвесьці ў закон падзелу на тры клясы, з каторых адна ахапляе трыста тысяч „шляхетнейшых і лепшых“, рукі якіх ніколі ня ведалі працы, якія ўсё-ж уладаюць вялікімі патрыотычнымі кішэнямі; з другога-ж боку, каля сямі мільёнаў выбіральнікаў, у якасьці прадстаўнікоў вялізарных мас працоўных, прычым гэтыя сем мільёнаў, па волі гэтых трохсот тысяч выбіральнікаў, могуць быць адданы ім пад апеку. Калі існавала калі-небудзь законадаўства, якое падзел кляс, клясавую барацьбу і клясавую нянавісьць публічна абарачала ў закон, у канечнасьць, дык гэта пруская сыстэма выбарнага права. Падзел на тры клясы павінен быў у новым проекце рэформы захавацца, як пруські дарагі скарб. Апрача таго, у гэтым так званым проекце рэформы павінны былі захавацца яшчэ другія пруськія пэрлы: адкрытыя выбары, і існаваўшае да гэтых часоў дзяленьне на акругі павінна было застацца бяз зьмены. Як адзіная ўступка новаму часу, нам павінны былі даць у падарунак простыя выбары, адмену сыстэмы выбаршчыкаў. Як вы ведаеце, гэтая адмена ўскосных выбараў, пры захаваньні трохклясавай сыстэмы адкрытых выбараў і існуючай да гэтых часоў разьбіўкі на акругі, прадстаўляюць зьдзек над дэмократычным выбарным правам.

Паважанейшае сабраньне! Калі-б як-небудзь зваліўся з месяца чалавек, я мысьлю, чалавек, не знаёмы з асаблівасьцямі Прусіі, то ён перад тварам такога законапроекту прышоў-бы да заключэньня, што ў гэтым

стварэньні сапраўды нельга зрабіць ніякіх зьмен к горшаму. Але такое заключэньне мог-бы, хіба, зрабіць толькі чалавек, які зваліўся з месяца. У Прусіі магчыма тое, што здавалася-б для чалавека наогул немагчымым. І мы бачылі, як у камісіі Прускай Палаты Дэпутатаў дамудраваліся нават проект пана Бэтмана перайначыць значна ў варожы народу рэакцыйны бок. Каб паказаць справу ў двух словах, досыць сказаць, што Пруская Палата Дэпутатаў у сваёй Камісіі паставіла мілы твор пана Бэтмана-Гольвэга і яго тайных саветнікаў, некаторым чынам, на галаву. Урадавы проект прапаноўваў простыя выбары і адкрытае галасаваньне. Камісія Прускай Палаты Дэпутатаў аднавіла ўскосную сыстэму выбараў цераз выбаршчыкаў і гэтым зьвяла на нішто таемнасьць ці, вярней, відзімасьць тайны галасаваньня. Потым, паважанае сабраньне, таемна галасаваць павінны толькі выбіральнікі, у той час, як даверанныя асобы народу, выбаршчыкі, павінны паранейшаму галасаваць адкрыта і гэтым быць адданы на свавольства і помсту сваіх палітычных супраціўнікаў.

Калі параўнаць увесь вынік работы Прускай Камісіі па выбарнай рэформе з урадавым проектам, то трэба прыйсьці да наступнага заключэньня: па істоце абодва яны рэакцыйны, розьніца-ж паміж імі месьціцца ў тым, што ў той час, як проект пана Бэтмана-Гольвэга адкрыта цынічна-рэакцыйны, твор Камісіі Палаты Дэпутатаў, пры адчалькова варожым народу характары, вераломней, хлусьлівей і фальшывей. Дзеля таго, што гэта рэформа ў тым відзе, у якім яна вышла з Камісіі і потым была прынята Палатай Дэпутатаў, павінна была тым пластом насяленьня, якія не аддаюць сабе яснае справаздачы ва ўсім тым, што адбываецца, даць відзімасьць таго, што мы значна ідзем уперад, надаючы выбіральнікам права таемнага галасаваньня, я запэўняю, што твор Камісіі Прускай Палаты Дэпутатаў, пры ўсім сваім рэакцыйным характары, яшчэ фальшывей, вераломней, хлусьлівей. Праўда, гэта нас не павінна дзівіць, бо мы ведаем, якая партыя Палаты Дэпутатаў была хрышчоным бацькам гэтага твору Камісіі. Зразумела, гэта была тая партыя, на сьцягу якое красуюцца словы: „Ісьціна, свабода і права!“ Гэта—партыя цэнтру (бурнае—„пфуй“). А ад таго, што цэнтр ужо шмат гадоў трымаў у сваіх руках лёс Пруса-Германіі і іграе ролю стрэлкі вагі і ад таго, што іменна гэта партыя яшчэ да гэтага часу вядзе за сабою на повадзе вялікія атрады рабочых, то наш просты абавязак выразна выясьніць тактыку цэнтру ў пытаньні аб прускім выбарным праве, каб пайсьці к таму, які вядзецца па няправільным шляху, пролетарыяту і расчыніць яму вочы на значэньне і істоту тэй партыі, якой ён яшчэ дазваляе кіраваць сабою.

Толькі некалькі фактаў з багатага матэрыялу.

Як вы ведаеце, проект Бэтмана-Гольвэга спачатку паступіў на разгляд пленуму Палаты Дэпутатаў для таго, каб партыі мелі магчымасьць тут пры першым чытаньні выказаць у агульных рысах свае першыя прынцыповыя адносіны да проекту. Потым проект быў перададзены ў Ка-

місію, якая зрабіла ў ім некаторыя зьмены. Якія-ж прынцыповыя адносіны да проекту выбарнай рэформы цэнтру пры першым чытаньні? Мы маем у даным выпадку бездакорнае пасьведчаньне ў стэнографічнай справаздачы дэбатаў у Прускай Палаце Дэпутатаў. Адносна пасяджэньня 11-га лютага 1910 году мы чытаем у справаздачы наступнае: „Слова мае ад імя цэнтру дэпутат Гарольд. „Шаноўныя панове! Раней усяго я хачу выказаць, галоўным чынам, наш прынцыповы пункт погляду на выбарны закон. Наш пункт погляду застаецца бяз зьмен, такі, які мы баронім яго на працягу дзесяцілецьцяў, з часу прапановы Вінгорста ў 1873 годзе, і як ён шмат разоў выказваўся пры розных акалічнасьцях прамоўцамі партыі цэнтру... У якім іменна кірунку ідуць нашы пажаданьні, выказаў наш сябра пан дэпутат граф Гомпэш у рэйхстагу 7-га лістапада, гэта, што тое, што імпэрыя ў сваёй конституцыі дала сваім грамадзянам у галіне выбарнага права, павінна будзе таксама быць надана ў адпаведнай меры грамадзянам асобных дзяржаў Саюзу. На гэтым пункце погляду мы цьвёрда стаімо („брава!“—з боку цэнтру). З гэтага само сабою вынікае, што прапанова, якая зараз нам робіцца, ня можа быць намі ўхвалена („зусім верна!“—з боку цэнтру)“.

Калі словы маюць сэнс, то тлумачэньне дэпутата Гарольда азначае, што цэнтр паранейшаму прытрымліваецца таго пункту погляду, што выбарны закон у рэйстаг, гэта значыць, усеагульнае, роўнае, простае і таемнае выбарнае права, хоць-бы толькі для мужчынскага насяленьня, павінен быць пашыраны на Прусію, і што, выходзячы з гэтых меркаваньняў, цэнтр адхіліць або зьменіць урадавы проект. Што-ж гэты самы цэнтр зрабіў тыднем пазьней, калі ўрадавы проект паступіў на кялейнае абмеркаваньне Камісіі? Тут цэнтр ажыцьцявіў такую рэформу, якая проста супярэчыць усеагульнаму, роўнаму, простаму і таемнаму выбарнаму праву, б'е яго проста ў твар (бурнае—„пфуй“).

Так, пры першым чытаньні, у прамовах на пленуме, дзе кожнае слова запратакольваецца, дзе прамовы ў той-жа дзень у парлямэнцкіх справаздачах соцень газэт разносяцца па ўсёй краіне і прачытваюцца пролетарыятам, там кажуць, як „Народная партыя“, там бароняць дэмократычныя прынцыпы, але ў закрытым кялейным абгаворваньні ў Камісіі, дзе шырокая агалоска немагчыма, дзе за гэтымі панамі нельга даглядзець, тут выяўляецца, аб чым сапраўды думае і да чаго сапраўды імкнецца цэнтр у пытаньні аб выбарным праве. Тады мы атрымаем, у якасьці выбарнай рэформы, трохклясавую сыстэму, укосныя выбары, адкрытыя выбары для выбаршчыкаў і старое дзяленьне на акругі. І гэтую грандыёзную „рэформу“ цэнтр стварыў сваімі ўласнымі рукамі. Калі наш друк прыгвазьдзіў да ганебнага слупа гэтую яўную супярэчнасьць паміж словамі цэнтру і яго дзеяньнямі ў Камісіі, цэнтр спрабаваў вывернуцца звычайным езуіцкім спосабам. Цэнтр, быццам-бы, і на гэты раз стаў ахвяраю зламыснасьці другіх. Згодна з яго высьвятленьнем, консэрватары

ня выказаліся-б за таемнае галасаваньне выбіральнікаў, калі-б ім наперад не забясьпечылі ўкосныя выбары, сыстэму выбараў цераз выбаршчыкаў. Пад націскам акалічнасьцяй, з цяжарам на сэрцы вымушаны быў цэнтр пайсьці на ўступкі. Але на гэты раз гэтай партыі „Ісьціны, Свабоды і Права“ не пашанцавала. Вельмі скора выясьнілася, як разыграліся падзеі. Консэрватары самі выбалбаталі сакрэт, і такім чынам стала вядома, як у сапраўднасьці ішоў гандаль у Камісіі. Паважанае сабраньне ведае з практыкі, што сумленныя людзі іншы раз маюць магчымасьць даведацца праўду, калі такія шляхетныя людзі, як цэнтр і юнкеры, сварацца. Якраз той консэрватыўны дэпутат, пан Гешэр, які быў пасрэднікам у гандлі паміж консэрватарамі і цэнтрам, адкрыў карты на адным провінцыяльным сабраньні Саюзу Сельскіх Гаспадароў у Вэстфаліі. У гэтым шаноўным сабраньні ён расказаў аб перагаворах Камісіі.

„Усеагульныя выбары былі прыняты. У гэтай стадыі справы цэнтр зрабіў нам (консэрватарам) наступную прапанову: „У пытаньні аб таемным галасаваньні вы пераможаны, але мы зацікаўлены ў тым, каб вы ўвесь час дзейнічалі сумесна з намі, калі вы згодны на тое, каб галасаваць з намі пры агульным галасаваньні, то мы згодны зрабіць вам уступку, і цэнтр прапанаваў нам укосныя выбары, якіх ва ўрадавым проекце ня было“.

Так адбылося тое, што мы з рук цэнтру і консэрватараў, абедзьвёх рэакцыйных партый Пруса-Германіі, атрымалі тую пачвару, якая носіць назву Прускай „выбарнай рэформы“; і калі іншыя партыі, калі свабодныя консэрватары, калі нацыянал-лібэралы стаяць да гэтага часу сярдзіта збоку, і паварочваюцца сьпіною да проекту, то гэта адбываецца таму, што ім проект, у цяперашнім яго відзе, здаецца ня досыць рэакцыйным, і надзвычайна паказальна для нашых сучасных палітычных адносін у Прусіі, што не патрэбна была дапамога нацыянал-лібэралаў, падтрыманьня свабодных консэрватараў, каб ажыцьцявіць такую рэакцыйную справу, як гэта „выбарная рэформа“. Даволі было консэрватараў і цэнтру, каб яны, апіраючыся на большасьць у дзьве трэціх галасоў, вырашылі парлямэнцкі лёс рэформы.

Як-жа, аднак, гэта магло стацца, паважанае сабраньне? Перад тварам такое выдатнае акалічнасьці мы павінны запытацца ў сябе, як наогул стала магчымым такое становішча? Як гэта можна, што цяпер, у XX сталецьці, у Прусіі, у самай буйнай і самай індустрыялізаванай дзяржаве Германіі, у эпоху разьвітога капіталізму, тады, калі над усімі грамадзкімі адносінамі пануе буйная прамысловасьць, сусьветныя адносіны і сусьветны гандаль, каб цяпер, кажу я, у Прусіі, у асноўных пытаньнях нашага палітычнага жыцьця вырашаючае значэньне мелі дзьве партыі, якія, паводле ўсёй сваёй экономічнай і палітычнай структуры, паводле ўсяго свайго характару, наогул належаць ня нашаму часу, а цёмнаму сярэднявякоўю (ажыўленае выражэньне згоды). Або каб інакш падыйсьці да пытаньня: дзе знаходзіўся буржуазны лібэралізм, місія якога

ў Германіі, як і ва ўсіх іншых сучасных дзяржавах, і месьцілася ў клопатах аб тым, каб мы ня былі вымушаны ў XX веку вазіцца з абломкам сярэднявяковага фэўдалізму. Паважаныя таварышы! Каб адказаць на гэта пытаньне, досыць паглядзець на гісторыю нямецкага лібэралізму. Факт, які кожны пролетары павінен добра ўбіць сабе ў голаў, гэта тое, што мы карысталіся ў Прусіі, калі ня простым, то ўсеагульным і роўным выбарным правам, хоць-бы толькі для мужчынскага насяленьня, праўда— 62 гады таму назад. Гэта было 18 сакавіка 1848 году, калі мы заваявалі простае выбарнае права, за якое мы яшчэ і цяпер павінны весьці такую цяжкую барацьбу. У гэты дзень 18 сакавіка насельніцтва Бэрліну вышла на вуліцу, стварыла барыкады, білася з войскамі караля і перамагло войска караля. 19 сакавіка войска вымушана было пакінуць Бэрлін. У паўдня таго-ж дня народ падняў сваіх мерцьвякоў і прынёс іх да палацу караля і прымусіў Фрыдрыха Вільгэльма IV, гэтага пышлівага потэнта (дэспота), які незадоўга перад тым абвясьціў, што ён ніколі не дапусьціць, каб паміж ім і яго падданымі лёг пісаны аркуш паперы, што завецца констытуцыяй. Народ прымусіў Фрыдрыха Вільгэльма IV схіліць галаву перад ахвярамі барыкаднай барацьбы і пакорліва палажыць ля ног пераможнага народу пісаны аркуш паперы. 8 красавіка гэта пераможная рэволюцыя прынесла выбарны закон у нацыянальнае сабраньне, які адвяшчаў усеагульнае простае выбарнае права для ўсіх прусакоў, якія дасяглі 24 год. Але, паважанае сабраньне, у той момант свабода Германіі была толькі лістком сьпісанае паперы. Цяпер належала, каб свабода ўвайшла ў цела і кроў, належала яе замацаваць і абараніць. Усяго гэтага яшчэ ня мог тады зрабіць рабочы народ Германіі. З ахвотаю быў гатовы пролетарыят праліць сваю кроў на барыкадах за справу свабоды, але колькасьцю яшчэ ён быў невялікі, неорганізаваны, ня меў клясавае сьвядомасьці, як сёньня. Уся сіла пасьля перамогі 18 сакавіка знаходзілася ў руках лібэральнай буржуазіі. Гэта былі прадстаўнікі Рэйнскай буйнай прамысловасьці, паны Камгаузэн і Ганзэман, якія былі запрошаны ў міністэрства. Такім чынам, нямецкі лібэралізм быў пастаўлены, ходам падзей у сакавіку, у канечную патрэбнасьць паказаць усяму сьвету, ці сур'ёзна ён адносіцца да сваёй програмы: ён меў тады магчымасьць паклапаціцца аб тым, каб мы цераз 62 гады вымушаны былі змагацца з абломкам сярэднявяковага барбарства ў Прусіі.

Што магла, што павінна была тады рабіць лібэральная буржуазія для таго, каб у Германіі не панавала такое становішча, якое мы фактычна маем? Ясна, што яна павінна была-б зрабіць. Перш за ўсё, яна павінна была ўзброіць рэволюцыйны народ, а потым, абапершыся на ўзброены рэволюцыйны народ, рэформаваць дасакавіковую армію, вырваць яе з рук юнкерства, перайначыць дасакавіковую бюрократыю, прагнаць юнкерства з усіх грамадзкіх і дзяржаўных пасад і замяніць іх людзьмі, адданымі справе свабоды. Але перш за усё, паважанае са-

браньне, лібэралізм павінен быў-бы, калі-б ён сур'ёзна адносіўся да сваіх лібэральных выразаў, прагнаць з трону вераломнага здрадніка-караля і абвясьціць Нямецкую рэспубліку (бурныя воплескі). Іменна рэспубліку! Таму, што гэтым лібэральная буржуазія мела магчымасьць даць зусім іншы кірунак разьвіцьцю германскай як унутранай, так і замежнай палітыкі. Калі-б у 1848 годзе, калі лібэралы трымалі ўладу ў сваіх руках, імі была абвешчана рэспубліка, то гэтым было-б разьвязана пытаньне аб'яднаньня Германіі, і мы ня былі-б вымушаны атрымаць адзінства Германіі з акрываўленых рук Бісмарка на пакрытых трупамі палёх ў бойках з Францыяй. Тады-б злашчасная сварка паміж Германіяй і Францыяй не зьяўлялася-б крыніцаю бясконцнага ўзбраеньня абедзьвёх краін, тады не панаваў-бы цяпер над масамі молох мілітарызму і ўсё, што з ім зьвязана, у тым ліку надзвычайны цяжар укосных падаткаў, што гнятуць працоўныя масы. І тады, паважанае сабраньне, над Пруса-Германіяй не панавала-б Ост-Эльбскае юнкерства. Таму-то, пытаю я вас, што зьяўляецца магутнейшым прытулкам юнкерства ў Прусіі і апрусачаньня нямецкай палітыкі, калі ня рэжым асабістага кіраваньня? Хто, галоўным чынам, распальвае запал да ўзбраеньняў па сухазем'і і па моры, запал да авантур у сусьветнай палітыцы, да войнаў з кітайцамі, готэнтотамі, калі не асабісты рэжым. Я пытаю вас, хто самы люты вораг рабочае клясы, якая прачынаецца, пролетарыяту, калі не асабісты рэжым, які нам у якасьці асабістага падарунку паднёс ў 1899 годзе катаржны закон. Зразумела, калі-б нямецкі лібэралізм разьбіў у 1848 г. на трэскі гнілы прускі трон і тры тузіны іншых нямецкіх трончыкаў, ён даў-бы далейшаму лёсу Германіі зусім іншы зварот.

Ніхто іншы, як наш вялікі настаўнік, тварэц навуковага соцыялізму, Карл Маркс, у „Новай Рэйнскай Газэце“ даваў натхненьне лібэралам да барацьбы з рэакцыяй і папераджаў ад пагражаючай контр-рэволюцыі. Аднак, тут яшчэ раз павінна было выявіцца, што дзеяньні і паводзіны цэлых кляс і партый азначаюцца ня прыгожымі словамі, напісанымі на паперачках, або якія выказваюцца ў прамовах; яны азначаюцца раней за ўсё матэрыяльнымі інтарэсамі гэтых кляс. Чым былі і чым засталіся нямецкія лібэралы? Гэта прадстаўнікі прадпрыемцаў, буржуазіі, купцоў і часткі рамесьнікаў, потым буржуазнай інтэлігенцыі, якая ёсьць цела ад цела, кроў ад крыві гэтых кляс,—тых колаў, якія проста ці ўкосна зацікаўлены ў эксплёатацыі пролетарыяту. І гэтыя-то колы павінны былі ўзброіць у 1848 годзе рэволюцыйны пролетарыят і павесьці яго на барацьбу з рэшткамі фэўдалізму? Але ўжо тады лібэральная буржуазія больш ненавідзела і баялася пролетарыяту, што прачынаецца, як рэакцыі. На наша няшчасьце, Германія сапраўды занадта позна выступіла на арэну сусьветнай гісторыі. Тады, калі мы ў Германіі перажывалі ў сакавіку „звар'яцелага году“ толькі першае захапленьне лібэральнымі свабодамі, соцыяльныя адносіны ў Францыі зайшлі ўжо так далёка, што буржуазія

і пролетарыят былі на нажох, і ў той час, як у нас лібэралы нават і думаць ня сьмелі аб абвяшчэньні рэспублікі, пролетарыят у Францыі ня толькі вымусіў рэспубліку, але нават патрабаваў „соцыяльнай рэспублікі“, гэта значыць рэспублікі, у якой для ўсіх людзей было-б досыць і хлеба надзеннага, і гарошку зялёнага. У Парыжы пролетарыят выступіў на вуліцу з чырвоным сьцягам, на якім было напісана: „Жыць працуючы, ці памерці ў барацьбе!“ Нямецкая лібэральная буржуазія павінна была весьці пролетарыят да рашучых боек, яна павінна была распачатую вайну вясьці да яе крайняга канца. Нямецкая буржуазія глядзела на Францыю, і ў яе зуб на зуб не пападаў ад страху, што, можа быць, калі-небудзь і ў Германіі па вуліцах пойдзе гуляць чырвоны сьцяг. І адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Толькі што лібэралізм дасягнуў улады, як ён пасьпяшыўся скарэй, за сьпіною народу, заключыць з разьбітай рэакцыяй мір і дружбу. А ў той час, як лібэральныя гэроі слова гаварылі доўгія прамовы ў Нацыянальным Сабраньні, спрачаліся аб кожным параграфе конституцыі, рэакцыя ціхенька сабрала свае сілы і вымусіла рашучую бойку. 9-га лістапада, у той самы дзень, калі ў Вене на Брыгатэнау прыгаварам ваеннага суду быў расстраляны нямецкі патрыот, Робэрт Блюм, у Бэрлін увайшоў са сваімі войскамі генэрал Урангель і разагнаў Нацыянальнае Сабраньне. Гэта быў канец рэволюцыі 1848 году; гэта быў канец усеагульнага, роўнага выбарнага права ў Прусіі. У наступным-жа годзе, 30-га мая 1849 году, нам была загадам октроявана самая нязносная з усіх выбарных сыстэм—трохклясавая сыстэма, якая захавалася да сёнешняга дня. Гэта пануючая цяпер ў Прусіі выбарная сыстэма ня ёсьць продукт праўнага разьвіцьця; не, гэта ёсьць продукт грубага, голага гвалту, продукт дзяржаўнага перавароту,—продукт палахлівага здрадніцтва нямецкага лібэралізму ў самы час нараджэньня нямецкай свабоды.

Гэтым, паважанае сабраньне, быў вырашаны лёс далейшага разьвіцьця Германіі. Кожнае дзесяцілецьце прыносіла з сабою усё больш глыбокае паданьне лібэралізму. Пад ударамі Бісмаркаўскім фухцелем, атрымаў паражэньне першы атрад лібэралаў—нацыянал-лібэралы. Крок за крокам адмаўляліся яны ад аднаго політычнага прынцыпу за другім, і абярнуліся ў паслушную прыладу ўраду пры ажыцьцяўленьні ім усіх ваенных законапроектаў і выключных законаў, пакуль ня спусьціліся да ўвасабленьня політычнай бесхарактарнасьці і ўбоства, для якога народная мудрасьць вынайшла вельмі ўдалую назву вяртушкі (Fraction Dechscheibe) (ажыўленая ўхвала). Такія нацыянал-лібэралы. Ну, а свабодамысьлячыя? Гэтыя пацягліся па тых самых шляхох дзесяцілецьцем пазьней. Надзвычайна паказальна, надзвычайна важна для ўразуменьня нямецкай трагедыі тое, што іменна мілітарызм і зьяўляўся тым каменем праткнавеньня, аб які ён нязьменна разьбіваўся. Схіленьне перад аголенай, грубай сілай дзяржавы, як сродкам для заваяваньня чужых краін,

новых краёў для эксплёатацыі і, асабліва, як сілай супроць „унутранага ворагу“, паўстаючае рабочае клясы,—вось што скруціла шыю нямецкаму лібэралізму. Нацыянал-лібэралы ўжо пры Бісмарку зрабіліся вернаю апораю мілітарызму, свабода-мысьлячыя, у сваю чаргу, раскалоліся ў 1893 годзе, у сувязі з шырокім ваенным прэктам Капрыві. Тады свабода-мысьлячыя раскалоліся на так званую мужчынскую і жаночую плынь, з якіх жаночая плынь з разьвернутымі сьцягамі зьвярнула ў лягер мілітарызму. Рэчы маюць сваю лёгіку нават тады, калі людзі яе ня маюць. Хто скажа А, той прымушаны сказаць і Б. Хто за мілітарызм, той павінен таксама быць і за ўкосныя падаткі, таму што яны зьяўляюцца сродкам для ўзбраеньня; і калі „жаночыя свабода-мысьлячыя“ выяўлялі адданасць мілітарызму, то „мужчынскія свабода-мысьлячыя“ зрабілі з гэтага адпаведныя вывады і падтрымлівалі драпежніцкую політыку рэакцыйнае большасьці нямецкага парлямэнту. Гэта факт, якога мы ніколі не павінны свабода-мысьлячым забыць: у тую знамянітую калядную ноч 1902 году, калі прадстаўнікі соцыял-дэмократыі з роспаччу змагаліся з рэакцыйнай большасьцю рэйхстагу, якая хацела прапхнуць галодны тарыф, хто зрабіўся паслугачом рэакцыйнае большасьці і, шляхам зьнішчэньня павесткі дня рэйхстагу, пазбавіў слова прадстаўнікоў рабочае клясы? Гэта быў пан Яўгені Рыхтэр, лідэр „мужчынскага свабода-мысьлія“.

Паважанае сабраньне, апошнія тыдні мы былі сьведкамі аднэй акалічнасьці, якая, у якасьці трагі-комічнай інтэрмэдыі, у больш спакойны і менш сур‘ёзны час, прыцягла-б, нясумненна, больш увагі,—гэта аднаўленьне шлюбу паміж трыма фракцыйкамі свабода-мысьлячых. „Мужчынскія свабода-мысьлячыя“, „жаночыя свабода-мысьлячыя“ і паўднёва-германскія, назавем іх хоць-бы „дзіцячыя свабода-мысьлячыя“ аб‘ядналіся ў адзіную „Нямецкую Прогрэсыўную Партыю“. На грудзях адзін у другога яны льлюць сьлёзы радасьці з прычыны таго, што ўрэшце знайшлі адзін аднаго. Яны проста не заўважылі, што радаснае здарэньне магло адбыцца, чаму браты, якія былі ворагамі, змаглі зноў аб‘яднацца: гэта, зразумела, таму, што ім няма чаго адзін другому прашчаць, таму, што ўсе яны трое селі ў адну і тую самую лужу. Калі-б хто-небудзь у гэтым сумняваўся, то я напомню вам аб тым, што папярэднічала гэтаму аб‘яднаньню трох груп свабода-мысьлячых, з аднаго боку, і цяперашняй эры чорна-блакітнага блёку—з другога. Гады са два ўжо, як нам консэрватыўна-лібэральны блёк вядомы пад імем блёку свабода-мысьлячых. Каб правільна разабрацца ў сучасных групоўках на політычнай сцэне, нельга выпускаць з-пад увагі таго факту, што тыя-ж самыя свабода-мысьлячыя, тыя-ж самыя лібэралы, якія цяпер кідаюцца, як страшныя львы супроць чорна-блакітнага блёку, пры імпэрскім канцлеры фон-Бюлове, дазволілі скарыстаць свае свабода-мысьлячыя сьпіны ў якасьці падножжа для кірасірскага бота. Злоба свабода-мысьлячых супроць панаваньня консэрватыўна-клерыкальнага блёку цяпер бязьмежна. Але я

пытаю, што больш умацавала і зрабіла лёгічна канечным уплыў чорна-блакітнага блёку, як конкурэнцыя прыслужніцтва консэрватыўнаму юнкерству паміж свабода-мысьлячымі і цэнтрам? Лібэралы-ж паказалі, што пры ўсіх акалічнасьцях можна ў гэты час кіраваць у Германіі з консэрватарамі, ці выберам мы пунктам апоры цэнтр ці лібэралаў. Калі кінуць павярхоўны погляд на групоўку палітычных партый, то здаецца, што ў цяперашняй барацьбе за выбарную рэформу стаяць адна супроць другое дзьве партыі. На адным баку—консэрватары і цэнтр, як ворагі рэформы, на другім баку—соцыял-дэмократы, а поруч з імі—лібэральная буржуазія, як барацьбіты за рэформу. Але гэта, аднак, толькі абманная відзімасьць, толькі павярхоўнасьць рэчаў. Але калі глыбей удаешся ў становішча рэчаў і заўважаеш жалезную лёгіку гістарычнага ходу рэчаў, утвораных адносін сёнешняга дня, то прыходзіцца згадзіцца, што ў сапраўднасьці мы маем цяпер два лягеры на палітычным полі бойкі, але яны іначай разьмешчаны: на адным баку, зусім адзінокая, стаіць соцыял-дэмократыя (бурныя воплескі), на другім баку—усе клясы і партыі буржуазнага грамадзтва, аднолькова вінаватыя і адказныя за панаваньне рэакцыі.

Ня раз нам гаварылі з лягеру буржуазіі, каб мы не адхілялі сяброў выбарнага права, спадарожнікаў у барацьбе, саюзьнікаў, якія далучаюцца да нас з другога лягеру. Гэтага мы, напэўна, ня хочам, няхай толькі яны прыдуць да нас, і мы прымем іх з шчыраю прыхільнасьцю. Але дзе яны, верныя саюзьнікі ў нашай палітычнай барацьбе? Ці гэта свабода-мысьлячыя, якія яшчэ ўчора пры готэнтоцкіх выбарах падтрымлівалі самую чорную рэакцыю, калі гэта трэба было для таго, каб скінуць соцыял-дэмакратаў, і якія нясумненна зробяць тое-ж самае ў часе бліжэйшых выбараў у рэйхстаг. Ці можам мы разьлічаць, як на верных саюзьнікаў, на буржуазную дэмократыю, гэтае самае маладое параджэньне нашага палітычнага разьвіцьця? Паважанае сабраньне! Усялякая пашана перад шчырымі пераконаньнямі і мужнасьцю Гэрлаха, Брэйтшэйда і таварышоў, якія маюць хоць-бы досыць паступовасьці, каб патрабаваць усеагульнага, таемнага, роўнага і простага выбарнага права для абодвух полаў і ўступіць за гэта ў барацьбу. Зразумела, у такой барацьбе, як цяперашняя, у якой супроцьстаяць вялізарныя грамадзкія сілы, у якой прыходзіцца лічыцца толькі з вялікімі масамі, мы павінны спытацца ў буржуазных дэмократаў словамі рымскага імпэратара, калі ён убачыў свайго палкаводца, як ён адзін варочаўся з поля бойкі: „Вар, дзе твае легіёны?!“ Мы бачым храбрых афіцэраў, але, на жаль, бяз армій. Яны хочуць быць першымі, кволымі пралескамі надыходзячай у Германіі буржуазна-дэмократычнай вясны. Але, я мяркую, што калі недаверлівасьць ёсьць дадатнасьць для дэмократыі, то для соцыял-дэмократыі—гэта абавязак. На падставе ўсяе папярэдняе практыкі разьвіцьця Германіі, мы павінны, на жаль, сказаць, пры ўсёй пашане і сымпатыі да

жменькі буржуазных дэмакратаў, мы ня можам іх лічыць кволымі пралескамі надыходзячай вясны, але скарэй за блядыя, бясчасныя краскі баб'яга лета (доўгае бурнае ажыўленьне і воплескі).

Вось якое, паважанае сабраньне, цяперашняе становішча рэчаў. Дзе стаіць пытаньне аб тым, каб дамагацца выбарнага права ў Прусіі, каб абараніць перад небясьпекаю выбарнае права ў рэйхстаг, дзе стаіць пытаньне аб заваяваньні дэмократычнай рэспублікі, там германская соцыял-дэмократыя можа спадзявацца выключна на сябе. І добра будзе, калі мы ня будзем памыляцца і ня будзем ствараць сабе ніякіх ілюзій. Ці маем мы з-за гэтага падставу пэсымістычна глядзець у будучыну, рваць на сабе валасы і крышыць рукі, таму што гістарычнае разьвіцьцё з намі так кепска абышлося і зусім ізолявала нас у барацьбе за палітычны прогрэс? Не. Мне думаецца, што мы, соцыял-дэмократы, маем усе падставы быць цалкам задаволенымі ходам гісторыі ў гэтым выпадку, як і ва ўсіх выпадках да гэтага часу. Дзеля таго што, чым ясьней стане для шырокіх мас пролетарыяту, што ў гэтай барацьбе за выбарнае права у Прусіі справа ідзе не аб лібэральна констытуцыйнай барацьбе, а аб сапраўднай, рашучай пролетарскай барацьбе, тым скарэй мы зможам мець непасрэдна з масы пролетарыяту такую клясавую актыўнасьць, такую сілу, якое мы, калі-б супрацоўнічалі з буржуазіяй, ніколі-б не атрымалі.

Паважанае сабраньне! Я кажу, што ў цяперашняй барацьбе за выбарнае права мы пакінуты на сябе саміх, таксама, як і ва ўсіх важнейшых пытаньнях палітычнага прогрэсу Германіі. Але хто мы? Мы-ж мільёны пролетараў і пролетарак Германіі. Аднак, наша сіла ня толькі ў колькасьці. Мы тыя мільёны, работаю рук якіх існуе грамадзтва. Досыць, каб гэты просты факт дайшоў да сьвядомасьці шырачэзных мас пролетарыяту Германіі, каб калі-небудзь настаў момант, калі пануючай ў Прусіі рэакцыі будзе паказана, што сьвет можа зусім абысьціся бяз Усходня-Эльбаўскіх юнкяроў, бяз грапаў цэнтра, бяз тайных саветнікаў, а як трэба—то і бяз паліцэйскіх, але што ён ня можа праіснаваць і 24 гадзіны, калі рабочыя скрыжуюць рукі (бурныя, доўга няспыняемыя воплескі).

Калі-б нашы пруския ўладары хацелі паўчыцца на гісторыі іншых дзяржаў, то ім досыць было-б толькі кінуць позірк на маленькую Бэльгію. Як было дасягнута ўсеагульнае выбарнае права ў Бэльгіі? Гэта надта наўчальны разьдзел як для нас, так і для нашых супраціўнікаў. Да 80-х гадоў бэльгійскі пролетарыят ня меў зусім ніякага ўплыву на законадаўства. Цэнзавая сыстэма выбараў выключала яго ад усякага ўдзелу ў парлямэнцкіх выбарах. Тады ў Бэльгіі панавалі непарадкі, дзякуючы якім краіна набыла славу „раю капіталістых". Ніякага сьледу законадаўства аб ахове працы, 14-16 часовы працоўны дзень, самая нізкая заработная плата, поўная зьнявага да народнае асьветы, адзіныя сілы, якія ў мілай дружбе трымалі пад сваёю ўладаю сьвядомасьць шырокіх мас пролета-

рыяту, гэта былі—бутэлька гарэлкі і каталіцкі поп. Але ў Бэльгіі стала ясна, што стаў збанок па ваду хадзіць, там яму і галаву скруціць. У 1886 годзе рабочая кляса была ахоплена новым духам. Гэта перш за ўсё выказалася ў шырокай хвалі бурных забастовак. На чале ішоў той пласт, які лічыўся найбольш заняпалым—бэльгійскія чорнарабочыя. З першымі бурнымі бойкамі за заработную плату паднялася таксама барацьба за ўсеагульнае выбарнае права. Адказ быў эусім у прускім духу: паліцэйскія шаблі, арышты, астрожныя кары, крываліцьце,—такімі былі першыя сродкі, каб заспакоіць бэльгійскі пролетарыят. Але вынікаў чакаць прышлося нядоўга. Потым ішлі адзін за другім пяць год павярхоўнага спакою, і бэльгійская буржуазія лічыла, што навальніца ўжо прайшла. Якраз к першамайскім сьвятам 1891 году раптам выбухнула першая масавая забастоўка, на карысьць усеагульнага выбарнага права. 125.000 рабочых, досыць значная для гэтай невялічкай краіны маса, на працягу амаль трох дзён упарта стаялі на сваім, і абвясьцілі, што яны не пачнуць працаваць, пакуль ня будзе дасягнута ўсеагульнае выбарнае права. Бэльгія—нэўтралізаваная дзяржава, гэта значыць, што яна, згодна з міжнародным дагаворам, не павінна ваяваць з іншымі эўропэйскімі дзяржавамі. Разам з тым яна ўсё-ж мае невялічкую армію, якая формальна прызначана для таго, каб, у выпадку канечнай патрэбы, абараніць краіну ад нападу ворага. Але ў капіталістычнай дзяржаве, паважанае сабраньне, ня існуе нэўтралітэту ў адносінах да „ўнутранага ворага". Як толькі вынікла масавая забастоўка ў барацьбе за выбарнае права, стала ясна, для чаго існуе скромная бэльгійская армія. Штыхі былі накіраваны супроць рабочай масы. У некаторых гарадох была праліта кроў. Ці можа капіталістычная дзяржава выразаць 125.000 пролетараў, спытаюся я ў вас? Гора дзяржаве, якой ўдалося-б ажыцьцявіць такую бравую справу, бо яна зьнішчыла-б тых пчол, мёдам якіх яна, як труцень, жывіцца. Хіба можна штыхамі прымусіць 100.000 пролетараў прывесьці ў рух машыны? Гэта таксама немагчыма. Такім чынам, бэльгійскаму ўраду і пануючай бэльгійскай рэакцыі не засталося нічога іншага, як, хоць і скрыгаючы зубамі, паступіцца. Урачыста абяцалі бэльгійскаму пролетарыяту ўнесьці ў парлямэнт проект выбарнай рэформы. На гэтым рабочыя вярнуліся да працы. Гэта была першая перамога. Але на гэтым барацьба ня скончылася, таму што толькі ў цяжкай і жорсткай барацьбе пролетарыят можа дамагчыся сваіх праў. Проект рэформы выбарнага закону, зразумела, быў унесены ўрадам у бэльгійскі парлямэнт, але гэта было толькі прадмоваю да такой-жа парлямэнцкай комэдыі, якую мы зараз перажываем у Прусіі. Была назначана камісія, і пачаўся гандаль і калатэча, якім і канца ня відно было. Цэлых два гады, бяз жадных вынікаў, цягліся парлямэнцкія абгаварваньні, пакуль ня лопнула цярплівасьць бэльгійскага пролетарыяту, і ў сярэдзіне красавіка 1893 году разыгралася ў Бэльгіі вялікая масавая забастоўка за ўсеагульнае выбарнае права. На гэты раз гэта было ня

125, а 250 тысяч рабочых, якія на працягу некалькіх дзён пакінулі станкі. Тады адбыўся цуд. У той час, як бэльгійскі парлямэнт прамучыўся два гады, каб выпрацаваць хоць колькі-небудзь магчымую для прыняцьця рэформу, пад ціскам другое масавае забастоўкі, выбарная рэформа была зьдзейсьнена ў два дні! Зразумела, гэта ня было агульнае, роўнае выбарнае права, якога жадалі рабочыя. Буржуазія змагла, шляхам, так званай сыстэмы плюральных выбараў, шляхам двайных і трайных галасоў уласьнікаў, забясьпечыць сабе на ўсякі выпадак перавагу над пролетарыятам. Але першая прабоіна ў сьцяне буржуазнай рэакцыі была зроблена, і ўжо гэта ўсеагульнае, калі і ня роўнае выбарнае права, аказала пролетарыяту найлепшую паслугу, так што ў часе бліжэйшых выбараў у парлямэнт, у кастрычніку 1894 году, бэльгійскія соцыял-дэмократы адным ударам набылі 28 мандатаў, г. зн. адну пятую частку агульнага ліку парлямэнцкіх месц. Так, паважанае сабраньне, змагаліся за ўсеагульнае выбарнае права ў Бэльгіі.

А як разгортваліся падзеі пяць год таму назад у Расіі? Прыпамятайце, як выглядала Расійская імпэрыя да 22 студзеня 1905 году. Вялізарная па сваіх прасторах Расійская імпэрыя ўяўляла сабою за ўсё XIX сталецьце якуюсьці нявырашымую загадку, якогасьці фэномэна сярод усіх сучасных дзяржаў, як дзяржава, ля граніц якое заміралі ўсе законы гістарычнага прогрэсу, бясьсільна разьбіваліся хвалі часу. На захадзе—у Германіі і Францыі—маглі ўходзіць і прыходзіць рэволюцыі, трашчаць і абвальвацца троны, бушаваць грамадзянскія войны,—сьвятая матушка Русь моцна спала пад шапкаю бацюшкі-цара. Прыпамятайце, з якою зайздрасьцю і страхам уладары Прусіі яшчэ пару гадоў таму назад паглядалі на халодны паўночны-ўсход, дзе непадзельна панаваў бацюшка-цар, якому яго падданыя ня чынілі ніякіх турбот. Але прышло 22 студзеня 1905 году, і раптам паднялася ў Пецярбугу стотысячная маса пролетарыяту, пацяглася да царскага палацу і запатрабавала грамадзянскіх праў і васьмігадзіннага працоўнага дня. Першым адказам была карцеч, цэлыя кучы забітых, струмені крыві на бруку царскай сталіцы. Але раз распачатую барацьбу немагчыма было спыніць. Полымя рэволюцыі перакінулася з Пецярбургу на другія гарады, яно ахапляла ўсё больш шырокія і глыбокія пласты, пакуль у кастрычніку 1905 году ня выбухнула найвыдатнейшая, ніколі да таго нябачная, масавая забастоўка, якая ахапіла ўсю Расійскую імпэрыю, калі сталі капальні, фабрыкі, майстэрні, пошта і тэлеграф, чыгункі. Тады выявілася, што бацюшку-цару не памогуць ні лес яго штыхоў, ні ўсе яго батарэі і карцеч. Крывавы ахраньнік міжнароднай рэакцыі прымушаны быў схіліць голаву перад згуртаванай сілай пролетарыяту, і зламаны ў барацьбе, даць маніфэст аб конституцыі, той славуты царскі маніфэст, паважанае сабраньне, сумныя астаткі якога, пасьля перамогі контр-рэволюцыі, пасьля двухразавага дзяржаўнага пераварту, сумныя астаткі якога, кажу я, у відзе выбарнага права ў цяпе-

рашную Расійскую Дзяржаўную Думу, значна прогрэсыўней таго, што нам цяпер у Прусіі адважваюцца прапанаваць, у якасьці „выбарнай рэформы“. Ёсьць асобы, якія кажуць, што расійская рэволюцыя была пераможана. Дзеля чаго-ж патрэбна была ўся гэта барацьба, усе забастоўкі, усе гэтыя ахвяры, калі мы, зірнуўшы на Расію, бачым, што там паранейшаму пануе бізун, бесьперастанку дзейнічаюць шыбеніцы і ваенныя суды. Паважанае сабраньне! Асобы, якія так гавораць, вельмі павярхоўныя наглядальнікі, бо няпраўда, што бізун так-жа сама пануе ў Расіі цяпер, як ён панаваў да рэволюцыі. Да рэволюцыі ён панаваў сярод спакою, дзякуючы абыякасьці і безгалоўю мас; цяпер ён пануе супроць нянавісьці тых-жа самых мас, якія часова кінуты вобземлю і саслабелі. І якраз той факт, што вартыя жалю астаткі абсолютызму ў Расіі могуць цяпер панаваць толькі пры ўмове штодзеннага правалу паядынку з народам, толькі пры дапамозе тэрору, паказвае, што часы спакойнага, непарушнага панаваньня абсолютызму адышлі назаўсёды. І калі сёньня ў Расіі шыбеніцы і ваенныя суды прынялі пэрманэнтны характар, то гэта служыць паказальнікам, што там, у глыбіні, рэволюцыя і абурэньне таксама знаходзяцца ў пэрманэнтным стане. І самыя каштоўныя, найбольш доўгавечныя вынікі тых боек і іменна шматлічных, бурных масавых забастовак месьцяцца ня ў пісанных конституцыйных маніфэстах, якія могуць быць разарваны і ўзяты назад, але ў прабуджэньні пролетарыяту, клясавай зьлітаванасьці, у тым, што масы ўстрапянуліся, і праясьнілася іх сьвядомасьць. А такія вынікі ня могуць быць забіты ніякімі шыбеніцамі, ніякімі ваеннымі судамі. Гэтыя вынікі зьяўляюцца таксама закладам таго, што рэволюцыя ў Расіі пераможана толькі часова, што раней ці пазьней прыдушанае полымя зноў выбухне ўверх, і ўвесь забросьнеўшы будынак рухне. Над гэтымі фактамі павінны былі-б таксама падумаць і ўладары Германіі, яны не павінны былі-б забываць таго моманту, калі 30 кастрычніка 1905 году, той, на каго маліліся, як на магутнейшага абаронцу інтэрнацыянальнай рэакцыі, лёг у прах перад нескладанай сілай згуртаванай арміі пролетарыяту, і яны павінны былі-б сказаць, што прыдзе момант, калі і ў Прусіі, і ў Германіі рэакцыя ўпадзе ў прах перад сілаю масавай пролетарскай забастоўкі (бурныя воплескі).

Іншы раз кажуць: хіба мы ў Германіі наогул знаходзімся ў такім стане, каб думаць аб ужываньні такога сродку барацьбы, як масавая забастоўка ў больш ці менш агляднай будучыне, тады, калі мы маем вялікія атрады рабочых, якія зусім не знаходзяцца ў нашым лягеры, якія дазваляюць вясьці сябе за нос нашым непасрэдным ворагам—партыі цэнтра? Але мы ня маем, паважанае сабраньне, таксама ў гэтых адносінах ніякае падставы пэсымістычна глядзець на будучыну. Ня вечна будзе цягнуцца цемра гэтага, што вядуць за нос, пролетарыяту, і я запэўняю вас, калі толькі ёсьць сродак, у гэтыя, што вядуцца па фальшывых шляхох, пролетарскіх масах цэнтра і другіх буржуазных партый,

прабудзіць клясавы інстынкт і клясавую сьвядомасьць так, каб яны адразу, па працягу аднэй ночы загарэліся, то гэта толькі шляхам шырокага, сьмелага масавага выступленьня соцыял-дэмократычнага пролетарыяту. Дробныя выкрутасы і хітрыкі езуіцкай політыкі абдурваньня могуць удавацца яшчэ ў шэрыя будні ў парлямэнцкай сумятні, але ў тыя моманты, калі вырашэньне важнейшых пытаньняў, буйнейшых проблем політычнага і грамадзкага жыцьця, выносіцца з сьцен парлямэнту і выходзіць на вуліцу, з парлямэнту, дзе красамоўныя паны ўмеюць пускаць у вочы пыл, у якім простыя людзі не адразу могуць орыентавацца, калі пытаньні выносяцца на вуліцу і высьняюцца ў процэсе буйных сутычак паміж масамі пролетарыяту і яго супрацiўнікамі, тады ў кожным пролетару элемэнтарнай сілай прачынаецца клясавы інстынкт, тады і рабочыя хрысьціянскіх саюзаў адчуваюць, што яны—наша цела і кроў. Прыпамятаем тыя прыклады з пераЖытага ў экономічнай барацьбе. Незадоўга да таго, як выбухнула знамянітая забастоўка ў Руры, некаторыя асобы ня толькі з чужых, але і таварышы з нашага ўласнага лягеру так пэсымістычна глядзелі на стан духу ў масах, што казалі: яшчэ дзесяцілецьці павінны прайсьці, пакуль у гэтыя цёмныя вуглы дойдзе сьвятло. І толькі што былі выказаны гэтыя погляды, як мы пераЖылі відовішча пад'ёму горнарабочых у Рурскай акрузе. І што-ж? У барацьбе хрысьціянскія саюзы стаялі поруч з нашымі. І ў цяперашні момант мы маем у Германіі рэзкую сутычку паміж працай і капіталам у будаўнічай прамысловасьці; таксама і тут хрысьціянскія саюзы стаялі поруч з нашымі саюзамі, узброеныя і гатовыя к барацьбе. Яшчэ адзін прыклад з нядаўніх дзён. Вы ведаеце, што ў цяперашняй барацьбе за выбарную рэформу таварышы з Кілю, таксама, як і вы, наладзілі паўдзенную дэмонстратыўную забастоўку, якая, у выніку ўжыванай супрацiўнікамі тактыкі выключэньня забастоўшчыкаў, абярнулася ў трохдзенную. І што-ж пры гэтым высьнілася? Пры гэтым першым-жа выпрабаваньні атрады рабочых, якія знаходзіліся пад уплывам нашых супрацiўнікаў, пад узьдзеяньнем соцыял-дэмократычных рабочых мас, былі ўцягнуты ў вір барацьбы. Гірш-Дункераўскія рабочыя імпэратарскай верфі „Германія“ далучыліся да нашых таварышоў у гэтай дэмонстратыўнай масавай забастоўцы. Гэтак будзе здарацца, пашанавае сабраньне, пры ўсякай сур'ёзнай сутычцы, усё роўна на політычнай ці экономічнай глебе, паміж пролетарыятам і яго ворагамі; дзеля таго, што калі справа даходзіць да вялікіх вырашаючых боек, тады высьняецца, што, ня толькі адпаведна шэрай тэорыі, але і Жывой рэчаіснасьці, увесь пролетарыят належыць да аднаго ваеннага лягеру. Няхай, як быццам-бы наперакор праясьненьню клясавае сьвядомасьці пролетарыяту, якое ідзе наперад, цытадэль цэнтра яшчэ доўга будзе стаяць, але калі яна захістаецца, то толькі пад ударамі шырокага, рашучага, масавага руху, накшталт політычнай масавай забастоўкі рабочых, і, адзін раз захістаўшыся, грохнецца кучаю развалін. У зацяжным старэчым маразьме памірае з кожным днём

нямецкі лібэралізм. І калі цэнтр знадворна як быццам-бы хавае ў сабе нязьнікуючую сілу, затое ён адразу рухне, як выветраная скала, бо яго фундамант захоўваецца ў рабочых масах, а рабочыя масы натуральна належаць соцыял-дэмократыі. І калі з цэнтрам пакончана, тады пролетарыят аб'яднаны і гатовы да барацьбы, тады няма ніякае сілы, якая магла-б доўгі час яму процістаяць.

Тады, зразумела, пануючым клясам застаецца яшчэ апошні сродак Ultima ratio, апошні прытулак рэакцыі: грубая сіла. І мы ня маем ніякае падставы сумнявацца ў тым, што нас стрэнуць з боку ворага самымі крайнімі мерамі гвалту, калі мы ўжывем больш рашучыя меры ў нашай барацьбе. І мы ўжо атрымалі некаторае папярэджаньне, у відзе паліцэйскіх шабляў у часе першай дэманстрацыі ў цяперашняй барацьбе за выбарную рэформу. Але для нас былі падрыхтаваны ня толькі паліцэйскія шаблі. Буржуазны друк прынёс нам наступныя вартыя веры паведамленьні адносна падрыхтовак, якія рабіліся ў Бэрліне супроць дэманстрацыі 6-га сакавіка. Газэта „Бэрлінэр Тагеблат" пісала:

„Як мы даведаліся, 6-га сакавіка, у тую нядзелю, у якую адбылася пагулянка на карысьць выбарнага права ў Тыргартэн і Трэптоўскі парк, казармы 1-га Гвардзейскага Палка Палявой Артылерыі па вуліцы Круппа былі абернуты, у поўным сэнсе гэтага слова, у ваенны лягер. На казарменны двор у нядзелю пасьля паўдня заехалі гарматы і каламажкі з запасам баявых снарадаў, гатовыя да выступленьня; коні стаялі гатовымі, асядланымі і ў стайнях, каб у любы момант запрэгчы. З Паўднёвых казармаў былі камандыраваны салдаты ў Паўночную казарму за атрыманьнем зброі, і тады салдаты былі ўзброены заладаванымі рэвальвэрамі" (бурнае „пфуй").

Такім чынам, паважанае сабраньне, меркавалі сустрэць нашых дэманстрантаў. Нам досыць добра вядома нечаканасьць і неабдуманасьць паступкаў пануючага зігзаватага курсу, каб ведаць, што можа яшчэ надысьці момант, калі казармы 1-га Гвардзейскага Палка Палявой Артылерыі абернуцца ў ваенны лагер. Зразумела, паважанае сабраньне, калі нашы супраціўнікі думаюць прымусіць нас такімі сродкамі, хоць-бы на адзін крок, адыйсьці ад нашага пляну, то яны глыбока памыляюцца. Якраз мы, соцыял-дэмократы, маем усе падставы з поўным спакоем прадбачыць такую магчымасьць. У той момант, калі ў Бэрліне з Паўночных казармаў выступяць асядланыя коні і выпаляць заладаваныя гарматы, то па ўсёй Германіі гэта адгукнецца такім рэхам, што ўладарныя паны страцяць і слых і зрок (бурныя доўгія воплескі). І ў сапраўднасьці гэта гучыць нейкай своеасаблівай гіроніяй, калі пануючае грамадзтва чакае, што мы са страху за жыцьцё спынім барацьбу за тое, што і надае цану жыцьцю; тое самае грамадзтва, якое навучыла нас таму, як танна каштуе жыцьцё пролетара, нават там, дзе справа ідзе не аб ідэалах будучыны і лёсах чалавецтва, а аб нізкіх інтарэсах капіталістычных прыбыткаў.

У бойцы пры Сэдане, як вядома, з нямецкага боку загінула 3.022 забітымі і 5.900 параненымі—лік, які заслугоўвае ўвагі. А гэта-ж, переважна, пролетарскія косьці бялеліся на полі бойкі. Але што значаць гэтыя лічбы ў параўнаньні з колькасьцю тых ахвяр, якую з году ў год патрабуе ў Германіі паншчына капіталізму. Офіцыяльная статыстыка паказвае для 1909 году страшэнную лічбу ў 653.000 зарэгістраваных няшчасных выпадкаў у прамысловасьці. Але калі падлічыць толькі *сьмяротныя выпадкі* з часу ўстанаўленьня законаў аб ахове працы і да канца сталецьця, г. зн. ад 1884—1900 г., то толькі за гэтыя 16 год загінулі мёртвымі на працоўным полі бойкі 99.000 чалавек. І пры ўсім гэтым гэта грамадзтва спадзяецца, што мы з-за страху перад сьмерцю адступім ад адзін раз абранага шляху, шляху барацьбы за нашы элемэнтарныя політычныя правы. Пэўна! Калі сусьветныя гістарычныя рухі спыняюцца ў сваім пераможным руху такімі нязграбнымі сродкамі?!

Нам варта толькі паглядзець на Францыю, гэта вялізарнае па практыцы поле сучасных рэволюцыйных рухаў. Колькі разоў спрабавалі там утапіць у крыві, што паўставалі пролетарыят і соцыялізм! У жудасным чэрвеньскім забойстве 1848 г. павінен быў быць задушаны заклік пролетарыяту да „Соцыяльнай Рэспублікі“. Але цераз 22 гады зноў пераможна разьвейваўся сьцяг соцыялізму ў паўстаньні Парыскай Комуны. Тады прышла помста за паўстаньне Комуны, бесчалавечная разьня ў маі 1871 г. Дзесяткі тысяч мерцьвякоў і жывых былі пахаваны ў агульнай магіле на вялікім Парыскім могільніку Pere la chaise. Вялікая голая вытаптаная дзярна ўскраю могілак, голая сьцяна, на якой цяпер вісіць пара, выцьвіўшых ад дажджу, як быцам-бы абмытых струменямі сьлёз, простых чырвоных вянкоў, вось усё, што з першага погляду засталося ад Комуны. Ап‘янелая ад перамогі буржуазія, ня толькі Францыі, але і Германіі, інтэрнацыянальная буржуазія ўсяго сьвету лікавала і думала, што яна ўтаптала пад гэтаю дзярною глыбока ў зямлю насеньне соцыялізму. Але як раз над дамавінаю Комуны заключыў пролетарыят братэрскі саюз, які нішто ў сьвеце ня зможа больш разьбіць. Цераз дзесяцілецьці соцыялізм з сілаю ў дзесяць раз большай паўстаў з гроба Комуны. А як было ў Германіі, пры Бісмаркавым законе супроць соцыялістых? Як выглядалі ў першы момант нашы організацыі? Профэсыянальныя саюзы разьбіты, партыйныя організацыі абернуты ў разваліны, друк зьнішчаны. Як рады былі пануючыя клясы, над ненавіднымі, затраўленымі, ахаянымі соцыялдэмократамі! Але цераз 11 год і 11 месяцаў мы стаялі яшчэ больш моцныя, як яны, набыўшы ружовы твар, а пан Бісмарк ляжаў разьбітым на зямлі.

Так гэта будзе і надалей з нашымі супраціўнікамі. Я казала тут аб пад‘ёме соцыялістычнага пролетарыяту, аб непераможным, перамагаючым прасоўваньні соцыялізму, таму што, паважанае сабраньне, чым іншым у рэчаіснасьці для нас зьяўляецца цяперашняя барацьба за выбарнае права ў Пру-

сіі, калі ня проста этапам у соцыялістычнай барацьбе, калі ня проста крокам уперад па нашым гістарычным шляху к канчатковаму ідэалу соцыялізму? І сапраўды, калі мы ў Прусіі вядом нашу барацьбу за ўсеагульнае, роўнае, таемнае і простае выбарнае права, то мы ясна ўсьведамляем, што мы пры гэтым знаходзімся ў становішчы людзей, якія па іроніі гісторыі асуджаны на тое, каб плаціць ня толькі свае, але і чужыя пазыкі. Ня наша была гістарычная місія клапаціцца аб гэтым, гэта была гістарычная місія лібэральнай буржуазіі клапаціцца аб тым, каб мы ня былі вымушаны ў XX сталецьці змагацца з астаткамі сярэднявякоўя ў Прусіі. Наша ўласная місія, гістарычнае прызваньне пролетарыяту месьціцца ў імкненьні к таму, каб усю буржуазную дзяржаву ва ўсёй яе буржуазнай-парлямэнцкай прыгожасьці зьняць з петляў і ажыцьцявіць соцыялізм, каб мы шляхам пераводу ўсіх сродкаў вытворчасьці ва ўласнасьць усяго грамадзтва, замянілі капіталістычную анархію плянавай гаспадарчай організацыяй, каб паслаць на той сьвет агідны вобраз нявольніцтва і эксплёатацыі. З-за гэтай мэты мы змагаемся таксама за роўнае выбарнае права ў Прусіі, каб падняць экономічнае і політычнае становішча пролетарскіх мас, каб аб'яднаць іх, каб паскорыць той момант, калі рабочая кляса будзе досыць сільная і сьвядомая, каб узяць у свае рукі ўсю політычную ўладу ў дзяржаве і ажыцьцявіць соцыялізм. Для гэтага нам патрэбна зброя, для гэтага мы куем мячы. І мячом у гэтым сэнсе нам павінна таксама служыць роўнае выбарнае права ў Прусіі. Заклад і ўпэўненасьць у нашай перамозе ў барацьбе за прускае выбарнае права якраз у тым і ляжыць, што гэта барацьба зьяўляецца толькі аднэй з нашых соцыялістычных клясавых боек.

Паважанае сабраньне, як я ўжо сказала ва ўводзінах, мы дасяглі першай перамогі ў барацьбе тым, што вырвалі права на вуліцу, на масавыя дэмонстрацыі. Першы закон усякай сапраўды баявой і рэволюцыйнай тактыкі месьціцца ў тым, што ўсякая, адбітая ў ворага позыцыя павінна быць захоплена ўся да апошняй пядзі, каб хутка прасунуць уперад усю баявую лінію. Вось чаму мы ня хочам устрымана і асьцярожна, як паслушныя дзеці падарунак, скарыстоўваць заваяванае права на вуліцу; не, мы хочам яго скарыстаць да апошняе ступені, як вырванае ў нашу карысьць права. Мы знаходзімся напярэдадні першай магчымасьці даказаць усёй Прусіі, што мы і політычна сасьпелі для заваяванага зараз права. Першая магчымасьць, аб якой кажу, гэта—Майскае сьвята. Таварышы па партыі, з прычыны таго, што Майскае сьвята прыпадае ў гэтым годзе на нядзелю, і мы ня можам яго сьвяткаваць, спыніўшы працу, то мы павінны, скарыстаўшы ўзьняты настрой, прабуджэньне шырокіх мас пролетарыяту і новае заваяванае права на вуліцу, дасягнуць таго, каб вырваць Майскае сьвята з закрытых сабраньняў, у якія яно, на жаль, абярнулася ў апошні час. На нашым абавязку—увасобіць у гэтым годзе Майскае сьвята ў магутную дэмонстрацыю мас, якой да гэтых часоў

яшчэ ня бывала (бурныя воплескі). Я раней успамінала, што ў папярэдніх дэманстрацыях за выбарную рэформу ў Прусіі то там, то тут бачылі выступаючых поруч з намі буржуазных дэмократаў, якія, дзякуючы руху мас, маглі хоць-бы зьявіцца, як прадстаўнікі выміраючай у сьвецерасы. 1-га мая буржуазныя дэмократы ня будуць дэманстраваць поруч з намі. Але мы можам уцешыцца на тым, што ў гэты дзень нас чакаюць адданыя нам натуральныя саюзьнікі, клясава-сьвядомыя пролетары ўсёй Нямецкай імпэрыі і пролетарыят усяго сьвету. Толькі ў яднаньні нашай барацьбы за выбарнае права з першамайскімі лёзунгамі: васьмігадзінны працоўны дзень, усеагульны мір, інтэрнацыянальны соцыялізм, прускі рух за выбарнае права сапраўды набывае значэньне соцыялістычнай клясавай барацьбы, і гэтым наш прускі сьцяг барацьбы за выбарнае права абарачаецца ў сьцяг міжнароднай соцыял-дэмократыі.

Паважанае сабраньне! Цяпер перад намі стаіць задача скарыстаць кожную магчымасьць, каб прывесьці ў рух шырокія масы пролетарыяту, каб запаліць іх к чыннасьці. Усеагульныя масавыя дзеяньні, як масавая забастоўка, не выклікаюцца штучна, па камандзе, але, на шчасьце, ім нельга таксама штучна ставіць перашкоды, калі для іх насьпелі акалічнасьці. Мы павінны цяпер бязупынна пашыраць у найшырэйшых масах пролетарыяту поўнае разуменьне становішча справы, будзіць у масах сьвядомасьць уласнае магутнасьці, замацоўваць энэргію барацьбы, і поўнымі жменямі сеяць насеньне соцыялізму. Далейшае мы бадзёра аддаем на натуральны ход рэчаў, з пачуцьцём упэўненасьці ў тым, што гісторыя працуе на нашу карысьць і што соцыял-дэмократы ў гэтай барацьбе, як і на ўсіх этапах нашага руху да соцыялізму, астануцца пераможцамі— ня гледзячы ні на што (бурныя воплескі).

---

## Заключэньне.

Для агульнага разуменьня прамовы Розы Люксэмбург трэба прыняць пад увагу наступнае: Германія ў тым відзе, як мы ведаем яе цяпер, г. зн., як адзіная дзяржава, пачала існаваць толькі з 1870 году. Да гэтае пары існавала 33 асобных нямецкіх дзяржавы, хоць і аб'яднаныя ў Саюз, але фактычна зусім самастойныя, кожная са сваім царом. Разьвіцьцё буржуазных адносін у Германіі вяло няміnуча да стварэньня цэнтралізаванае дзяржавы, да аб'яднаньня Германіі. Задача гэтага аб'яднаньня ляжала перад рэволюцяй 1848 году ў Германіі, але, дзякуючы нерашучасьці буржуазіі, за якую яе кляйміць у сваёй прамове Роза Люксэмбург, і перамозе рэакцыі, аб'яднаньне тады не ажыцьцявілася. Але процэс аб'яднаньня не замёр, а разьвіваўся і далей, пакуль у 60-ых гадох, з ажыўленьнем экономічных і політычных адносін ва ўсёй Эўропе наогул і ў Германіі ў прыватнасьці, пасьля доўгага пэрыоду пасьлярэволюцый-

най рэакцыі, пытаньне аб'яднаньня Германіі не паўстала з надзвычайнай вострасьцю. Сярод многіх акалічнасьцяй, якія ў гэтым процэсе трэба было перамагчы, нашу ўвагу, у сувязі з прамоваю Розы Люксэмбург, прыцягаюць дзьве: 1) Дзякуючы таму, што сярод германскіх дзяржаў былі самыя буйныя дзьве—Прусія і Аўстрыя, то ясна вырысоўвалася, што аб'яднаньне можа адбыцца толькі вакол аднае з іх. Барацьба паміж Прусіяй і Аўстрыяй рвала Германію на часткі. Але цэлы шэраг прычын, галоўным чынам, становішча Прусіі ля Бальтыцкага мора, значэньне якога вырастала ўсё больш у процілежнасьць становішчу Аўстрыі ля Міжземнага, значэньне якога падала, шпарка высоўвала Прусію ўперад, пакуль у вайне 1866 году Аўстрыя была разьбіта Прусіяй і выкінута з Германскага Саюзу. Прусія пачала хутка падпарадкваваць сабе ўсю рэшту нямецкіх дзяржаў. 2) Аб'яднаньне Германіі супярэчыла міжнародным інтарэсам французскай буржуазіі, і барацьба паміж Францыяй і Прусіяй, у процэсе падпарадкаваньня сабе Прусіяй усёй рэшты нямецкіх дзяржаў, была няўхільнай, адкуль Франка-Пруская вайна 1870 году, у якой Францыя атрымала паражэньне, а Прусія аформіла канчатковае аб'яднаньне ці, вярней, падпарадкаваньне сабе ўсёй рэшты Германіі, устанаўленьнем агульнагерманскага парлямэнту (рэйхстагу) і абвяшчэньнем прускага караля Вільгельма І імпэратарам Германіі. Вось чаму Роза Люксэмбург (на стар. 134) кажа, што, дзякуючы нерашучасьці лібэральнай буржуазіі ў 1848 годзе, Германіяй атрымана аб'яднаньне на „пакрытых трупамі палёх у бойках з Францыяй“. У выніку вайны 1870 г. Прусія адрэзала ў Францыі Эльзас-Лётарынгію, што надзвычайна абвастрыла адносіны паміж Францыяй і Германіяй і зьявілася ў значнай ступені прычынай росту ваенных адносін ня толькі паміж Францыяй і Германіяй, а і па ўсёй Эўропе. Вось чаму Роза Люксэмбург кажа аб непаразуменьнях пасьля гэтай вайны і молоху мілітарызму, які павялічыў падаткі ў Германіі і лёг вялікім цяжарам на рабочую клясу (стар. 134). Пасьля рэволюцыі 1848 году буржуазія, якая спужалася выявіўшага сябе ў рэволюцыі ў соцыялістычным духу пролетарыяту, пайшла на саюз з дваранствам (юнкерствам, паводле прынятага ў Германіі выразу), ліквідаваўшы гэтым рэволюцыю. Іменна прускае юнкерства ў асобе, што стаў з 1869 г. першым міністрам Прусіі, а з моманту аб'яднаньня Германіі, дзяржаўным канцлерам Германіі, Бісмарка, ажыцьцяўляла аб'яднаньне Германіі. Фактычнае аб'яднаньне Германіі—гэта было падпарадкаваньне нямецкіх дзяржаў рэакцыйнаму па існасьці, што прадстаўляла вайсковую касту, прускаму юнкерству, якое пайшло на некаторыя экономічныя і політычныя ўступкі буржуазіі.

Вось чаму Р. Люксэмбург часта кажа аб Германіі, як аб Пруса-Германіі. З аб'яднаньнем Германіі, у якасьці прадстаўніцкага органу ўсёй імпэрыі, быў устаноўлены рэйхстаг, які абіраўся *ўсеагульнымі і простымі выбарамі з тайнаю падачай галасоў.* А дзякуючы таму, што

ў аб'яднанай Германії раней існаваўшым дзяржавам былі пакінуты некаторыя правы па самакіраваньні, то, незалежна ад рэйхстагу, кожная дзяржава мела свае прадстаўніцкія органы—ландтагі. Прускі ландтаг складаўся з дзьвёх частак: Палаты Паноў і Палаты Дэпутатаў. Палата Паноў мела наступны склад: 1) поўналетнія прынцы каралеўскага дому, якія заклікаюцца ў Палату каралём, 2) прадстаўнікі вышэйшых дваранскіх родаў, якія маюць непасрэднае права ўдзелу ў Палаце, 3) асобы, якія атрымалі спадчыннае права ад караля, 4) асобы, прызначаныя каралём на ўсё жыцьцё членамі Палаты. Як відно з гэтага пераліку, Роза Люксэмбург мела ўсе падставы назваць гэту Палату Паноў „Палатай прыраджоных законадаўцаў, якія надзяляюцца вышэйшымі грамадзянскімі правамі непасрэдна зараз-жа па нараджэньні“ (стар. 127).

Парадак выбараў у Палату Дэпутатаў—вядомая трохклясавая сыстэма з укоснымі выбарамі, супроць якое яшчэ выступаў у пачатку 60-х гадоў Фэрдынанд Лясаль і супроць якое паўстаў пролетарыят Прусії,—быў устаноўлены зараз-жа пасьля паражэньня рэволюцыі 1848 году каралеўскім указам ад 30 мая 1849 году. Апрача тэй характарыстыкі, якую дае гэтаму закону Роза Люксэмбург (стар. 129), мы лічым, што лепш нельга выясьніць існасьць яго, як прывёўшы тлумачэньне гэтага закону Лясалем у яго славутай прамове аб існасьці канстытуцыі, якую ён сказаў у 1862 годзе.

„Калі хочуць устанавіць,—кажа Лясаль,—што невялікая колькасьць буйных прамыслоўцаў і буйных капіталістых павінны мець монархію столькі-ж і больш улады, колькі ўсе бюргеры (дробная буржуазія. І. Г.), рабочыя і сяляне, узятыя разам, то для гэтай мэты выдадуць закон, падобны, напрыклад, паданаму трохклясаваму выбарнаму закону 1849 г. якім падзяляюць усю краіну на тры клясы абіральнікаў паводле разьмеру ўплачваемых імі падаткаў, які азначаецца, зразумела, велічынёю іх маемасьці“.

„Па афіцыяльных сьпісах, складзеных урадам у 1849 годзе, пасьля выданьня гэтага трохклясавага выбарнага закону, ва ўсёй Прусії было тады 3.225.600 абіральнікаў, якія падзяляліся на тры клясы наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Да першае абіральнае клясы ва ўсёй Прусії належала | 153.808 | абіральнікаў |
| „ другое „ „ „ „ „ „ | 409.945 | „ |
| „ трэцяе „ „ „ „ „ „ | 2.691.950 | „ |

Вы бачыце, што з іх 153.808 вельмі багатых людзей маюць у Прусії столькі-ж палітычнай улады, колькі 2.691.950 бюргераў, сялян і рабочых; далей, што гэтыя 153.808 вельмі багатых людзей і 409.945 зьмерна-багатых, якія складаюць другую клясу абіральнікаў, маюць *роўна ўдвая* палітычнай улады, як уся рэшта нацыі, так што 153.808 вельмі багатых

людзей і палавіна 409.945 абіральнікаў другое клясы маюць ужо больш палітычнай улады, як другая палавіна зьмерна-багатых другое клясы і 2.691.950 трэцяе, узятых разам. З гэтага вы бачыце, што такім спосабам у выніку атрымліваецца зусім тое самае, калі-б проста напісаць у констытуцыі: багаты павінен мець у 17 раз больш палітычнай улады, як іншы грамадзянін, або столькі-ж, колькі 17 іншых грамадзян.

Ня простыя выбары значылі, што выбіральнікі выбіралі *выбаршчыкаў*, якія ўжо абіралі дэпутатаў.

Такім чынам, выбарны закон у агульна-германскі рэйхстаг быў значна лібэральней выбарнага закону ў Прускую Палату Дэпутатаў. Калі прыняць гэта пад увагу, то будзе зразумелаю прамова дэпутата Гарольда (стар. 131) і крытыка дзеяньняў цэнтра Розаю Люксэмбург (стар. 131).

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ ЧУЖАЗЕМНЫХ СЛОВАХ У НАШАЙ МОВЕ *)

**Мікола Байкоў**

I

## Сваё і чужое або аб разважаньнях т. Шульмана

У вапошнім за 1926 г. № 8 „Полымя“ т. Шульман у сваім артыкуле „Аб агульных элемэнтах у беларускай і яўрэйскай мовах“ закрануў вельмі цікавае пытаньне аб чужаземных словах у нашай мове. Тутака ён зачапіў і мяне, як аўтара „Практычнага расійска-беларускага слоўніка“, — і гэта дае мне повад выказацца аб высунутым пытаньні, тым больш, што гэтае пытаньне і дасюль нельга лічыць разьвязаным і нават больш-менш высьветленым.

Па сутнасьці, пытаньне закранутае т. Шульманам, ёсьць наступнае: наколькі чужаземныя словы, што атрымалі значэньне інтэрнацыянальных навуковых тэрмінаў, падлягаюць замене нашымі, беларускімі словамі.

Разглядаючы гэтае пытаньне, т. Шульман піша:

> „Зразумела, што няма ніякага сэнсу ўжываць чужаземныя словы, калі ў жывой народнай гутарцы знаходзяцца адпаведныя самабытныя словы. Але нельга лічыць правільным імкненьне ва ўсіх выпадках абавязкова ствараць новыя словы замест выкарыстоўваньня чужаземных слоў, што маюць інтэрнацыянальны характар. А такія тэндэнцыі ёсьць. Цікава, напрыклад, што тэрмін „перпендыкуляр“ пабеларуску перакладзены „простастаўнік“...

Паглядзім, дзе выяўляюцца гэтыя тэндэнцыі?

Папершае, яны выявіліся ў працах Навукова-тэрмінолёгічнай Камісіі і старога Інбелкульту, хаця трэба заўважыць, што ў навуковых тэрмінолёгіях, выданых Інбелкультам, няма паступовасьці ў правядзеньні прынцыпу замены чужаземных тэрмінаў сваімі, беларускімі словамі. Найбольш выразна гэты прынцып выступае ў літаратурнай тэрмінолёгіі (II в. Нав. Тэрмінолёгіі, — „Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва“), у прадмове да якой чытаем, што „Камісія, разглядаючы чужаземныя тэрміны, старалася па магчымасьці даваць замест іх *толькі* беларускія, а калі і пакідаліся чужаземныя, то ўжо такія, што: або агульна-прынятыя

*) Артыкул друкуецца, як спрэчны.

як, напр., *літаратура, сонэт, ода,* або пашыраныя і ў народзе, як, напр., *комэдыя, талент, артысты.* Побач з беларускім ставіўся чужаземны тэрмін толькі тады, калі ён — таксама добра вядомае слова ў народзе.

Агулам-жа Камісія лічыла лішнім даваць чужаземныя тэрміны побач з беларускімі, зважаючы на тое, што калі хто захоча карыстацца з чужаземшчыны, то яе знойдзе і паміма беларускай тэрмінолёгіі". Менш выразна выяўляецца гэты прынцып у матэматычнай тэрмінолёгіі (I вып.). У прадмове да яе чытаем: „У тых выпадках, калі ў народнай мове ня было адпаведных слоў або калі ўтвораныя нэолёгізмы былі вельмі штучныя, або, урэшце, калі даныя тэрміны прынялі ўжо інтэрнацыянальную афарбоўку, прымаліся чужаземныя тэрміны, як, напрыклад: *гомотэтыя, інтэрпэляцыя, дыфэрэнцыял, інтэграл, факторыял, модуль* і г. д. У некаторых выпадках (як компроміс пры асабліва спрэчных тэрмінах) прымаліся па два тэрміны: чужаземны і беларускі (нэолёгізм). Такім чынам зьявіліся: *аксіома* і *пэўнік, дырэктрысы* і *кіраўніцы, дыскрымінант* і *адрозьнік, сымэтрыя* і *суразьмернасьць*". Нязначны параўнальна процант чужаземных тэрмінаў перакладзен у іншых—3, 4, 5 і 6—выпусках Навуковай тэрмінолёгіі (географія з космографіяй, лёгіка з псыхолёгіяй, геолёгія з мінэралёгіяй і ботаніка). У 7 і 8 выпусках тэрмінолёгіі (музычная і „лясная" тэрмінолёгіі), выданых ужо ў мінулым годзе і ўхваленых Тэрмінолёгічнай Камісіяй Інбелкульту, знаходзім поўную блытаніну ў перадачы чужаземных тэрмінаў, як наогул тутака не выяўляюцца якія-небудзь прынцыпы мэтодолёгічнай распрацоўкі.

Каб атрымаць больш конкрэтнае ўяўленьне аб стане пытаньня з чужаземнымі словамі ў нашай навукова-тэрмінолёгічнай мове, прывяду некаторыя лічбавыя даныя і паасобныя выпадкі, якія маглі-б ілюстраваць творчую працу ў гэтай галіне аўтараў тэрмінолёгій.

У першым выпуску навуковай тэрмінолёгіі—элемэнтарная матэматыка—з агульнага ліку даных тут 200 чужаземных тэрмінаў перакладзена 56 тэрмінаў, г. зн. толькі 30%, прычым у 42 выпадках пакінуты побач з перакладам і чужаземны тэрмін у нашай транскрыпцыі.

У конкрэтных прыкладах абсолютна перакладзены такія тэрміны: „абсурд — недарэчнасьць", „базис—падстава", „горизонтальный—паземны", „концентрический—супольнаасяродкавы", „параллелепипед—роўналежнасьценьнік", „параллелограмм—роўналежнабочнік", „параллельный—роўналежны", „периметр—абвод", „перпендикуляр—простастаўная (лінія)", „фокус—вогнішча" „эксцентрисет—мімаасяроднік". „эксцентрический—рознаасяродкавы".

У выпадках, дзе пераклады даюцца побач з чужаземнымі тэрмінамі ў нашай транскрыпцыі, паміж іншым, знаходзім пад №№:

106. Гипотенуза—Процiпростакутная, гіпотэнуза.

138. Диагональ—Ускосіна, дыягональ.

139. Диаметр—Прамер, дыямэтр.
239. Катет—Прыпростакутная, катэт.
257. Конус—Стажок, конус.
506. Полюс—Концавосьсе, полюс.
544. Призма—Кантаслуп, прызма.
579. Процент—Адсотак, процант.
624. Ромб—Сукосьнік, ромб.
871. Хорда—Струна, хорда.
873. Центр—Асяродак, цэнтр.
876. Цилиндр—Валец, цыліндр.

Як бачым, перакладзены назвы амаль што ўсіх асноўных геомэтрычных фігур, прычым на *першым месцы* пастаўлена беларускае слова.

Аднак, з ліку больш, чымся 140 тэрмінаў, пакінутых без перакладу, ёсьць такія, што можна перакласьці, як гэта і бачым у іншых тэрмінолёгіях. Напр., „амплітуда“ ў географічнай тэрмінолёгіі перадаецца, як „размах“, „интервал“ лёгка перадаецца нашым словам „прамежак“. Тварцы матэматычнай тэрмінолёгіі хутчэй недасалілі, чымся перасалілі пры перакладзе чужаземных тэрмінаў у нашую мову, хаця трэба прызнацца, што для перакладаў у пераважнай большасьці ўзяты не народныя, а штучныя словы, наватворы, сярод якіх ёсьць вельмі нязграбныя тэрміны, напр., „простакутная“, „проціпростакутная“ і інш. Простым непаразуменьнем трэба лічыць пераклад „фокус—вогнішча“.

У літаратурнай тэрмінолёгіі („Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва“) ня менш за *45 проц.* чужаземных тэрмінаў перакладзены на беларускую мову. Падлічаць гэтыя тэрміны, як тое зроблена ў адносінах да матэматычнай тэрмінолёгіі, няма сэнсу, ды тут і ня можа быць строгага падліку, бо літаратурная тэрмінолёгія адрозьніваецца ад іншых тэрмінолёгій тым, што з ласкі яе ўкладальніка яна вышла вельмі раздутай,—і тутака мы маем напластаваньне тэрмінаў, а менавіта, апроч асноўных тэрмінаў, тутака багата раскідана залежных ад іх вытворных слоў, такім способам—даецца іменьнік, прыметнік і нават дзеяслоў таго-ж кораню. Большасьць чужаземных тэрмінаў перакладзена абсолютна, прычым для перакладу скарыстаны як словы, што ўжо існуюць у мове (напр., „автотип—адбітка“, „аудитория—слухальня“ і г. д.), гэтак і наватворы. Сярод наватвораў знаходзім вельмі ўдалыя, папраўдзе мастацкія стварэньні, як, напр., „аллегория—іншасказ“, „автограф—уласнапіс“, „афоризм—выслоўе“ і г. д. Праўда, сярод перакладаў трапляюцца няўдалыя, а часам, і зусім няправільныя пераклады, як, напр. „анаграмма—надпіс“ (у дакладным перакладзе,—перастаўка літар у слове або, як у польскай мове, łamigłóska) *. Два тэрміны—чужаземны і беларускі, даюцца толькі ў самых рэдкіх выпадках, прычым беларускі тэрмін заўсёды стаіць *уперадзе* чу-

*) Гл. аб гэтым мой артыкул у „Полымі“ № 7-8 за 1923 г. „Некаторыя ўвагі на беларускую навуковую тэрмінолёгію“ за подпісьсю „Аглядальнік“.

жаземнага, напр., „апофеоз—убагаўленьне, апофэоз“, „артист—мастак, артысты“.

У географічна-космографічнай тэрмінолёгіі (III в.) з агульнай лічбы каля 450 тэрмінаў перакладаецца ўсяго 75 тэрмінаў, прычым толькі 24 перакладзены абсолютна і ў большасьці *новатворамі.* З гэтых новатвораў адзначым: „глетчер—ледавік“, „горизонт—кругавід, пазем“, „конгломерат—зьляпняк“, „ландшафт—краявід“, „меридиан—палудзеньнік“, „обелиск—вострaслуп“, „сталаглит—накапак“, „сталактит—нацёк“, „тропик—зваротнік“, „экватор—роўнік“. У выпадках, калі даюцца два тэрміны, беларускі і чужаземны, няма тэй паступовасьці ў пастаўленьні беларускага тэрміну на першым месцы, як тое бачым у папярэдніх выпусках. Паказальна ў гэтых адносінах, што супроць матэматычнай тэрмінолёгіі пры перакладзе тэрміну „полюс“, дзе „канцавосьсе“ пастаўлена на першым месцы, а „полюс“ на другім, у географічнай тэрмінолёгіі бачым „полюс—полюс, канцавосьсе“.

У псыхолёга-лёгічнай тэрмінолёгіі (IV в.) абсолютна перакладзена толькі 16 тэрмінаў: „ассоциация--злучэньне“, „ассоциативный--злучальны“, „атавизм—зваротна-спадчыннасьць“ *), „бинокулярны—двохвочны“, „галюцинация—здань“, „гармония—суладзьдзе“, „диссонанс—разгалосьсе“, „категорический—бязумоўны“, „комбинация—сукладаньне“, „консонанс—сугалосьсе“, „нюанс—адценьне“, „тавтология—тожслоўе“, „хронометр—часамер“, „хроноскоп—часагляд“, „экстаз—захапленьне“, „эстезиометр—чуламер“. Наогул-жа пры 75 проц. перакладзеных тэрмінаў у гэтай тэрмінолёгіі побач з беларускім тэрмінам пакідаецца чужаземны тэрмін у нашай транскрыпцыі, прычым *чужаземны тэрмін ставіцца ўперадзе беларускага.*

Пяты выпуск „Беларускай навуковай тэрмінолёгіі“, які зьмяшчае ў сабе геолёгічныя, мінэралёгічныя і крышталёграфічныя тэрміны, наогул дае мала орыгінальнага матэрыялу. Тутака ў нямалай колькасьці перапісваюцца тэрміны з матэматычнай і географічнай тэрмінолёгіі, хаця і з некаторымі адхіленьнямі, напр., у географічнай тэрмінолёгіі тэрмін „глетчер“ перадаецца адным толькі „ледавік“, а ў геолёгічнай тэрмінолёгіі знаходзім: „глетчер—ледавік, глетчар“. Пераважная большасьць чужаземных тэрмінаў пакідаецца без перакладу, а часам даюцца няправільныя пераклады як, напр., „гипоцентр—надасяродак“. Наогул 5-ты выпуск „Навуковай тэрмінолёгіі“, гэта—адзін з найменш апрацованых і вельмі няўдала, з значнаю колькасьцю памылак, выдадзены выпуск тэрмінолёгіі.

У батанічнай тэрмінолёгіі (VI в.) з 76 чужаземных тэрмінаў да 75% перакладзена на нашу мову. Тутака ёсьць удалыя і няўдалыя пераклады. Як на прыклады ўдаласьці пакажам: „гербарий—зельнік“, „паразит—чужаед“ і г. д. Няўдалыя пераклады: „гелиотропизм—сонцазварот-

*) Лепш было-б казаць, зваротная спадчыннасьць. *М. Б.*

насьць“ (лепш было-б „зваротнасьць да сонца“. *М. Б.*) „геотропизм—зямлязваротнасьць“ (трэба было-б казаць: „зваротнасьць да зямлі“. *М. Б.*).

З іншых тэрмінолёгій зварачае на сябе ўвагу музычная тэрмінолёгія (VII в.,—1926). У гэтай тэрмінолёгіі з агульнага ліку 788 тэрмінаў толькі 147—нечужаземныя, 253 нумары—нават ня тэрміны, а прынятыя ў міжнародным маштабе сымболічныя абазначэньні ў італьлянскай мове, напр., adagio, agilità, agitato і інш. Застаецца каля 400 тэрмінаў,—і ўсе чужаземныя. З іх ліку толькі (!) 37 маюць пры сабе пераклады на нашую мову, прычым для пераважнай большасьці тэрмінаў побач з беларускім словам пакінута і чужаземнае. Абсолютна перакладзены толькі пад №№:

1, Аббревиатура—Скарачэньне.
9. Акколада—Дужка.
90. Виртуоз—Мастак.
477. Реплика—Адказ.
479. Респирация—Дыханьне.
715. Фраза—Сказ.
717. Фразировать—Выражаць.
718. Фразировка—Выражэньне.
741. Хордометр—Струнамер.
771. Экспрессия—Выразістасьць.

Запраўды, вельмі скромная слоўная творчасьць аўтараў тэрмінолёгіі!

Праўда, італьлянскія словы ўсе бяз выключэньня перакладзены на нашую мову, хаця часам вельмі няўдала (напрыклад, пад № 15 „Allargardo—пашыраючы, зьмяншаючы шыбкасьць“ і пад № 291 „Lentando, slentando—зьдзержваючы, зьмяншаючы шпаркасьць“).

Як было сказана вышэй, апошнія выпускі „Навуковай тэрмінолёгіі“ адрозьніваюцца ад папярэдніх адсутнасьцю мэтодолёгічных прынцыпаў. Адсюль нядзіўна, што перакладаецца, прыкладам, пад № 151 „Дисгармония—рознагучнасьць“ (побач з „дысгармонія“), а „гармония“ застаецца без перакладу (прычым укладальніка тэрмінолёгіі тав. Дрэйзіна, як знаўцу грэцкай мовы, трэба папікнуць за тое, што ён забыўся значэньня слова harmos *(гармос)*, якое ў перакладзе на нашую мову будзе азначаць ня „гук“, а менавіта „лад“). Некаторыя пераклады вельмі няўдалыя, напрыклад, „какофония—ліхагучнасьць“. Ю. Дрэйзіну павінна было-б быць вядомым, што нашаму „ліхі“ адпавядае ў грэцкай мове „poneros *(понерос*, а тутака „kakós“ *(какос)* мае значэньне: „благі“, „паганы“, „кепскі“,—лепш за ўсё „какофония—благагучнасьць“).

Аднак, недахопы музычнай тэрмінолёгіі патрабуюць спэцыяльнага разгляду, і тутака пасылка на гэтыя недахопы мае значэньне толькі для паказаньня агульнага стану з перакладам чужаземшчыны і благіх або добрых імкненьняў (тэндэнцый) укладальнікаў нашых тэрмінолёгій.

Ня спыняючыся на іншых тэрмінолёгіях, пераходжу проста да слоўнікаў. Вось-жа піша, папікаючы, тав. Шульман:

„У слоўніку Байкова і Гарэцкага „орыгінал“ перакладзены: „першаўзор“, „уласнапіс“, а не „орыгінал“, між тым, як апошняе слова пачынае ўжывацца ў мове. Таксама слова „абсурд“ перакладаецца „недарэчнасьць“ і толькі, а трэба-б было побач напісаць і „абсурд“.

Адносна „Практычнага расійска-беларускага слоўніка“ трэба заўважыць, што часта бяз дай-прычыны прыпісваюць аўтарам гонар перакладу чужаземшчыны на беларускую мову. Уласных аўтарскіх перакладаў тутака зусім нязначны процант. Напрыклад, на літару „А“ ўсяго за ўсё перакладзены самастойна: „аквариум—воднік“, „алименты—утрыманьне“, „анафема—праклён“, „антиподы—проціножнікі“, „антипатия—нялюбасьць“, „атлет—барацьбіт“, „аэродром—лётнішча“, „аэролит—паветраны камень“. І толькі. А тымчасам пераважная большасьць слоў на літару „А“ складаецца якраз з слоў чужаземных. У асноўным і цэлым „Практычны расійска-беларускі слоўнік“ угрунтаваны на матэрыялах „Беларускай навуковай тэрмінолёгіі“.

Другое выданьне слоўніка значна палепшана ў параўнаньні з першым, як здаецца мне, у тых адносінах, што выкінуты лішнія чужаземныя словы і наогул даюцца больш пераклады чужаземных тэрмінаў, а ня гэтыя апошнія ў беларускай транскрыпцыі. Такім спосабам, тутака выяўляецца тая-ж самая тэндэнцыя, што і ў літаратурнай тэрмінолёгіі. На мой асабісты погляд, гэтая тэндэнцыя найбольш за ўсё адпавядае інтарэсам разьвіцьця нашай літаратурнай мовы. Аднак, яна не падабаецца ня толькі аднаму тав. Шульману. За тое ня хваліць слоўнік і проф. П. Бузук у сваёй рэцэнзіі на старонках „Маладняка“ (№ 7-8 за 1926 г.).

„Ня зусім добрае ўражаньне пакідае,—піша ён,—імкненьне аўтараў перакласьці па магчымасьці ўсе чужаземныя словы на беларускую мову. Гэта „шышкоўшчына“ часам даходзіць проста да сьмешнага. *„Гинеколог“* перакладзена *„жаночы лекар“;* чаму-ж тады *„вэтэрынар“* аўтары не пераклалі *„быдлячы лекар“*, а заставілі без перакладу. Гэта першае, а другое тое, што *„жаночы лекар“* не перакладае нават слова *„гинеколог“*, яно значыць *„дамский врач“*, а не *„врач по женским болезням“*.

На паасобныя заўвагі паважанага рэцэнзэнта я магу зазначыць, што слова *„гинеколог“* зусім ня будзе *„дамский врач“*, у літаральным перакладзе з грэцкай мовы яно будзе *„жонказнавец“* (парасійску—*„женовед“* або *„женослоў“* (!), але з прычыны цьмянасьці апошняга слова правільным перакладам будзе якраз *„жаночы лекар“* (на гэтым перакладзе *я настойваю);* слова-ж *ветеринар* пакінута без перакладу дзеля таго, што цяпер об'ектам вэтэрынарыі зьяўляецца ня толькі *„быдла“* (veterina, ва ўжываньні Плінія якраз—рабочий, вьючный скот), але *„скаціна“* і потым *„жывёла“* наогул, народнае-ж слова *„канавал“* (адсюль *„ветеринария—канавальства“)* не падыходзіць ужо з тэй прычыны, што яно не адпавядае сутнасьці сучаснай вэтэрынарыі.

Аднак, чым-жа тлумачыцца гэтая зьява „шышкоўшчыны“ ў нашай мове? Адкуль бярэцца такая тэндэнцыя перакладаць па магчымасьці ўсе

чужаземныя словы на беларускую мову і, прытым (авохці, жах!), перакладаць абсолютна?

Адказваючы на гэтае пытаньне, тав. Шульман піша:

„Яна зьяўляецца рэакцыяй на абвінавачваньне беларускай мовы ў „мешаніне“. Няхай будзе па магчымасьці менш чужаземных слоў, няхай мова будзе больш самастойнай. І яе перастануць называць сапсаванаю расійскаю моваю і пачнуць адносіцца да яе з павагаю. Нятрудна ўявіць сабе, што і ворагі беларускае мовы, і яе прыхільнікі— аўтары тэрмінаў накшталт „простастаўнік“—па сутнасьці стаяць на адным і тым-жа прынцыповым грунце адносна „чыстаты“ і сапсаванасьці мовы, як гэта ні парадоксальна. Бязумоўна, вялікарускія шовіністыя, пачуўшы слова „пэрпэндыкуляр“ і ня ведаючы, што гэта слова ўжываецца ня толькі ў рускай мове, скажуць: „Гэта-ж беларусы сапсавалі расійскае слова. Мабыць, наш укладчык новых слоў альбо баіцца гэтых крытыкаў, лічачы іх довады грунтоўнымі, альбо наогул імкнецца да таго, каб як мага менш агульных элемэнтаў было паміж беларускай і іншымі мовамі“.

„Мы лічым наадварот,—канчаткова формулюе свой погляд т. Шульман,—што інтэрнацыянальнага характару навуковая, тэхнічная і іншая тэрмінолёгія павінна ўжывацца ў беларускай, як і ў іншых мовах, за выключэньнем тых выпадкаў, *калі ў мове ўжо існуюць народам створаныя іншыя адпаведныя тэрміны*“.

Вось-жа трэба зазначыць, што паважаны таварыш вельмі наіўна, да ачамернасьці проста глядзіць на проблему выпрацаваньня сучаснай літаратурнай мовы і надае ўкладальнікам тэрмінолёгій і слоўнікаў тое, чаго ня можа быць у ўдзельнікаў жывой справы,—надае літаратурнага страху перад якімісь крытыкамі.

Сам тав. Шульман, пачаўшы гаварыць аб „чыстаце“ мовы з пытаньня аб чужаземных словах, у далейшым сваім разважаньні бачыць гэту „чыстату“ ў адпаведнасьці створаных штучных слоў „духу“ мовы, яе стылю, яе фонэтычным і морфолёгічным асаблівасьцям.

Правільна тое, што словы самі па сабе яшчэ ня маюць вялікага значэньня для „чыстасьці“ або „сапсаванасьці“ мовы. Як гэта ні парадоксальна, але можна выабразіць сабе, што фраза, у якой будзе да 50 проц. чужаземных слоў, усё-ж такі зьявіцца беларускай, і наадварот,—фраза, у якой ня будзе аніводнага чужаземнага або расійскага слова, складзеная цалкам з беларускіх слоў (узятых хоць-бы з „Практычнага расійска-беларускага слоўніка“) зьявіцца з боку сваёй сутнасьці зьдзекам з беларускай мовы (для прыкладу, пакажу выразы: „узяць пад варту“ або „персьцянёвая пошта“,—стварэньні канцылярскага розуму). Уласна кажучы, для чыстаты мовы маюць асаблівае значэньне два бакі: а) *фонэтычны* (для нашай мовы,—*ў, дж, дз,* аканьне і яканьне, цьвёрдыя *р, ж, ш* і інш.) і б) *фразэолёгічны* (склад фразы, які адпавядае народнаму ўжываньню). Каб гаварыць на „чыстай“ фонэтычна-беларускай мове, трэба нарадзіцца і выгадавацца ў Беларусі. Трэба прыўласьціць сабе „дух“ мовы, як ён выяўляецца ў народным ўжываньні. Адхіленьні ад норм на-

роднай фразэолёгіі і становяць сабою тое, што папольску называецца „błędy mówy“! Такія „błędy“—вельмі звычайная зьява для сучаснай беларускай літаратурнай мовы, бо ня так-то лёгка скінуць з сябе нашым пісьменьнікам больш, чымся сталетні ўплыў з боку расійскай культуры.

Сеялось семя векамі,
Корни в земле глубоко...

На агульную слабасьць нашай літаратурнай мовы ў фразэолёгічных адносінах паказвалася с. Яз. Лёсікам у яго „Некаторых увагах да беларускае літаратурнае мовы“ („Полымя“, 1924 г., № 3), хаця с. Лёсік карыстаецца застарэлаю тэрмінолёгіяй і бачыць проблему сынтаксу там, дзе па сутнасьці ёсьць проблема фразэолёгіі. Такія „błędy“ знойдзем у самага найлепшага нашага стылістага, аўтара „Уваг“; знойдуцца яны нават там, дзе абсолютна быць не павінны: для прыкладу пакажу на фразу ў програме ўрачыстай Акадэмічнай Конфэрэнцыі—*„Пасяджэньні Камісіяў па правапісе і графіцы“* (спробуйце расшалопаць, што тут сказана! *М.Б.).* Вось такія-то „błędy“ і даюць права с. В. Ластоўскаму, якому ня можна адмовіць у „чуцьці“ мовы, накідвацца на старонках сваёй часопісі „Крывіч“ на мову сучаснай беларускай журналістыкі. А калі фразэолёгічныя „błędy“ дапушчаюць нават нашы „юпітары“ мовы з Рэдакцыйнага Аддзелу Інбелкульту, дык што-ж застаецца казаць аб простых сьмяротных,—урадоўцах, настаўніках, студэнтах і інш.

Разглядаючы цяпер беларускую мову, як *гістарычны* факт, магчыма зацьвердзіць, што *беларуская мова зусім не баіцца чужаземных слоў,* незалежна ад таго, ці будуць гэтыя словы польскія, яўрэйскія, нямецкія, лацінскія. Такія словы і паказваюцца т. Шульманам, як агульныя для беларускай і яўрэйскай моў, праўда, у некалькі абмежаваным ліку. Не зварачаецца ўвага на словы, запазычаныя з лацінскай мовы, а іх у беларускай мове мы знойдзем у колькасьці, у кожным разе, большай за тую, якая ёсьць у мове расійскай. Трэба прыпомніць: „адукацыя—образование“, „акуляры—очки“, „далікатны—обходительный“, „даклярацыя—обещание“, „бакаляр—народный учитель“ і інш. Маецца пэўная рацыя думаць, што і ў Вялікаросію лацінская моўная хваля плыла ня іначай, як праз Беларусь. У свой час аўтара „Словаря белорусского наречия“ Ів. Насовіча папікалі рэцэнзэнты за тое, што ён уводзіць зашмат лацінскіх слоў, якія ўжываюцца пераважна сярод каталіцкай шляхты. Каб ухіліцца падобных папікаў, у „Беларуска-расійскім слоўніку“ М. Байкова і С. Некрашэвіча дадзены толькі „абеларушаныя“ чужаземныя словы. Аднак, такіх слоў зусім ня так мала, як гэта звычайна думаюць,—і, канечна, Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ўстановіць этымолёгію кожнага беларускага слова паасобку. Трэба заўважыць, што даныя акад. Яўхіма Карскага ў яго I томе „Белоруссов“, на якія спасылаецца т. Шульман, даволі няпоўныя і патрабуюць значных дадаткаў. Ясна пры гэтым, што і цяпер літаратурная беларуская мова можа такім-жа

парадкам убіраць у сябе чужаземныя тэрміны, як гэта адбывалася ў гістарычным разьвіцьці нашай мовы, і не сапсуецца яна ад таго, што будуць ужывацца, напр.: „пэрпэндыкуляр“, „гіпотэнуза“, „катэт“ і інш.

Аднак-жа, я не магу згадзіцца з тэю думкаю, „што інтэрнацыянальная навуковая, тэхнічная і іншая тэрмінолёгія павінна ўжывацца ў беларускай мове, за *выключэньнем тых выпадкаў, калі ў мове ўжо існуюць народам створаныя іншыя адпаведныя тэрміны*“.

Ясна, папершае, што толькі самы нязначны процант чужаземных слоў знаходзіць сабе эквівалент у народнай мове, бо чужаземныя словы больш ужываюцца або для азначэньня абстрактных паняцьцяў, якіх няма ў звычайнай народнай мове, або для азначэньня новых здабыткаў тэхнікі, якія толькі што ўваходзяць у народнае ўжываньне. Адсюль, я лічу, што пры перакладзе чужаземных тэрмінаў адчыняецца шырокі простор для выяўленьня творчай самадзейнасьці ўкладальнікаў навуковых тэрмінолёгій, слоўнікаў і наогул аўтараў літаратурных твораў, адным словам, адчыняецца шырокі простор для новатвораў. Супрацiўнікі такіх новатвораў звычайна любяць спасылацца на *„мокроступы“*, стварэньне расійскіх нэолёгістых пачатку XIX ст. Але яны не заўважваюць таго, што апроч *„мокроступов“*, якія не ўвайшлі ў расійскае народнае ўжываньне, расійскімі „словатворцамі“ ў XVIII і пачатку XIX сталецьця было створана шмат нэолёгізмаў, якія адчуваюцца цяпер як зусім народныя словы. Для прыкладу даволі паказаць на словы: *„предмет“*, уведзены В. Традзякоўскім, накшталт польскага przedmiot, а таксама *„пароход“*, *„паровоз“*,— стварэньні поўпаляка, поўбеларуса М. Грэча. І я лічу, што цяпер слоўная творчасьць павінна выявіцца ў асабліва выразных формах.

Якія-ж маюцца для таго мотывы?

Зусім ня тыя, якія паказвае паважаны т. Шульман.

Для мяне, прынамсі, адзіночным мотывам для перакладу чужаземшчыны на нашую мову зьяўляюцца патрэбы *масавай асьветы*.

Растлумачу, што гэта значыць.

Зусім ясна, што Кастрычнікавая рэволюцыя зрабіла поўны пераварот у сыстэме нашае асьветы. Ясна, што пасьля Кастрычніка зьмянілася кола грамадзтва, якое абслугоўваецца кнігай і школай, што зьмяніліся самыя кірункі асьветы. З гушчы рабочых і сялян пайшоў у школу новы вучань. І тутака зрабілася патрэбнай пераацэнка ранейшых культурных каштоўнасьцяй. Павінна была зьмяніцца і мова, як фактар культурнага разьвіцьця. Наогул мова рэволюцыйнай эпохі спросьцілася, зблізілася з масавай мовай. Найбольш выразна гэты процэс выявіўся ў Украіне і ў нас, на Беларусі, бо тутака расійская літаратурная мова асабліва выразна адрозьніваецца ад мовы народных мас. Гэтая навукова-літаратурная расійская мова на працягу свайго гістарычнага разьвіцьця ўвабрала ў сябе шмат інтэрнацыянальных тэрмінаў, галоўным чынам з „няжывых“ лацінскай і грэцкай моў. Да рэволюцыі навуковая літаратура знаходзіла сабе

ўжываньне, галоўным чынам, сярод тых асоб, якія прайшлі курсы чужаземных моў. Асабліва ў вушох тых, што скончылі клясычную школу, чужаземныя словы, запазычаныя з лацінскай і грэцкай моў, гучэлі, як знаёмыя словы. Для іх—гэта былі словы з пэўным сэнсам. Іначай стаяла справа з популярнай літаратурай. І да рэволюцыі да такой літаратуры ставілася вымога: ужываць як можна менш чужаземных незразумелых слоў. А цяпер гэтая вымога павінна мець асаблівае значэньне, і адносіцца ўжо ня проста да популярнай, але і падручнікавай літаратуры. Факт той, што ў нашых сярэдніх школах ужо колькі год не выкладаюцца „чужыя“ мовы. Нашы навуковыя кнігі, нашыя буйныя газэты незразумелы для шырокай масы. На кнігу проф. Тэрлецкага, як на ўзор незразумеласьці, паказвалася т. Радус-Зяньковічам на апошнім усебеларускім партыйным зьезьдзе. А і іншыя профэсары пішуць незразумелыя кнігі. Як-жа быць, калі нашы кнігі, нашы падручнікі ня будуць зразумелымі для вучняў, для шырокай народнай слухальні? Ясна, што яны ня будуць адпавядаць патрэбам масавай асьветы. А тымчасам, кожнаму зразумела, што наша сучасная асьвета, наша культура па самай сваёй сутнасьці павінна быць пролетарскай, масавай. А каб гэтага дасягнуць, патрэбна навуковыя тэрміны і культурныя паняцьці апрануць у свае родныя нацыянальныя формы. Наогул, *„інтэрнацыянальны зьмест павінен давацца ў нацыянальнай форме“*. Адсюль—патрэба ў замене чужаземных тэрмінаў, пераважна тых, якія ўзяты з лацінскай мовы, спадчыны сярэднявякоўя, сваімі *роднымі* словамі, патрэба, якая адчуваецца ня толькі беларускай нацыянальнасьцю, але і іншымі эўропэйскімі нацыянальнасьцямі, хаця і ў рознай ступені.

Тутака ёсьць пэўная розьніца паміж французамі, ангельцамі, італьлянцамі, з аднаго боку, і немцамі ды славянамі, з другога. Першым няма патрэбы перакладаць лацінскія тэрміны, бо іх культура разьвілася і ўзгадавалася на лацінскай глебе. Менш адбіўся лацінскі ўплыў на нямецкай культуры. Мы і бачым, што немцы, хаця часам і нязграбна, перакладаюць лацінскія тэрміны на сваю мову, а звычайна імкнуцца ўжываць свае нямецкія словы. Тое-ж самае датычыць і славян. Сярод славян асабліва выразна вызначаецца тэндэнцыя да замены чужаземных слоў сваімі ў чэхаў. За імі ідуць сербы. Аднак, гэты процэс адбываецца і ў расійцаў. Трэба толькі прыпомніць сучасныя: „широковещательная станция“, „письмоносец“, „об‘единение“ вместо „ассоциация“ і інш.

І марна думаць, што перакладам чужаземных слоў на сваю мову можна абасобіць беларускую навукова-літаратурную мову ад мовы расійскай. Зусім наадварот: гэтая тэндэнцыя можа мець сваім вынікам збліжэньне абедзьвюх гэтых моў. Бярэм, напрыклад, з літаратурнай тэрмінолёгіі: „амфиболия—двузначнасьць“, „аналогия—падобнасьць“, „анастрофа—перастаўка“, „аноним—бязыменьнік“ або з матэматычнай, хоць-бы: „система—уклад“. Дык гэтыя-ж словы ўжываюцца і ў расійскай мове,

а ў кожным выпадку і для расійца яны будуць больш зразумелымі, чымся адпаведныя чужаземныя словы. Ня будзе дзіўным, што некаторыя нашы пераклады патрапяць у расійскую, як канечна—у украінскую і польскую мовы.

Такім парадкам, патрэбы масавай асьветы вымагаюць ад нас *спрашчэньня* навуковай тэрмінолёгіі, прыстасаваньня яе да роднай мовы, і няма чаго *баяцца* новых слоў—новатвораў, абы толькі гэтыя новатворы былі створаны на цьвёрдым грунце моўных народных карэньняў, адпавядалі-б „духу“ роднай мовы і былі-б пры тым зграбнымі, прыгожымі, простымі словамі. У выпадку патрэбы няма чаго баяцца нават запазычваць такія словы з суседніх славянскіх моў, хаця-бы з мовы расійскай або польскай.

Ад укладальнікаў нашых тэрмінолёгій мы асабліва маем права вымагаць выяўленьня творчасьці. Запраўды, вельмі „куца“ зразумелі-б сваю задачу нашы тэрмінолёгі, калі-б яны заняліся толькі перапісваньнем чужаземных тэрмінаў на беларускую мову. Гэта з большым посьпехам і з большай экономіяй магла-б зрабіць Правапісная камісія Інбелкульту. І дзеля чаго перапісваць чужаземныя тэрміны, калі добра вядома, што беларуская мова можа таксама цярпець іх, як церпяць мовы расійская і польская? Напэўна, у творах вузка-спэцыяльных, якія могуць мець сьцісла навуковае і, значыцца, міжнароднае значэньне, будуць ужывацца чужаземныя навуковыя і тэхнічныя тэрміны без перакладаў. Зусім іншая справа з падручнікавай і популярнай літаратурай. Тутака павінны давацца пераклады чужаземных тэрмінаў, прынамсі іх тлумачэньні ў беларускай мове. Гэта—непасрэдная задача нашых тэрмінолёгістых, ад выкананьня якой ня можна адмовіцца. Нашым тэрмінолёгіям да гэтага часу не хапала пэўных прынцыпаў апрацаваньня тэрмінаў. Такія прынцыпы павінна выпрацаваць Галоўная Тэрмінолёгічная Камісія Інбелкульту. На мой погляд, было-б зусім нормальным, каб тэрмінолёгічныя камісіі, разглядаючы пэўны чужаземны тэрмін, давалі: а) гэты тэрмін у беларускай транскрыпцыі, б) пераклад або, прынамсі, тлумачэньне яго ў беларускай мове. Тлумачэньне можа давацца ў дужках. Разумеецца, што словы, узятыя з народнай мовы або літаратуры, павінны мець спасылкі на пэўныя крыніцы (літаратурны твор або мясцовасьць, дзе запісана слова). Словы, пераважна ўхваленыя для ўжываньня ў падручнікавай літаратуры, могуць быць адкрэсьлены курсыўным шрыфтам або спэцыяльнымі значкамі. Няма чаго турбавацца, што сярод іх напэўна будзе пэўны процант „*мертворожденных*“ слоў. Народная мова здолее адкінуць гэтую мярцьвячыну і замяніць яе ўласьцівымі ёй стварэньнямі. З гэтага пункту погляду быўбы пажаданым грунтоўны разгляд нашых тэрмінолёгій настаўніцкімі таварыствамі і краяведнымі організацыямі на мясцох. Такі-ж самы разгляд пажаданы і для слоўнікаў.

Аднак, да слоўнікаў павінен быць некалькі іншы падыход, чымся да тэрмінолёгій. Слоўнік па самай сваёй сутнасьці ня можа прэтэндаваць

на такую дакладнасьць, як тэрмінолёгіі. Гэта датычыць нават „акадэмічных" слоўнікаў, а тым больш слоўнікаў прыватных асоб, як, напр., „Практычны расійска-беларускі слоўнік". З другога боку, кожны слаўнікар, які апрацоўвае слоўнік практычнага тыпу, павінен імкнуцца да таго, каб на магчыма меншым прасторы паперы перакласьці як можна большую колькасьць слоў адпаведнай мовы. Адсюль зусім натуральным пры такім імкненьні будзе адкідваць з слоўніка ўсё тое, што дапушчаецца само сабой. На гэтай падставе ў „Практычным расійска-беларускім слоўніку" даюцца пераважна тыя чужаземныя словы, якія можна перакласьці ў нашую мову, прычым побач з перакладам у большасьці выпадкаў ня выпісваюцца гэтыя словы ў нашай транскрыпцыі. Лінія, на мой погляд, зусім правільная. Шкада толькі, што ня ўсе словы, дзе гэта магчыма, перакладзены ў нашую мову. Напр., чаму замест „ботаніка" ня ўжываць „расьліназнаўства", замест „зоолёгія"—„жывёлазнаўства" і г. д. Гэта трэба палічыць за хібу другога выданьня слоўніка.

Але-ж зразумела, што ня ўсе чужаземныя тэрміны магчыма перакласьці на нашую мову. Тутака можна зрабіць гэтакія ўвагі:

а) Абавязковаму перакладу належаць чужаземныя словы—іменьнікі лацінскага пахаджэньня з канчаткам у расійскай мове на „ция" (=лац. tion), а гэтак сама і адпаведныя ім прыметнікі, напр., *„конгруенция"*, *„конгруентный"*, *„ассимиляция"*, *„ассимилятивный"*, *„ассоциация"*, *„ассоциативный"* і г. д.

б) Словы грэцкага пахаджэньня, якія перайшлі да нас праз лацінскую мову, перакладаюцца ня так лёгка (бо не бяз рацыі і лацінцы не пераклалі іх у сваю мову), аднак замена іх на нашыя словы пажадана там, дзе ў нашай мове маюцца адпаведныя ім з боку сэнсу эквіваленты (роўназначнікі), напр., „абвод—периметр", „ускосьніца—диагональ".

в) Зусім неперакладальны чужаземныя словы—іменьнікі з канчаткам на *„ізм"* (лац. ismus), а гэтак сама і на *„іст"*, а роўна і прыметнікі на *істычны*. Словы на *ізм* звычайна азначаюць тэорыю або кірунак навуковай думкі, і ня могуць быць дакладна перакладзены адным якім-небудзь нашым словам. Такім парадкам пакідаюцца без перакладу: „комунізм", „соцыялізм" і інш. Няправільна ў літаратурнай тэрмінолёгіі перакладаюцца: *„оптимизм—сьветлагляднасьць"*, і *„пессимизм—„смутнагляд"*. На маю думку, няправільна перакладаць нават *„атэізм"* на *„бязбожжа"*, бо сам па сабе *„атэізм"* ня ёсьць „бязбожжа" (практычны бок), а толькі „навука бязбожжа" (тэорытычны бок). Словы на *„іст"* азначаюць прыхільніка пэўнай тэорыі і таксама не паддаюцца перакладу. Пакідаючы гэтыя словы без перакладу, было-б варта, аднак, адмовіцца ад прынятага цяпер у літаратуры канчатку *„істы"* і адпаведнага яму ўзору скланеньня (*„істага"*, *„істаму"*, *„істым"*, мн. л.—*„істыя"*, *„істых"* і г. д.). Такі канчатак быў у першы раз праведзены Яз. Лёсікам

у яго перакладзе „Комуністычнага Маніфэсту“, аднак ён не адпавядае жывому народнаму вымаўленьню (за выключэньнем толькі некаторых мясцовасьцяй). Трэба прыняць бяз доўгіх акалічнасьцяй канчатак „*іст*“, як у расійскай і іншых мовах.

г) Не належаць таксама перакладу лацінскія і грэцкія тэрміны, якія ў сучасным навуковым ужываньні страцілі свой першапачатковы сэнс ды набылі характар умоўных тэрмінаў. Да гэтай катэгорыі належаць, напр.,—„*рэфлекс*“, „*апэрцэпцыя*“, „*сылёгізм*“ і інш. Не павінны перакладацца і штучныя тэрміны сучаснай навукі, напр.,—„*гормон*“ з навукі аб канстытуцыі організму.

д) Само сабою зразумела, што няма чаго мудрыць над перакладам тых чужаземных слоў, якія ўжо атрымалі пашырэньне ў народнай масе і набылі ў народным ужываньні правільны конкрэтны сэнс, як, напр., „*матэрыя*“, „*мобілізацыя*“, „*сэкратар*“, „*сакрэт*“ і інш.

е) Словы, узятыя з сучасных жывых моў, асабліва з ангельскай мовы, павінны, на мой погляд, пакідацца без перакладу. Такім парадкам, прыймаем: „*танк*“, „*трамвай*“, „*бокс*“ і г. д.

Такім спосабам, у агульным вывадзе бачым, што няма чаго баяцца перакладу чужаземных тэрмінаў у нашую мову, і ў падставе гэтае працы дадзены зусім грунтоўныя мотывы, але разам з тым ясна, што, папершае, ня можна быць фанатычным пры замене чужых слоў сваімі роднымі і з нецярплівасьцю адносіцца да чужога толькі таму, што гэта—чужое, не сваё,—а падругое, наша тэрмінолёгічная праца павінна набыць сабе пэўнае прынцыповае абаснаваньне.

## II

## Як-жа пісаць чужаземныя словы?

У самай цеснай сувязі з пытаньнем аб ужываньні чужаземных слоў у нашай мове стаіць пытаньне: як-жа пісаць тыя чужыя словы, без якіх ня можна абыйсьціся ў нашай мове? Конкрэтна: будзем „*акаць*“ або „*окаць*“?

Праўда, некалькі небясьпечна дакранацца гэтага пытаньня, бо дакранацца яго, гэта значыць лішні раз разьятрываць назольную балячку на целе нашай мовы. Неаднакроць гэта пытаньне высоўвалася на старонках нашага друку. Неаднакроць у мурах Інбелкульту і на розных конфэрэнцыях узьнімаліся заўзятыя спрэчкі спаміж найвыдатнейшымі знаўцамі нашай мовы. Пісалі, гаварылі, рабілі пастановы... А ўсё-ж такі не дагаварыліся.

„*Воз и ныне там*“, дзе ён апынуўся ў канцы 1925 году, калі ўпяршыню ўзьнялося наша правапіснае пытаньне. Неразьвязанае пытаньне аб правапісе чужаземных слоў самым шкодным спосабам адбіваецца на розных бакох нашай культурнай справы. Блытаюцца дру-

каршчыкі, выпраўшчыкі, аўтары, вучні, настаўнікі, наогул усе асобы, якія пішуць пабеларуску, блытаюцца нават самі нашы правапісныя законадаўцы...

Вось прада мною ляжыць зборнік апавяданьняў Тараса Гушчы „На прасторах жыцьця“. Чытаем на старонцы 85: „*Да*ктары, адвокаты, пр*о*фэс*а*ры, к*а*місары, поэты, мастакі, артыст*ыя*, гандляры, спэкулянты і людзі іншых профэс*ій* і соцыяльных груп“... Чытаеш і дзіву даешся! Чаму слова „доктар“ абеларушана, „адвокат“—не?... Чаму ў адным і тым самым слове (соцыяльны) адна літара абеларушана, другая захавалася? Папраўдзе, ня ведаеш, як пісаць... А ў апавяданьнях, што дадзены ў гэтым зборніку, знойдзена шмат і іншых чужаземных слоў. Даем іх у правапісе зборніка: мобілізацыя, электрафікатар, доцэнт, прокурор, міліцыянэр, патрыотызм, рэволюцыя і інш. Чаму „міліцыянэр“—беларускае слова, а „патрыотызм“—небеларускае? І калі палічыць, што „мобілізацыя“, „поэт“, „доцэнт“ яшчэ не ўвайшлі ў народную мову, дык выходзіць, што наш народны поэта ня піша на народнай мове і, значыцца, яго творы ня могуць быць названы ў поўным сваім ахопе „народнымі“ творамі. Аднакжа, Якуб Колас ёсьць праўдзівым народным пісьменьнікам,—і яго творы зразумелы для чытачоў з народу без абы-якіх тлумачэньняў (друкаваліся-ж апавяданьні, сабраныя ў зборніку, на старонках масавай сялянскай газэты „Беларуская Вёска“). Значыць, астаецца дапусьціць, што нашага народнага пісьменьніка падвёў Язэп Лёсік сваім аблудным правілам правапісу, падвялі мудрагелі з корэктарскага пакою друкарні Дзяржаўнага Выдавецтва, якія не саромяцца пушчаць у друк такія правапісныя „пекнасьці“, як „*голюцынацыя*“ (гл. С. Хурсік „Першы паўстанак“, 52 ст.), „*поліатывы*“ (Полымя. 1926 г. № 6, 91 ст.), „*облятыўны* склон“ (Яз. Лёсік, Сынтакс, 1925 г., 209 ст.). Ня буду ўсё-ж такі больш чапаць нашых корэктараў, бо ім прыходзіцца толькі расплачвацца за „чужыя грахі“,—за хібы нашага правапісу, які яўна не адпавядае вымогам нашай сучаснасьці. А запраўды, наша сучаснасьць далёка пайшла ўперад у параўнаньні з тым часам, калі Бр. Тарашкевіч пісаў сваю „Беларускую граматыку для школ“ і на-сьпех формуляваў сваё правіла правапісу чужаземных слоў. Факт той, што ў мову нашых літаратараў-бэлетрыстых, за час рэволюцыі ўвайшло шмат чужаземных слоў. Ня ўжываць гэтыя словы нашы бэлетрысты ня могуць, бо яны ўжываюцца ў шырокіх народных масах. З народнай мовы чужаземныя словы, калі можна так казаць, „лазам лезуць“ у бэлетрыстычныя творы. І ўжо на гэтым формальным аснаваньні,—ужываньні пэўнага слова ў нашых бэлетрыстых, трэба было-б цэлы шэраг чужаземных слоў лічыць абеларушанымі і падвесьці іх пад правілы нашага правапісу. Тут магчыма было-б проста падлічыць, якія словы ўжываюцца ў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Чарота і інш. пісьменьнікаў, і бяз доўгіх разважаньняў іх абеларусіць. Павінны-ж усе гэтыя словы ўжо на тэй падставе, што яны ёсьць у творах нашых пісьменьнікаў, увайсьці ў

будучы слоўнік жывой беларускай мовы! Тут справа ясная. Няма чаго спрачацца.

Заўзятыя прыхільнікі правапісу Тарашкевіча, як с. Ул. Чаржынскі, і гатовы ўступіць „акаўцам“ у пытаньні аб правапісе чужаземных слоў, што ўжываюцца ў бэлетрыстычнай літаратуры. Аднак, яны пакуль што ўпарта стаяць на сваіх позыцыях у пытаньні аб правапісе слоў „кніжных“, наогул тых слоў, якія ўжываюцца ў падручнікавай літаратуры. Ці маецца для гэтага адстойваньня пэўная рацыя? На мой погляд, рацыя зусім няпэўная, паколькі мова ідзе аб падручнікавай літаратуры, прызначанай для шырокага карыстаньня, аб розных там географіях Смоліча і Азбукіна, геомэтрыях Круталевіча, космографіях, граматыках, лемантарох і інш. Трэба-ж лічыцца з тым фактам, што за час рэволюцыі, прынамсі, каля 30 проц. наяўнага беларускага насельніцтва прайшло нашу школу, і, значыцца, тыя тэрміны, якія ўжываюцца ў падручніках масавай школы, больш, чымся на 30 проц. зрабіліся народнымі словамі. Наогул, *у наш час опэраваць паняцьцем „кніжнае слова“ значыць не разумець духу нашай эпохі*. Для таго, хто мысьліць пасучаснаму, рэволюцыйна,—ясна, што рэволюцыя сьцёрла мяжу паміж кнігай і жыцьцём. Паняцьце „кніжнае слова“ ня вытрымлівае крытыкі.

Такім спосабам, само жыцьцё прымушае нас шукаць больш об'ектыўных крытэрыюмаў для формуляваньня прынцыпаў пісаньня чужаземных слоў у нашай мове, чымся тыя, якія дадзены ў правапісе Тарашкевіча—Лёсіка („кніжнасьць“ або „пашыранасьць“ слова ў народных масах). Гэтакім крытэрыумам можа быць *„выразнасьць“* вымаўленьня таго або іншага гуку ў чужаземным слове ў нашай мове. Адсюль мы проста натрапім на прынцып *„няпоўнага“* аканьня, формуляваны С. М. Некрашэвічам у яго прадмове да „Расійска-беларускага слоўніка“ С. Некрашэвіча і М. Байкова і праведзены ў другім выданьні „Практычнага расійска-беларускага слоўніка“ М. Байкова і М. Гарэцкага, хаця трэба заўважыць, што гэты прынцып яшчэ раней выказваўся Я. Станкевічам. Што для чужаземных слоў няма падставы рабіць выключэньняў з агульных правіл нашага правапісу, з гэтым згаджаецца і Яз. Лёсік, як відаць з яго пазьнейшых правапісных нарысаў; нават больш таго,—ён высоўвае прынцып поўнага („вялікага“) аканьня ў чужаземных словах. Калі-б гэты прынцып быў наогул прыняты ў нашым правапісе, разумеецца, што паводле яго трэба было-б пісаць і чужаземныя словы; аднак, паколькі ў нас наогул няма поўнага аканьня і ў беларускіх словах, яго няможна прыняць для слоў чужаземных. Гэты погляд і атрымаў перамогу ў часе дыскусіі аб правапісе чужаземных слоў на Акадэмічнай Конфэрэнцыі. Акадэмічнай Конфэрэнцыяй ухвалена: *„у чужаземных словах замест ненаціскнога „о“ пішацца „а“*. Проста, ясна, рашуча! Так за-звычай пісалі законы ўсе законадаўцы! І канечна, супроць прынцыповага боку тут пярэчыць ня прыходзіцца. Прынцып—правільны; яго толькі трэба разьвінуць, конкрэтызаваць у падрабязнасьцях.

Але вось як толькі мы даходзім да падрабязнасьцяй, дык справа выходзіць зусім не такой простай, як гэта можа здацца на першы погляд. Кожны закон патрабуе тлумачэньняў, і гэтыя тлумачэньні могуць значна абмежаваць абсяг прыстасаваньня закону. Так стаіць справа і ў гэтым выпадку.

Папершае, ці ўва *ўсіх,* без абы-якіх выняткаў, чужаземных словах мы будзем пісаць замест ненаціскнога „*о*“—„*а*“. Вось, напрыклад, слова „*Омега*“. Ці тутака будзем акаць? Калі так, дык выйдзе поўны гвалт над сэнсам, бо ў грэцкай мове, калі перакладаць гэта слова ў нашую мову, тутака будзе не „*а*“, а якраз „*о*“ *вялікае*. Далей, ці напішам замест расійскага „оттоманское войско“ або „войско атаманов“ у нашай мове „атаманскае войска“, „войска атаманаў“. Ці пекна выходзіць? Разумеецца, няпекна*). А такія выпадкі трапляюцца не ў адзіночным ліку. Зноў такі, як быць з вузка-спэцыяльнымі тэрмінамі, дзе папраўдзе мае вялікае значэньне наймалейшае „*ёт*“, як, напрыклад, назвы хэмічных элемэнтаў, асабліва новых элемэнтаў, для якіх прыдумваюцца новыя штучныя назвы. Або вось, напрыклад, назвы модусаў сылёгізмаў. Ня можам напісаць замест „*Бароко*“—„*Барока*“, бо тутака кожная галосная мае зусім азначанае сымболічнае значэньне і не дапушчае ніякай замены. Такія выпадкі знойдуцца ў кожнай галіне веды ў яе спэцыяльных разьдзелах. Справа ў тым, што ад падручнікавай літаратуры трэба адрозьніваць *вузка-спэцыяльныя* навуковыя творы. Нельга да гэтай навуковай літаратуры падыходзіць так, як мы падыходзім да падручнікавай літаратуры, прызначанай для масавага ўжываньня. Ясна, што гэтая літаратура прызначаецца для вузкага кола спэцыялістых, а ў вуснах спэцыялістых вузка-спэцыяльны тэрмін будзе гучэць не як народнае беларускае слова, а так, як яно гучыць у адпаведнай чужаземнай мове. Такія вузка-спэцыяльныя словы толькі ў рэдкіх выпадках (з непаразуменьня) могуць патрапіць у звычайныя, нават найпаўнейшыя слоўнікі тыпу практычных, і калі да слоў, што паказваюцца ў „практычных“ слоўніках, зусім натуральным зьяўляецца аканьне, дык рэдка ўжываныя *вузка-спэцыяльныя* навуковыя тэрміны, на мой погляд, як выключэньні з агульнага правіла, павінны пісацца, як яны пішуцца ў тэй мове, адкуль яны ўзятыя.

Другое пытаньне, якое можна высунуць, дэталізуючы прынцып „аканьня“,—гэта тое, як трэба пісаць складаныя чужаземныя словы. У „Практычным расійска-беларускім слоўніку“ бачым „з*а*алёгія“, „к*а*смаграфія“, „к*а*смапаліт“. Я цяпер прыходжу да таго заключэньня, што ў першай складанай часьціне гэтых і падобных да іх слоў павінна быць затрымана „*о*“. Бо, калі ў беларускіх складаных словах паводле нашага правапісу пішацца ў пэўных выпадках „*о*“ (напрыклад, „добраякасны“, „роўнасечны“),

*) Выабразім сабе, што прыдзецца перакласьці з расійскае мовы: „Войско атаманов напало на оттоманское войско“. Ці будзем перакладаць: „Войска атаманаў напала на атаманскае войска“.

дык якое маем права рабіць выключэньне для чужаземных слоў, з якімі трэба абыходзіцца асабліва цырамонліва? Такім парадкам, на мой погляд, трэба пісаць: „зоалёгія“, „космаграфія“, „космапаліт“. Адсюль: „морфалёгія“, „онталёгія“, „онтагенэзіс“. Аднак, для прыйменьнікаў трэба прыняць аканьне без выключэньняў, адкуль: „праграма“, „пралетар“ і г. д.

Патрэцяе, спытаем: ці ўва ўсіх выпадках пісаць на месцы чужаземнага *„е“* пасьля цьвёрдых зычных наша *„э“*? Факт той, што ў пэўнай колькасьці чужаземных слоў у нашай літаратуры пішацца *„а“* або *„ы“*. Прыклады: „літаратура“ „матар'ял“, „канцылярыя“, „цырамонія“ і г. д. Калі пішуцца *а* або *ы*, значыць, маецца для таго пэўная рацыя,—*выразнасьць* вымаўленьня гэтых гукаў у народнай мове. У адрозьніцу ад прынцыпу Я. Станкевіча ўсе гэтыя словы, дадзеныя ў *літаратурным* ужываньні, трэба разглядаць, як выключэньні з правіла аб *няпоўным* аканьні.

Чацьвертае пытаньне: як быць з географічнымі назвамі, прозьвішчамі і ўласнымі іменьнямі? Тутака трэба заўважыць тую акалічнасьць, што расійскія, польскія і украінскія географічныя назвы звычайна падлягаюць нашаму правапісу. Мне здаецца, што пад гэты звычай могуць падыйсьці і ўсе географічныя назвы эўропэйскіх народаў. Аднак, выключэньнем павінны быць такія, як кітайскія, японскія дый нэгрыцянскія назвы, як зусім розныя ад знаёмых нам эўропэйскіх (адсюль: „Кобдо“, „Іокогама“, „Токіо“, „Конго“ і г. д.). Што датыча да прозьвішчаў, дык тут магчыма прыняць такое правіла: прозьвішчы дзеячоў навукі, мастацтва, палітыкі, якія набылі агульную вядомасьць, падлягаюць нашаму правапісу (адкуль пішам: *Сакрат, Сафокл, Магамэт, Вальтэр, Мальер, Напалеон, Лютар* і інш.); але прозьвішчы, мала вядомыя, непопулярныя, пішуцца так, як у тэй мове, да якой належаць, прычым у навуковых творах яны могуць пісацца проста ў гэтай мове (напрыклад, проф. *И. Владимиров, Passow, Freud* і г. д.). Уласныя іменьні, канечна, пішуцца так, як яны выяўляюцца ў тэй мове, да якой належаць (адсюль: *Іоан, Ян, Іван, Жан, Джон, Хуан; Георгі, Юры, Жорж, Джордж*). Разумеецца, што прозьвішчы асоб, якія працуюць у нас, на Белай Русі, павінны абавязкова пісацца пабеларуску (адсюль *Градынгер, Нодаль* і г. д.).

Абагульняючы казанае аб правапісе чужаземных слоў, прыходзім да таго вываду, што хаця прынцып няпоўнага аканьня і дае пэўны грунт для разьвязаньня нашай правапіснай блытаніны, аднак ня трэба быць фанатычным у правядзеньні гэтага прынцыпу, роўналежна таму, як фанатызм не павінен мець сабе выяўленьня і ў абеларушваньні чужаземшчыны наогул.

Разумеецца, што патрэбны *выключэньні* з гэтага прынцыпу.

Зразумела, што ўсіх гэтых выключэньняў абгаварыць у падручніках правапісу немагчыма,—і такім парадкам мы мусім натрапіць на ідэю *спэцыяльнага правапіснага слоўніка* для нашай мовы. Такая ідэя выплывала ўжо ўвесну мінулага году, у часе заўзятых боек паміж „акаўцамі“ і

„окаўцамі“. Прапанованая „окаўцамі“, яна сустрэла крытыку з боку С. М. Некрашэвіча (гл. артыкул „Да пашырэньня аканьня на чужаземныя словы“, „Полымя“, 1926, № 5, стар. 127-128). Аднак, на мой погляд, няма сур'ёзнай рацыі адносіцца да такога слоўніка скептычна. Ясна тое, што ў справе правапісу тэорыяй, агульнымі формуламі, агульнымі прынцыпамі абыйсьціся няможна.

Правапісныя слоўнікі ёсьць і ў расійскай, і ў украінскай, і ў іншых мовах,—і зьяўляюцца простай неабходнасьцю ў справе навучаньня і друку. Такі слоўнік патрабуецца і для нашай мовы. Канечна, было-б вельмі вузкім абмяжоўваць задачу такога слоўніка правапісам толькі чужаземных слоў, як гэта дапушчалася „окаўцамі“ ўвесну 1926 году. І ў пісаньні нашых беларускіх слоў ёсьць ня мала цьмянасьцяй, нямала спрэчных месц. Напр., як правільней пісаць: „брызкі“ або „брыскі“, „мейсца“ або „месца“? А колькі ёсьць спрэчнасьцяй у пісаньні складаных слоў. Улетку 1926 году Правапісна-Тэрмінолёгічнай Камісіяй Інбелкульту была зроблена спроба ўкласьці правапісны слоўнік чужаземных слоў. Гэта спроба не ўдалася з тэй прычыны, што ў Камісіі ня было пэўных прынцыпаў для ўкладаньня падобнага слоўніка. Гэта—папершае. Падругое, неабходнай умовай для ўкладаньня правапісных слоўнікаў зьяўляецца наяўнасьць падрабязных слоўнікаў звычайнага тыпу. Было-б памылкай думаць, што слоўнікі звычайнага тыпу, нават у акадэмічным выданьні, могуць самі па сабе разьвязаць правапісную проблему: тутака галоўная ўвага зварачаецца на пераклад, на сэнс, адным словам,—на ўнутраны бок слова. Але зразумела, што слоўнік звычайнага тыпу, у якім падабрана як мага большая колькасьць беларускіх слоў, зьявіцца матэрыялам для ўкладаньня правапіснага слоўніка. А з выданьнем апошняга наш правапіс знойдзе для сябе такую-ж пэўную аснову, якую знайшоў для сябе расійскі правапіс у правапісным слоўніку Н. Я. Грота.

## III

## Практычныя вывады

Абагульняючы казанае ў абодвух ранейшых разьдзелах нарысу, я раблю наступныя практычныя вывады:

1. Неабходна лічыць, што магчыма шырокі пераклад або, прынамсі, тлумачэньне чужаземных тэрмінаў у нашую мову адпавядае пільным патрэбам масавай асьветы, папулярызацыі веды і кнігі.

2. Галоўная Тэрмінолёгічная Камісія Інбелкульту павінна выпрацаваць сталыя прынцыпы перакладу чужаземных тэрмінаў у нашую мову. Наогул пажадана, каб тэрмінолёгічная праца ў далейшым яе працягу вялася паводле азначанай програмы і пэўных мэтодаў працы.

3. Патрабуецца грунтоўная крытыка зборнікаў навуковых тэрмінолёгій і практычных расійска-беларускіх слоўнікаў з пункту погляду адпаведнасьці іх жывой народнай мове і жыцьцёвасьці новатвораў.

4. Для захаваньня чыстаты беларускае мовы ў нашых літаратурных творах патрэбна зьвярнуць увагу на беларускую фразэолёгію. Пытаньне фразэолёгічнае трэба лічыць чарговым пытаньнем нашай мовазнаўчай навукі.

5. Для ўхіленьня правапіснай блытаніны неабходна прыняць ухвалены Акадэмічнай Конфэрэнцыяй прынцып *„няпоўнага аканьня“* ў чужаземных словах.

6. Пры дэталізаваньні прынцыпу *„няпоўнага аканьня“* прымаюцца пад увагу асаблівасьці пісаньня складаных чужаземных слоў, вузка-спэцыяльных навуковых тэрмінаў, уласных географічных найменьняў, прозьвішчаў і ўласных іменьняў, а гэтак сама выпадкі напісаньня *„а“* і *„ы“* замест ненаціскнога *„е“* (*„э“*), дадзеныя ў народным вымаўленьні і зафіксаваныя ў літаратурным ужываньні.

7. Пасьля выхаду з друку падрабязнага расійска-беларускага слоўніка, на грунце яго матэрыялаў, апрацоўваецца спэцыяльны правапісны слоўнік беларускай мовы.

# ЯШЧЭ АБ ІНДЫІ *)

## Л. Каган

У сваёй волатнай барацьбе з колёніяльным і поўколёніяльным што прачынаецца, Усходам эўропэйскі імпэрыялізм праяўляе вялікую спрытнасьць і вёрткасьць. У першыя часы, калі рух яшчэ ў пачатковай сваёй стадыі кіруемы інтэлігенцыяй і лібэральнай буржуазіяй, перажывае Sturm und Drangperiode, імпэрыялізм сьлепа-жорсткі. Рэпрэсіі, крывавыя расправы. Паводле прынцыпу—задушыць, зьнішчыць, застрашыць.

Але час бяжыць. Барацьба падымае ўсё новыя і новыя гушчы рабочых і сялянскіх мас. У процэсе барацьбы гэтыя масы політычна растуць, пачынаюць націскаць і на ўласных саюзьнікаў у барацьбе з імпэрыялізмам—на тубыльную буржуазію.

У гэты крытычны для нацыянальна-буржуазнай рэволюцыі момант імпэрыялізм, напалоханы папярэднім этапам руху, яго размахам і глыбінёю, прапануе саюз буйнай буржуазіі колёніяльнай краіны, сумесна з ёю фронт супроць рабочых, сялян і часткаю дробнай буржуазіі гэтай краіны. Рэволюцыя ўваходзіць у другі свой этап. Пачынаецца пэрыод рэволюцыйнай хвалі, якая здаецца спадаючай, а фактычна гэта пэрыод збору сіл для апошняй рашучай бойкі рабочых і сялян колёніяльнай краіны з імпэрыялізмам і адначасова з уласнай перапалоханай буржуазіяй.

Вось гэта другі этап, этап адыходу тубыльнай буржуазіі ад рэволюцыі, яе блёку з контр-рэволюцыяй і імпэрыялізмам пачынае перажываць Кітай: здрада Чан-Кай-Шы—выяўленьне пачатку такога пэрыоду ў разьвіцьці кітайскай рэволюцыі.

У тым-жа этапе знаходзіцца зараз і нацыянальна-вызваленчы рух у Індыі.

Задача гэтага артыкулу—разглядзець бліжэй характар паказанага пэрыоду індыйскай рэволюцыі, яе рухаючыя сілы, яе пэрспэктывы.

### I

Перш за ўсе—у агульных рысах аб першым этапе політыкі ангельцаў у Індыі. Яна цягнецца з дня ўваходу і моцнай аселасьці брытанцаў у Індыі аж да моманту сканчэньня сусьветнай вайны. Гэты пэрыод у сваю чаргу можа быць падзелены на час выпампоўваньня багацьцяў з Індыі

---

*) Гл. наш артыкул „Полымя“ № 4 за 1925 г.

Ост-Індзкай Кампаніяй (да канца XVIII ст.) і наступны этап рабаўніцтва Індыі ўжо непасрэдна Англіяй.

Ост-Індзкая стадыя—стадыя „гандлю“ з Індыяй, якая мела характар простага рабунку. Досыць паказаць хоць-бы на тое, што дывідэнты кампаніі складалі ад 100 да 250 проц. у год (апрача прыватных прыбыткаў агентаў і служачых). Кампанія захапіла ў свае рукі значную частку тэрыторыі Індыі, рукамі саміх індусаў (клясы індыйскіх гандляроў, якая тады ўздымалася) замацавала сваю ўладу над ёю [1]).

Далей ідзе пэрыод ужо афіцыяльнага захопу Індыі ангельцамі. На нарабаваныя ў Індыі і другіх краінах вялізарныя багацьці Англія з канца XVIII ст. разьвівае вялізарную машынную вытворчасьць, пачынае закідваць рынкі ўсяго сьвету таннымі ткацкімі мэталёвымі і іншымі фабрычнымі вырабамі.

Дзякуючы гэтаму прамысловаму разьвіцьцю Англіі, пераменьваецца характар яе адносін да Індыі: уперад з Індыі вывозіліся ў Англію ткацкія вырабы, і Англія нават зварачалася да абаронных тарыфаў, каб абараніць ад загубы ўласную маладую прамысловасьць.

Цяпер, наадварот, разьвіцьцё машыннае вытворчасьці ў Англіі разбурыла больш заняпалую індыйскую прамысловасьць: Індыя зрабілася для ангельцаў, на шкоду ўласнаму экономічнаму разьвіцьцю, вялізарным рынкам збыту і крыніцаю сырцу для капіталізму мэтраполіі.

Трэба было перавесьці на больш моцныя рэйкі і кіраваньне вялізарнай краінай: ад сыстэмы анархічнага рабаўніцтва Ост-Індзкай кампаніі трэба-бо пераходзіць да сыстэматычнай экспллёатацыі багацьцяў Індыі. Гэта было ажыцьцёўлена яшчэ ў першай чвэрці мінулага сталецьця. Ангельцы ўстанавілі ў Індыі цэнтралізаванае бюрократычнае кіраўніцтва, усяляк дапамагалі разбурэньню тутэйшага фэўдалізму, які і так ужо сільна падгніў.

Па якіх пластох насяленьня пераважна біў у аналізуемы пэрыод брытанскі капітал у Індыі?

Перш за ўсё, па вёсцы. Машынная прамысловасьць разбурыла старую рамесьніцкую прамысловасьць Індыі—утварылася перанасяленьне вёскі. Не магла-ж прымітыўная сельская гаспадарка Індыі даць працу ўсяму лішку рамесьнікаў яе. З 1818 па 1837 г. экспорт брытанскай баваўнянапапяровай мануфактуры ў Індыю павялічыўся ў 5.200 раз. У той-жа час насяленьне Даккі—цэнтру мануфактурнай прамысловасьці, скарацілася з 150 тыс. чалавек да 20 тыс.

Хоць і выклікае жаль жыцьцё індыйскага селяніна, разбураемы рамесьнік, ня маючы іншага выхаду, імкнецца на зямлю. Атрымліваецца парадоксальная зьява: шырыцца прамысловасьць у Індыі і адначасова няўхільна павялічваецца і процант насяленьня, занятага ў сельскай гаспадарцы. Прыводзім для ілюстрацыі табліцу [2]):

[1]) Падрабязна аб гэтым глядзі ў тым-жа артыкуле „Полымя“ № 4 за 1925 г.
[2]) Датт—„Вопросы индийской революции“. ГИЗ, 1927 г.

| Год перапісу | Проц. насел., якое жыве ад сельск. гасп. |
|---|---|
| 1891 | 61 |
| 1901 | 66 |
| 1911 | 72 |
| 1921 | 73 |

Апрацоўка зямлі становіцца амаль адзіным заняткам для лішкаў народных мас Індыі. Вось чаму катастрофічна падае колькасьць зямлі, якая прыпадае на кожнага работніка: у вёсцы акругі Пуны сярэдні разьмер зямельнага надзелу ў 1771 г. складаў 40 акраў, у 1818—17 1/2, у 1915 г.—7 акраў. У Бэнгале на работніка прыпадае яшчэ менш зямлі—усяго 2,2 акра.

Корань галечы шырокіх індыйскіх мас, такім чынам, у задушэньні ангельскім капіталізмам тубыльнай, рамесьніцкай прамысловасьці, якая давала сродкі для жыцьця дзесяткам мільёнаў тубыльных сем'яў.

Адначасна з выпіханьнем на зямлю вялікіх мас насяленьня Індыі ангельскі прамысловы капіталізм у даваенную эпоху не дапушчаў разьвіцьця тубыльнай прамысловасьці.

Калі паўпэрызацыя вёскі—неадвольны экономічны рэзультат сталай аселасьці ангельскага капіталізму ў Індыі, дык політыка забароны тубыльнай прамысловасьці—ужо політыка сьвядомая. У афіцыяльным штогодніку індыйскага ўраду за 1921 год мы чытаем з поваду гэтага: „Незадоўга да вайны спробы да заахвочваньня індыйскай прамысловасьці шляхам наданьня ўрадавых субсыдый былі адхілены Белым домам (рэзыдэнцыя віцэ-караля) *).

Так біў імпэрыялізм Англіі па ўсіх пластох тубыльнага насяленьня Індыі: па сялянству, буржуазіі, рамесьніцка-рабочаму пласту, кіруемы аднэю толькі мэтаю—багацець, выцягваць з Індыі ўсё, што толькі можна было.

## II

Асноўны фактар сучаснага становішча Індыі—зьмена ў пасьляваеннай політыцы імпэрыялістых.

Першае выяўленьне гэтай новай політыкі—утварэньне Індыйскай Прамысловай Камісіі 1916-1918 г.г.

Уперад, да вайны, ангельскі ўрад яўна варожа адносіўся да разьвіцьця тубыльнай прамысловасьці, проста забараняў яе. Цяпер Прамысловая Камісія пільна дасьледавала магчымасьці, рэсурсы, тэхнічныя ўмовы індустрыяльнага разьвіцьця Індыі. Даклад Камісіі рэкомэндаваў урадавае падтрыманьне прамысловаму разьвіцьцю, модэрнізацыю сельскае гаспадаркі, наогул, першапачатковае навучаньне.

*) Датт—„Вопросы индийской революции“. ГИЗ. 1927 г.

Наступны даклад Монтэгю—Чэльмсфорда[1]) ў 1917 г. ўяўляе з сябе разьвіцьцё палажэньняў названае Камісіі і, апрача таго, мае сваёю задачаю прыцягнуць маладую індыйскую буржуазію да ўдзелу,—зразумела, у іншых ролях,—у справе кіраваньня краінаю.

Некалькі лічбаў, якія характарызуюць пасьляваенную індустрыялізацыю Індыі: да вайны 70 проц. спажываньня ткацкіх тавараў або 3 мільярды ярдаў прывозіліся ў Індыю з Англіі і толькі 28 проц.—1.200 мільёнаў ярдаў вытвараліся на месцы; пасьля вайны ўласна індыйская прамысловасьць пачынае даваць ужо 61 проц.—1.700 мільёнаў ярдаў, і толькі 35 проц.—1 мільярд ярдаў увозіцца з Англіі.

Каштоўнасьць продукцыі горнай прамысловасьці Індыі вырасла з 8 міл. фунтаў стэрлінгаў у 1908 годзе да 30 міл. фунтаў стэрлінгаў у 1920 годзе.

Расьце ў Індыі колькасьць буйных прамысловых прадпрыемстваў: у 1911 годзе фабрык з лікам рабочых больш 20 было 7.113, у 1921 годзе—10.969,—на 54 проц. больш на працягу 10 гадоў!

Але ня варта з сказанага рабіць вывад, што ангельскі капітал самохаць стушаваўся перад тубыльным, уступіў яму свае позыцыі ў Індыі. Ангельцы толькі дазволілі індусам-буржуа таксама далучыцца да справы эксплёатацыі і нажывы, але домінуючай сваёй ролі ў Індыі яны ня ўступілі. Наадварот, адносная вага ангельскага капіталізму ў Індыі нават расьце і зараз. Да вайны брытанскі капітал перавышаў індыйскі ў 4 разы пасьля вайны перавысіў яго ў 6 раз. Гэта відаць з наступнай табліцы:

Капітал кампаній, якія маюцца ў Індыі.

| Зарэгістравана ў Індыі | | | Зарэгістравана па-за Індыяй | |
|---|---|---|---|---|
| Гады | Лік | Аплач. капіт. | Лік | Аплач. капіт. |
| 1912-13 | 2.499 | 716 міл. рупій*) | 535 | 192 міл. ф. ст. |
| 1920-21 | 4.283 | 1.583 „ „ | 643 | 495 „ „ „ |

Каб стварыць у індыйскай буржуазіі ілюзію нацыянальнага самавызначэньня, стала практыкавацца брытанцамі перанясеньне номінальнага цэнтру ангельскіх кампаній, якія працуюць у Індыі, з Лёндону ў Калькуту, Бомбэй, Бэнарэс, набываньне імі „нацыянальнага знадворнага выгляду“. З гэтаю-ж мэтаю ў апошнія часы адбываецца зьліцьцё брытанскіх прадпрыемстваў з індыйскімі (з гегемоніяй, зразумела, брытанцаў) Яскравы прыклад—што нядаўна адбылося, аб'яднаньне індыйскай фірмы Тара з „Бэнгальскай жалезна-стальною кампаніяй“—прадпрыемствам брытанскім.

[1]) Гл. „Полымя“ № 4 за 1925 год.
[2]) Рупія—66 кап.

Нарэшце, завяршэньне гэтае новае тактыкі ангельскага імпэрыялізму ў Індыі. Яно выказалася ў сыстэме дыархіі [1]), і, як прызнаюцца кіруючыя ангельскія палітыкі, можа нават абярнуць Індыю ў дамініён: імпэрыялістыя ўпэўнены, што контроль Брытаніі над Індыяй ад гэтага ніяк ня зьменшыцца, а нацыянальна-вызваленчы рух, страціўшы тубыльную буржуазію, якая была ў яго шэрагах, ужо вялікае пагрозы для Англіі мець ня будзе.

Пасьля сказанага няцяжка зразумець зрушэньне ў палітыцы ангельскага імпэрыялізму ў Індыі, якое адбылося непасрэдна пасьля вайны. Яно—у трэзвым падрахунку з боку ангельцаў тае акалічнасьці, што індыйская буржуазія, пастаўленая паміж двох агнёў—уласнымі працоўнымі масамі і брытанскім імпэрыялізмам—выбярэ лепей саюз з апошнім супроць першага.

Цікава для характарыстыкі ангельскага імпэрыялізму толькі тая акалічнасьць, што з уступкамі тубыльнай індыйскай буржуазіі, з мэтаю схіліць яе на свой бок, ангельцы не дачакаліся нават моманту шырокага масавага разьвіцьця нацыянальна-вызваленчага руху ў Індыі — яны на іх пайшлі пры першых яго выбухах і гэтым у значнай меры паралюшавалі шырокі размах індыйскай рэволюцыі ў першы яе пэрыод (гады непасрэдна пасьля вайны).

III

Цяпер—аб учора нацыянальна-вызваленчага руху ў Індыі. У ім трэба адрозьніваць два пэрыоды.

Першы пэрыод руху да 1919 г.; ён ахапіў невялікае параўнаўча кола насяленьня—пераважна асоб вольных профэсій; шырокія-ж пласты рабочых і сялян тады яшчэ не прачнуліся.

Мэтоды барацьбы гэтага пэрыоду—бойкот, досыць часта таксама тэрорыстычныя акты—яскравы паказальнік таго, што рух яшчэ ня вышаў за межы сярэдняе клясы і не ахапіў масы працоўнага насяленьня.

Бойкот, як мэтод барацьбы,—доказ, што барацьба вядзецца за інтарэсы тубыльнай буржуазіі.

Паваротны момант у руху—крызіс 1919-1922 г. г., які парадзіў масавы вызваленчы рух,—рух, які мае поўнае права кваліфікавацца, як рэволюцыя. У гэтым руху выдатную ролю адыграў Махатмы Гандзі [2]).

Вельмі сваясаблівы шлях, на які імкнуўся накіраваць і на некаторы час накіраваў рух гэты правадыр,—шлях нонкоопэрэйшэн (антысупрацоўніцтва). Няправільна разглядаць „нонкоопэрэйшэн“, як філёзофію пасыўнасьці, непраціўленьня злу. Вось што кажа аб сваім вучэньні сам Гандзі:

[1]) Дыархія—сыстэма падвойнага кіраўніцтва: падзел дзяржаўных функцый паміж міністрамі, якія прызначаюцца брытанскім урадам, і міністрамі, якія абіраюцца прадстаўнічымі органамі.

[2]) Падрабязна аб гандзізьме—у паказаным артыкуле ў „Полымі“ № 4 за 1925 год.

„Нонкоопэрэйшары вядуць вайну супроць ураду. Мы хочам скінуць урад і прымусіць яго падпарадкавацца народнай волі. Мы прымусім чалавецтва зьдзівіцца нашаму руху таксама, як яно зьдзівілася руху ў Паўднёвай Афрыцы і Ірляндыі, з тэю толькі розьніцаю, што мы хутчэй пральлем сваю кроў, як кроў нашых супраціўнікаў. Гэта ёсьць змаганьне да канца“.

І далей, у тым-жа дакуманце („Маніфэст у сьнежні 1921 году“):

„Я—чалавек міру, але ня міру любою цаною, а толькі такога міру, які дасьць нам магчымасьць стаць вольнымі людзьмі“.

Няцяжка дагадацца з гэтых цытат, што мова Гандзі ў гэтыя дні—мова закліку да шырокіх мас, праўда, закліку не да дзеяньня, а да пасыўнага ўзьдзеяньня.

Рух на ўздыме, „хортал“ [1]) з захапленьнем праводзіцца мільёнымі індыйскімі масамі, ахмедабадзкі конгрэс 1921 году надае Гандзі дыктатарскія ўпоўнаважаньні для выкананьня програмы масавага грамадзянскага непаслушэнства.

І раптам правал руху ў лютым 1922 году—правал не таму, што масы слабыя, што яны адышлі перад больш сільнымі супраціўнікамі ў асобе брытанскага імпэрыялізму: адступленьне пачынаюць правадыры, пачынае Ўсеіндыйскі Конгрэс—выказчык не надзей мас прыгнечанай Індыі, а тубыльнай буржуазнай верхавінкі яе, якая спалохалася падзей у Чаура і Барэйлі [2]), якая спалохалася надзвычайнага размаху, які набыў рух.

Вось некалькі характэрных вытрымак з рэзолюцыі Камітэту Конгрэсу ў Бардолі, вынесенай непасрэдна пасьля вышэйпаданых падзей [3]):

„§ 2. З прычыны таго, што гвалтоўныя выступленьні адбываюцца ўсякі раз, калі абвяшчаецца масавае грамадзянскае непаслушэнства, што сьведчыць аб невыстарчаючай падрыхтаванасьці краіны к негвалтоўнасьці, Выканаўчы Камітэт Конгрэсу пастанаўляе *спыніць масавае грамадзянскае непаслушэнства і прапануе мясцовым камітэтам Конгрэсу радзіць земляробам плаціць зямельныя падаткі і ўсе іншыя дзяржаўныя падаткі і спыніць усякую іншую дзейнасьць наступальнага „характару“*.

„§ 3. Спыненьне масавага грамадзянскага непаслушэнства будзе прадаўжацца да таго часу, пакуль *атмосфэра стане досыць негвалтоўнай* для таго, каб забясьпечыць немагчымасьць паўтарэньня такіх жорсткасьцяй, якія мелі месца ў горадзе Гаракпуры, або такога хуліганства, якое мела месца ў Бомбэі і Мадрасе 17 лістапада і 13 студзеня [4]).

---

[1]) Хортал—індыйская назва антысупрацоўніцтва.

[2]) Чауры-Чаура—станцыя ў Цэнтральнай Індыі, на якую напалі сяляне. 22 паліцэйскіх у часе гэтага нападу было забіта. Барэйлі—акруга, у якой таксама адбылася крывавая сутычка паміж сялянамі і паліцыяй.

[3]) Цытуем па кніжцы Датт—„Вопросы индийской революции“.

[4]) Гутарка ідзе аб сутычцы паміж сялянамі і паліцыяй.

„§ 4. Усе дэмонстрацыі дабравольцаў і адкрытыя мітынгі для выказваньня недавер'я ўладам павінны быць спынены“.

„§ 6. Выканаўчы Камітэт запэўняе зэміндораў, што рух Конгрэсу ні ў якім разе не намерваўся мець прэтэнзію на іх (зэміндораў, г. зн. памешчыкаў) *законныя правы*, і Камітэт жадае, каб нават у тых выпадках, калі райоты (сяляне) маюць прэтэнзіі, задаваленьне дасягалася-б узаемнымі згодамі і арбітражам“.

Комэнтарыі амаль залішні. З гэтых радкоў вельмі ясна відаць, што індыйская буржуазія ня зусім задаволена ўступкамі, зробленымі ёй ангельскім імпэрыялізмам. Яна ня супроць таго, каб дамагчыся большага, абапіраючыся на актыўнасьць, якая вырасла, мільённых працоўных мас краіны.

Але масы ня слухаюцца, масы „бунтуюць“. Яны „хочуць заўладаць сьвяшчэннаю ўласнасьцю зэміндораў“. Яны (о, жудасьць!) не далі сябе расстрэльваць, як цялят, і дзесьці асьмеліліся падняць руку на паліцэйскіх! Яны, чаго добрага, на заўтра пасьля выгнаньня ангельцаў з Індыі, яшчэ падымуць руку і на сваіх сягонешніх саюзьнікаў—буржуа! Не— гэта штука небясьпечная. Лепей няхай з ангельцамі. Так спакайней. І адгэтуль 3 рэзолюцыі Конгрэсу, адгэтуль уся яго тактычная лінія, тактычная лінія здраднікаў-„правадыроў“.

Рух у 1922 г. часова ўдалося зламаць дзякуючы здрадніцкай позыцыі Конгрэсу. Масы засталіся без правадыроў. Імпэрыялізм пачаў жорсткую расправу з рэволюцыяй. Арыштавалі Гандзі, кінулі ў астрогі дзесяткі тысяч адважных нацыянальных барацьбітоў. Рух зламалі, таму што Конгрэс здрадзіў яму, у рашучую мінуту—налажыў з клясавых, буржуазных меркаваньняў сваё veto на актыўнасьць мас. Рух зламалі, бо нават найбольш популярны з правадыроў яго—Гандзі ня меў сілы парваць з буржуазнай ідэолёгіяй, якая стала і яго ідэолёгіяй. Гандзі не разумеў ролі пролетарыяту ў вызваленчай барацьбе. „Небясьпечна скарыстоўваць фабрычны пролетарыят“—выказаўся неяк Гандзі.

А калі масы сталі рашуча змагацца з імпэрыялістымі, Гандзі „палічыў сябе адказным за кроў“, сам папрасіў уладу арыштаваць яго і судзіць.

Пасьля таго, як гандзізм сходзіць са сцэны індыйскага вызваленчага руху, месца яго займае свараджызм*).

У момант свайго ўзьнікненьня свараджызм—спроба злучыць надзеі рабоча-сялянскіх мас з надзеямі тубыльнай буржуазіі. Моманты, якія высоўваліся спачатку свараджыстымі ў іх барацьбе з гандызмам, нават пераважна радыкальныя: папершае, дамагчыся свараджа для 98 проц., а не для 2 проц.; варожасьць да буржуазіі; канечная патрэбнасьць організацыі сялянства. Другі момант—адмаўленьне ад гандыцкага прынцыпу пасыўнасьці, прызнаньне канечнай патрэбнасьці політыкі дзеяньня. Пачатак,

*) Свараджызм—свой урад, свая ўлада.

як быццам, добры: програма, як нельга болей, адпавядае надзеям шырокіх прыгнечаных мас Індыі, і таму зусім зразумела, чаму Дас, правадыр новай партыі, становіцца пасьля арышту Гандзі самаю популярнаю фігураю індыйскага вызваленчага руху. Але адна справа—програма, другая справа—конкрэтная рачаіснасьць. Здавалася-б, натуральны вывад з програмы свараджа: раздзьмухваць, усяляк падтрымліваючы і заахвочваючы, масавы вызваленчы рух, стоячы сапраўды на чале яго.

Нічога падобнага на справе мы не назіраем. Пачаўшы з агітацыі парляманцкай обструкцыі (гэта замест рэволюцыі-то!), партыя сварадж паступова перакідваецца на бок буржуазіі, і ў красавіку 1925 г. канчаткова пераходзіць у яе лягер: у гэтым месяцы Дас выдае маніфэст, у якім абвяшчае ўмовы, на якіх яго партыя згодна адмовіцца ад супроцьурадавай агітацыі... і прыняць урадовыя пасады.

Для свараджызму надыходзіць, стала быць, лёс гандзізму. Як і апошні, свараджызм прабуе, але ў першыя часы бяз посьпеху, стаць на чале нацыянальна-вызваленчага руху, але, як дробна-буржуазны па сваёй прыродзе, ён паступова ліняе, легалізуецца, усё больш траціць сваё рэволюцыйнае нутро.

І прычына краху свараджызму, па існасьці, тая-ж, што і гандізму—капітуляцыя буржуазіі, аб якой мы гаварылі ўжо вышэй.

IV

Такім чынам, у цяперашні час у Індыі становішча ўяўляецца прыкладна так: з аднаго боку—факт адыходу ад рэволюцыі буржуазіі, якая спалохалася, што рух перарасьце жаданыя для яе рамкі; з другога боку—масы ў Індыі так палітычна вырасьлі за апошнія дзесяцілецьці, так самавызначыліся, што ўжо ніякая здрада конгрэсыстых, гандыстых, свараджыстых вызваленчага руху ў Індыі не зьвядуць на нішто.

Асноўныя рухаючыя сілы індыйскай рэволюцыі, якая знаходзіцца зараз у фазе накапленьня сіл для рашучага адначасовага ўдару і па імпэрыялізьме і па здрадзіўшай найбольш багатай частцы ўласнай буржуазіі,—гэта рабочая кляса і сялянства трохсотмільённай краіны.

Асноўная вага гэтых кляс?

Паводле заяўленьня лорда Чэмбэрлена ў 1922 годзе, у Індыі 20 мільёнаў прамысловага насяленьня, якое жыве на заработную плату. Умовы, у якіх гэтыя *20 мільёнаў* працуюць—з ліку найгоршых у сьвеце. Апошні фабрычны закон устанавіў у Індыі 60-гадзінны працоўны тыдзень, але фактычна рабочы заняты ня менш 12-13 гадзін у дзень.

Вельмі шырока ўжываецца ў вытворчасьці жаночая і дзіцячая праца. Даклад горнага інспэктара ў 1921 г. адзначыў ужываньне ў капальнях працы 9.949 жанчын і 8.548 дзяцей маладзей 12-ці год. У джутовай прамысловасьці з 319 тысяч рабочых на 76-ці фабрыках—50 тысяч жанчын і 29 тысяч дзяцей. Зарплата-ж самая нізкая: у 1922 годзе бэнгальскі шахцёр атрымліваў 12 анна (48 кап.) у дзень, асамскі рабочы на плян-

тацыях—4 анна (16 кап.), бомбэйскі кваліфікаваны рабочы—ад 12 анна да 1 рупіі 8 анна ў дзень (48—96 кап.).

Якасьць харчу індыйскага рабочага ніжэй якасьці астрожнага харчу, яго колькасьць—менш астрожнага пайка.

Паводле даных агляду ўмоў жыцьця рабочых у Бомбэі, 97 проц. сем'яў рабочых жывуць у адным пакоі, 47 проц. рабочых абцяжараны завінавачанасьцю.

І гэта ў той час, калі чысты прыбытак бомбэйскіх фабрык склаў у 1921 годзе 63 проц. Даныя аб 41 джутовай фабрыцы паказваюць, што на капітал у 6.140 тыс. ф. стэр. за 4 гады (з 1918 па 1921 г.) быў выплачаны дывідэнт у 22.900.000 ф. ст.!

Такое становішча ў Індыі рабочае клясы.

Ня лепш—нават значна горай—становішча індыйскага сялянства.

Статыстычныя даныя аб індыйскім сялянстве вось якія:

| | | |
|---|---|---|
| усяго жыве з зямлі . . . | 221 | міл. чал. |
| з іх памешчыкаў . . . | 9,9 | „ „ |
| безьзямельных з сем'ямі . | 37,8 | „ „ |
| дробных зямляўласьнікаў і сялян. | 173 | „ „ |

Дык вось—210 мільёнаў сялян і безьзямельных батракоў.

Лічба—аж занадта вялікая.

Сярэдні надзел зямляроба ў Англіі і Уэльсе—21 акр, у Амэрыцы Аргентыне і Паўднёвай Афрыцы—да 460 акраў, у Індыі ўсюды менш 5 акраў.

А між тым вольнай зямлі ў Індыі надзвычайна многа. Для ілюстрацыі прыводзім табліцу*):

| Апрацованая зямля | | Неапрацованая зямля | |
|---|---|---|---|
| Пад засевам . . | 223,1 міл. акр. | Лесу . . . . . | 85,4 міл. акр. |
| „ папарам . . | 54,5 „ „ | Няўжыткаў . . . | 153,1 „ „ |

Годнае для апрацоўкі 151,2 міл. акр.

Спыняцца больш на становішчы індыйскага сялянства ня прыходзіцца—кожны з нас у элемэнтарным падручніку географіі бачыў жывыя шкілеты індыйскіх галадаючых сялян.

Яшчэ адна рыса характарыстыкі становішча працоўных мас Індыі—сыстэма падатковага абкладаньня.

Яна ў Індыі пераважна ўскосная: простыя падаткі складалі ў Індыі ў 1923-24 г. г. толькі 10 проц. (у Англіі ў тым-жа годзе гэтыя налогі складалі 54 проц.). Гэта значыць, што заможныя амаль ня знаюць абкладаньня ў Індыі,—увесь цяжар падаткаў кладзецца на плечы рабочых і сялян краіны. Наступная табліца падатковых прыбыткаў ураду ў 1923 г. пацьвердзіць нашу думку:

*) Табліца ўзята з кніжкі Датт—„Вопросы индийской революции".

| | | Кроры (крор=10 міл.) рупій. |
|---|---|---|
| Ускосныя падаткі | . . . | 91— 63 проц. |
| Зямельныя „ | . . . | 36— 24 „ |
| Простыя „ | . . . | 18—130 „ |

Для паўнаты карціны яшчэ некалькі лічбаў.

Сярэдні век індуса—22 гады, у ангельца—51 год; прадоўжнасьць жыцьця ў Індыі ў 1911 годзе ніжэй, паводле даных перапісу гэтага году, чым у 1891 годзе; сьмяротнасьць сярод дзяцей у Індыі дасягае 206 на тысячу пры 91 на тысячу ў Англіі (у Бомбэі ў 1921 годзе гэта лічба складала 667 на тысячу); даклад мэдыцынскага інспэктара ў 1921 годзе сьведчыць, што ў бомбэйскіх аднапакаёвых хатах 13 проц. мела звыш 10 жыльцоў і 73 проц. рабочых дзяцей радзілася ў гэтых памяшканьнях; ад пошасьці інфлуэнцыі ў Індыі ў 1918-19 г.г. памёрла 12 міл. чалавек,— больш, як забіта за 4 гады імпэрыялістычнай вайны.

Вось—база заўтрашняга дня індыйскай рэволюцыі. 20 мільёнаў рабочых і, прыкладна, у пяць раз большы лік сялян, якія ненавідзяць імпэрыялістых, памешчыкаў, буржуазію, якія зьбіраюцца з сіламі для ўдару па сваіх прыгняталькіках.

Няхай радасна паціраe рукі брытанскі імпэрыялізм ад зданьнёвай удачы свайго дыплёматычнага ходу ў адносінах да індыйскай буржуазіі,— зараз, пасьля правалу гандзізму і сварджызму ў Індыі як-быццам спакойна; але гэта зацішша перад бураю. На зьмену Дасу, на зьмену Гандзі ідуць новыя правадыры руху, руху сялянска-пролетарскага. Гэта—левае крыло конгрэсыстых, гэта—пакуль што яшчэ нешматлікія комуністыя Індыі.

Паволі і ўпарта будуюць яны „будучую народную партыю“ Індыі (як выразіўся таленавіты дасьледца Індыі Датта), паволі рыхтуюць масы, самыя абяздоленыя ў сьвеце масы рабочых і сялян Індыі, для рашучай бойкі з ангельскім імпэрыялізмам і тубыльнымі капіталістымі.

Гэта бойка недалёка, гэтае бойкі не прыпыняць і не замацуюць ніякія рэзолюцыі Індыйскага Конгрэсу.

У заключэньне маленькі, але надзвычайна выдатны па свайму зьместу факт: сярод дэсантных войск Англіі ў Кітаі былі індусы, але з нейкіх таемных прычын ангельцы пасьпяшыліся вывезьці іх з Шанхаю.

Якія-б гэта былі прычыны?

# ВЫНІКНЕНЬНЕ І ЗЬМЕНЫ ОРГАНІЗАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ ПАЎСТАНЬНЯ 1863 ГОДУ НА БЕЛАРУСІ *)

У. Ігнатоўскі

Канец 50 і пачатак 60 гадоў вызначыўся рэволюцыйным пад'ёмам у Расіі. Пачалі хутка організоўвацца і ўзрастаць рэволюцыйныя гурткі. Асабліва многа было іх у Пецярбурзе. З іх быў асабліва моцным гурток у Акадэміі Генэральнага Штабу, які меў нават сваю падпольную друкарню. Каля гэтага гуртка было шмат іншых гурткоў, між іншым, гурток афіцэраў і студэнтаў палякоў, каторы існаваў з восені 1859 году. З гуртком зьвязаны і палякі служачыя ў размаітых установах Пецярбургу, сярод іх галоўную ролю йграе Езафат Агрызка. Гурток зьбіраецца ў кватэры, якую займаюць афіцэры—Яраслаў Дамброўскі, Гейдэнрайх, Вараскі і Станевіч. Удзельнікі гуртка зьбіраюцца штотыдзень па серадох. Апрача агульна-рэволюцыйных твораў у гуртку чытаюць польскія патрыотычныя газэты, адозвы і г. д. Пасьля першых маніфэстацый у Польшчы дзейнасьць гурткоў ажыўляецца. Пачынаюцца зносіны з Варшавай, Вільняй і нават з заграніцай. Зносіны вядуцца праз Агрызку, каторы мае магчымасьць езьдзіць па справах сваёй офіцыяльнай пасады. Яшчэ ўлетку 1861 году Агрызка прыяжджае на некалькі дзён у Вільню, дзе ён інформуецца аб руху ў сваіх знаёмых і таварышоў. У сакавіку 1826 году Агрызка выяжджаў на нейкую нараду ў Пазнань. Едучы назад, Агрызка зноў заехаў у Вільню, дзе ён бачыўся з сябрамі ўжо зараджаючагася Віленскага камітэту, Зьвірждоўскім і Далеўскім. У верасьні 1862 году Агрызка быў у Варшаве і Вільні. У сьнежні 1861 году едзе ў Варшаву для азнаямленьня з рухам член гуртка Я. Дамброўскі. Вясною 1862 году. Дамброўскі канчае Акадэмію Генэральнага Штабу і дабіваецца назначэньня на пасаду ад'ютанта шостай дывізіі пяхоты, якая стаяла ў Варшаве. З гэтага часу Дамброўскі прымае чынны ўдзел у паўстаньні, і ў часы Парыскай Комуны робіцца яе генэралам.

Зразумела, што Цэнтральны Камітэт у Варшаве зьвяртаў вялікую ўвагу на Пецярбурскую польскую організацыю. З пачаткам паўстаньня зносіны паміж Варшаваю і Пецярбургам былі акуратна пастаўлены. У пачатку лютага 1863 г. Агрызка атрымаў з Варшавы номінацыю на пасаду

*) Гл. „Полымя" № 3.

галоўнага агента Цэнтральнага Камітэту Жонду ў Пецярбурзе, а організацыя была прызнана замежным Аддзелам Жонду. Яму было дана заданьне абслугоўваць паўстаньне на Беларусі людзьмі, зброяю, грашыма і г. д.

Зносіны белага Віленскага Аддзелу з Пецярбурскім Аддзелам былі наладжаны. У сакавіку прыехаў з Пецярбургу выдатны член Пяцярбурскага Аддзелу вядомы Серакоўскі. Ён апрацаваў плян паўстаньня на Беларусі, і на працягу двух месяцаў ішла рэалізацыя гэтага пляну. Скончылася яна няўдачна. Аднэю з прычын гэтай няўдачы было кіраўніцтва паўстаньнем белага Аддзелу, каторы апіраўся на шляхту і не прыцягнуў да паўстаньня сялянства. Прыезд Муравьёва ў Вільню ў маі 1863 г. судзейнічаў гэтай няўдачы.

Правал пляну Серакоўскага быў правалам белага Віленскага Аддзелу. Шляхта зразумела, што на сцэну цяпер выступяць чырвоныя, каторыя мелі яшчэ моц і маглі ўцягнуць у паўстаньне рамесьнікаў і сялян. Белыя ўсё больш і больш палохаліся здані чырвонага „якабінскага“ паўстаньня і павінны былі паступова станавіцца на грунт законнасьці, парадку і абароны сьвятой уласнасьці, у чым яны сходзіліся з самаўладным царскім урадам. Скомпромітаваўшы раней чырвоных паўстанцаў сваім кіраўніцтвам паўстаньнем перад працоўнымі масамі, яны цяпер паварочваюць у другі бок. Адны перад другімі, звальваючы ўсю віну на чырвоных, яны пачынаюць сьпяшацца паправіць сваю ранейшую абмылку і будуць пачкамі падаць да ног рускага царызму. Прычым яны не абмяжуюцца толькі гэтым. Яны будуць прагнуцца даносамі здрадзіць гэтым „пякельным дэмагогам“ і аддаць іх у рукі рускага ўраду. Заслуга Муравьёва перад царызмам у тым і заключалася, што ён організаваў на Беларусі моцны кулак і гэтым кулаком падганяў у карк паноў, каторыя і без таго ўжо гатовы быліісьці да ступеняў царскага трону.

Дзейнасьць белага Аддзелу з прыездам Муравьёва зусім замірае і аб ім нічога ня чуваць. Праўда, у чэрвені, пасьля расстрэлу ксяндза Ішоры, Віленскі Аддзел выдаў да жыхарства адозву, у каторай ён протэстуе супроць гэтай кары і называе Муравьёва крыважадным катам. На гэтым протэсьце, здаецца, дзейнасьць белага Аддзелу і скончылася, хоць у далейшыя часы ён мог-бы „протэставаць“ хоць кожны дзень, бо Муравьёў ня скупіўся на шыбеніцы і расстрэлы і даваў бязьмерны лік фактаў для протэсту. Толькі ўжо 2-га верасьня ён яшчэ раз выступіў з зусім няўдалым протэстам, аб якім мы будзем гаварыць ніжэй.

Замест паўстаньня белыя на Беларусі заняліся другою, больш карыснаю для іх справаю. Мы маем на ўвазе вядомыя дваранскія адрасы, каторых шмат пасыпалася ў генэрал-губарнатарскія палацы на імя царскага ўраду.

Справа пачалася з Віленскага адрасу. Магнатэрыя і шляхта Віленскай губэрні першаю прыступіла да пацалунку тэй рукі, каторая ў карак

гнала яе да ступеняў царскага трону. Праз жандарскага палкоўніка Павлова распачаліся перагаворы паміж Муравьёвым і губэрскім маршалкам шляхты Віленшчыны А. Дамэйкаю наконта падачы адрасу. Тут-жа круціўся пан віленскага маёнтку Сьнітка, каторы іграў ролю агента Дамэйкі сярод шляхты. Хутка да гэткай кампаніі далучылася фамілія графоў Плятэраў, брата каторых, Лявона Плятэра, Муравьёв расстраляў за ўдзел у паўстаньні каля Дзьвінску. З кожным днём лік жадаючых падпісацца пад вернападданіцкім адрасам узрастаў, як сьнежны ком. У дзень нараджэньня царыцы, 8-га жніўня, да Муравьёва ўжо зьявілася дэлегацыя з 15 шляхцічаў, на чале з шляхецкім маршалкам Дамэйкаю. Пры ўрачыстых абставінах дэлегацыя падала Муравьёву адрас для перадачы цару. Пад адрасам было 235 подпісаў вядомых беларускіх магнатаў і шляхцічаў. Цікава тое, што член Віленскага белага Аддзелу, адзін з павятовых маршалкаў Віленшчыны, Антон Ельскі протэставаў ня супроць самае падачы адрасу, а супроць яго падхалімскага тону. У адзнаку такога протэсту ён падаў адрас ад сябе самога. Зьмест гэтага адрасу не спадабаўся Муравьёву, і Ельскі быў заарыштаваны.

У сувязі з адрасам, 2 верасьня, зьявіўся дэкрэт Літоўскага Аддзелу, член каторага таксама падаў адрас. Дэкрэт зазначае, што адрас шляхты быў вымушаны Муравьёвым, а ня быў добраахвотным; што ён ёсьць простая комэдыя, якую рускі ўрад разыграў для Эўропы і якая ня мае ніякага значэньня. Далей дэкрэт абвяшчае, што і ініцыятары адрасу будуць пакараны. Адначасна Аддзел пачаў друкаваць у замежным друку протэсты асобных паветаў Віленшчыны проці падачы адрасу. Агульны лік подпісаў пад гэтымі протэстамі быў даведзены да 250 тысяч, што зусім выдае іх фіктыўнасьць.

Ня гледзячы на дэкрэт, шляхецтва паасобных губэрань Беларусі і Літвы сьпяшаецца адно перад другім выявіць свае вернападданіцкія пачуцьці рускаму ўраду падачаю адрасоў. Пасьля віленскага дваранства ў канцы жніўня зьяўляецца да Муравьёва з адрасам дэлегацыя ад ковенскага дваранства. Пад адрасам стаіць ужо 500 шляхецкіх подпісаў. У канцы верасьня падносіць Муравьёву адрас шляхецтва Горадзенскай губэрні. Пад адрасам мы налічваем ужо 1600 панскіх подпісаў. У кастрычніку сьпяшаецца з вернападданіцкім адрасам і менская шляхта. Яна пабівае рэкорд як „гжэчнасьцю“ падхалімскага тону, так і вялікім лікам подпісаў. Пад адрасам менскай шляхты мы налічваем ужо 2.700 подпісаў. Спазьнілася крыху віцебская і магілеўская шляхта, каторая падала свае вернападданіцкія адрасы апошняй. Гомельская шляхта падала свой адрас асобна ад магілеўскай.

Каб мець магчымасьць азнаёміцца са зьместам, тонам і формаю шляхецкіх адрасоў, мы прывядзем тут самы тыповы з адрасоў, адрас шляхты Менскай губэрні.

„Всеавгустейший Монарх! На последнем съезде в г. Минске дворян для выборов в ноябре минувшего года многие из нашей среды, увлеченные возникшими в Царстве Польском смутами и под влиянием превратных идей, распространенных на Западе врагами и завистниками могущества Российской Империи, возмечтали о возможности отчуждения от Империи Западных наших губерний и присоединении их к Царству Польскому, некогда над ними господствовавшему. В числе этих дворян было не мало таких, которые в глубине души не разделяли вовсе сих безрассудных и незбыточных мечтаний, но увлеклись общим порывом и бессознательно последовали за другими. Вина большей части заключалась в слабости и легкомыслии. Но это дерзновенное заявление навлекло на нас справедливый гнев твой, Великий Монарх, и отразилось в целой России отголоском общего чувства негодования. Печальные события, совершившиеся с того времени, совершенно рассеяли наши заблуждения. Мы убедились еще одним, столь горьким для нас опытом, в ничтожности пустых надежд, опровергающихся положительно самою историей и статистическими очевидными доводами. Мы все теперь проникнуты глубоким убеждением и сознанием чистосердечно, что будущие судьбы наши неразрывно и навсегда должны быть связаны с судьбами великой и могущественной Российской Империи, нашим общим истинным отечеством. Дозволь-же нам, Всеавгустейший Государь, по твоему неисчерпаемому благодушию сложить к стопам твоим чувства чистосердечного, глубокого нашего раскаяния и всеподданнейше просить тебя предать забвению всё прошлое, простить наши заблуждения и снова принять нас в число прочих твоих верноподданных, наслаждающихся под благотворным управлением твоим плодами столь многочисленных мудрых реформ. С чувством глубочайшей и неизменной отныне и навсегда преданности к престолу и любви к тебе, Всеавгустейший Монарх, пребываем твоими верноподданными“.

Што датычыць Цэнтральнага Камітэту Жонду, каторы 10-V-1863 г. абвясьціў сябе сталым Народным Жондам Польшчы, то там з пачатку паўстаньня перавагу ўзялі ўмеркаваныя элемэнты. Чырвоныя не здаволены гэтым жондам, як у Польшчы, так і замежамі. Мераслаўскі адзываецца аб Жондзе так: Жонд ёсьць кампанія, якая складаецца з нікчэмнага Гілера, езуіціка Рупрэхта і трох балваноў, каторыя, дзякуючы браку ў іх мазгоў, вызвалены ад усякай гістарычнай адпаведнасьці. У пачатку чэрвеня чырвоным удалося зрабіць пераварот і захапіць Жонд у свае рукі, але гэты так званы чэрвеньскі жонд праіснаваў толькі няпоўны адзін месяц. Яго зьмяніў жонд, на чале каторага стаў Маеўскі. Маеўскі, сам будучы белым, утварыў па яго словам „коаліцыйны“ жонд, каторы па сутнасьці быў белым, бо ад ускрайніх чырвоных там быў толькі Кжэмінскі, каторы таксама хутка пабялеў. Гэты жонд існаваў да сярэдзіны верасьня, калі чырво-

ным зноў удалося захапіць на месяц уладу. Спатканыя саботажам з боку паўстанцкіх урадоўцаў, што засталіся ад ранейшага жонду, яны павінны былі адыйсьці ад улады і кіраўніцтва паўстаньнем. Тады кіраўніцтва паўстаньнем пераходзіць у рукі дыктатара Траўгута. Гэта апошняя паўстанцкая ўлада ў Польшчы.

І на Беларусі апошняй паўстанцкай уладай была дыктатура Каліноўскага. Пасьля прыезду Муравьёва белы Віленскі Аддзел пакінуў поле бойкі, а тыя шляхецкія элемэнты, на каторых ён апіраўся, пачалі здавацца і ісьці на паклон да царскага трону. На зьмену яму зноў прыходзяць чырвоныя, на чале каторых становіцца Кастусь Каліноўскі, як чырвоны дыктатар. Камісар Цэнтральнага Жонду Дзю-Лёран пакінуў Вільню і даў знаць у Варшаве аб захопе ўлады Каліноўскім, каторы абвясьціў сябе дыктатарам Літвы-Беларусі, незалежным ад Варшаўскага Народнага Жонду. Гэта было ў той час, калі на чале Жонду стаяў Маеўскі. Жонд ухваліў, каб для ўстанаўленьня сувязі з Каліноўскім у Вільню быў накірован спэцыяльны ўпаўнаважаны Жонду. У Вільню ўзяўся паехаць для гэтай мэты па сваёй добрай волі нейкі Лявон Главацкі. Калі Главацкі зьявіўся ў Вільню, то абставіны падпольнай працы на Беларусі і тэрор вешальніка Муравьёва зрабілі на яго такое ўражаньне, што ён за два дні свайго пабыту ў Вільні так захварэў нэрвова, што яго хвароба межавалася з вар'яцтвам. З вялікімі труднасьцямі ўдалося гэтага ўпаўнаважанага пераправіць назад у Варшаву, дзе ён яшчэ доўга і цяжка хварэў. Выходзіла, што тэрор у Варшаве параўнаўча з тэрорам на Беларусі быў зусім слабым.

Пасьля гэтай няўдачы вызваўся ехаць на Беларусь Аскар Авэйдэ, каторы быў членам Жонду для абслугоўваньня Літвы-Беларусі і Украіны. Жонд даў яму належныя паўнамоцтвы. Авэйдэ прыехаў у Вільню ў першых днёх жніўня па добра зробленаму пашпарту на імя гандлёвага агента Шміда. Пашпарт скрываў яго польскую нацыянальнасьць нямецкай фаміліяй, тым больш, што Авэйдэ-Шмід добра ўладаў нямецкаю моваю. Каб яшчэ больш замясьці сьляды, у падпольнай польскай газэце „Z pola walki“ было надрукована, што Авэйдэ загінуў у аднэй са спатычак, і быў урачыста зьмешчан яго нэкролёг.

Авэйдэ знайшоў у Вільні нявымоўна цяжкае становішча. Мураўёўскі тэрор пустошыў шэрагі паўстанцаў. Зносіны з Варшавай, дзякуючы моцнаму нагляду паліцыі, былі амаль што зусім немагчымы. Кіраўніцтва паўстаньнем ужо трымалі ў сваіх руках чырвоныя. Грошай у касе было зусім мала, каля 6.000 рублёў. Каліноўскі і яго таварышы маглі існаваць толькі таму, што па некалькі разоў у тыдзень мянялі свае прозьвішчы і кватэры. Шмат энэргіі і працы прыходзілася траціць на сваё самазахаваньне, што, зразумела, затрудняла агульна-паўстанцкае кіраўніцтва і дзейнасьць.

Усе стараньні Авэйдэ, каб падпарадкаваць Каліноўскага і яго ўрад кіраўніцтву Варшаўскага жонду, канчаліся непасьпехам, што зразумела, калі прыняць пад увагу белую афарбоўку Варшаўскага жонду Маеўскага і чырвоны кірунак ураду Каліноўскага. Каліноўскі і яго таварышы стаялі пры сваёй старай думцы аб Варшаве. Яны лічылі, што Літва-Беларусь павінны мець самастойнасьць у дзейнасьці і незалежнасьць ад Польшчы. Бачыцца з Каліноўскім было вельмі цяжка, бо ў Вільні старанна жандармэрыя сачыла за жыхарствам. Найчасьцей ім удавалася спатыкацца на лютаранскіх могілках, дзе яны і вялі свае размовы.

Пшыбароўскі ў сваім творы „Dzieje 1863 г.“ гаворыць, што Каліноўскі ўрэшце ўступіў і згадзіўся на назву свайго ўраду Аддзелам Варшаўскага Жонду, каторы меў існаваць як-бы пад найвышэйшай уладай Народнага Варшаўскага Жонду, але наогул зьберагаў сабе вельмі шырокую аўтономію. Аддзел гэты меў складацца з Кастуся Каліноўскага, яго брата Юзэфа Каліноўскага, каторы быў інжынэрным афіцэрам рускай арміі, Міловіча, ураджэнца Горадзеншчыны, і самога Авэйдэ. Калі нават лічыць, што такая ўмова адбылася і што яна выконвалася, то ясна, што словы „як-бы пад найвышэйшай уладай“ зьмяншаюць залежнасьць ад гэтай найвышэйшай улады, тым больш, што далей гаворыцца аб „вельмі шырокай аўтономіі“. Усе даныя гавораць аб тым, што Каліноўскі ў далейшы час працаваў незалежна ад Варшавы. Жонд Маеўскага, каторы пасылаў Авэйдэ, хутка зышоў з арэны бою. Новы чырвоны жонд, каторы зьмяніў сабою жонд Маеўскага, існаваў нядоўга, ня меў апарату і нікога не пасылаў на Беларусь. Нікога не пасылаў на Беларсь і Траўгут. Праўда, у яго быў намер організаваць на Беларусі пяты корпус паўстанцкай арміі пад начальствам Ябланоўскага, але гэты намер ня быў зьдзейсьнены. Далейшы лёс Авэйдэ і яго паводзіны таксама не давалі Каліноўскаму магчымасьці рэалізаваць размову і ўмову з Авэйдэ. Наадварот, Каліноўскаму і яго таварышом трэба было замятаць сьляды сваіх зносін з Авэйдэ, каторы зрабіўся здраднікам.

А далейшы лёс Авэйдэ быў вельмі неспадзяваны. Пасьля размовы з Каліноўскім ён парашыў выехаць да Варшавы, лічачы сваю місію скончанаю. Калі ён чакаў цягніка на станцыі ў Вільні, яго па якомусь зусім нязначнаму выпадку заарыштавалі і пасадзілі ў турму. Тут на першы час таксама ўсё складалася добра. Ён даводзіў, што па сваёй нацыянальнасьці ён немец і па занятках купец, што ён прыехаў у Вільню па сваіх гандлёвых справах. Чыстая нямецкая мова і веды ў галіне гандлю зрабілі ўражаньне, і яму ўдалося добра давесьці, што ён ня мае ніякіх адносін да паўстаньня. Усё складалася так, што яго з дня на дзень павінны былі выпусьціць з турмы. На няшчасьце, час ішоў, яго фарбаваныя валасы пачалі пакрысе адрастаць і прымаць звычайную натуральную афарбоўку. Зразумела, што гэта навяло жандараў на падазрэньне і за яго ўзяліся яшчэ раз. Пры паўторным допыце ён ужо ня змог давесьці, што

ён няўдзельны да паўстаньня. Калі яму сталі пагражаць шыбеніцаю, ён пачаў „гаварыць“, бо яму абяцалі памілаваньне, калі ён скажа пры допыце ўсю праўду. Свае паказаньні ён потым напісаў на адзінаццаці аркушах, пасьля чаго быў адпраўлены ў цытадэль у Варшаву. Тут ён ударыўся ў містыцызм, яшчэ раз ува ўсім сазнаўся перад сьледчаю камісіяй і зноў даў пісьменныя паказаньні. Паказаньні Авэйдэ былі надрукованы ў вельмі абмяжованым ліку экзэмпляраў рускаю жандармэрыяй для яе спэцыяльных мэт і на продаж ня выходзілі; цяпер гэтая кніжка зьяўляецца вялікаю бібліографічнаю рэдкасьцю. Гэтая здрада выратавала яму жыцьцё, і ён выехаў у выгнаньне ў Вятку, дзе памёр каля 1900 году.

З усёй гэтай гісторыі магчыма судзіць аб тым, як павінен быў Каліноўскі і яго таварышы адносіцца да сваіх размоў з гэтым поўнамоцным камісарам, каторы зрабіўся ў турме звычайным здраднікам.

Эпоха дыктатуры Каліноўскага зьяўляецца апошняю эпохаю паўстаньня. Дзякуючы таму, што гэтыя часы мала выўчаны, немагчыма даць іх поўную характарыстыку. Ня гледзячы на мураўёўскі рэжым і на тое, што на Беларусі сконцэнтравана для барацьбы з паўстаньнем многа войска, паўстаньне ўсё цягнецца. Паўстаньня ня можа нават спыніць наступіўшая зіма, каторая заўсёды спыняе партызанскія збройныя рухі. Бліжэйшымі супрацоўнікамі Кастуся Каліноўскага зьяўляюцца—Мячыслаў Дармаоўскі (ён-жа Людвік Сухадольскі), Ігнат Здановіч (па жандарскіх даных—Ждановіч), Малахоўскі і інш. Мячыслаў Дармаоўскі, ураджэнец прускага забору Польшчы, прыехаў на Беларусь яшчэ ў часы кіраваньня паўстаньнем белымі. Тады, як чырвоны, ён ролі ня йграў. За тое ва ўрадзе Каліноўскага ён разьвінуў шырока працу. Па жандарскіх даных на ім ляжала ўстанаўленьне сувязі з заграніцай, здабыча зброі для паўстанцкіх груп, загатоўка пашпартоў і, здаецца, тэхніка друку. Гэта быў чалавек вельмі высокіх асабістых якасьцяй: адданы рэволюцыі, цьвёрды, вытрыманы. Ён займаў вельмі адказную пасаду камісара Віленскай (сталічнай) губэрні, уключаючы сюды і места Вільню. Бліжэйшым яго таварышом па Вільні быў інжынэр-паручнік Малахоўскі, каторы займаў пасаду начальніка Вільні. Пад кіраўніцтвам Малахоўскага, апроч таго, была народная паліцыя і жандармэрыя. Праз жандармэрыю праводзіліся тэрорыстычныя акты. З такіх актаў трэба адзначыць, напрыклад, замах на губэрскага віленскага маршалка шляхты Дамэйкі, каторы адбыўся ў Вільні 11-га жніўня. Замах быў зроблены пад наглядам Малахоўскага мясцовымі і прыехаўшымі з Варшавы жандарамі-кінжальшчыкамі. Замах ня ўдаўся. Другім супрацоўнікам Каліноўскага быў Ігнат Здановіч, каторы быў таварышом Каліноўскага па унівэрсытэту. Ён скончыў Пецярбурскі унівэрсытэт з годнасьцю кандыдата праў. Ён загадваў фінансава-гаспадарчай часьцю паўстаньня. Гэта быў чалавек габінэтнай працы, маўклівы, на першы погляд няпрыметны, вельмі цьвёрдага характару

і надзвычайнай выносьлівасьці. Бязвыходна, дзень і ноч, сядзеў ён у сваім падпольным пакоіку за ўсякага роду выкладкамі, разрахункамі і г. д. Пакой быў спэцыяльна пабудаваны для падпольнай працы. Ён знаходзіўся на аднэй з глухіх вуліц Зарэчча, на заднім дварэ, за дрывамі, пры нейкім хляве. Столь была такая нізкая, што ў пакоі трудна было стаць на ногі. Маленькае ваконца, выходзіўшае на глухі бераг Вілейкі, амаль што не давала сьвету. Зносіны з знадворным сьветам Здановіч вёў праз двух-трох спэцыяльных агентаў, апроч каторых ніхто ў арганізацыі ня ведаў гэтай падпольнай кватэры. Апроч вышэйпамянёных асоб, у арганізацыі працавалі—Лянгер, каторы знаходзіўся на даручэньнях у Дарманоўскага, паручнік Франц Канаплянскі, каторы быў адным з агентаў ураду па зборы падаткаў і па зносінах з паўстанчымі групамі, Аржэшка, каторы быў памоцнікам Малахоўскага, непасрэдным начальнікам народнай паліцыі і інш.

Па краі, у лясох і балотах, хаваюцца паўстанцкія групы. З начальнікаў груп мы можам назваць Астрога, Віслауха, Любіча, Сабэка, Рушчыца, Урублеўскага, Кабылінскіх, Эйсмонта, Корсака, Анцыпу, Грыневіча, Будзіловіча і інш. Паўстанцкія групы складаюцца з невялікага ліку людзей (20-30 чалавек). Рэдка калі яны злучаюцца ў больш буйныя групы. Яны вельмі рухавыя, і рускія часьці ня могуць за імі ўгнацца.

Ідзе барацьба за селяніна паміж чырвоным паўстанцам і Муравьёвым. Скарыстаўшы ўдзел у паўстаньні шляхты, руская жандармэрыя пускае сярод сялянства провокацыйныя весткі аб тым, што паўстаньне было пакірована шляхтаю проці вызваленьня рускім урадам сялян. Жандармэрыя і Муравьёв выкарыстоўваюць соцыяльную процілегласьць паміж панам і селянінам на карысьць царызму. Муравьёв праводзіць цэлы шэраг зямельных мерапрыемстваў, каторыя робяць відзімасьць палягчэньняў сялянству, і ўцягвае сялянства ў барацьбу з паўстанцамі пры дапамозе ўсякага роду нагарод. Сваю тэорыю па агульна-політычным і сялянскім пытаньні на Беларусі ён выказвае ў двух сваіх лістох В. А. Доўгарукаму ад 8-II і 7-III 1864 году. Сутнасьць тэорыі такая: Калі мы працавалі над пытаньнем вызваленьня сялян у Расіі, то я меў на ўвазе не „мяцежны край“, а праваслаўную, верную свайму цару, Расію. Таму я быў праціўнікам сялянскай рэформы, каб не парваць старую сувязь паміж двума станамі—сялян і дваран-зямляўласьнікаў,—на якой пабудована моц і магутнасьць дзяржавы. Але тут, на Беларусі, справа іншая. Уся сіла, на якую можа аперціся тут урад, заключаецца ў вясковым жыхарстве, а таму для самай карысьці дзяржавы трэба разьяднаньне яго з зямляўласьнікамі польскага пахаджэньня. Галоўны клопат ураду тут павінен быць пакіраваны на зьністажэньне ўплыву паноў польскага пахаджэньня на сялян і забясьпечаньне іх зямельнымі надзеламі, зьністажэньнем чыншаў і аброкаў, аддачай тых вучасткаў, якія паны ў іх забралі, калі ішла праверка старых інвэнтароў. Мы павінны ісьці гэтым

шляхам, ня гледзячы на протэсты. Усякая іншая сыстэма кіраваньня будзе пагібельнай для нас і павядзе да таго, што мы рана ці позна павінны будзем пакінуць увесь край. Усё гэта выклікаецца на Беларусі абставінамі і ні ў якім спосабе ня можа быць прыстасавана да рускіх губэрань.

Тэрор, провокацыя, здрада рабілі сваю справу. Паўстаньне губіла сваю апору і замірала. Мёртвая пятля ўсё больш і больш абхапляла чырвоных. Ужо загінуў на шыбеніцы літоўскі правадыр паўстаньня А. Мацкевіч. У канцы 1863 году па даносу былі заарыштаваны бліжэйшыя памоцнікі Каліноўскага—Дарміноўскі і Здановіч. Разам з імі ў рукі паліцыі папала шмат папер і дакумэнтаў організацыі. Урад даведаўся, з якімі арыштаванымі ён мае справу. Пагрозамі, катаваньнямі і абяцанкамі прагнуўся ён дабіцца, каб арыштаваныя выдалі ўдзельнікаў. Ніякіх паказаньняў яны не далі. Спакойна, з глыбокаю вераю ў моц сваёй справы яны абодва загінулі на шыбеніцы ў сьнежні 1863 г. Хутка ўлада напала і на сьлед Малахоўскага. Каб па яго сьлядох сышчыкі не напалі на сьлед організацыі, Малахоўскі павінен быў вакольнымі шляхамі ўцячы ў Пецярбург, адкуль яму ўдалося выбрацца заграніцу.

Астаўся кіраваць справамі паўстаньня адзін Каліноўскі. Ён усё яшчэ спадзяваўся падняць масы сялянства супроць царызму і панства. Ён увесь час у дарозе, увес час у руху: прагнецца організаваць новыя і падтрымаць старыя паўстанцкія атрады, знаходзіць новых супрацоўнікаў, агітуе сярод сялянства, піша, дастае сродкі і г. д. Па некалькі раз у тыдзень прыходзіцца яму мяняць сваё прозьвішча, вопратку і кватэру. Усе спробы мураўёўскай паліцыі і жандармэрыі злавіць яго канчаюцца няўдачай, бо верныя людзі сярод сялянства, рамесьнікаў і рэволюцыйнай інтэлігенцыі даюць яму дапамогу і прыпынак, ня гледзячы на тое, што ім пагражае за гэта цяжкая кара. Каліноўскі лічыць, што трэба дачакацца вясны, каб зноў шырока разгарнуць паўстаньне.

Але здрада не драмала. Думаючы, што паўстанцкі цэнтр знаходзіцца ў Менску, Муравьёв у студзені 1864 г. паслаў туды спэцыяльную камісію на чале з віленскім жандарскім штаб-афіцэрам Лосевым. Камісіі ўдалося напасьці на сьлед мясцовай паўстанцкай організацыі. Пачаліся вобыскі і арышты. Сярод арыштаваных знаходзіўся студэнт Кіеўскага унівэрсытэту, шляхціч з Магілеўшчыны Вітольд Парафіяновіч. У свае часы Каліноўскі даручыў яму адвезьці ў Пецярбург 480 рублёў для аднаго паўстанца, каторы жыў нелегальна ў Пецярбурзе. Парафіяновіч такім спосабам ведаў, як знайсьці Каліноўскага. Прыціснуты жандарамі, ён пачаў выдаваць. Яму паабяцалі памілаваньне, калі ён выдасьць чырвонага дыктатара. Ратуючы сваю скуру, Парафіяновіч выдаў Каліноўскага.

Каліноўскі жыў пад імем Ігната Вітаржэнца ў Вільні ў сьвятаянскіх мурох. Тут знаходзілася гімназія, архіў, музэй і прыватныя кватэры.

Каліноўскі жыў у кватэры аднаго настаўніка гімназіі, выехаўшага кудысьці ў водпуск. Дом акружылі войскам і паліцыяй. Каліноўскі быў арыштаваны 7-20 студзеня 1886 году. Некалькі месяцаў пратаміўся ў турме чырвоны дыктатар, чакаючы сьмяротнай кары. Яго мучылі на допытах, але зламаць не маглі. Ён заставаўся цьвёрдым, поўным веры ў лепшую будучыну. За некалькі дзён да кары сьмерцю ён напісаў дакладную запіску, у якой сьмела выказаў думку аб нятрываласьці ўрадовых мерапрыемстваў, поўнае празрэньне да чыноўнікаў, прыбыўшых русыфікаваць Беларусь, і перакананьне, што рускі ўрад ня зможа выкарыстаць набытыя выгоды ў краі.

З турмы яму ўдалося напісаць лісты да таварышоў. З гэтых лістоў адзін мы прывядзем тут амаль цалкам:—„Беларусы, браты мае родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас, і можа ў астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль згінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, па шчырасьці маё слова перадсьмертнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Няма-ж, браткі, больш шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку... Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзіва ня йдзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, ня будзе багацьця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу.Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе. *Яська—гаспадар з-пад Вільні*“ (Наша Думка, 1920 г. № 5).

Са зьместу ліста мы бачым, што рэжым мураўёўскай турмы налажыў сваю пячатку на настрой Каліноўскага і на тон ліста. Праўда, мотывы соцыяльнай барацьбы за „мужыцкую праўду“ тут адчуваюцца, але лейт-мотывам ліста зьяўляецца покліч да беларускага народу (у народніцкім сэнсе) весьці барацьбу за палітычнае вызваленьне Беларусі ад царскага рэжыму, каторы яскрава прадстаўлен на Беларусі агіднай мураўёўшчынай.

Зразумела, што суд вынес Каліноўскаму сьмяротны прыгавор. Падаем ніжэй некаторыя выняткі з прыгавору.

„Временный Полевой Авдиториат, рассмотрев представленное Комиссией Военного суда, учрежденной при Виленском Ордонанс-Гаузе, военно-судное дело о дворянине Гродненской губернии и уезда Викентие-Константине Семенове Калиновском, 26 лет, римско-католического вероисповедания... признает подсудимого Калиновского виновным в том, что он... принял на себя обязанности главного распорядителя по восстанию в крае и, стремясь поддержать восстание, издавал от имени революционного правления разные распоряжения и воззвания, рассылая

деньги в мятежнические шайки, выдавал номинации на революционные должности и звания, сносился и получал донесения от подведомственных революционных управлений в воеводствах, и в конце минувшего года, видя совершенную невозможность продолжать восстание, но надеясь возобновить его в настоящем году, сделал распоряжение о роспуске шаек до весны. Посему Временный Полевой Авдиториат, причисляя подсудимого Калиновского, как члена революционной организации и впоследствии самостоятельного распорядителя в течение нескольких месяцев восстанием во всем Литовском крае, к первой категории преступников... постановляет подсудимого... за преступления его, составляющие высшую степень участия в мятеже против правительства, с возбуждением к тому других, и деятельным распространением и поддержанием восстания... казнить смертию повешением; имущество-же, какое у него окажется или впоследствии могло-бы перейти к нему по наследству от родителей, конфисковать в казну".

7-20 красавіка 1864 году адбылася кара сьмерцю чырвонага дыктатара, каторага ставусная сялянская малва называла „каралём Літвы", разумеючы пад Літвою ўласна літоўскія і беларускія землі. У сваіх „Виленских очерках" А. Мосалов, адзін з мураўёўскіх урадоўцаў, так апісвае кару Каліноўскага: „Было ясное холодное утро; Калиновский шел на казнь смело. Придя на площадь, он встал прямо лицом к виселице и лишь по временам кидал взоры на далекую толпу. Когда ему читали конфирмацию, он стал было делать замечания; так, например, когда назвали его имя: дворянин Викентий Калиновский, он воскликнул: „у нас нет дворян, все равны!" (стар. 126-7).

Сьмяротную кару Кастуся Каліноўскага магчыма лічыць апошнім яскравым эпізодам паўстаньня 1863 году на Беларусі. Паўстаньне прыпынілася. Муравьёв быў абвешчан афіцыяльным гэроем, катораму афіцыяльныя пісакі курылі ладан. Цікава тое, што нават вядомы „поэт печали и гнева" Некрасов зьнізіўся да дыфірамбаў Муравьёву. У красавіку 1866 г. ангельскі клюб у Маскве даваў урачысты абед у чэсьць Муравьёва. Пасьля абеду, за чашкаю кавы, Некрасов прачытаў такі верш, прысьвечаны вешальніку: „Бокал заздравный поднимая, еще раз выпить нам пора здоровье миротворца края. Так много-ж лет ему! Ура! Мятеж прошел, крамола ляжет, в Литве и Жмуди мир взойдет, тогда и самый враг твой скажет: „Велик твой подвиг"—и вздохнет. Вздохнет, что, ставши сумасбродом, забыв присягу, свой позор, затеял с доблестным народом поднять давно решенный спор. Пускай клеймят тебя позором лукавый Запад и враги, ты мощен Руси приговором, ее ты славу береги. Нет! Не помогут им усилья подземных их крамольных сил! Зри! Над тобой, простерши крылья, парит архангел Михаил!" Комэнтарыі да гэтага вершу непатрэбны. Некаторыя думаюць, што вышэйпаданы верш ня ёсьць сапраўдны. „Маскоўскія Ведамасьці" (20-IV-1866 г.) адзначаюць, што верш Некрасова кан-

чаўся словамі—„виновных не щади“. Але нават К. Чукоўскі, каторы задаўся мэтаю апраўдаць Некрасова, кажа: „здаецца, што той (сапраўдны) верш быў ня лепшы, але яшчэ горшы за гэты (вышэйпаданы), і Некрасов выявіўся ў ім яшчэ большым здраднікам у адносінах да сваіх перакананьняў“ (К. Чуковский. Поэт и палач. СПБ, 1922 г. ст. 11).

Ня лепш аднёсься да паўстаньня 1863 году і лібэрал, вядомы пісьменьнік І. Тургенев. Ён напісаў Александру II прыватны ліст, у каторым моцнымі выразамі асуджваў паўстаньне і завяраў цара ў сваім патрыотычным настроі і вернападданіцкім пачуцьці. Да ліста ён дадаў два чырвонцы на карысьць салдатаў, раненых пры задушэньні паўстаньня. Герцэн у сваім „Колоколе“ адразу асудзіў Тургенева за гэты яго паступак, назваўшы яго седавалосай Магдалінай, якая каецца ў сваім лібэралізьме. Гэта сьведчыць аб поўным спачуцьці Герцэна паўстаньню. Лібэралы адхлынулі за гэта ад Герцэна. „Герцен не смутился. Он продолжал бичевать усмирителей, палачей, вешателей, Аляксандра II. Герцен спас честь русской демократии“. „Мы спасли честь русского имени,—писал он Тургеневу,—и за это пострадали от рабского большинства“ (Ленин, т. XII, ч. I., стар. 99).

Наш артыкул мы скончым водзывам аб паўстаньні 1863 г. Карла Маркса, каторы прыведзены ў Леніна (т. IV, стар. 224-5): „Польша сделалась революционной частью России, Австрии и Прусии. Оппозиция ее против захватчиков была одновременно оппозицией против аристократии в самой Польше. Даже дворянство, стоявшее еще частью на феодальной почве, примкнуло с беспримерным самоотвержением к демократической аграрной революции. Польша была уже очагом европейской демократии, когда Германия прозябала еще в самой полной конституционной и напыщенно философской идеологии. Покуда мы (немцы) помогаем угнетать Польшу, покуда мы приковываем часть Польши к Германии, мы остаемся сами прикованными к России и к русской политике, мы не можем и у себя дома освободиться радикально от патриархально-феодального абсолютизма. Создание демократической Польши есть первое условие создания демократической Германии“. Напісаўшы гэты вынятак, т. У. І. Ленін дадае: „Тады рэволюцыйнаю была ўся Польшча, ня толькі сялянства, але і маса дваранства. Традыцыі барацьбы за нацыянальнае вызваленьне былі такія моцныя, што пасьля паражэньня на бацькаўшчыне лепшыя барацьбіты ішлі ў другія краіны падтрымліваць рэволюцыйныя клясы. Да такіх барацьбітоў У. І. Ленін адносіць Яраслава Дамброўскага і Валерыя Ўрублеўскага, каторыя пралівалі сваю кроў на барыкадах Парыскай Комуны.

Усё тое, што сказана вышэй аб польскім паўстаньні наогул, лёгка прыстасаваць да паўстаньня 1863 г. на Беларусі, каторае было часткаю польскага паўстаньня, абфарбованага ў мясцовы колёрыт. Дэмократызм польскі тут у чырвоных паўстанцаў зрабіўся беларускім дэмократызмам,

каторы ў тыя часы быў такім-жа самым прогрэсыўным зьявішчам, як і дэмократызм польскі. Не дарма гэроям Парыскай Комуны побач з Дамброўскім, каторы працаваў у Варшаве, стаіць Урублеўскі, працаваўшы на Беларусі.

### Літаратура, выкарыстаная для артыкулу


1. Алелькавіч Юры. Стары Менск у беларускіх успамінах. Газэта „Беларусь". 1919 г., 26 і 27, XI, № 31 і 32.

2. Wasilewski L. Kresy wschodnie. Warszawa. 1917.

3. Wasilewski L. Litwa i jej ludy. Warszawa. 1907 r.

4. Grabiec I. Rok 1863. Wyd. II. Poznań. 1922.

5. Гутарка двух суседаў. № 1 і 2. З дакумэнтаў Інстытуту Беларускай Культуры.

6. Гогель Н. В. Иосафат Огрызко. Вильна. 1867 г.

7. Gumplowicz W. Socjalizm i sprawa polska.

8. Дакумэнты Інстытуту Беларускай Культуры аб Меншчыне ў сувязі з паўстаньнем 1863 г. з архіву III аддзяленьня царскай канцылярыі.

9. Там-жа аб Магілеўшчыне.

10. „ аб Віленшчыне.

11. „ аб Горадзеншчыне.

12. „ аб Бальтазары і Кастусі Каліноўскіх.

13. „ аб Віцебшчыне.

14. Захарьин И. Воспоминания о службе в Белоруссии в 1864—70 г. г. „Историч. Вестн." 1884 г., кн. III и IV.

15. Z. L. S. Historja dwóch lat. T. III, IV i V. Krakow.

16. Z. L. S. Dzieje 1863 roku .TT. I, II, III, IV i V. Krakow. 1902—1919.

17. Извлечение из показаний политического преступника Карла Маевского, относящихся до последнего польского восстания 1863 года. Варшава. 1866 г. В типографии Штаба Варшавск. Военн. Округа.

18. Janowski J. K. Pamiętniki o powstaniu styczniowym. T. I. Lwów, 1923 r. T. II. Warszawa, 1925 r.

19. Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і пач. XX сталецьця. Менск, 2-ое выд., 1926 г.

20. Kowalewski E. Wspomnienia z przeszłości. Przyczynek do historji powstania styczniowego na Litwie. Wilno, 1907 r.

21. Kempner. St. A. Rozwòj gospodarczy Polski od rozbiorów do niepodległości. Warszawa. 1924.

22. Корнилов И. П. Воспоминания о польском мятеже 1863 года в Северо-Западном крае. СПБ. 1900.

23. Кулеша С. Горы-Горецкая катастрофа 1862 г. Воспоминания очевидца. „Русская Старина" 1883 г., кн. IX.




24. Koźmian St. Rzecz o roku 1863. T. I, II i III. Krakow 1896.

25. Kowalewska L. Obrazki mińskie. 1850—1863 r. Wilno. 1912.

26. Kowalewska L. Ze wspomnień wygnańca. Wilno. 1911.

27. Limanowski B. Historja demokracji polskiej w epoce porozbiorowej. Cz. I i II. Warszawa. 1922.

28. Любарский И. В. В мятежном крае. Из воспоминаний. „Историч. Вестн." 1895 г., т. т. 59, 60.

29. Luxemburg R. Krok za krokiem. Moskwa. 1921 г.

30. Ленин В. И. Собрание сочинений. Т. IV, XII[1], XIX.

31. Мейер. Записки. Подготовка к польскому мятежу в Минской губернии в 1861 г. Минск. 1908.

32. Mościcki H. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi T. I i II. Wilno. 1913.

33. Межецкий М. П. Воспоминания из безпокойного времени на Литве в 1861—63 г. г. „Истор. Вест." 1898 г., т. 73.

34. Маевский И., ксёндз. Гродненская процессия 14 августа 1861 г. „Русск. Старина", 1891 г., кн. V.

35. Муравьев М. Н. Записки об управлении Сев.-Зап. краем и об Усмирении в нем мятежа. „Русск. Старина" 1882 г. кн. XI, 1883 год, кн. I, II, III.

36. Мужыцкая Праўда. № № 1, 2, 3, 4, 5, 6 і 7. Дакумэнты Інбелкульту.

37. Мосолов А. М. Виленские очерки 1863—1865 г. СПБ. 1898.

38. Мялешка М. Сялянскае пытаньне ў часе паўстаньня 1863 году на Беларусі. „Полымя", 1926 г. кн. VIII.

39. Мархлевский Ю. Из истории Польши. Москва. 1925 г.

40. Отчет М. Н. Муравьева по управлению Северо-Западным краем. С I-V 1863 г. по 17-IV 1865 г. Официальное издание.

41. Орлицкий С. С. Уголок восстания 1863 г. „Историч. Вестн." 1902 г., т. 90.

42. Омелянский Л. Курьезы польского восстания. „Историч. Вестн." 1896 г., т. 63.

43. Пантелеев Л. Дела давно минувших дней. „Былое", 1907 г. № 1.

44. Пономарев И. Н. Воспоминания о польском мятеже 1963 года. „Историч. Вестн." 1897 г. т. 70.

45. Перадсьмертны разгавор пустэльніка Пятра. Дакумэнты Інбелкульту.

46. Pamiętniki Jakóba Gieysztora. T. I i II. Wilno. 1913 г.

47. Ратч В. Сведения о польском мятеже в северо-западной России. Т. I, II и III.

48. Серко-Соловьевич Ф. Ф. Эпизод из польского мятежа. „Истор. Вестн.", 1898 г., т. 73.

49. Сидоров А. А. Польское восстание 1863 года. Историч. очерк СПБ. 1903.

50. Тихомиров Л. Варшава и Вильна в 1863 г. Оттиск из „Москов. Ведомостей“ № 281 за 1897 г.

51. Цилов Н. Сигизмунд Сераковский и его казнь. Вильна 1867 г.

52. Цьвікевіч І. Кастусь Каліноўскі. „Полымя“ 1924 г., № 2 (10).

53. Чуковский К. Поэт и палач. СПБ. 1922 г.

54. Шолкович С. Сборник статей, раз‘ясняющих польское дело. Вильна, 1885 г., вып. I и II.

55. Ягмин А. Воспоминания польского повстанца 1863 г. „Историч. Вестн.“ 1892, т. т. 49. 50.

## СЯРГЕЙ КАВАЛІК

*(Дзядуня рэволюцыі)*

**М. С. А.**

С. П. Кавалік радзіўся ў часы памешчыцкага прыгону, 13 кастрычніка 1846 году, у невялікім маёнтку „Сватковічы“, Магілеўскай губэрні, Чэрыкаўскага павету, набытым яго бацькам Піліпам Іванавым, адстаўным палкоўнікам, на старасьці гадоў. Рана страціўшы маці, Сяргей Кавалік застаўся пад апекаю свайго бацькі, які ўсё сваё замілаваньне і надзеі ўсклаў на свайго адзінага сына (апрача яго было дзьве дачкі). Аддаўшы яго ў кадэцкі корпус, бацька прызначыў яму вайсковую кар'еру.



У той час у корпусе існавала мікалаеўская дысцыпліна: строгае падпарадкаваньне „начальству“ і ўменьне добра станавіцца „ва фронт“ было важней, чымся веды, важней імкненьня розуму і думкі. Маладога Каваліка, з вялікімі здольнасьцямі ад прыроды, такое навучаньне не здавальняла; ён з таварышамі ўтварае гурток самаадукацыі. Таемна начамі, пры асьвятленьні ўкрадзенага агарку сьвечкі, юнакі-кадэты імкнуцца да ведаў займаюцца на гары рознымі навукамі: хэміяй, фізыкай, матэматыкай і інш. З гонарам для свайго бацькі малады Кавалік, дзякуючы сваім

здольнасьцям, канчае першым, яго імя заносіцца на залатую дошку. Першым канчае ён і вайсковае вучылішча, і перад ім разгортваецца бліскучая кар'ера „гвардзейца“, з скорым павышэньнем у чынох аж да генэрала з магчымасьцю „блистать в обществе“.

Але гэты бляск яго ніяк не захапляе, ён імкнецца да навукі і, адчуваючы прыкрасьць да ваеншчыны, С. Кавалік хадатайнічае, каб выйсьці з ваеннага навучаньня ў грамадзянскім чыне. На дзіва, дырэктар вайсковых вучылішч, генэрал Ванноўскі, здавальняе гэтую просьбу, і ў тым-жа 1864 годзе Кавалік залічаецца ў Пецярбурскі унівэрсытэт на матэматычны факультэт. Перайшоўшы потым у Кіеў, ён канчае Кіеўскі унівэрсытэт і адменна вытрымоўвае экзамен на ступень кандыдата матэматычных навук у 1868 годзе. Вялікія матэматычныя здольнасьці заўсёды вабілі яго да навуковай працы па спэцыяльнасьці, але рэвалюцыйны яго дух і агульны настрой пачатку 70 гадоў не давалі яму магчымасьці здаволіцца выключна аднэй навуковай дзейнасьцю. У 1871 г. ён яшчэ раз пробуе пайсьці па шляху навуковай працы, прымае ўдзел у конкурсе на пасаду профэсара матэматычных навук у інстытуце шляхоў зносін, разам з матэматыкам В. Поссэ, але, прачытаўшы з вялікім посьпехам першую лекцыю і бязумоўна маючы магчымасьць заняць катэдру, ён усё такі кідае конкурс, адмаўляецца ад навуковай кар'еры і рашуча аддаецца рэвалюцыйнай дзейнасьці.

Знаёмства Каваліка з ідэямі 20-х гадоў, з радыкальнымі настроямі гурткоў моладзі пачынаецца з часу паступленьня яго ва унівэрсытэт.

Паступова ў яго пэўна выпрацоўваецца: 1) нездавальненьне існуючым соцыяльным і палітычным ладам і, як вынік, 2) канечная патрэба рэвалюцыйнай барацьбы з ім.

Пасьля 1863 году, году польскага паўстаньня, значна зьніжаецца радыкальны настрой моладзі; актыўнае імкненьне моладзі да барацьбы з уладаю некалькі заціхла. Кавалік-жа радзіўся рэвалюцыянэрам, і такое аслабленьне рэвалюцыйнага настрою яго так засмучала, што ён далучыўся да рэвалюцыянэра Дэбагорыё-Макрыевіча (нядаўна памёр у Баўгарыі) і іншых таварышоў, якія парашылі перасяліцца ў Поўночна-Амэрыканскія Штаты для збудаваньня там паказальнай комуны, але справа гэта ўрэшце разбурылася. Тымчасам рэвалюцыйны настрой расійскай моладзі стаў падымацца, і ўвесь гэты гурток у поўным складзе аддаўся рэвалюцыйнай працы ў Расіі.

Практычная рэвалюцыйная праца С. П. Каваліка пачалася з абраньня яго Мглінскім міравым судзьдзёй у Чарнігаўскай губэрні, а затым старшынёй зьезду міравых судзьдзяў у 1870 годзе. Выпісаўшы на пасаду сакратара зьезду рэвалюцыянэра Кабліца, разам з ім ён стаў займацца рэвалюцыйнай пропагандай сярод мясцовага насельніцтва, а для большага посьпеху яны наладзілі асобныя пункты. Апрача гэтага, у якасьці

міравога судзьдзі, ён меў магчымасьць зрабіць многае, нават па законах таго часу, і сапраўды рабіў. Насельніцтва некалькі ўздыхнула вальней, а ўлада і прыгоньнікі-памешчыкі ня ўзьлюбілі маладога судзьдзю і дабіліся таго, што пасьля 8 месяцаў працы сэнат не зацьвердзіў яго абраньня. Па скасаваньні выбараў, Кавалік разам з Кабліцам вярнуліся ў Піцер, дзе пачалі будаваць пляны забойства цара, але хутка пачалося стыхійнае „хождение в народ“, і абодва яны аддаліся яму цалкам. З гэтага часу, з канца 1872 году і пачынаецца арганізацыйна-рэвалюцыйная праца Каваліка. Ён самастойна прышоў да думкі аб анархічнай пабудове грамадзтва, г. зн. жыцьці грамады бяз улады і, сустрэўшыся з рэвалюцыянэрам Лермантавым, паехаў у 1873 годзе да Бакуніна, заснавальніка анархізму, які ў якасьці эмігранта пражываў у Швайцарыі. Тады да Бакуніна, як ідэёвага кіраўніка, зварочваліся ўсе выдатныя рэвалюцыянэры ў сваёй працы ў Расіі. Жывучы ў Швайцарыі, Бакунін быў натхніцелем народніцкага руху ў Расіі.

Вярнуўшыся з-за межаў, Кавалік і іншыя выдатныя рэвалюцыянэры заняліся прапагандай анархічных ідэй Бакуніна, распаўсюджаньнем кніг забароненага зьместу і арганізацыяй рэвалюцыйна-настроеных людзей у рэвалюцыйныя гурткі. У гэтых гуртках злучалася моладзь, протэстуючая супроць крыўды соцыяльнага парадку, гвалту і ўціску царскай улады. Гэта рэвалюцыйная моладзь паставіла сабе мэтай усёй сваёй масай пайсьці ў народ, у вёскі, там, паступіўшы на пасады ў якасьці фэльчароў, акушорак, настаўніц, заняўшыся розным рамяслом, арганізоўваць усякага роду майстэрні, каб, зьліўшыся непасрэдна з народам, займацца шырокай прапагандай у народзе і падрыхтаваць агульнае паўстаньне.

Вось гэта і ёсьць „хождение в народ“ у 60-х гадох і гэта прапаганда звалася прапагандаю пад прыкрыцьцём профэсіі. Маючы гэта ў сябе на мэце, рэвалюцыйная моладзь пачала вучыцца рознаму рамяслу, цяжкай сялянскай працы, моладзь з багатых сем'яў адыходзіла з дому, стала простай, старалася згубіць свае панскія звычкі, набывала сабе народную гутарку, працоўную вопратку і аблічча, каб стаць бліжэй да народу і каб народ лічыў іх сваімі сапраўднымі братамі рабочымі і адносіўся да іх бяз усялякай падазронасьці.

Кавалік праявіў няўтомную энэргію ў справе шырокай соцыялістычнай прапаганды. Кастрама, Самара, Саратаў, Мікалаеўск, Харкаў, Адэса, Кіеў, Казань, Ніжні-Ноўгарад—гарады, у якіх ён пабываў, прапагандуючы і арганізоўваючы моладзь у гурткі, наладжваючы сувязь з цэнтрамі. У Піцеры гурток Каваліка знаходзіўся ў кватэры Блаўдзевіча, каля Чарнышова мосту № 68 і быў такім цэнтрам для провінцыяльных гуртков. Па абвінавальнаму акту „процэсу 193-х“ гурток гэты меў наступную мэту: „пранікаць у народную масу ў якасьці рабочых, злучаць нездаволеных і выклікаць абурэньне“.

Шырату рэволюцыйнай пропаганды, кіданьне рэволюцыйнага палу ўсюды Кавалік лічыў галоўным заданьнем і сумесна з таварышамі організаваў масавую пропаганду. Рэволюцыйная моладзь усёй сваёй масай ішла ў народ, і гэтым тлумачыцца вялікая колькасьць арыштаваных у сярэдзіне 70-х гадоў. У 36 губэрнях былі заарыштованы амаль што ня ўсе пропагандыстыя, і ня дзіва, што склаўся так званы „процэс 193“. Гэта самы большы за ўвесь час рэволюцыйнай барацьбы політычны процэс: абвінавачваліся 193 рэволюцыянэры ў тым, што склалі і прымалі ўдзел „в противозаконном сообществе“, маючым мэту „в более или менее отдаленном будущем ниспровержение и изменение порядка государственного устройства“. Гэты славуты процэс, на якім урадавыя чыноўнікі паказалі брыдосныя бесчалавечныя адносіны, самавольства, бясправнасьць, выклікаў страшэннае абурэньне ў грамадзтве, а рэволюцыйную моладзь прымусіў зьмяніць спосаб барацьбы з мірнай пропаганды сярод насельніцтва на тэрор, на забойства найбольш лютых, рэакцыйных прадстаўнікоў ураду, каб выклікаць зьмену агульнай політыкі.

Настрой гурткоў к пачатку 1874 году быў досыць падрыхтаваны, і рэволюцыйная моладзь вясной 1874 году ўся пайшла ў народ, узяўшы з сабой шмат фальшывых пашпартоў і іншых дакумэнтаў, пераважна на Ўсход, на Паваложжа, дзе сялянскі элемэнт лічыўся найбольш падрыхтаваным да пропаганды і паўстаньня. Туды накіраваўся і С. П. Кавалік.

Зборны пункт і агульная штаб-кватэра пропагандыстых на Паваложжы была абмяркована ў шавецкай майстэрні ў г. Саратаве на імя Пільконена. Але ўрад вельмі хутка дазнаўся аб гэтым руху, і паліцыя пачала арышты рэволюцыянэраў па ўсіх губэрнях. Таксама паліцыя ўжо сачыла за саратаўскай майстэрняй, якая здавалася ёй падазронай. Скора былі зроблены там тры пасьлядоўных вобыскі і многа было арыштаваных, але Каваліку і яго таварышу Рагачову ўдалося схавацца. Нейкі час яны хаваліся, часта пераяжджаючы з аднаго месца ў другое, бо іх, асабліва Каваліка, вельмі шукалі. Паміж іншым, у абвінавальным акце „процэсу 193-х“ апісваецца, што Кавалік накіраваўся ў сяло Вязаўку да памешчыка Малышова, быццам наняць дачу, і там патаемна ўзяў у апошняга выданы яму пашпарт і пад прозьвішчам Малышова прадаўжаў хавацца. Але ня гледзячы на гэтыя асьцярожнасьці, паліцыя скора знайшла яго ў Самарскай губэрні ў той час, калі ён спаў на сене ў адным заезным двары, дзе часта спыняліся рэволюцыянэры, і арыштавала яго. Патрымаўшы ў самарскім вастрозе, яго адправілі ў Маскву для дазнаньня, якое галоўны прокурор Жыхароў рашыў рабіць на мясцох учынку злачынства. С. Каваліка пачалі вазіць па ўсіх гарадох, дзе ён вёў пропаганду, але потым „начальства“ адумалася (надта многа гарадоў трэба было-б аб‘ехаць) і яго прывезьлі ў „Піцер“ і пасадзілі ў Петрапаўлаўскую крэпасьць, як аднаго з галоўных „злачынцаў“, большасьць-жа іншых зьмяшчаліся ў „доме предварительного заключения“. Стары рэволюцыянэр

Чудноўскі так апісвае „Петрапаўлаўку“ ў той час: „Калі-б ня жудасная сырасьць, адбіты сьвет і краты, камэру можна было-б назваць даволі памяркоўнай. Горш за ўсё дзейнічалі „вочка“ ў дзьвярах, у якое праз кожныя 3-4 мінуты глядзеў наглядчык, і аднатонныя мэлёдыі, якія адбіваў гадзіньнік праз кожныя 1/4 гадзіны. Дзейнічала жудасна прыгнечаная мярцьвячына, поўная адзінота, магільная цішыня (сьцены абіты былі чымсьці мяккім, каб не даходзілі гукі), і вынікам гэтага „нэрвы расстройваліся, многія даходзілі да страты прытомнасьці, да вар'яцтва, і ня раз сэрца аблівалася крывёю, калі з тэй ці другое камэры чутны былі шалёныя, заглушаныя стогны і крыкі хворых таварышоў“. У крэпасьці страва падавалася ў бруднай валавянай пасудзіне і выклікала хваравітасьць нутра. Пры такіх умовах Кавалік з іншымі таварышамі прабыў да суду 3 гады. Адзін раз яго перавялі ў „дом предварительного заключения“, дзе было многа льгот, там ён з Вайнаральскім (таксама адзін з галоўных абвінавачаных) арганізавалі пабег, які скончыўся няўдачна, і іх абодвух зноў пасадзілі ў крэпасьць. Аб гэтым пабегу С. П. Кавалік у пакінутых запісках апавядае наступнае: „я і Вайнаральскі захацелі зрабіць пабег праз вакно ў трэцяй галерэі. Справа была ў пачатку красавіка 1876 г. Мы хацелі ўцячы раней у сакавіку, але ніяк не маглі дачакацца пакуль засьне вартаўнік турмы, які сядзіць на другім пляцку трэцяй-жа галерэі. Нарэшце, мы дачакаліся гэтага, калі ўжо ночы пачалі сьвятлець. Мы з Вайнаральскім адамкнулі свае дзьверы, адну сапраўдным украдзеным ключом, а другую, здаецца, падробленым, і на сшытых палосах пасьцілак спусьціліся проста на вуліцу, дзе ніякага канвою ня было. Але на нашу бяду ў гэты момант праяжджаў інжынэр Чэчулін, які падняў трывогу, і нас гарадавыя зьнялі з возьніка, які зьбіраўся ўжо нас везьці. Чэчуліна разам з намі павялі ў часьць, і ён па дарозе стаў прасіць у нас прабачэньня, гаворачы, што ён лічыў нас крымінальнікамі, і калі-б ведаў, што мы палітычныя, дык дапамог-бы нам.

Аднак, перад судом па справе 193-х, зноў перавялі ў Д. П. З.*) і там праз адчыненыя вокны 150 заключаных па гэтаму процэсу (астатнія былі на волі) перамаўляліся, рабілі сходы, на якіх С. П. Кавалік быў назаўсёды абраны старшынёй і на якіх абмяркоўвалі, галоўным чынам, як трымацца на судзе.

Шмат хто за тры гады сядзеньня адзінокім змарыўся душой і целам, гатоў быў на прызнаньне і ўступкі. Кавалік-жа не здаваўся, і пад яго ўплывам была прынята пастанова: бойкатаваць суд.

Бойкот гэты выявіўся ў тым, што абвінавачаныя адмовіліся ад абаронцы і ўсякага ўдзелу ў судзе і на запытаньне суда—„ці прызнаеце сябе вінаватым“,—большасьць адказвала, што царскага суду, як няправільнага, не прызнаюць і ні адказваць, ні абараняцца ня будуць.

---

*) Дом предварительного заключения.

Суд пачаўся 18 кастрычніка 1887 году, судзілі 193-х чалавек, як казаў абвінавальны акт „за ўдзел у патайным таварыстве, арганізаваным чатырма асобамі:—Мышкіным, Вайнаральскім, Кавалікам і Рагачовым“.

Чатырох іх нават на судзе трымалі на асобным палажэньні пад узмоцненаю вартай, асобна ад усіх, на асобным месцы, празваным „галгофай“, не дазваляючы нікому гаварыць з імі. А іншых трымалі досыць вольна і дазвалялі ім поўныя зносіны паміж сабой.

На папярэдніх нарадах падсудных у Д. П. З. узьнікла, аднак, патрэбнасьць выступіць каму-небудзь аднаму перад судом, вытлумачыць ролю і значэньне рэвалюцыйнай барацьбы і паказаць усё абурэньне гэтым процэсам. Гэта ўзяў на сябе Мышкін і, на запытаньне суда аб віноўнасьці, сказаў незабываную ў гісторыі расійскай рэвалюцыі моцную прамову. Тэзісы гэтай прамовы і асноўная думка аб соцыяльна-рэволюцыйнай партыі, у першы раз кінутая публічна, былі складзены Кавалікам. Гэта прамова, якую Мышкін скончыў наступнымі словамі: „Гэта ня суд, а простая камэдыя або яшчэ горшае, больш агіднае, больш ганебнае, чымся дом цярплівасьці; там жанчына з-за патрэбы гандлюе сваім целам, а тут сэнатары з подласьці, з халопства, з-за чыноў і вялікіх акладаў, гандлююць усім, што ёсьць найбольш каштоўнага для чалавецтва“,—гэта прамова стварыла вялікае ўражаньне на грамадзтва, а агідлівая сцэна біцьця Мышкіна, Стопане і Рабіновіча, якая здарылася за ёй, выклікала крыкі абурэньня, страшэнны шум і поўную зьбянтэжанасьць судзьдзяў: пасяджэньне было абвешчана закрытым. Суд пастанавіў: „з падсудных па гэтай справе Мышкін, Вайнаральскі, Кавалік і Рагачоў, як арганізатары таварыства і прымаўшыя ў ім самы большы ўдзел, павінны падлягаць самай суровай з існуючых кар, г. зн. гэтыя падсудныя падлягаюць пазбаўленьню ўсіх праў і сасланьню на катаржную работу ў крэпасьці на 10 гадоў. Адбываць катаргу Каваліка, Вайнаральскага, Мышкіна і Рагачова адправілі ў Нова-Барысаглебскі катаржны вастрог, умовы ў якім былі значна горшыя, чымся ў Петрапаўлаўскай крэпасьці, адны кайданы на нагах былі фізычна і моральна балючы. С. П. Кавалік так успамінае аб гэтай „цэнтралцы“: „Наогул вастрог рабіў уражаньне магілы. У полі стаяў адзін будынак, абкружаны высокаю каменнаю сьцяной. На пагулянках кожны з нас бачыў толькі крымінальнікаў, з якімі мы не маглі размаўляць. Усякія, магчымыя нават у вастрозе, забавы адсутнічалі, кніг амаль што ніякіх ня было, апрача аднаго ці двух духоўных журналаў, эвангельля альбо бібліі. Наогул „цэнтралка“ лічылася самым жудасным месцам няволі; сядзеўшыя там атрымоўвалі прозьвішча зажыва пахаваных. Нават вышэйшая ўлада лічыла, як відаць, трохгадовае сядзеньне ў „цэнтралцы“ надта выстарчальным, бо ў 1880 годзе палітычных катаржан пастанавілі перавесьці ў Сібір на катаргу.

Перад высылкай у сібірскую катаргу некаторы час усіх іх пратрымалі ў Мцэнску, у перасыльным вастрозе, дзе ўсе крыху адпачылі і набра-

лісѧ сіл. Адгэтуль палітычныя, адсьвяткаваўшы весела 1 сакавіка, былі накіраваны этапным парадкам у карыйскі катаржны вастрог. У карыйскім вастрозе адно было добра: катаржанам дазвалялі фізычную працу, гэта надта падтрымлівала іх здароўе, расстроенае доўгім сядзеньнем у сырых і цёмных памяшканьнях. Абыходжаньне-ж было страшэнна суровае, асабліва пасьля пабегу Мышкіна і Хрушчова, якіх Кавалік і Рагачоў, уладаўшыя вялікай фізычнай сілай, у парожных ложках з сяньнікамі, як заўсёды пад канвоем, вынесьлі ў майстэрню, якая знаходзілася за вастрожнай агарожай, адкуль апошнія ўцяклі. Толькі пасьля абвешчанай галадоўкі, вытрыманай асабіста Кавалікам 13 дзён, пачалі даваць некаторыя льготы. Так, напрыклад, дазволілі хадзіць у чужыя камэры для сумесных заняткаў па розных прадметах. С. П. Кавалік, ня гледзячы на тое, што 10 гадоў ня бачыў ніводнай матэматычнай кнігі і ня меў ніякага падручніка, вылажыў увесь курс вышэйшай матэматыкі, і на яго лекцыі палітычныя хадзілі і слухалі іх з вялікай цікавасьцю.

Па адбыцьці катаргі, Каваліка, як небясьпечнага палітычнага, саслалі на самы халодны і далёкі пункт ссылкі—Верхаянск. Там у той час было толькі два палітычных сасланых, але хутка прывезьлі Вайнаральскага і іншых таварышоў, і на канцавосьсі холаду, дзе бывае 70° па Цэльзію марозу, стварылася колёнія з сасланых чалавек 20.

З адвечных піхт С. Кавалік пабудаваў сабе хату і нават сам прыдумаў і зрабіў у ёй печку-галяндку. Якуты атапляліся вечна-гаручым агнём у юрце і ня мелі паняцьця аб печках.

Гэта першая галяндка зьвярнула на сябе ўвагу, і „Сяргей“, як якуты звалі яго, адносячыся да Каваліка з вялікай пашанай, здабыў славу мулера. Яму пачалі заказваць шмат мулерскіх работ як у якутаў, так і ў дзяржаўных будынках. Заробак ад гэтай працы даваў яму магчымасьць жыць, тым больш, што ў Верхаянску ён ажаніўся. Многа займаўся ён і цясьлярскай працай (асабліва пабудовай юрт) сумесна з М. Л. Саламонавым, які жыў разам з ім. Адначасова з фізычнай працай Кавалік займаўся вывучэньнем быту і мовы якутаў і напісаў брошуру „Верхаянскія якуты“. Да гэтага-ж часу адносіцца і яго супрацоўніцтва ў вялікай газэце, якая выдавалася ў Іркуцку, „Восточное обозрение“. Поўнае дасьледваньне якутаў, перададзенае ім Іркуцкаму Географічнаму таварыству, было напісана ім пазьней, у той час, калі ён прымаў удзел у экспэдыцыі па вывучэньні ўплыву золатапрамысловасьці на быт якутаў.

Думка Каваліка ў Верхаянску знаходзіла сабе матэрыял: арыгінальныя географічныя ўмовы гэтага „канцавосьсѧ холаду“ і этнографія яго давалі шмат цікавага для нагляданьня. Аб сваіх нагляданьнях і некаторых цікавых вывадах гэтай мясцовасьці ён не адзін раз паведамляў географічнае таварыства. Не парываў ён і сувязі з таварышамі па ссылцы, ня гледзячы на ізоляваньне па ўмовах клімату г. Верхаянску. Да яго часта прыяжджалі таварышы, для вырашэньня ўсякіх паўстаючых цікавых

і спрэчных пытаньняў, і па асабовых успамінах аднаго яго сябра і таварыша па ссылцы: „з люлькай у роце, з якою ён ніколі не разлучаўся, спакойна, з некаторым гумарам, глядзеў на сваіх гарачых таварышоў С. П. і слухаў іх спрэчкі і, калі ўсе нагутарацца, ён выказваў свой погляд, які адразу спыняў далейшыя спрэчкі і рабіў іх непатрэбнымі“. І ў гэтым халодным далёкім Верхаянску, дом С. П. Каваліка, зроблены яго ўласнымі рукамі, быў цэнтрам думкі, цэнтрам жыцьця палітычных ссыльных, быў прытулкам для ўсіх шукаўшых адказу на балючыя запытаньні і месцам агульных дзелавых сходаў.

Нямногія вытрымалі 10-цігадовае заключэньне ў „адзіночках“ і жыцьцё далёка ад людзей, сярод малакультурных якутаў, на далёкай поўначы.

Шмат хто, не дачакаўшыся вызваленьня, загінуў ня выносячы цынгі, страшэннай астрожнай хваробы, галадоўкі, моральных пакут, некаторыя страцілі розум...

С. П. Кавалік усё сьцярпеў і перажыў, і калі вярнуўся з ссылкі ў 1898 годзе, ён, пражыўшы некаторы час у сваёй таварышкі па суду В. І. Вахоўскай, па мужу Бонч-Асмалоўскай, асеў у Сеньніцкай воласьці, Менскага павету. Ён быў яшчэ так моцны, што яго нельга было прызнаць за старога, хоць яму было 56 гадоў. Ні час, ні ўсё перажытае ім нікольки не расчароўвалі яго ў сваёй справе, у яго поглядах.

Толькі актыўна працаваць ў рэволюцыі ён ужо ня мог, бо ўвесь час знаходзіўся пад узмоцненым наглядам паліцыі, але ўвесь час падтрымліваў у Менску знаёмства з перадавымі людзьмі з рэволюцыйна настроенымі чыгуначнікамі, даваў магчымасьць нелегальным хавацца ад паліцыі.

Калі надышла рэволюцыя, ён уваскрос душой і, ня гледзячы на ўзрост, пачаў усюды працаваць. Быў абраны старшынёй Менскага Губэрскага Зямельнага Камітэту. Пры немцах працаваў у Земскай Губэрскай Управе, быў намесьнікам старшыні гарадзкой Думы. Пры другім прыходзе Савецкай Улады Кавалік прымаў удзел у організацыі Камісарыяту Соцыяльнай Забясьпекі, і нават 76-ці гадоў, вярнуўшыся да сваёй спэцыяльнасьці, прачытаў у Палітэхнічным Менскім Інстытуце курс па аналізе бесканечна-малых і аналітычнай геомэтрыі.

Але к гэтаму часу старасьць і набытая ім у вастрозе хвароба—язва жывата—пачалі адчувацца:—працаваць ён больш ужо ня мог.

26 красавіка 1926 году раптоўная сьмерць спыніла жыцьцё Сяргея Піліпава Каваліка. Аб ім можна сьмела сказаць, што ён быў адзін з самых чэсных, самых лепшых і адданых народу рэволюцыйных працаўнікоў, сьветлы розум якога і надзвычайная об'ектыўнасьць заслужылі яму глыбокую пашану як з боку сучасьнікаў, так і наступных пакаленьняў.

# НАША ПРОЗА ЗА 1926 год

Мікола Крывіч

1926 г. з пэўнай рацыяй можна назваць годам узбагачэньня нашай прозаічнай літаратуры. Мастацкая проза нават пачынае адсоўваць на другі плян мастацкую поэзію. Запраўды, колькі-небудзь значных поэтычных твораў, ці гэта будзе буйная поэма, ці нізкі лірычных вершаў, ці нават зборнікі баляд-казак, у мінулым годзе мы не заўважым. Нашыя песьняры нібы-то прыціхаюць. Разумеецца, другі том вершаў Янкі Купалы ў залік ісьці ня можа, бо гэта—даўнейшы зборнік „Шляхам Жыцьця“ ў новай вокладцы і ў больш прыгожай вопратцы, чымся пецярбурскае і асабліва віленскае выданьні. А новага ў 1926 г. Янка Купала даў да дзіўнага мала—усяго некалькі вершаў. Толькі зрэдку гучыць песьня і Якуба Коласа. Зрэдка пяе і Ясакар. Нават маладыя поэты прыціхаюць. Праўда, да мінулага году належыць „Біблія“ Крапівы, зборнік вершаваных твораў на цэлыя 96 старонкі. Але „Біблія“ гэта—поэзія асаблівага жанру. Гэта, проста кажучы, „лубок“ у беларускай поэзіі, лубок, які да ачамернасьці напамінае сабою тыя „лубяныя“ малюнкі, якія багата аздабляюць нашую літаратуру антырэлігійнага зьместу. Ня трэба дзівіцца з таго, што для мэтаў антырэлігійнай пропаганды абраны „лубок“, бо практыка даводзіць, што шляхам лубачных тандэтных малюнкаў, плякатаў і літаратуры пэўная ідэя больш распаўсюджваецца ў шырокіх народных масах. Аднак, „лубок“ ня можна яшчэ аднесьці да катэгорыі мастацкай поэзіі ўва ўласным сэнсе. Самы факт зьяўленьня *„лубка“* ў нашай поэзіі можна лічыць вельмі паказальным. Ён паказвае на тое, што наша поэзія ўжо даволі насычана мастацкімі творамі і ў ёй адчыняецца прастор для стварэньня рэчаў, якія перасьледуюць практычныя агітацыйныя мэты.

У сваю чаргу факт пашырэньня і росту прозаічных твораў сьведчыць выразна аб тым, што наша літаратура перайшла на новую, больш высокую ступень творчасьці. Запраўды, кожная літаратура, пачынаючыся з поэтычных твораў, пераходзіць потым да мастацкай прозы і ўжо ўрэшце разьвіваецца клясычная драма. Або, дакладней кажучы, лірыка зьмяняецца эпосам, а ад гэтага апошняга адчыняецца просты шлях да новэлі ды раману ў прозе; вянец-жа, заканчэньне літаратурнага разьвіцьця—трагэдыя і камэдыя. Гэтая зьмена ў першапачатковай і сярэдняй стадыі літаратурнага разьвіцьця ясна выступае і ў нашай літаратуры.

Конкрэтна: ад лірыкі Я. Купалы і, часткова, М. Багдановіча пераходзім да эпосу Я. Коласа і ён-жа дае ўзоры вытрыманай прозы, а адсюль пераход—да поэты-прозаіка Ясакара-Бядулі, да пачынальніка беларускага роману Ц. Гартнага, і ўрэшце—да М. Зарэцкага, Кузьмы Чорнага і інш. Паступова ў Коласа, Ясакара, Гартнага вершы выпінаюцца мастацкай прозай, а ў Зарэцкім і Чорным—бачым ужо *„чыстых“* празаікаў.

Разьвіцьцё мастацкай прозы адпавядае і найпільнейшай патрэбе нашага часу,—патрэбе сформаваньня дакладнай літаратурнай мовы, выяўленьня асаблівасьцяй беларускай фразэолёгіі і беларускага стылю. Поэтычная „вольнасьць“, якая ламае стыль, націск, а часта, і сэнс,—усім добра вядома. А пры нераспрацаванасьці мовы гэтая вольнасьць знаходзіць для сябе асабліва шырокае ўжываньне. Адсюль у нашых поэтаў, асабліва тых, якія ня зусім добра ведаюць народную мову, часамі можна сустрэць вершы, якія па сутнасьці зьяўляюцца наборам слоў, і слоў, часта невядомых. Такія вершы або, прынамсі, паасобныя радкі ў вершах знойдзем на зары нашай літаратуры нават у поэтаў-клясыкаў (напр., „вогнемгненная крыніца“ ў „Новай Зямлі“, стар. 217), а ў малодшых пісьменьнікаў у нашыя дні яны проста зрабіліся звычайнай зьявай. Бяру, напр., апошні за 1926 г. 8-мы нумар „Полымя“. Чытаю у „Разьвітаньні“ З. Бандарынай:

Радасьць наземіць (?)—
 жывой пазалотаю.
Бор чараўнік
 з ціхазвоннай (?) асінаю
Шэптамі песьціць імглістых дамін. *(Склад!)*
Екнула сэрца
 жывой пазалотаю... *(Дзе сэнс?)*

А вось продукт творчасьці А. Гурло „Дзесятаму зьезду“ („Сав. Беларусь“, 1927 г., № 5).

Чытаем:

Менск ёсьць трыбуна на захад,
Менск—СССР абаронен...

Пытаньне: дзе-ж тут сэнс і які стыль!

Ловіць ён кожнае слова,
Словы компартый, саветаў,
Хоча праравацца развоем
Сьмелым сталёвым узьлётам...

Пытаюся сьмела: дзе тутака сэнс?
А гэта якая пекнасьць з боку стылю:

Кожны папраўдзе ацэніць
Шлях свой вядзём куды мы!

Вось ужо папраўдзе вершы у стыле В. Г. Традзякоўскага:
*Чудище обло, стозевно и лаяй...*

Ясна, што з такімі вершаспляценьнямі ў сформаваньні літаратурнай мовы далёка ня ўедзеш. Іпакуль расійская літаратура тупалася па сьцежках В. І. Традзякоўскага, ня было і апрацаванай расійскай навукова-літаратурнай мовы. Яна пачынае разьвівацца з таго часу, калі Пушкіным, а асабліва Гогалем, былі закладзены асновы расійскай прозы. Праўда, мне могуць казаць, што тутака—пытаньне слоўніка-тэрмінолёгічнае. Аднак-жа, ня толькі тэрмінолёгічнае, але і фразэолёгічнае. У Расіі ў XVIII ст. тварылі тэрмінолёгію, на манер нашых цяперашніх інбелкультаўцаў, той-жа В. І. Традзякоўскі і М. І. Ломоносов (плюс пэўны лік вучоных немцаў), але ўся расійская літаратурная мова XVIII ст. была пабудавана на чужых народнаму духу лацінскіх узорах, была далёкай ад народнай фразэолёгіі. Тое-ж самае або, прынамсі, падобнае да таго бачым і цяпер у галіне нашай навукова-літаратурнай мовы. Дасканалы „сынтакс“ беларускай мовы можа зьявіцца толькі тады, калі разьвінецца наша бэлетрыстыка, наша прозаічная мова, якая адпавядала-б жывой народнай фразэолёгіі.

Вось чаму пытаньне аб узбагачэньні нашай прозы зьяўляецца чарговым пытаньнем нават удасканаленьня нашае мовы.

Яна, гэта прозаічныя літаратура, павінна ўвабраць у сябе і адбіць праменьні народнай фразэолёгіі і зьявіцца запраўднай асновай беларускай стылістыкі.

Але ясна, што проблема нашай прозы ёсьць не такая простая проблема, якую можна разьвязаць бяз доўгіх акалічнасьцяй, пачынаючы проста фабрыкаваць апавяданьні, аповесьці, романы, апісаньні і інш.

Тутака важна тое, што наша проза пачала разьвівацца ў эпоху пролетарскай рэволюцыі,—і гэтая эпоха ставіць да кожнага пісьменьніка свае вымогі.

Як і кожны твор з літаратуры, прозаічны твор, будучы глыбока нацыянальным з боку сваёй формы, у той-жа самы час павінен быць рэволюцыйным, г. зн. інтэрнацыянальным з боку свайго зьместу, дакладней кажучы, з боку тых мотываў, якія становяць яго зьмест.

Разумеецца, што і стыль нашых прозаікаў, адбіваючы характэрныя рысы народнай фразэолёгіі, павінен у той-жа самы час адпавядаць тэмпу жыцьця рэволюцыйнай эпохі.

Гэта—умовы, sine quibus non,—без якіх няма запраўды сучаснай прозы.

Паглядзім, што-ж даў нам у гэтых адносінах 1926 год?

Папершае, мы маем другую квадру роману Цішкі Гартнага „Сокі цаліны“,—„На перагібе“, і гэтую квадру з пэўнай рацыяй можна паставіць у першым шэрагу нашых прозаічных твораў. Няма чаго паўтарацца і пацьвярджаць тое, што ўжо ясна само сабою,—выдатнае значэньне новага твору нашага пролетарскага пісьменьніка-романістага; адно трэба адзначыць, што Ц. Гартны, як пісьменьнік-рэволюцыянэр, займае і будзе

займаць *першае* месца ў шэрагу нашых бэлетрыстых. Што тут мае значэньне?—Практыка цяжкой „рабочай“ працы і непасрэдны ўдзел у рэволюцыйным змаганьні фабрычнага пролетарыяту. Практыкі „рабочай“ працы ў буйных цэнтрах фабрычнай прамысловасьці няма ані ў воднага з старых пісьменьнікаў „народніцкага толку“, а малодшым (трэба-ж у гэтым шчыра прызнацца) не хапае рэволюцыйнага гарту, які мог стварыцца пад уплывам паліцэйскага ўціску і астрожнага рэжыму. Наша моладзь выхавана ва ўмовах панаваньня пролетарыяту. Яна рэволюцыйна з боку сваёй ідэолёгіі, але часта ня мае рэволюцыйнага настрою. Ёй не хапае дасьведчаньня рэволюцыйнай барацьбы. Адсюль пэўная „мяккацеласьць“ нашага маладняка, імкненьне прыстасавацца, прыладзіцца, падмазацца. Адсюль часта вельмі павярхоўны падыход да проблемы вялікага соцыяльнага змаганьня. І ня дзіва, што другая квадра роману Цішкі Гартнага больш за ўсё выразна выяўляе сутнасьць рэволюцыйнага процэсу ў Беларусі.

Вельмі высока стаіць мова аўтара,—адбітак жывой народнай капыльскай мовы; як рэволюцыянэр, Ц. Гартны адрэзвае словы; у яго няма мяшчанскай закругленасьці фразы; стыль яго жорсткі і, значыцца, рэволюцыйны.

Іншыя, ужо дробныя, прозаічныя творы пісьменьніка, зьмешчаныя ў часопіснай літаратуры, яскрава сьведчаць аб тым, што яго творчасьць няўхільна разьвінаецца ў кірунку ўсё большых і большых дасягненьняў з боку стылю і наогул мовы. Вось, напрыклад, апавяданьне „Таварыш інспэктар“ з № 5 „Полымя“ за 1926 г.: „Ноч глядзела на зямлю мільёнамі зор. Чорны полаг яе туліў надворак. Праз адчыненае акно падаў смуглы жоўты промень на мяккую мураўку. Ціха шыпеў самавар. Некалькі хвілін ня чуваць было жаднага крыку, ні гуку. Пасьля дзесьці падала свой голас сава. Па гасьцінцы затарахцелі калёсы падводы. На іх стук адазваўся зацяжным брэхам сабака. Яшчэ нечы крык умяшаўся ў гэта“... З стылістычнага погляду гэта месца вытрымана бездакорна. Адрывістыя, кароткія сказы як нельга больш адпавядаюць задачам удасканаленьня нашай літаратурнай мовы, бо жывая мова ня ведае доўгіх пэрыодычных сказаў, і памылкай пісьменьніка ў яго ранейшых творах было злоўжываньне пэрыодамі, дзеля чаго сама мова набывала цяжкі характар.

Ад твораў Ц. Гартнага пераходзім да твораў Якуба Коласа, пісьменьніка старога народніцкага толку, які ў канцы году атрымаў прызнаньне „народнага беларускага поэты“. Апроч апавяданьняў пісьменьніка, якія зьмяшчаюцца ў розных часопісях, якраз к часу яго юбілею выходзіць яго зборнік „На прасторах жыцьця“. Калі ў ранейшых зборніках пісьменьніка „Крок за крокам“, „На рубяжы“, „У ціхай вадзе“, а таксама і ў выданым у пачатку 1926 г. зборніку „Казкі жыцьця“ перадрукованы галоўным чынам старыя творы Як. Коласа, якія выдаюць

яго больш за пісьменьніка прадрэволюцыйнай эпохі, дык новы зборнік „На прасторах жыцьця“ як-бы разгортвае новую старонку з літаратурнай творчасьці поэты. З прастораў беларускіх палёў, апавітых летняю смагаю і журбою зьдзекаў паноў над сялянамі, з межаў беларускай вёскі і мястэчка, дзе ледзь-ледзь б‘еццa пульс жыцьця, з глушы беларускай провінцыі з яе дробнымі інтарэсамі настаўнікаў і настаўніц, каморнікаў ды валасных пісароў, пісьменьнік *робіць* (толькі робіць!) спробу перайсьці на шлях прастораў буйнога гораду, на шлях прастораў жыцьця, перабунтаванага да ісподу рэволюцыйнай навальніцай. Ці ўдаецца гэта спроба? Пытаньне, на якое можна адказаць парознаму. Шукевіч-Трацьцякоў кажа: „ад „Палескай глушы“ Колас пакуль-што не дайшоў да сучасных падзей, хаця гэта ён нам і абяцаў. Ён дойдзе да іх пазьней, калі сучасныя дні ўжо стануць гісторыяй. Але адаб‘е іх у сваіх творах і як добры мастак і як праўдзівы летапісец, як эпічна адбіў ён свае маладыя гады у „Новай зямлі“... Адсюль вывад: „Не чакайце-ж ад Коласа сёньня ні яскравых малюнкаў Федзіна „Города и годы“, ні Блокаўскіх „12“, ні „Цемента“ Гладкова. Не чакайце ўсяго гэтага ад яго сёньня—зарана чакаеце“ („Чырвоны Сейбіт“ № 3 за 1926 г. і зборнік „Якуб Колас у літаратурнай крытыцы“). Аднак, з гэтай ацэнкай не згаджаецца на старонках „Полымя“ (1927 г., № 1) Янка Марук. На яго думку, „т. Шукевіч шмат памыляецца ў сваіх прарочаскіх „предсказаниях“. У гэтым ён можа праканацца, калі ўважліва прачытае „На прасторах жыцьця“, бо тутака можна знайсьці больш таго, што даў і Федзін, і Гладкоў“. Да якіх-жа вывадаў магчыма, усё-ж такі, прыйсьці пры ўважлівым чытаньні зборніка? Зборнік „На прасторах жыцьця“, як і іншыя творы Якуба Коласа, дае багатую галерэю асоб рознага соцыяльнага стану. Цікава: хто-ж яны, гэроі яго апавяданьняў?—Хаім Рыбс, дробны крамнік, якога абіраюць на пасаду квартальнага мястэчка Новы Стан, курскі настаўнік Рыгор Андрэевіч Угоднік, які з голаду згаджаецца на абраньне яго сельскім „вобчаствам“ за папа („Курская анамалія“), Якім Суднік, засьцянковы шляхціч (стары), вясковы дзед Баўтрук („Называецца—зарабіў“), восемдзесятлетні вясковы-ж дзед Павал і побач з ім малюсенькая Нінка („З боку жыцьця“), маленькая дзяўчынка Агатка, напалоханая контрабандыстымі („Агатка“), стары наіўны вясковы дзядзька Марцін, поўны вобраз мінулага („Дзядзькаў сьведка“), Міхайла Іванавіч Вядзёркін, прокурор, які ў першыя дні рэволюцыі бурчыць на Савецкую ўладу ды з голаду крадзе дошкі з плоту на апал, побач з ім „айцец“ Мікалай і „матушка“ Кацярына Пятроўна, Андрэй Мартынавіч „шкраб“ старой рошчыны („Прокурор“). І гэта на працягу 10 старонак зборніка. Якія-ж гэта „новыя“ тыпы? Усе—старызна, якая або сама зьбіраецца на спакой, або адкідваецца жывым струменем рэволюцыі. І чытаючы першую трэць зборніка, зусім ня сьцяміш, якія тутака „прасторы жыцьця“? Айжа, лепш было-б выкінуць усё гэта з зборніка і выпусьціць асаблівым

спыткам, хаця-б пад загалоўкам „Рэшткі старога“. Новае пачынаецца толькі з „Колектыву пана Тарбецкага“, хаця і тут, уласна кажучы, новыя тыпы пераблытаны са старымі. Вось прад намі пан Тарбецкі, тыповы пан, уласьнік гарадзкой маемасьці, які дажывае свой век на плату з кватарантаў, а побач з ім—поп Лагода, сьвіняр Вадап'ян. Але, апроч таго, фігуруюць прачка Грында, кравец Самабыль, швачка Самабыліха, шавец Сякач, доцэнт, асыстэнт, электрафікатар. Як бачым, больш дробна-буржуазныя тыпы або неорганізаваныя „кустары“. І было-б няправільна казаць, што тутака аўтар пераносіць нас на прасторы буйных вуліц; гэроі яго апавяданьня жывуць дзесь на задворку, на ўскраіне буйнога гораду. Чытаючы „Колектыў пана Тарбецкаго“, проста ўяўляем сабе менскую Старажоўку ў тупіку, які ўпёрся ў Конную плошчу. Пэўныя прасторы жыцьця, аднак, даны ў галоўнай аповесьці зборніка „На прасторы жыцьця“. Вясковая моладзь, вучні рабфаку, хлопцы і дзяўчаты—вось пэрсонажы гэтай аповесьці. Яны з трудом вырываюцца з сваёй вёскі, з трудом паступаюць на рабфак, жывуць у цесных умовах, часта церпяць няўдачы, але няўхільна імкнуцца выйсьці на простор. Гэты твор нашага пісьменьніка зусім сваячасны. Каго няма сярод пэрсонажаў апавяданьняў Якуба Коласа? Няма работнікаў, няма прадстаўнікоў гарадзкога працоўнага пролетарыяту. Задарма-б мы сталі шукаць іх сярод гэрояў яго нават найноўшых апавяданьняў. У гэтым—вялікая розьніца паміж творамі Як. Коласа і Федзіна ды Гладкова. Якуб Колас і да гэтага больш сялянскі, вясковы або мястэчковы, чымся рабоча-пролетарскі гарадзкі пісьменьнік.

Зьяўляецца пытаньне, ці здолеў-бы Якуб Колас зрабіцца такім пісьменьнікам, ці змаглі-б з-пад яго пярка выйсьці творы, падобныя на творы Ф. Гладкова?

Шукевіч-Трэцьцякоў беспардонна кажа: „не чакайце,—ня здолее!“ Авось-жа зусім не па марксыцку кажа паважаны крытык. З таго, што ў Якуба Коласа ня было такіх твораў, ня вынікае, што іх у яго ня будзе. Ня было таму, што навакол пісьменьніка ня было адпаведнага асяродзішча. І запраўды, дзе ў нашай Беларусі буйныя фабрыкі, буйныя фабрычныя цэнтры, якія адпаведным спосабам настройвалі-б думку пісьменьніка? Іх няма. Якуб Колас да гэтага часу быў пісьменьнікам беларускай вёскі і лясоў, бо ён узрос у вёсцы, у нетрах беларускіх пушч. Апынуўшыся вясковым настаўнікам, ён дае малюнкі жыцьця вясковамястэчковай інтэлігенцыі. Апынуўшыся ў Куршчыне, зафіксоўвае ў сваіх апавяданьнях малюнкі жыцьця курскай вёскі. Потым ён жыве ў абставінах гарадзкога жыцьця, сярод скучанага насельніцтва сучаснага гораду,—і вось з-пад яго пярка выходзіць „Колектыў пана Тарбецкага“. Апавяданьне „На прасторы жыцьця“ зьяўляецца, у сваю чаргу, вынікам заняткаў пісьменьніка ў тэхнікумах і унівэрсытэце. Уявім сабе, што Якуб Колас апынецца ў буйным цэнтры фабрычнай прамысловасьці, што ён сам спрабуе працаваць на фабрыцы або, прынамсі, увойдзе ў гушчу

рабочай масы,—прыгледзіцца да жыцьця рабочых і прыслухаецца да іх настрояў. Тады, бязумоўна, ён здолее даць абрыс фабрыкі і гораду,— і гэты абрыс, мабыць, будзе стаяць вышэй за тое, што дана ў творах малодшых пісьменьнікаў, бо, як майстар слова, беларускага слова, Якуб Колас стаіць вельмі высока. Каб зусім зразумець зьмест твораў Якуба Коласа, трэба мець на ўвазе асноўныя рысы яго творчасьці. На мой погляд, гэта творчасьць характарызуецца вельмі разьвітай *назіральнасьцю* над фактамі рэчаіснасьці пры *глыбокім рэфлексолёгічным і філёзофскім аналізе* і, аднак, *пры небагатай будаўнічай фантазіі*. Якуб Колас чэсна, у адпаведнасьці з фактам, апісвае тое, што ёсьць, асабліва тое, што праходзіла прад яго вачыма, але ён ніколі ня створыць „утопіі“. Тутака вялікая розьніца паміж Якубам Коласам і, напрыклад, З. Бядуляй і М. Зарэцкім. Бядуля, ніколі ня быўшы контрабандыстым, сьмелымі мазкамі пярка малюе вобраз, але ня толькі вобраз, а і псыхічныя перажываньні контрабандыстага („Як я зрабіўся контрабандыстым“). М. Зарэцкі, зусім малады пісьменьнік, у апавяданьні „Сьмерць“ разгортвае старонку жыцьця старога рэволюцыянэра на парозе да сьмерці. Абодва пісьменьнікі даюць нам вобразы сваёй магутнай творчай фантазіі. Пры жаданьні яны дадуць нам і вобраз рабочага-шахцёра, нават ніколі ня быўшы ў шахтах, і накідаюць малюнак „пекла“ і „апошніх дзён сьвету“,—накідаюць сакавітымі, яскравымі фарбамі. Няма чаго чакаць чаго-небудзь падобнага ад Якуба Коласа... Ён рэалісты, не фантазёр, апісальнік рэчаіснасьці, а не утапісты... Пры ўсім тым, ня можна адмаўляць, што ў зьмесьце творчасьці Якуба Коласа за апошнія гады ясна выявіўся паварот ў бок рэволюцыйнай ідэолёгіі,—і гэта асабліва выразна адчуваецца ў зборніку „На прасторах жыцьця“. „У шырокіх размахах грамадзкай работы“—вось дзе даны запраўдныя шырокія прасторы жыцьця згодна надпіску да аповесьці „На прасторы жыцьця“.

У гэтых адносінах асабліва аповесьць „На прасторы жыцьця“ адпавядае вымогам сучаснасьці. Аднак, нельга казаць таго-ж аб стылі Якуба Коласа. Стыль яго пазьнейшых апавяданьняў такі-ж самы спакойны, „*рахманы*“ стыль, якім напісаны і ранейшыя яго творы. У ім не адчуваецца дынамічнасьці жыцьця нашай эпохі. І як і раней, у прозе Коласа ня мала русізмаў, русізмаў ня ў сэнсе лексыкі, а ў сэнсе фразэолёгіі. Напр., бяру на аднэй толькі 93 стар:—„Хіба-ж *дапусьціць ён сябе* да таго, каб сябраваць з *жаночым насеньнем*“. „*Зрабіць намеры* сьцерці яе з *твару зямлі*“. „Аленка, *пакрыўджаная* ў лепшых сваіх *жаданьнях*“. „Яшчэ больш *сур'ёзны стаўся* Сьцёпка“. „Настала лета, *уцягнуўся* Сьцёпка *ў* гаспадарскую *работу*“. Канечна, гэтыя асаблівасьці стылю Коласа, мабыць, у некаторых адносінах і маюць свой сэнс: дзякуючы ім палягчаецца чытаньне яго твораў асобамі, што прайшлі расійскую школу. Аднак, ясна, што *школай беларускай фразэолёгіі* проза Коласа быць ня можа.

У сэнсе *дынамічнасьці* стыль З. Бядулі і М. Зарэцкага, бязумоўна, стаіць вышэй ад стылю Як. Коласа.

Пераходзім да гэтых апошніх.

З. Бядуля, апрача журнальных артыкулаў, выпусьціў у 1926 годзе цэлы зборнічак сваіх „апавяданьняў“. Каб судзіць аб „новых“ апавяданьнях Бядулі, каб мець пэўны „маштаб“ для ацэнкі яго „новых“ продуктаў пярка, трэба мець на ўвазе агульныя рысы яго творчасьці. Аб дужа разьвітай фантазіі пісьменьніка было ўжо казана. Гэтай асаблівасьцю Бядулі і тлумачыцца яго закаханьне да мітолёгічных, казачнабаечных сюжэтаў. Бядуля адчувае сябе зусім дома як на беларускім небе, гэтак і ў нетрах палескіх балот,—там, дзе жывуць черці, лясуны, русалкі і інш. стварэньні беларускай фантазіі. Бядуля сваёй фантазіяй можа жыва ўявіць сабе і маляўніча апісаць перажываньні і цяжарнай кабеты, і контрабандыстага, якому пагражае кара сьмерці. Пісьменьнік з багата-разьвітай творчай фантазіяй, Бядуля разам з тым палкая, адароная чыста-паўднёвым эротычным тэмпэрамэнтам натура, і пры тым вельмі цякучая, зьменная, гнуткая натура. Мабыць, Зьмітрок Бядуля—самы палкі і разам з тым самы гнуткі з ліку нашых пісьменьнікаў. Гэтыя рысы агульнай творчасьці пісьменьніка знаходзяць сабе адбітак і ў зборніку яго „Апавяданьняў“, выданых у 1926 г. Хіба не найлепшае з усіх гэтых апавяданьняў апошняе—„Як я зрабіўся контрабандыстым“. Сучаснае па сюжэту, напісанае жвава і вытрыманае з стылістычнага боку, яно разам з тым ёсьць і найбольш вялікае з усіх апавяданьняў зборніка. А пра іншыя можна казаць, што для пісаньня іх, як відаць, у Бядулі не хапала часу... Выйшлі кароценькія, дужа кароценькія рэчы. Аднак, усе апавяданьні Бядулі сучасны, адпавядаюць тыповым зьявам нашай рэчаіснасьці,—і ня будзе памылкай казаць, што калі *цяпер* рабочы, пролетар гораду, пакуль што не фігуруе ў гэтых апавяданьнях, дык у далейшым рабоча-гарадзкое жыцьцё знойдзе сабе яскравы адбітак у яго творах. А што Бядуля—„майстар“ нашай прозы, гэта яскрава даводзіцца апошнім яго апавяданьнем за 1926 г., надрукаваным у № 8-м „Полымя“,—„Танзілія“. Як мастацкі прозаічны твор, „Танзілія“, бязумоўна, зойме адно з першых месц у шэрагу нашых прозаічных твораў. Вобраз татаркі, якая нарадзіла ад беларуса Васіля дзіцё, забітае яе мужам, татарынам, жыва ўяўленай пісьменьнікам у яе „біолёгічнай трагедыі жанчыны“, будзе жыць сярод вобразаў беларускай прозы.

Стыль Бядулі—сьмелы і разам з тым лёгкі і роўны...

Аднак, стыль М. Зарэцкага па сваёй рэволюцыйнай магутнасьці пакуль што адзіночны стыль у нашай прозе.

„Ціха было. Але ва ўсім адчувалася жывая напружанасьць нейкая. Быццам ночны спакой прадінаўся памалу яшчэ стрыманай энэргіяй, і пад навалам яе во-во ўжо гатоў быў рассыпацца ў сумятлівую дзянную

рухавасьць. І застыгла ў шэра-сталёвым паветры маўкліва-трывожнае чаканьне“...

Фразы выбіваюцца нібы-то ўзмахамі сталёвага молату. Фразы ў большасьці кароткія, быццам уцятыя...

У 1926 годзе М. Зарэцкі даў зборнік „Пад сонцам“, аповесьць „Голы зьвер“, у самым канцы году „42 дакумэнты“ і „Двое Жвіроўскіх“.

Сярод гэрояў апавяданьняў М. Зарэцкага няма чаго шукаць нясучасных тыпаў. Рэволюцыянэры-барацьбіты, жанчыны, выбітыя рэволюцыяй з каляіны мяшчанскага жыцьця, контр-рэволюцыянэры, разбэшчаныя „здраднікі“ новага ўкладу жыцьця („голыя зьвяры“) і побач з гэтым моладзь, піонэры—дзеці, будаўнікі будучага. Ёсьць адна рыса, якая выгодна адрозьнівае прозу Зарэцкага на агульным фоне нашай больш сялянскай, чымся гарадзкой, літаратуры. Зарэцкі дае вобразы пераважна рэволюцыйнай інтэлігенцыі або проста інтэлігенцкіх тыпаў, якія кінуты ў кіпучы кацёл рэволюцыйных перажываньняў. Гэта надае асаблівай колёрытнасьці творам Зарэцкага і робіць яго „ходкім“ сярод інтэлігенцкіх кругоў пісьменьнікам.

Тое, што створана Зарэцкім у 1926 годзе, можна разглядаць як канву, па якой будуць разьвівацца далейшыя буйныя парасткі яго творчасьці.

На гэта разьвіцьцё пісьменьніка выразна паказвае яго роман „Сьцежкі-дарожкі“, які пачаў друкавацца сёлета ў часопісі „Полымя“.

Сярод прозаічных твораў ад мінулага году, бязумоўна, важнае месца павінны заняць апавяданьні М. Гарэцкага „Досьвіткі“ і „У чым яго крыўда?“ Гэтак сама значнае месца належыць „Запіскам“ аб імпэрыялістычнай вайне. Што проза Гарэцкага мае шмат дадатных бакоў,—гэта вядома ўжо даўно. І толькі выпадковымі акалічнасьцямі можна вытлумачыць многалетняе маўчаньне таленавітага прозаіка. Тым больш трэба прывітаць, што М. Гарэцкі зноў пачынае пісаць не падручнікі, ня слоўнікі, а бэлетрыстычныя творы. Нельга адмаўляць таго, што зьместам апавяданьняў Гарэцкага служаць падзеі дарэволюцыйнага часу, але паколькі тутака адбіваецца ўціск паноў над прыгнечанымі сялянамі, яны сваячасны і маюць выхаваўчае значэньне для пролетарыяту. Запіскі-ж „На імпэрыялістычнай вайне“, у свой чарод, кладуць пачатак сур'ёзным формам беларускай прозы рэальнага кірунку.

Урэшце, мова М. Гарэцкага, як народная мова, падобная, па сваёй блізкасьці да провінцыяльных гутарак, на мову Ц. Гартнага, мае значную вагу для сформаваньня нашай літаратурнай мовы.

Асобна сярод зборнікаў прозаічных твораў за 1926 год можна паставіць зборнікі Кузьмы Чорнага „Пачуцьці“ і „Хвоі гавораць“.

У свой час, з выхадам з друку ў выданьні „Маладняк“ зборнічкаў „Апавяданьні“ і „Срэбра жыцьця“ (Менск, 1925 г.), Кузьма Чорны пада-

ваў сур'ёзныя надзеі, як пісьменьнік рэалісты, адароны назіральнасьцю над фактамі жыцьця і добрай, лёгкай мовай.

Цяпер, ня факты, а пачуцьці—у цэнтры ўвагі аўтара.

Якія-ж і чые пачуцьці?

„Музыка сьціхла, а пасьля зноў зьявілася. Яна выявіла скаргу чалавека, які заставіў гэтыя зыкі бегчы ў сьвет. Скаргу на тое, што ня бачыць ён у сьвеце таго, чаго бачаць у той-жа час другія і што мінулае не варочаецца. Жыць-жа гэтым мінулым, калі яно толькі мінулае—цяжка. Зыкі перайшлі пасьля ў глубокую журбу"...

Гэтак чытаем у першым апавяданьні зборніка аб пачуцьцях „Вечар".

Глыбокая журба,—гэтае пачуцьце нібы-та чырвонаю істужкаю праходзіць праз апавяданьні К. Чорнага. Журыцца аўтар, журыцца і ныя, ныя без канца... Амаль што не цэнтральнае апавяданьне зборніка—„Буланы". Сюжэт—пачуцьці шаўлюжкі, старога Буланкі перад забоем...

„Карась" спакойна, з каменным выразам твару, дастаў з халявы нож, папрабаваў пальцам вастрату яго і, як-бы што раптам уцяміўшы, даў гэтым нажом Буланаму ў грудзі.

Буланы ні-то што каб гэта адчуў боль: яе неяк асабліва й ня было. У першую хвіліну было некае як-бы непаразуменьне перад усім тым, што робяць, што ёсьць... Пасьля ўсё стала цёмна-шэра-сінім, паплылі ў ім чырвоныя лапіны, з некаю страшнаю зеленьню ды яшчэ з нечым такім, што ўсё і нічога"...

І гэтак ные, тупаецца аўтар на працягу цэлага апавяданьня...

А вось адрывак з апавяданьня „Пачуцьці".

„Была туманная раніца. Расплывалася імгла і цякла вада. Плакаў сад мокрым гальлём"...

І ўсё-то плача аўтар... Зусім ня пристала плакаць яму, дужа маладому хлопцу...

А калі хлопцы плачуць, гэта—яўная адзнака заняпаду...

Жадалася-б, каб Кузьма Чорны здолеў выйсьці на свой ранейшы шлях здаровай рэалістычнай творчасьці.

Зборнічкі твораў Нікановіча („Золак" і „Радасьць"), а гэтак сама апавяданьні Гаўрука і Мурашка нічога цікавага не выяўляюць. Гэта—звычайныя спробы маладых пісьменьнікаў, якім яшчэ многа трэба папрацаваць над сабою ў сэнсе паглыбленьня свайго жыцьцёвага дасьведчаньня і ўдасканаленьня свайго пярка.

А ў цэлым можна лічыць, што 1926 год пакінуў пасьля сябе значны сьлед у галіне нашай мастацкай прозы.

# БУРЖУАЗНАЯ І ПРОЛЕТАРСКА-РЭВОЛЮЦЫЙНАЯ ЛІТАРАТУРА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**Іоганэс Бэхэр**

## I

## „Мёртвы пункт“

Сёньнешняе становішча нямецкае буржуазнае літаратуры адзначаецца тым, што ані па зьместу, ані па форме яна ня ставіць перад сабой ніякае проблемы, не гаворачы аб тым, што яна бярэ ўдзел і супрацоўнічае ў вырашэньні самых паважных і адказных проблем. Нямецкая поэзія на практыцы ўжо даўно адмовілася ад прэтэнзіі на ўплыў у галіне ідэолёгіі. Адна з прыметных асаблівасьцяй сёньнешняе поэзіі— гэта яе „ненавуковасьць“ („Unwissenschaftlichkeit“), яе пагарда да навукі, што заўсёды раўнялася поўнаму заняпаду мастацкага кірунку. З аднаго боку—самы пусты эпігонізм, а з другога—бясплодная страта сілы: што-ж ім сапраўды рабіць з гэтым сталым „разьвіцьцём навукі“? Каб ня зьнішчыць саміх сябе, яны сударжна закрываюцца ад праўды.

Мы пытаемся: ці ставіць сёньнешняя буржуазная літаратура перад сабой сучасныя, сусьветныя проблемы, якімі можна сур'ёзна цікавіцца? Ці творыць яна формы, з якімі можна будзе зьвязаць будучыну? Ці формулюе яна буржуазны заняпад, ці вядзе яна далей, або істотна папаўняе формулёўкі буржуазнага заняпаду, які быў адзначаны дзесяткі гадоў назад у гвалтоўным закліку Золя, Флоўбэрта, Дастаеўскага? У кожным выпадку адказ будзе: не. Распад нямецкага буржуазнага грамадзтва гэткі, што мастацкіх і каштоўных дакумантаў гэтага заняпаду яна ніколі ўжо вытвараць ня будзе. Тэма „нямецкія джунглі“ („Deutsche Dschungel“) выглядае, што да буржуазных крытыкаў, вычарпанаю.

* * *

„Кожны пункт погляду дапусьціць да слова“ (зразумела, што за выняткам комуністычнага). Гэткі пункт погляду (пры адсутнасьці поглядаў)—ёсьць програма найлепшага літаратурнага клюбу сучаснасьці. (Напрыклад, „Literarischen Welt“). Цікавая, з рознымі забаўнымі плёткамі: згатаваная мешаніна, у якой кожная надстаўка сур'ёзнага комбінуецца з оргіямі, недарэчнасьцямі, фрывольным цынізмам і дурным патосам

гэта называецца (і мае права называцца) афіцыяльным прадстаўніцтвам нямецкае літаратуры. Нават самы небясьпечны, пры гэткай адмоўнай кампаніі, будзе паслухмяным. (Мы ня хочам гаварыць пра крытыку, якая ўжо даўно пайшла шляхам адкрытае карупціі). Гэтыя літаратары займаюцца ў найлепшым выпадку аранжыроўкаю і зьяўляюцца духоўнымі вітрынамі. На сьвет яны глядзяць, як на мешаніну рэчаў, людзей, зданьняў і нічога болей, ды хочуць яшчэ пры гэтым прагнаць крыху ўласнае нуды, мазгавую пустату і сэрцавае ўбоства. Прызнацца ў гэтым адкрыта яны ніяк не адважацца, і дзеля гэтага дэкорацыйна хаваюць сапраўднасьць. Наш абавязак—выказаць тое, што ня выказана і месьціцца, аднак-жа, у пісаніне гэтай літаратурнай зграі. Што задачаю чалавека ёсьць перарабіць сьвет і выявіць як сьлед жыцьцё чалавека—яны даўно забылі і з некалькімі таннымі жартамі выкінулі гэту думку за борт. (Трэба яшчэ знаць, што гэтак званыя „рабочыя поэты“ Брэгэр, Лерш і Бартэль граюць пры гэтым ролі здраднікаў і саздраднікаў).

Яны сталі „сьпелымі“ і „разумнымі“ і бяруць толькі быстрыя навінкі сьвету, але ніколі не бяруць ведаў,—о, гэта выклікала-б шмат труднасьцяй і зусім не аплацілася-б. Заняць позыцыю? Навошта? Мець свой пункт погляду? Закончанае шаленства (Vollendeter Blödsinn)... Бо іх сьвет—сьвет „мяккі, у які кожны пункт погляду ўлезе“.

* * *

Бясспрэчна, што і сёньня ёсьць невялічкая меншасьць буржуазных пісьменьнікаў, якія вельмі неахвотна, з глыбокаю агідай і брыдкасьцю прымаюць удзел у дзейнасьці гэтых колаў. Група гэтых („Група 1925, да якой, між іншым, належаць Дэблін, Бэрт, Брэхт, Вольфэнштайн, Галітутэр і Рот) протэставала супроць пустога зьместу і салённае творчасьці свайго „Пэнклюбу“ перад міжнародным аб'яднаньнем буржуазных пісьменьнікаў. Гэтыя людзі душацца і глытаюць шмат болі, расчараваньняў і абурэньняў, бо крок за крокам змушаны яны падавацца і зьменьвацца, каб знайсьці які-небудзь ідэал, аб якім іншыя мала стараюцца.

Ці вераць яны сапраўды ў дзень „помсты“, у час, калі ўсё паіншаму пойдзе?

Самы здольны нямецкі журналісты Курт Тухольскі, які яшчэ сёньня належыць да лева-радыкальнае буржуазнае часопісі „Die Weltbühne“, знаходзіцца, як паказваюць усе азнакі, на нашым шляху. Эгон Эрвін Кіш, які, відавочна, у выніку паездкі ў Расію, атрымаў гвалтоўны штыршок наперад, далёка і бяссумненна прасунуўся на наш фронт. Таксама і супрацоўнікі дасканальнае, праз Гэргарда Поля рэдагаванае, часопісі „Die Bücherschau“ могуць быць залічаны, як сымпатыкі (Макс Гэрман—Найсе, Мэрынг).

Іншыя зноў знаходзяцца сёньня ў становішчы, якое можна назваць „мёртвым пунктам“. Іх рухавік ідзе пустым ходам (Leerlauf). Высунуцца

з буржуазнага грамадзтва змусілі іх уласныя перажываньні і пераконаньні, якія яны вынесьлі з рэволюцыйных хваль. Гэты крок, аднак-жа, яны не зрабілі да канца, бо, у выніку далейшага працягу гэтай дарогі, яны апынуліся-б у шэрагах сьвядомага пролетарыяту.

Аднойчы жыўшыя, тырчаць яны, моцна ўмураваныя ў адну атмосфэру, і ня ведаюць ніякага „наперад“, ніякага „назад“. У некаторых можна прыблізна на творах адзначыць пункт, дзе яны зрабілі пралом праз „граніцу“. Напрыклад, у Георга Кайзэра „Gas“, у Леонарда Франка „Der Mensch ist gut“. (Таксама і Гэнрых Рамм, які ў многіх з нас выклікае вялікую надзею). Позыцыя гэтых твораў—павольнае, але бязупыннае адхіленьне назад, адступленьне пад вядомыя размоўныя формы і манэўры, няпэўнасьць і намацваньне проблем, акцэнты зрушваюцца, і тое, што калісь было самым паважным і істотным—соцыяльная рэволюцыя—адсоўваецца на задні плян. Як дадатак, як эпізод. А ў выніку нявырашанага яны „вісяць між клясамі“ („Zwischen-den-Klassen-Hängenbleiben“), „ані туды, ані сюды“. Гэта атмосфэра мае сваю ўласную мову. Адзін з самых таленавітых поэтаў гэтага роду Альбэрт Эрэнштайн даў у сваёй лірыцы закончаны выраз гэтаму „становішчу—паміж“ („Zwischen Lustand“).

Безнадзейнасьць, зморанасьць, цынізм і сарказм, што паказвае глыбокае зразуменьне бяздоньня і бязглуздасьці ўласнага існаваньня. „Нявырашана, і ня можа быць вырашана“,—монотонна фальшывячым рытмам круціцца адказ. Безнадзейнасьць, бездарожжа. „Граніца“ зрабілася мурам, горным масывам, што адбірае воку магчымасьць глядзець у больш жывую будучыну.

II

## Барацьба перад фабрыкамі

„Kampf vor den Fabriken“—(„Барацьба перад фабрыкамі“)—гэта загаловак апавяданьня таварыша Абуша, якое было надрукавана ў „Viva“. У аснове гэтага апавяданьня прыкметны некаторыя проблемы нашае пролетарска-рэволюцыйнае літаратуры, за разьвіцьцём і вынікам якіх мы павінны старанна наглядаць.

Вялікая труднасьць вырашэньня гэткіх пытаньняў месьціцца перад усім у адмежаваньні мастацтва ад жыцьця—што ёсьць адзначнаю і характэрнаю асаблівасьцю кожнага заняпаўшага мастацкага кірунку, і заўважваецца таксама і ў нас, а сэнс гэтага ў тым, што пры выхадзе амаль кожнага літаратурнага твору мы ня маем магчымасьці контроляваць, як ён дзейнічае на масы, для якіх ён прызначаны. Крытыка мас застаецца нямой. Мы яшчэ далёка не зразумелі, як паставіць жыцьцёвую, патрэбную сувязь аўтара з масамі. Тут і там быў зроблены ў гэтым пачатак. Напрыклад, у „Ротэр Фанэ“ быў надрукаваны роман „Miss Mend“, і вось з поваду гэтага рэдакцыя зьвярнулася да чытачоў з просьбаю прысылаць свае ўражаньні, частка якіх пасьля была далучана да роману. Але на

гэтым поўным надзеі пачатку усё і закончылася. Уласныя літаратурныя нарады і ўражаньні ў провінцыяльнай прэсе—вялікая рэдкасьць. Лічбы выданьняў паасобных твораў—таксама не маштаб. У інтарэсах нашае літаратурнае продукцыі трэба гэткае становішча абавязкова адхіліць і спрабаваць усе магчымасьці, каб пралажыць мост над бяздоньнем, якое дзеліць жыцьцё і мастацтва. Нашыя пісьменьнікі хочуць і павінны вучыцца. Дзеля гэтага яны патрабуюць крытыку зьнізу.

* * *

Што прадстаўляе сабой кніга „Kampf vor den Fabriken“? Яе зьмест узяты з жыцьця рабочых. У ёй апісваецца ход аднэй забастоўкі. Гэтае апісаньне—блізкае да рэчаіснасьці і праўдзівае. Праўдзівае таму, што гэта забастоўка не разглядаецца, як нешта ізоляванае, як адна падзея, але як частка вялікае дзеі—змаганьня за вызваленьне рабочае клясы. Паасобнае вядзе да агульнага, а агульная законамернасьць клясавага змаганьня відавочна і конкрэтна прадстаўлена. Спэцыфічны ход падзей не перасаджаны да таго, каб у ім нельга было выразна бачыць агульна-рэчаіснага (Allgemeingültige). Забастоўка не вядзе да ўзброенага паўстаньня, забастоўка пераможана праз фабрыканта. Гутарка сама тоне як-бы гаворыцца, „ня плывеце супроць плыні“, але пад канец твору зноў падымаецца і канчаецца акцэнтам поўным вясёлае надзеі і радаснага змаганьня. Ідучы пасьля паражэньня з пляцу змаганьня дамоў, пролетар сьвісьціць „Інтэрнацыянал“. Адразу можна зразумець, што робіцца ў яго нутры... Цьвяроза, шэра і амаль аднатонна апавядаецца гісторыя гэтае забастоўкі. Стыль Абуша ня мае нічога супольнага з экзальтаваным, штучна форсаваным і ў грунце рэчы хлусьлівым „новым матэрыялізмам“, які нібы-то раптам выкрылі некаторыя буржуазныя штукары і крытыкі. Забастоўка зьяўляецца для рабочых матэрыяльнаю, высока мэтазгоднаю і рэальнаю справай. Стыль Абуша падыходзіць да об'екту. Гэта яшчэ не гаворыць за тое, што гэты стыль не патрабуе паляпшэньня, што ў далейшым ён ня можа быць апрацаваны яшчэ больш мэтазгодна, што апрацоўка паасобных сцэн не павінна быць яшчэ больш цьвёрдай і бязьлітаснай. Больш грунтоўна, больш концэнтравана, больш пераконваючы! Але з погляду на агульнае становішча нашае пролетарска-рэволюцыйнае літаратуры, пры гэтай першай літаратурнай спробе тав. Абуша, мы павінны сказаць, што ў „Kampf vor den Fabriken“, ён зрабіў для сябе дасканальную пляцформу, з якой ён можа, пры далейшай напружанай працы набыць месца добрага пролетарска-рэволюцыйнага пісьменьніка.

* * *

Надзвычайная слабасьць Курта Клебэра, які таксама запазычае свой матэрыял з жыцьця рабочых, складаецца ў тым (да сёньнешняга дня прынамсі), што ён бярэ рабочага толькі элемэнтарна („Barrikaden an den Ruhr“), толькі глуха, толькі ўмеркавана, амаль біолёгічна. Паўстаньне

ўзьнялося, але няма ніякае сувязі, ніякага жаданьня, ніякага кіраўніцтва. Партыі, дырэктывы—ня існуе. Па Клебэрскіх прадстаўленьнях можна зрабіць вывад, і гэты вывад робіцца, што паўстаньне і ўсе ахвяры ня мелі сэнсу. Праўда, гэтыя вывады зусім не падыходзяць да поглядаў Клебэра. Але Клебэр абавязкова павінен зрабіць у гэтым напрамку пэўную корэктуру, калі ён хоча ў будучым быць сапраўдным рэволюцыйным мастаком. У Клебэрскай продукцыі не хапае тэорыі, а без рэволюцыйнае тэорыі ня можа сёньня быць ніякае мастацкае практыкі. Моц выразаў (Darstelungskraft) Клебэра—надзвычайная і прымусовая. Яго мова—рух і дасягае часта найвышэйшага тэмпу. Яго мова—рухавік, які рве і парывае за сабой.

* * *

Возьмем разам Гэрміна цур Мілен і Мільлер-Глеса, хоць мы і ведаем, што між гэтымі абодвума аўтарамі ёсьць розьніца. Але абодва паставілі сабе ў многіх працах аднолькавую задачу: змаганьне з дробна-буржуазнаю ідэолёгіяй. Гэтая задача ім абодвум аднолькава не ўдалася.

Мільлер-Глеса высыпае перад намі ўсю дрэнь дробнае буржуазіі, якая вельмі часта запаўняе жыцьцё рабочага. Высыпае гэту дрэнь з найлепшым замерам, у гэтым нельга сумнявацца, каб па магчымасьці выжыць з сэрца і мазгоў рабочага ўсялякую дробна-буржуазнасьць. Што-ж выходзіць? У мове, у манерах выяўленьня, у сродках параўнаньня і абмаляваньня,—Мільлер-Глеса робіцца ахвяраю сваіх об'ектаў і капітулюе крок за крокам. Гэта значыць: замест змаганьня з дробна-буржуазнасьцю, як пісьменьнік, ён робіцца сам дробным буржуем. Дзеля таго, каб прадставіць дробна-буржуазнае акружэньне, але самому не зрабіцца пры гэтым дробным буржуем, трэба перад гэтым быць вышэйшым ад дробна-буржуазных поглядаў, чаго ў Мільлера-Глеса зусім ня было. Магчыма, што дрэнную рыску робіць тут яшчэ і саматужная няўмеласьць, таксама як і поўны недахват карыкатурнае і сатырычнае здольнасьці, якая павінна быць у арсэнале кожнага апавядальніка аб дробна-буржуазнасьці. Такім чынам, проці сваіх уласных поглядаў, распаўсюджвае ён дробна-буржуазныя настроі і ідэі. Дрэнь і сьмяцьцё, хаця і на чырвона намалёванае, прысунулася сёньня да яго вельмі блізка. Ён павінен яшчэ шмат вучыцца ў вялікіх буржуазна-рэволюцыйных пісьменьнікаў, як Золя, Дзікенс, Толстой і інш., каб у будучыне хаця крыху дарасьці да сваёй задачы. Мы нядаўна паказвалі на амэрыканскага пісьменьніка—Сінклера Леві, аўтара романа „Бабіт“. Ён можа там або, з пэўнымі абмежаваньнямі, у Леонарда Франка і ў Франца Юнга, на жаль, прапаўшага бяз вестак, вучыцца, як апісваць дробна-буржуазнае акружэньне без таго, каб самому зрабіцца дробным буржуем.

Пад вышэйадзначаную небясьпеку пападае і Гэрміна цур Мілен, якая зрабіла сабе імя, як перакладчыца твораў Уптона Сінклера. Гэта небясьпека заўважваецца ў яе ўласных творах і ў выбары яе апошніх

перакладаў. Мы даволі добра ведаем тэорыю, як падносіць пролетарыяту квасную пілюлю клясавага змаганьня ў дробна-буржуазным упакаваньні, мы ведаем гэтую мядовую тэорыю, гэтую тэорыю „ўліваньня белаю ложкай ззаду“. Шкада толькі, што погляды мэдыцыны наконт гэтае, па ўсяму хітрае спробы, ужо даўно падзяліліся. Гэтыя аўтары робяць уступку за ўступкай і ажно душацца ў гэтай уступачнай кашы, але ўсё безнадзейна. Непатрэбныя ўступкі, непатрэбныя компромісы. Яны маюць вельмі пэсымістычныя пэрспэктывы, хаця-б у тым, што датычыць іх пролетарскіх чытачоў. Пэсымізм, што да іх справы апраўдваецца яшчэ раней: вялікая, масамі напісаная і распаўсюджаная продукцыя ня мае ніякага ўплыву, у найлепшым выпадку, мае дробны ўплыў, які цягнецца датуль, пакуль цягнецца чытаньне.

* * *

Усе каштоўныя спробы, якія зроблены ў галіне пролетарска-рэволюцыйнае трыбуны, цесна злучаны з імем рэжысэра таварыша Піскатара. У сваіх інсцэніроўках Піскатар зьяўляецца вялікім поэтам пролетарска-рэволюцыйнае трыбуны. Зусім слабыя на паперы як па зьместу, так і па форме творы, напр., Толерса або Пакетса, зьяўляюцца ў выкананьні іх дадатных элемэнтаў творамі Піскатара. Піскатар зьяўляецца майстрам поэзіі і яе „апрацоўкі“. Яго рэжысура адрозьніваецца нявычэрпнаю эплзаіўнаю сілай і сілай удару. Творы Піскатара патрабуюць асаблівага вывучэньня. Да гэтага агульнага пераліку павінны яшчэ быць далучаны прозьвішчы Ёна Гартфільда, Жоржа Гроса і Рудольфа Шліхтэра, якія вытвараюць малюнкі і ілюстрацыі для нашых кніжак. Невялікая поэтычная праца Жоржа Гроса належыць да галоўных твораў нашае літаратуры.

Для поўнае орыентацыі трэба яшчэ назваць: Бэрту Ляск і Віртфогэля, Эрыха Мізама і Аскара Канэля, а перад усім Альбэрта Даўдзістэля, роман якога „Lahme Götter“ зьяўляецца вялікім пачаткам.

Літаратурная крытыка і самая літаратура—непадзельны. Пролетарска-рэволюцыйная Нямеччына мае шэраг дасканалых сатырыкаў і крытыкаў. Пералічым галоўных: Курт Керстэн, Отто Штайніцке, Вільгэльм Гэрцог, Фрыда Рубінэр, GGZ, Камэн, Кам'ят і Сьлянг.

Трэба яшчэ адзначыць і анонімную продукцыю—творы мас, якія запаўняюць старонкі нашых газэт у якасьці „корэспондэнцый рабочых“, і на рэволюцыйныя п'есы.

* * *

Аб выніках росту пролетарска-рэволюцыйнае літаратуры павінны мы гаварыць больш, чым цяпер, пэрыодычна абвяшчаць; па магчымасьці падтрымліваць разьвіцьцё гэтае літаратуры, прадстаўляць яе за межамі (Rundfunk і г. д.), пропагандаваць і выхоўваць яе ўнутры. „Kampf vor den Fabriken“ („Барацьба перад фабрыкамі“)—ёсьць ня толькі загаловак

аднэй кнігі. „Kampf vor den Fabriken“ удала падкрэсьлівае і ўсё становішча, у якім знаходзіцца наша пролетарска-рэволюцыйная літаратура. Нам усё яшчэ не ўдаецца пранікнуць у цэнтр працоўных, нам не ўдаецца яшчэ праўдзіва прадставіць жыцьцё рабочага так, каб нават сэрца беспартыйнага рабочага ўздрыгнулася і затраслося. Мы ня можам яшчэ паказаць на гэткія грамадзка-крытычныя літаратурныя творы, якія далі-б жыцьцёва патрэбныя тэорытычныя веды для вывучэньня практыкі змаганьня.

Найлепшае—можа здаволіць рабочага. Але рабочы ня мае столькі часу, каб праглынуць цэлую груду пустых і дрэнна напісаных кніжак, каб, нарэшце, знайсьці адну кніжку, якая апрацавана, двойчы апрацавана і якую варта чытаць. Па нашай думцы, варта чытаць тое, што ўзмацняе ў чытача сілу клясавага змаганьня і робіць на яго працяглы, усё больш моцны ўплыў. Магчыма, што самае чытаньне зьяўляецца адпачынкам, але такім адпачынкам, які, ва ўласьцівы толькі для мастацтва спосаб, дазваляе добра адпачыць і аднaчасова зьбірае і падрыхтоўвае сілу да будучага дня, да новага ўдару.

# ПАД ШЫЛЬДАЙ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*(„Узвышша“ № 1-2)*

**Тодар Глыбоцкі**

— Шыльды для таго і існуюць на сьвеце, каб засьляпляць сэнс саміх рэчаў.

*Кузьма Чорны. „Узвышша“ № 2.*

Да апошняга часу адным з асноўных матэрыялаў да характарыстыкі літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша“ служылі тыя прынцыпы, якія палажыла згуртаваньне ў аснову сваёй організацыйнай пабудовы. У нашых ранейшых артыкулах [1]) мы галоўным чынам і спыняліся на організацыйных палажэньнях „Узвышша“. Бязумоўна, упадніцкія тэндэнцыі організацыйнага парадку кіруюцца адпаведнымі ідэолёгічнымі процэсамі; з другога боку, ранейшая творчасьць узвышаўцаў магла даць частковае асьвятленьне сутнасьці новай організацыі. Але, працуючы ў складзе „Маладняка“, сучасныя правадыры „Узвышша“ павінны былі, у большай ці меншай меры, лічыцца з настроем і агульнай установкай „Маладняка“. Такім чынам, свой сапраўдны твар яны паказалі толькі цяпер, на старонках сваёй часопісі, дзе, пасьля доўгага перарыву, мы зноў спатыкаем старых знаёмых: Дубоўку, Пушчу, Бабарэку ды інш. [2]). Мы павінны з вялікім задаваленьнем зазначыць, што нашы погляды на організацыйную пляцформу „Узвышша“ ў асноўным пацьверджаны ў артыкулах З. Жылуновіча [3]) і Сымона Друка [4]). Артыкул С. Друка прадстаўляе падагульненьне тае дыскусіі, якая ўзьнялася навакол выхаду першага нумару „Узвышша“ (ня лічачы, зразумела, розных асабовых выпадаў ня зусім грунтоўных і тактычных, якія былі дапушчаны як „згуртаваньнем“ у цэлым, так і паасобнымі яго сябрамі).

Абодва нумары „Узвышша“ дзеляцца на два асноўныя разьдзелы: 1) мастацкая творчасьць і 2) літаратурна-публіцыстычныя артыкулы. Перш

---

[1]) Гл. арт. „Фальш камэртонаў“ („Маладняк“ № 9 за 1927 г.) і інш.

[2]) Па невядомых прычынах мы не спатыкалі на старонках беларускіх часопісяй і газэт бадай што ніводнага твору Пушчы, Дубоўкі і Бабарэкі на працягу цэлага году. Асабліва гэта адносіцца да двух апошніх.

[3]) „Полымя“ за 1927 г. № 1, стар. 191.

[4]) „Савецкая Беларусь“ № 106—108 за 1927 г.

чым прыступіць да разгляду мастацкіх твораў, мы дазволім сабе яшчэ раз спыніцца на адным з найбольш характэрных месц узвышаўскіх „тэзісаў“. Гэта месца гучыць так:

У пытаньні—якое патрэбна мастацтва?—галасы падзяліліся на дзьве плыні. З аднаго боку—факт бурапеннай і самагоннай творчасьці; або „нравоучительной“ і протокольнай творчасьці, службовай казённай радасьці выяўляе сабою ў літаратурным руху *тэндэнцыя адмаўленства. Гэтая плынь выражае сабою зданьне аб непатрэбнасьці для пролетарыяту і сялянства апанаваньня культурнымі каштоўнасьцямі спадчыны*[1]) *і ўтварэньня свайго мастацтва* (курсіў наш. Т. Г.), даючы ўзамен гэтага *літаратурныя прысмакі* (курсіў „Узвышша“), забелку або прыстрахі з мэтай вырашэньня надзенных асабістых задач і задаваленьня сваіх асабовых (поэты ці пісьменьніка) інтарэсаў.

З другога боку—факт творчасьці, якая імкнецца да выражэньня і *фармаваньня дыялектычна-матэрыялістычнага сьветагляду* (курсіў наш. Т. Г.) і да стварэньня культурна-мастацкіх каштоўнасьцяй на падставе апанаваньня народнай творчасьці, дасягненьняў мастацтва мінулага і конкрэтнага вывучэньня сучаснасьці, выяўляе сабой тэндэнцыю ажыўленства. Гэтая плынь, што выявілася ў організацыі згуртаваньня „Узвышша“, выражае думку аб тым, што *беларускаму пролетарыяту і сялянству патрэбна мастацтва ня менш, як якой-бы там ні было буржуазіі* (курсіў наш. Т. Г.).

Па гэтых тэзісах творамі протокольнай казёнай радасьці зьяўляюцца творы маладнякоўцаў, як М. Чарота, М. Зарэцкага, А. Александровіча ды іншых, якім проціпастаўляюцца творы Дубоўкі, Пушчы і Кузьмы Чорнага. Сапраўды-ж, творчасьць першых насычана радасьцю вялікага змаганьня, сьветлаю надзеяй будаўніцтва, настроямі перамогі тае клясы, чые інтарэсы яны выражаюць. Об'ектыўнасьць іх творчасьці падкрэсьліваецца яшчэ і тым, што побач з сьветлымі бакамі нашай сучаснасьці ў іх малююцца і цёмныя, што выключае ўсякія гутаркі аб казённай радасьці („Саматканая сьвітка“, „Голы зьвер“ і г. д.). Пры гэтым у творчасьці даных пісьменьнікаў цёмныя малюнкі выражаюць боль актыўнага будаўніка, спаткаўшага ў сваёй працы перашкоды або заўважыўшага недахват у прароблена працы; тут нарастае імкненьне паправіць гэтыя недахваты, дабіцца лепшага. Што датычыць дэклярацыйнага палажэньня аб выкарыстаньні культурнай спадчыны, дык аб позыцыі „Узвышша“ ў гэтым пытаньні мы будзем гаварыць асобна; „Маладняк“-жа выказаў свой погляд у сваёй дэклярацыі [2]).

Другая недарэчнасьць у гэтым месцы—гэта палажэньне аб фармаваньні дыялектычна-матэрыялістычнага сьветагляду. У сваім статуце

---

[1]) Мы разумеем—спадчыны папярэдніх эпох. Т. Г.

[2]) „Маладняк“ № 9, стар. 9, п. 2.

„Узвышша“ зазначае, што яго мэтаю зьяўляецца *разьвіцьцё* беларускай пролетарскай літаратуры. Аднэй з асноўных адзнак пролетарскай літаратуры зьяўляецца якраз матэрыялістычны сьветагляд. Як-жа гэта „Узвышша“, *разьвіваючы пролетарскую літаратуру* (ужо існуючую), зьбіраецца *формаваць адзін з яе асноўных элемэнтаў?* Наогул, калі ўзяцца дасканальна разьбіраць узвышаўскую дэкларацыю, дык там можна знайсьці вельмі многа матэрыялу, высьвятляючага ўзровень пісьменнасьці і здольнасьці лёгічнага разважаньня аўтараў дэклярацыі. Але ў літаратурных справах дэклярацыі адыгрываюць ролю падпарадкаваную, і дзеля гэтага зьвернемся да мастацкіх твораў, якія найлепей павінны паказаць нам, што прадстаўляе сабою „Узвышша“.

Пра аповесьць З. Бядулі „Салавей“ вельмі цяжка сказаць што-небудзь канчаткова. Аўтар узяў на сябе задачу даць гістарычны малюнак прыгоннага тэатру на агульным фоне прыгону. Але, узяўшыся за гэтую справу, ён, відаць, не паклапаціўся азнаёміцца з навуковымі матэрыяламі, а карыстаецца ў большасьці матэрыяламі інтуіцыйнага парадку (што бог на душу паложыць). Гэта часамі прыводзіць аўтара да трафарэтных прыёмаў агіткі і гэтым самым паніжае мастацкую вартасьць твору. Мастак павінен не расказваць, а паказваць; інакш яго твор будзе сухой моралістыкай і ня выкліча ніякіх эмоцый у чытача.

Для Кузьмы Чорнага вельмі характэрным зьяўляецца адно месца ў яго апавяданьні „Сьцены“. З жанчынай гандляркай здарылася бяда. Як водзіцца, усе кінуліся дапамагаць ёй. Гэта адвечны інстынкт чалавецтва—інстынкт грамады, гэта той інстынкт, які служыў і служыць заўсёды магутным фактарам у разьвіцьці і культуры і цывілізацыі чалавецтва.

> „Некалькі чалавек кідаецца памагчы ёй, а яна суха аглядаецца на ўсіх і скоранька гаворыць: „ня трэба, ня трэба, я сама“. І ўсё-ж нехта падапхнуў каламажку, падкаціў на другі бок вуліцы, і жанчына пашла ўсьлед. „Я сама, я сама“... яшчэ стаяць у вушах яе словы; і хочацца тады Люцыяну Марцінюку крыкнуць: „мы ўсе, мы ўсе. І каламажка наша, і цяжкасьць наша, і пакуты нашы, усіх“...
>
> . . . . . . . . . . . . . . .
>
> Натоўп разышоўся, нікога няма каля жанчыны, а яна зноў стаіць спакойна і ціха, маўчыць у вялікай чалавечнай сіле сваёй.
>
> І я там, і мы ўсе там“...

Гэта надзвычайна цікавы адрывак, цікавы тым, што ён прадстаўляе адно з зьвеньняў таго ланцуга, які ахапіў і Буланага з яго „мировой скорбью“, і Віктара Зеніча, і многіх другіх гэрояў Кузьмы Чорнага. Зусім не выпадкова вышла, што ўсе пэрсонажы першага адрыўку роману Кузьмы Чорнага „Сястра“ падобны адзін да аднаго падабенствам бліжэйшых сваякоў. Гэта лёкалізацыя „чалавечнасьці“ ў паасобным індывідууме пры адначасовым наданьні гэтаму індывідууму нейкай асаблівай сілы—ці не нагадвае нам шуканьняў нейкага звышчалавека? Чалавечнасьць, лёка-

лізаваная ў вобразе пакуты адзінокай і гордай (ды яшчэ бязмэтнай)— гэта-ж старая песьня, гэта біблійскае „Се—человек“, гэта—ідэя, ня маючая пад сабой конкрэтнага грунту, бо карэньні яе губляюцца ў аблудных нетрах дуалістычнага сьветагляду (гл. у тэзісах: формаваньне дыялектычна-матэрыялістычнага сьветагляду!.. Т. Г.). І ўсё гэта, нарэшце, вынікае з поўнай ізоляцыі аўтара ад жыцьця ва ўсім яго абхваце, аўтар замкнуўся ў коле сваіх адчуваньняў і тых нямногіх надворных зьявішч, якія ён ушаноўвае сваёй увагаю. Жанр аўтара нагадвае жанр псыхолёгічнага роману, але дзякуючы вузасьці кругагляду аўтара романператвараецца ў тыя самыя літаратурныя прысмакі, якія „Узвышша“ ў сваёй дэклярацыі падкрэсьліла, як нешта адмоўнае і непатрэбнае.

Зусім інакшы кірунак бярэ Ўладзімер Дубоўка ў сваіх мэлёдыях „Наля“, дзе ў яго гучаць часамі мотывы, падобныя да Грамыкаўскага:

Вы нас гарматамі,
Мы вас сьняжкамі...

Дзеля прыкладу возьмем хаця-б пятую мэлёдыю:

„Скажы ім Наля, любая мая,
што я бяз бацькаўшчыны гадаваўся:
сусьвет гатоў пацалаваць, абняць,
каб не рабіў ён катавасій.
Над працай каб прымусу ня было,
каб жыў працоўны там, дзе вокам кіне.
На ўзбрэжжа акіяну ад балот
ішоў з краіны у краіну...

Гісторыя чалавечых узаемаадносін вучыць нас, што ня толькі пацалункамі, але і больш матэрыяльнай зброяй—сьняжкамі—ня можна дабіцца—

Над працай каб прымусу ня было...

Дубоўка нібы то цалкам стаіць на грунце соцыялістычнага будаўніцтва; прынамсі гэта адбіваецца ў мэлёдыі дзевятай, хаця і гэтая справа ў Дубоўкі не абыходзіцца бяз сьлёз і тугі—тут ужо агульны характар нэрвознай поэзіі Дубоўкі. Вялікае месца ў мэлёдыях „Наля“ займае бацькаўшчына, Беларусь. Гэты мотыў таксама яскрава выступае і ў Пушчы, але ў Дубоўкі ён мае спэцыфічны характар. І таму і другому Беларусь уяўляецца вобразам надчалавечай пакуты, што матэрыялізуецца ў постаці Ніобы (гаротнай маткі, страціўшай сваіх дзяцей) і да г. п. Але ў Дубоўкі вобраз Ніобы затуляецца другім вобразам—больш моцным і больш жыцьцёвым:

Раскажа сьпеў, што Беларусь жыве,
непераможная у працы сьціплай.
Што долю гадавала на жарстве
ня горш каралевых поліпаў...

Вельмі шкодзіць творам Дубоўкі тое, мы-б сказалі, жонгляваньне формаю, якое асабліва яскрава вызначаецца ў мэлёдыях VI, VII і VIII. Трэба адзначыць і некаторыя нязграбнасьці стылістычнага парадку:

Ня выскрабуць ніякія нажы,
Паклаў поэта што ў аснову.

Гэтыя радкі характэрныя для Дубоўкі, які мала лічыцца з структурай сказу і заходзіць у ламаньні яго вельмі далёка...

Вершы Пушчы не вызначаюцца асаблівай мастацкасьцю і, часьцей усяго, ня маюць нават і зьместу, пераходзячы часамі да лёгкага гумару. Вось, напрыклад, у вершы, дзе поэта, успомніўшы „цярпеньні народу свайго“, адразу бярэцца за справу:

Лісты залатыя ён з клёну трасе
І песьні сьпявае змаганьню-красе.

Але часамі Пушча ад абтрасаньня лістоў з клёну памыкаецца перайсьці да больш сур'ёзных мотываў. Беларусь у цярнёвым вянку, Беларусь укрыжаваная, абдзеленая людзьмі і гісторыяй—вось якая Беларусь у Язэпа Пушчы, які шмат піша ў сваіх вершах пра Беларусь. А сучаснай Беларусі, скінуўшай церні, стаўшай роўнай між іншымі народамі, Беларусі-будаўніцы, няма ў Пушчы.

На ростані ўсходня-заходніх дарог
Цябе, дарагая, яны ўкрыжавалі.

Яны—гэта чужынцы, не беларусы. Розьніцы паміж Усходам і Захадам няма, ворагі з усіх бакоў... І вось тут у сапраўдным сьвеце выступае пункт тэзісу аб выкарыстаньні культурнай спадчыны. Ленін вучыў нас, што новую пролетарскую культуру мы можам будаваць, выкарыстоўваючы культурныя дасягненьні папярэдніх эпох. Значыць, мы павінны заўладаць культурнай спадчынай і буржуазнай *клясавай* культуры і выкарыстаць усё лепшае ў ёй для сваіх мэт. Так часамі разьбіраецца стары будынак, і частка цэглін яго найбольш моцных уваходзяць у склад новых муроў. Але, калі гутарка ідзе аб выкарыстаньні культурнай спадчыны цэлых эпох, дык ніколі няможна тут праводзіць нацыянальнае разьмежаваньне. Нам думаецца (хоць тут, бязумоўна, выразна акрэсьленых межаў нельга правесьці, як і ва ўсякім пытаньні літаратуры і мастацтва), што ўзвышаўцы ў некаторай ступені супроцьпастаўляюць культурную спадчыну беларускую культурнай спадчыне іншых краёў, асабліва сумежных. Ва ўсякім выпадку ўвага ўзвышаўцаў, галоўным чынам, завострана на Захадзе, як і ў адпаведнай украінскай групы Хвілёвага. І тут справа стаіць, як з Беларусьсю: сапраўднай Эўропы ня можа ўбачыць Пушча, як ня бачыць і сучаснай Беларусі.

Найшла на Эўропу разгульная похаць*)
Пусьціліся ўсе у шалёны фокстрот...

Тут сказваецца тое ганебнае верхаглядзтва, якім хварэе не адзін Пушча. Трэба быць надзвычайна павярхоўным і няўважлівым, каб не разглядзець сапраўднага стану рэчаў у Эўропе, каб ня ўбачыць напружанага і нясупыннага групаваньня сіл, вялікага браджэньня. „Здань ходзіць па Эўропе“. Мы параілі-б Пушчы часьцей падчытваць газэты:

*) Зусім беларускае слова...

адтуль Пушча даведаўся-б, што ў Эўропе, апрача фокстроту, ёсьць і другія цікавыя зьявы. З другога боку мы-б адаслалі Пушчу да надзвычайна цікавага артыкулу Д. Ільлінскага „Муссолини и его партия“ [1]), які паказвае, што нават і буржуазія здольна яшчэ на нешта іншае, апрача фокстроту.

Гэтае самае верхаглядзтва цягне ўзвышаўцаў да надмернага ўжываньня „вумных“ слоў, каб паказаць чытачу, што „і мы, маўляў, народ культурны, сёе-тое ведаем“. І вось мы дазнаемся ў аднаго такога „культурнага“ чалавека, што пэрсыдзкі кілім—сіняга колеру, у другога даведваемся, што нямецкае слова kostbar (каштоўны), перайшоўшае ў беларускую мову („Параска мая, *кастабарная* мая“), сталася складаным эпітэтам [2]).

У ўзвышаўцаў можна знайсьці і Вэнэру Мілоскую, і Горацыя, і Клеопатру, і Ніобу—каго хочаце можна знайсьці, толькі жывога сучаснага знайсьці нельга. Выключэньне ў гэтым кірунку складае ў некаторай меры Дубоўка.

Крапіва, які таксама бадай у працягу году нічога нідзе не друкаваў, зьяўляецца цяпер, пасьля адпаведнай апрацоўкі ва „Узвышшы“, у некалькі інакшым выглядзе. Здольны сатырык, папаўшы ў „олімпійскае“ балота, траціць свой ранейшы маштаб, звужае свой кругагляд і, ад вострай грамадзкай сатыры, якая стварыла яму ў свой час шырокую популярнасьць, пераходзіць да антыэстэтычных баек, кшталтам „Саромлівага“, і да зусім бледных апавяданьняў у № 2 „Узвышша“. Крапіва цяпер можа напісаць добра толькі на такую тэму, якая вядома і можа быць цікавай толькі невялічкай групе людзей. Такія ўсе байкі і апавяданьні Крапівы ў яго ўзвышаўскі пэрыод. Крапіва страціў свой грунт і, перацягнуты ў абставіны, зусім не адпавядаючыя яго жанру, заняпаў нават і з мастацкага боку, падзяліўшы лёс А. Паўловіча.

Вузкасьць тэматыкі, нацыяналістычная абмежаванасьць у выбары тэм—гэта адна з асноўных хвароб „Узвышша“. У той час, як у творчасьці іншых пісьменьнікаў разгортваюцца шырачэзныя палотны жыцьця вялікага і шматвобразнага, нашы „олімпійцы“ заселі ў нейкім дальнім кутку і адтуль вядуць сваю аднастайную скаргу на сьвет і жыцьцё. Вяртаючыся яшчэ раз да „тэзісаў“, мы павінны падкрэсьліць, што, хаця „Узвышша“ і бярэ на сябе рэпрэзэнтацыю пролетарскай плыні ў беларускай літаратуры, сьмешна было-б аднесьці да пролетарскай літаратуры творы такіх „поэтаў“, як Пушча або Шашалевіч [3]), Лужанін ды інш. Няможна гаварыць аб пролетарскім зьмесьце ці ідэолёгіі нават і ў вершах Дубоўкі,

---

[1]) „Прожектор“ № 9 за 1927 г. Раім гэты артыкул, як найбольш даступны і популярны.

[2]) Дубоўка. „Пра нашу літаратурную мову“. „Узв.“ № 2, ст. 179.

[3]) І такі ёсьць. Хаця „Узвышша“ супроць выяўленьня пачынаючых поэтаў праз літаратурную організацыю, але для Шашалевіча чамусьці зрабіла выключэньне і зьмясьціла яго першы верш у № 2.

ня кажучы ўжо пра К. Чорнага, З. Бядулю, якія даволі выразна сябе за апошні час паказалі.

Што тычыцца публіцыстычнай часткі абодвух нумароў, дык тут асабліва цікавымі прадстаўляюцца нам артыкул Дубоўкі „Пра нашу літаратурную мову" і артыкулы пра М. Багдановіча (асабліва артыкул проф. Замоціна ў № 2). На „Літаратурных нататках" Бабарэкі спыняцца ня прыдзецца таму, што гэты „твор" ужо даволі быў высьветлены...

Ул. Дубоўка ў двох нумарох „Узвышша" зьяўляецца аж у некалькіх абліччах: поэт, перакладчык, дасьледчык музыкі і, нарэшце, накшталт мовазнаўцы ці літаратурнага крытыка, як у вершы:

То академик, то герой...

Аднак, артыкул „Пра нашу літаратурную мову" павінен зьвярнуць на сябе ўвагу чытача. Адкінуўшы ўсе мясьціны палемічнага характару ў артыкуле і застаўляючы пытаньне аб іх тактоўнасьці і патрэбнасьці на разгляд чытача, мы мусім зазначыць, што пытаньні, узьнятыя Дубоўкам, зьяўляюцца начаснымі і вымагаюць найбольшай да сябе ўвагі. Сапраўды, справа з нашай літаратурнай мовай стаіць ня зусім добра, і мала хто імкнецца што хоць колечы зрабіць у гэтым кірунку. Робіцца, але вельмі мала, і мы лічым, што гэта справа павінна выйсьці на першы плян у працы беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў. Наша мова мае даволі задаткаў для таго, каб даць багатыя вынікі яе распрацоўкі *). У артыкуле Дубоўкі, наогул даволі цікавым, нас дзівяць некаторыя асабістыя выпады і асабліва разьдзел пра А. Вольнага. Тут думка ў агульным правільная, але разважаньні пра граніт, ухмылкі і перадача вершаў у расійскай транскрыпцыі вызначаецца няпрыкрытай тэндэнцыяй, што ў сваіх стараньнях „угробіць" Анатоля Вольнага прыводзіць да казённай трактоўкі мастацкага вобразу ці недарэчных тлумачэньняў слова (ухмылка).

Адносна вельмі цікавага артыкулу проф. Замоціна „М. Багдановіч" мы мусім зрабіць адну заўвагу. Нам здаецца, што паважаны профэсар, мякка кажучы, перасаліў, выкопваючы здольнасьці дальніх продкаў Багдановіча і ўвязваючы іх надаронасьць з талентам поэты. Нам думаецца, што калі ісьці шляхам гэткіх меркаваньняў, дык сьмела можна дайсьці да ўтварэньня асобнага племені поэтаў, пісьменьнікаў, мастакоў ды г. д. Калі гэта рабілася для таго, каб (праз бацьку) зьвязаць поэта з сялянскай масай, дык гэта, на наш погляд, таксама зусім лішняе, таму што, як ні кажы, а Багдановіч усё-ж такі быў прадстаўніком выкрышталізаванай гарадзкой інтэлігенцыі, і ніколі ніхто ня лічыў гэтага за ганьбу. І тым

*) Адначасна мы лічылі-б патрэбным закрануць яшчэ адну зьяву, гэта наша, так сказаць, афіцыйная мова. Жах бярэ, калі пачытаеш паперы ды шыльды некаторых установ, дзе, здавалася-б, справа павінна стаяць значна лепш. Дагэтуль змаганьне з калечаньнем мовы вялося толькі ў форме фэльетонаў, але час ужо ўзяцца за гэту справу больш сур'ёзна.

большаю хібаю артыкулу зьяўляецца слабое асьвятленьне ўмоў, у якіх працякалі студэнцкія годы Багдановіча. Мы мала ведаем аб тых умовах, якія спрыялі формаваньню ў М. Багдановіча нацыянальнай сьвядомасьці. Мы мала ведаем, якія людзі акружалі Багдановіча ў тыя вельмі важныя для яго разьвіцьця часы. Аднак, у агульным артыкул проф. Замоціна зьяўляецца даволі цікавым.

А. Бабарэка ў канцы свайго артыкулу дадае вывады, якія прадстаўляюць цікавасьць зноў-жа для асьвятленьня ўзвышаўскага пункту аб выкарыстаньні культурнай спадчыны.

І з дэкларацыйных выступленьняў узвышаўцаў раней і цяпер, і з артыкулаў відаць, як захапляецца „Узвышша" М. Багдановічам і як вылучае яго ў сваіх сымпатыях сярод іншых беларускіх пісьменьнікаў. Мы пастараемся шляхам абеглага аналізу асобы М. Багдановіча і яго творчасьці выявіць карэньні гэтых сымпатый.

*Соцыяльная* прыналежнасьць Максіма Багдановіча—рафінаваны інтэлігент, выхаваны ў інтэлігенцкім асяродзішчы, студэнт аднае з найбольш упрывілеяваных навучальных устаноў—Дзямідаўскага Ліцэю ў Яраслаўлі, куды ня ўсякі мог папасьці і дзе Багдановіча акружала пэўнае соцыяльнае асяродзішча.

*Па мотывах творчасьці* М. Б. зьяўляўся найбольш пасыўным у справе змаганьня за зьнішчэньне соцыяльнай несправядлівасьці ў процілегласьць Купале, Коласу і Цішку Гартнаму, і найбольш актыўным у адносінах да нацыянальнага вызваленьня. Апошнія мотывы набывалі ў Багдановіча асаблівую афарбоўку: у Купалы, Коласа і друг. мотывы вызваленьня нацыянальнага шчыльна перапляталіся з мотывамі соцыяльнага вызваленьня. У Багдановіча іначай і не магло быць, калі прыняць пад увагу тое соцыяльнае асяродзішча, у якім ён жыў, а таксама поўную адарванасьць яго ад рэальнага жыцьця соцыяльна-прыгнечаных груп беларускага народу.

*Літаратурныя густы* М. Б.—згодна артыкулу проф. Замоціна—поэта любіў чытаць творы Блока, Белага і Мараўскай *).

*Па форме творчасьці* М. Багдановіч унёс новую плынь у беларускую літаратуру ў сэнсе формальных шуканьняў. Гэтым Багдановіч зноўжа зьяўляецца поўнай процілегласьцю Купале, Коласу ды інш., якім была бліжэй народная творчасьць і якія выключна на ёй будавалі сваю творчасьць. Гэткі кірунак Багдановічавай творчасьці становіцца зусім зразумелым, калі прыняць пад увагу яго сымпатыі да твораў такіх поэтаў, як Блок, Мараўская, А. Белы, дваранскі лірык Фэт ды інш. Гэтым

*) М. Мараўская—расійская поэтэса дарэволюцыйнай пары; была даволі популярнай у колах арыстократыі і гарадзкой інтэлігенцыі побач з Лохвіцкай, Северанінам, Ахматавай і інш.

поэтам ня было прастору ў старых формах расійскай поэзіі, да канца вычарпаных Пушкіным і Лермантавым; ад іх поэзіі пэўныя пласты вымагалі новых нячуваных фарбаў і новых вострых адчуваньняў. Адгэтуль і пайшлі ўсякія напрамкі, „ізмы“, як мы іх звыклі называць.

Мы ня будзем падрабязна спыняцца на ўсіх асаблівасьцях Багдановічавай творчасьці, бо гэта не ўваходзіць у нашу програму. Мы хочам яшчэ падкрэсьліць сымпатыі Багдановіча да *беларускай старажытнасьці*, што прадстаўляе адну з галін яго лірыкі, прысьвечанай нацыянальнаму вызваленьню Беларусі, і знамянуе тую плынь адраджэнства, якая апіралася, галоўным чынам, на нявыразныя гістарычныя традыцыі.

„Узвышша“ па сваёй істоце прадстаўляе таксама густы і інтарэсы сучаснай гарадзкой беларускай інтэлігенцыі, ня маючай ніякай сувязі ні з сялянствам, ні з пролетарыятам, інтэлігенцыі дэклясаванай, але зусім лёяльнай да савецкай улады. Узвышаўцам таксама бліжэй мотывы нацыянальныя, чым соцыяльныя, і стаяць яны ў гэтых мотывах прыблізна гадоў за дзесяць да сёньнешняга дня. Творчасьць іх гучыць прыблізна так, як у Багдановіча:

У гутарках, казках аб шчасьці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе,
Сьціснула гора дыханьне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Пагоня за новымі формамі, нібы-то пабудаванымі на народных, нейкае болеімкненьне (цярновыя вянцы ды іншыя прылады), уласьцівае лібэральнай інтэлігенцыі старога часу і, нарэшце, „выкарыстаньне культурнай спадчыны“, якое, па істоце,ператвараецца чуць не ў ідэалізацыю старажытнасьці („Беларусь была багатаю і слаўнаю, і незалежнаю, але чужынцы надзелі на яе цярновы вянец і ўкрыжавалі яе на ростані ўсходня-заходніх дарог“—пераказваем вершы Пушчы). Сучаснае будаўніцтва ня мае прывабных бакоў для ўзвышаўскай лірыкі, у сучасным у іх—„імжа і склізота і прыкрая золь“. Застаюцца песьні:

Кастальскай крыніцы ня маем,
Няма й златагрывых Пэгасаў.
А песьні аквечаны маем,
А песьні ніколі ня гаснуць.
*Жыцьцё іх—нядоля ліхая.*
*Цярнёвы вянок Беларусі.*
Ўсьміхаюцца зоры пад гаем—
Бель-срэбныя ткуцца абрусы.
*Плач струнны за сэрца хватае.*
*Ліецца са струн Аполона...* і г. д.

Тут можна знайсьці і Пэгасаў, і Аполона, і Кастальскую крыніцу, а вось жывога пачуцьця, якое было-б водгукам на сучаснасьць, тут няма.

Канчаючы наш агляд, мы зноў мусім пацьвердзіць тыя палажэньні адносна „Узвышша“, якія мы высоўвалі раней. Група, раней належачая

да адзінага фронту будаўніцтва пролетарскай літаратуры, пад уплывам пэўных соцыяльных фактараў адышла ад яго. Цяпер, прыкрыўшыся, як шчытом, лёзунгам пролетарскай літаратуры, група працягвае ідэі зусім для пролетарыяту чужыя. Ня гледзячы на тое, што „Узвышша“ ўпарта ўхіляецца ад дыскусіі і адказвае толькі нэрвовымі і нясталымі дэкляpацыямі кшталтам „комунікату“ (можа таму, што адчувае сваю слабасьць), задачай нашай крытыкі і ў далейшым застаецца выкрываць усе памылкі групы, каб даць магчымасьць сумленнай частцы яе сяброў, асабліва моладзі, стаць на правільны шлях.

# КНІГАПІС

**Н. Чарнушэвіч**. *Дзіва. Вершы. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1927. 122×180 мм. 67 ст. 3.000 экз.*

Для нас зусім ня дзіва, што Чарнушэвіч выдаў гэты зборнік вершаў, бо ён даўно ўжо пачаў пісаць іх, з 1922 году. Частка вось гэтых вершаў пачатку творчасьці поэты і зьмешчана ў III разьдзеле зборнічку з эпіграфам:

Ты ідзеш, ідзеш з-за небасхілу,
залатая зара. (47)

Калі заўважыць, што мэтаю для поэты зьяўляецца будаўніцтва нашай Беларусі—

Мацнее адзіная мэта,—
Увесь твой, Беларусь мая,
Палаю тваімі і радасьцю
й больлю...

Наперадзе, бач, зіхаціць
веснамайскі маяк,—

Вядзі, я іду за табою... (24),

дык прыходзіцца адзначыць, што гэты III разьдзел зборнічка найбольш бадзёры пры агульным прыродаапісальным характары лірыкі поэты. Але, калі перамога была зроблена—

Ужо ў сьвет надышло для
жыцьця адраджэньне,
Бо прайшла барацьба, перавага відна.
Хай узгадуе-ж з зямлі наша беднае зерне,
У колас жыцьця і поўнае волі вясна—(52),

тады прышлося ўзяцца за павольную цяжкую працу адбудаваньня і будаваньня новай Беларусі. Хоць і меншыя, дробныя, але часьцей сустракацца сталі перашкоды. Адсюль сталі зьяўляцца ў поэты сумныя ноты ў больш позных творах. Дрэнна, калі чалавек да таго зьнямог, што і ня верыць у лепшае і ня хоча дамагацца яго, але было-б сьмешна патрабаваць ад чалавека сьмеху і радасьці ў скоках, калі ён пабіў сабе нагу.

Нашаму поэту цяжка жывецца, пападаюцца дрэнныя дні, але агульны настрой, агульны тон яго поэзіі бадзёры і барацьбяны:

У сьветлае новае Сёньня
пойдзем з табою ізноў,
сонца прастрэ нам далоні,
з сонцам растане і ноч. (18)

Поэта добра ведае сваю мэту:

Ня трэба занадта слоў,
ніколі мінулага не пашкадую...

У праменнае Заўтра, ой,
выйду адзінкай, паслом,

Каб рань веставаць маладую. (23)

Ён верыць, што тое, што—

Сёньня іскра—заўтра
полымя. (27)

Але, каб так сталася, трэба змагацца:

Страхі ночы, што шэпчуць
навокала,

Ня спужаюць сваім нас
зыкам. (56)

Ужо—
...з гарыні
Сонца караліцца,
Страхі апошнія гінуць...
Будзяць то сьвет
Да новае раніцы,
Серпаў і молатаў гімны. (50)

Усё-ж сёняшняе яшчэ ня мэта; мы ўрачыстуем, але трэба ісьці дальш:

Мы выходзім на рашучы
парад,
нашы вочы перамогай гарацьц...

Ой, за доляй праз сяго-
нешні дым
у пагоню, у пагоню ляцім. (46)

Можа на гэтым шляху чакае сьмерць, але:

Калі трэба—бяз жалю ска-
наем,
бо з карысьцю памерці ня
шкода... (36),

тым больш, што—

У бойцы за шчасьце ня
шкода ўпасьці,
нават павіснуць на голь-
лейках вербаў. (26)

Наогул Чарнушэвіч — поэта, які адпавядае задачам сучаснасьці і прытым жывы чалавек нават у дрэнных выпадках і з сталым барацьбяным настроем.

Амаль на працягу ўсяго зборнічка ён умела карыстаецца характарам і ўласьцівасьцямі народнай поэзіі. Спыняцца на дасягненьнях народнай песьні, поэзіі ніяк нельга, бо гэта будзе крок назад. Народную поэзію трэба скарыстаць, усвоіць, перетварыць і даць нешта новае на яе грунце, але ніяк ня ставіць за ідэал для індывідуальнай творчасьці. Вось скарыстаць свае дасягненьні ў гэтым кірунку і зьяўляецца задачаю заўтрашняга дня для нашага поэты.

З задаваленьнем прыходзіцца адзначыць у зборніку шмат чаго сьвежага і новага ў галіне сродкаў стылістычнае композыцыі. Барбарызмы як: кастры (8), упасьці (26), прапон (46), клочча (57), ды часамі няўдалыя новатворы: хвораліцае (15), нятутэшняга (35), ўраньне і інш. даволі рэдка пападаюцца і, пры ўвазе да іх, аўтар лёгка іх пазбавіцца. Да рэчы трэба констатаваць, што поэта мала скарыстаў свае магчымасьці ў галіне ўзбагачваньня беларускай літаратурнай мовы за кошт провінцыялізмаў.

Зборнічак выданы здавальняюча, і яго можна сьмела рэкомэндаваць шырокаму колу чытачоў.

**М. І. К.**

**Проф. М. Ф. Владимирський-Буданов**. *Рада Великого Князівства Литовського. Записки Соціяльно-Економічного Відділу Укр. Академії Наук, т. IV, с. с. 204-237.*

Гэты артыкул нябожчыка—выдатнага гісторыка права мае сваю гісторыю. Напісаны ён яшчэ ў 1914 г., як рэцэнзія да Расійскае Акадэміі Навук на працу акадэм. І. Маліноўскага (тады—профэсара Варшаўскага Унівэрсытэту) „Рада Великого Княжества Литовскаго въ связи съ Боярской Думой древней Россіи“. Дзякуючы гэтай рэцэнзіі, акад. Маліноўскі атрымаў прэмію ім. Бацюшкова. Расійская Акадэмія Навук яе не друкавала, і Соцыяльна-Экономічны Аддзел Украінскае Акадэміі Навук прасіў яе дазволіць надрукаваць яе ў яго „Запісках“. У выніку гэтага і маем украінскі пераклад яе ў т. IV „Запісак“.

Цяжка пісаць рэцэнзію на рэцэнзію. Але артыкул напісаны вучоным вялікага маштабу, ставіць шэраг важных для навукі проблем, сам мае характар працы дасьледчае, напісаны на важную ў гісторыі права тэму. Вось чаму ня можам замаўчаць яго зьяўленьня.

Новыя цікавыя думкі Ўладзімірскага-Буданова такія. Аўтар паказвае, што характэрная рыска Баярскае Думы ва украінскіх (па яго тэрміно-

лёгіі—паўднёва-заходніх, — у беларускіх і вялікарускіх землях яна мела іншы характар) землях княжае добы эпохі, пра каторую не сказаў акад. Маліноўскі, гэта тое, што ў яе складзе мы раз-по-разу сустракаем мясцовых правіцеляў: тысяцкіх у Кіеўскай зямлі, ваявод—на Валыні і Галіцыі. Адсюль яе большы (чым у беларускіх і вялікарускіх землях) аўторытэт і значэньне. „Людзі,—піша ён,—пераносячы гэта на наступны пэрыод, што сьпіраюцца ў сваіх учынках на провінцыі, якімі яны кіруюць, запэўна маюць болей сілы і самастойнасьці, чым асобы, каторыя сваё значэньне здабываюць прыдворным станам. Першыя, хоць іх прызначае вял. князь замест быўшых удзельных князёў, захоўваюць значную частку ўплыву быўшых князёў-уладароў. У Маскве, дзе вял. князі ў самым ужо пачатку эпохі самадзяржаўя завялі нядоўгачасныя (на два ці тры гады) намесьніцтвы, традыцыі ўдзельных часоў зусім зьнішчыліся. У Літве, дзе быўшыя самастойныя землі (дзяржавы) доўга яшчэ захоўвалі сьляды мінулае свае самастойнасьці, намесьнікі і ваяводы шмат у чым ігралі быўшую князёўскую ролю. На наш погляд, гэта мела вялізнае значэньне ў гісторыі дзяржаўнага ладу дзяржаў“ (с. 211).

Другое важнае палажэньне Ўладзімірскага-Буданова — гэта ўказаньне на тое, што акад. Маліноўскі памыляецца, думаючы, што соймы вял. кн. Літоўскага адзначаліся ад Рады вял. князёўства толькі большым лікам членаў, прысутнасьцю, апроч сталага складу Рады, яшчэ і шляхты. Характэрная рыска сойму, па Ўладзімірскаму-Буданову, гэта — *прадстаўніцтва*, дзе ўдзельнікі не з уласнага права прысутныя на ім, але яны—прадстаўнікі пэўных корпарацый і груп. Усе-ж іншыя зьезды, дзе ня было элемэнту прадстаўніцтва— гэта шырокая Рада,—кажа Уладз.-Буданов. Дзеля гэтага першы сойм Літоўска-Украінска-Беларускае дзяржавы будзе ня ў 1446 г. (погляд Маліноўскага; проф. Любаўскі за год першага сойму лічыў 1401, проф. Максімэйка, а за ім Кутшэба—1492), а толькі 1507 г. Гэтае палажэньне вельмі цікавае і важнае і ўносіць ясную юрыдычную адзнаку паміж радаю і соймам.

Іншыя заўвагі Ўладзімірскага-Буданова такія. Утварэньне Рады ён адносіць да часоў Гэдыміна. Ён кажа, што акад. Маліноўскі пераацэньвае значэньне прывілею 1492 г.: фактычна шырокія правы мела Рада і да яго, і ён толькі зафіксаваў фактычнае палажэньне. З гэтым, нам здаецца, няможна згадзіцца, бо нябожчык вучоны не адкінуў солідных довадаў таго, што гэты прывілей пашырыў правы Рады і зрабіў больш моцным яе палажэньне, аформіўшы яго і ў пісаным законе.

Проф. Уладзімірскі-Буданов протэстуе супроць пераацэнкі значэньня шляхты, якое яна здабыла ў 60 г. г. XVI в. На яго погляд, магнаты і шляхта—гэта адзін стан, магнаты толькі верхні пласт яго. Але ён забывае, што хоць гэта стан і адзін (дый то ня так, бо магнаты мелі іншыя, больш шырокія, правы, а гэта адзнака стану), аднак клясы магнатаў і шляхты—розныя. Магнаты— „княжаты і паняты“—гэта прадстаўнікі старое фэўдальнае буйнае зямляўласнасьці. Пры новых гаспадарчых умовах (пераход да грашовае гаспадаркі) іх інтарэсы рэзка разыходзіліся з прадстаўнікамі сярэдняе зямляўласнасьці — шляхтаю. Адсюль і барацьба гэтых клясаў у XVI ст., якая скончылася перамогаю шляхты ў 1566-69 г. г. Хіба толькі з 60 г. г. XVI ст., пасьля Люблінскае вуніі, магнаты яднаюцца з шляхтай у адну клясу. Дагэтуль-жа князяты і паняты—асобны стан і кляса, якая мае шэраг асобных праў і прывілеяў.

Цяпер некалькі слоў пра іншы бок працы. Проф. Узадзімірскі-Буда-

нов колькі разоў паказвае, што ў працы акад. Маліноўскага „з'ігнараваны *нацыянальны элемэнт* у гісторыі Рады, момант у гэтай гісторыі... найважнейшы“ (с. 234). На пачатку сваёй работы ён кажа: „Перш-наперш, навука, да якой прыпісана тэма пра Раду, ці ёсьць гісторыя *рускага* (курсіў аўтара) права? Ня гледзячы на шматлікавасьць заяў, якія рабілі спэцыялістыя ад часоў моладасьці Ф. І. Леантовіча пра тое, што так званае літоўскае права і яго гісторыя—гэта, па істоце, права рускае і частка гісторыі гэтага права,— ня гледзячы на гэта, нікому яшчэ сапраўды не пашанцавала цесна зьвязаць вынікі гісторыі літоўска-рускага права з правам рускіх і ўвясьці першае, як органічную частку ў складзе другога. У агульных капітальных працах па рускай гісторыі з старых ужо часоў прынята рабіць кароткія нарысы заходня-рускае гісторыі пры агульных аглядах пэрыодаў стара-рускага жыцьця. Так ужо рабіў Карамзін і тое самае знаходзім і ў Соловьева і Бестужева-Рюміна. Але такія агляды робяць толькі дзеля паўнаты карціны ўласна-рускага жыцьця, каб пазнаёміць з зьяўленьнямі чужымі, з якімі сустракалася рускае жыцьцё нараўне са зносінамі польскімі, швэдзкімі, ардынскімі і г. д. Не пра такія адносіны да Літвы кажуць гісторыкі права ад часоў Леантовіча; яны думаюць, што факты гісторыі літоўска-рускага права важныя самі па сабе, як факты рускае гісторыі, што яны ў цеснай сувязі ёсьць з усім ходам разьвіцьця рускага права. Трэба, урэшце, спытаць і ўмовіцца: ці няма тут памылкі і пераўвялічэньня? Ці ня час адмовіцца ад ідэй Леантовіча? Тое, што зьявіліся кніжкі Маліноўскага, гэта найлепшая прычына, каб рашуча перагледзець і разьвязаць гэтае пытаньне (с. с. 204-205).

Пытаньне гэтае сапраўды вельмі важнае, гэтая заўвага Ўладзімірскага-Буданова цалкам правільная: „ад ідэй Леантовіча“ сапраўды ўжо час адмовіцца. Але як-жа „рашуча разьвязаў“ яго Ў.-Буданов? Ён, праўда, згаджаецца з акад. Маліноўскім, які вядзе Раду в. кн. Літоўскага ад Баярскае Думы старой Русі, і сам конкрэтна паказвае, што Рада заражджаецца ў Літоўскіх князёў у Ноўгарадзе на Чорнай Русі, што даводзіць яе бяспасрэдны зьвязак з Баярскай Думай (бо Ноўгарад гэта—„рускі“ горад). Але, з другога боку, самую Раду Літоўска - Украінска - Беларускае дзяржавы ён не называе „рускай“ установай. Так, ён піша, што „неўзабаве пасьля Горадзенскае вуніі мы ўжо ня бачым ніякага сьледу літоўскае нацыянальнасьці ў дзяржаўных дзеячах: усе гэтыя Гэдыгольды, Радзівілы, Долгэрды, Монтыгэрды—шчырыя палякі. Далейшая барацьба Літвы і Русі робіцца ўжо барацьбою Польшчы і Русі. Гэтым вызначаецца нацыянальны характар Рады, хоць племянны яе склад астаўся стары—літоўскі“ (с. 220). Тут рэлігійны момант вызначае нацыянальнасьць. Бяссумненна, гэта няправільна. Літоўскія „паны“ давялі, што яны не палякі, пры спрэчках з прычыны Люблінскае вуніі. Далей ён кажа—„цалком руская ўстанова спачатку, у корані Рада, нарэшце, становіцца ўстановай цалком польскай“ (с. 234). Далей ён робіць сваё заключэньне, каторае абсолютна не „рашуча разьвязуе“ проблему: „Вывучэньне такіх пераходных форм адносіцца да гісторыі рускага ці польскага права? Як само сабою ясна, яно адносіцца і да тэй, і да другое навукі. Адцяняючы сабою рыскі абедзьвюх нацыянальнасьцяй, такія межаумачныя формы найлепей памагаюць высьвятленьню характара абодвух супроцьлеглых нацыянальных тыпаў“ (с. 234).

Вось у гэтым, думаем, і ёсьць асноўная памылка Ўладзімірскага-Буданова. Наадварот, дасьледваньне гэтых форм вял. кн. Літоўскага, Ра-

ды ў тым ліку, якраз беспасрэдна не адносіцца ні да навукі расійскага, ні да навукі польскага права. Гэта была ўстанова дзяржавы, у каторую не ўваходзілі ні расійцы, ні палякі. Лад і праўнае палажэньне Рады, калі і запазычана, дык запазычана з Баярскай Думы „паўднёва-заходніх“ і „паўночна-заходніх“, а панашаму, з украінскіх і беларускіх зямель. Вось-жа дасьледваньне Рады ёсьць задача навук гісторыі літоўскага, беларускага і украінскага права, г. зн. права народаў, якія стварылі Літоўскую дзяржаву. Гэтае такое яснае ў нашыя часы палажэньне ідзе ў разрэз з поглядам Ул.-Буданова.

Але нашыя разыходзіны з нябожчыкам вучоным у гэтым пытаньні запэўна не адкідаюць значнага інтарэсу і значэньня яго работы. Напісана яна з уласьцівай Ул.-Буданову лёгічнасьцю і дакладнасьцю юрыдычнага аналізу. Адзначаныя на пачатку нашае рэцэнзіі новыя погляды, каторыя ставіць яна, ёсьць значны ўклад у навуку. Рэдакцыю Запісак Соцыяльна-Экономічнага Аддзелу Украінскае Акадэміі Навук трэба дзякаваць за тое, што яна дапамагла гэтай працы пабачыць сьвет.

**Л. Окіншэвіч.**

**Андрэ Зігфрыд.** *„Англия наших дней“. Пераклад з францускае мовы Зьм. Туранскага. Выд. М. С. Сабашніковых. Масква, 1926 г., стар. 204. Цана 2 руб. 50 кап.*

Кніга прысьвечана экономічным і палітычным проблемам сучаснай Англіі і нясумненна цікава для чытача СССР. Кніга ўдала пераносіць увагу чытача ад проблемы да проблемы, высоўваючы іх цэлы шэраг—сапраўды важнейшых для англійскай экономікі і палітыкі. Экономічныя проблемы асьветлены багатым і вельмі выразным статыстычным матэрыялам, узятым у пераважнасьці з першакрыніц. Паказаны супярэчнасьці, якія ўзьнікаюць з прычыны кожнай проблемы ў розных пластох англійскага грамадзтва. З асаблівай зацікаўленасьцю чытаюцца старонкі, прысьвечаныя пытаньню ўзаемаадносін паміж Англіяй і яе домініёнамі, магчымасьці ўтварэньня адзінай у экономічных адносінах Брытанскай імпэрыі і зьвязанай з гэтым замене старой англійскай традыцыі свабоды гандлю протэкцыянізмам. Асьвятленьне гэтай проблемы як-бы трохі аднабокае, паколькі аўтар увесь час застаецца на тэрыторыі Англіі і не высьвятляе гэтага пытаньня з пункту погляду разьвіцьця экономікі домініёнаў. Вось чаму, хоць аўтар і прыходзіць к заключэньню аб немагчымасьці ўтварэньня адзінай Брытанскай імпэрыі, ён ня бачыць росту адасяродкавых сіл, якія рвуць на часткі імпэрыю.

Аўтар нехаця надзвычайна ярка паказвае гэты рост адасяродкавых сіл, папершае, тады, калі ён разглядае проблему эміграцыі з Англіі ў колёніі, эміграцыі канечна патрэбнай і падтрымліваемай урадам Англіі, бо апошняя перанаселена, пры капіталістычных мэтодах гаспадараньня. Аказваецца, што домініёны працівяцца гэтай эміграцыіі і „пакідаюць эмігрантаў на граніцы“; падругое, калі ён разглядае палітычны лад імпэрыі і паказвае рост палітычнай незалежнасьці домініёнаў, якія адмаўляюцца ад падлегласьці англійскім губарнатарам—прадстаўніком улады мэтрополіі і ствараюць самастойную, цераз сваіх незалежных ад англійскага Міністэрства Чужаземных Спраў дыплёматычных прадстаўнікоў, міжнародную палітыку. Аўтар не выключае магчымасьці, што пры тых ці іншых дыплёматычных непаразуменьнях Англія можа застацца адна супроць сваіх супрацiўнікаў, без падтрыманьня домініёнаў ці, нават, маючы тую ці іншую колёнію супроць сябе (напр., Індыю). Аўтар проста кажа на стар. 137, што *„агульнаімпэрская палітыка застаецца, такім чынам, накіра-*

*ванай прынамсі да знадворнага адзінства*". А на стар. 138 выказваецца яшчэ характэрней, „*калі кожны* (гаворыцца аб домініёне Канадзе і Англіі) *будзе цягнуць у свой бок, то відочна ніякая фікцыя не акажацца досыць сільнай, каб перашкодзіць ім у гэтым*" (падкрэсьлена мною. І. Г.) Зразумела, гэтыя адасяродкавыя сілы, што выяўляюцца ў палітыцы, маюць сваю базу ў эканоміцы колёній, але аўтар яе не паказвае. Вельмі ўдала эканомічна выясьняе паказаныя пытаньні выданая на расійскай мове ў 1925 годзе кніга нямецкага аўтара М. Бэра „Англия сегодня".

Андрэ Зігфрыд выстарчаюча высьвятляе тыя сілы эканомікі і грамадзкасьці, якія супроцьдзейнічаюць магчымасьці пераходу Англіі да протэкцыянізму ў яе эканомічнай палітыцы. Ён констатуе той факт, што пераход да протэкцыянізму будзе азначаць паніжэньне англійскай эканомікі, але ставіць проблему на галаву, не дасьледуючы пытаньня аб тым, ці ня ёсьць протэкцыяністская плынь выражэньне падаючай эканомікі і ці не вядзе гэтая падаючая эканоміка да протэкцыянізму. „Калі-б,— кажа аўтар,—Англія перайшла да протэкцыянізму, яна не загінула-б, але гэта была-б другая Англія". Ня гледзячы на тое, што аўтар аддае даволі ўвагі падзеньню англійскай эканомікі, ён ўсё-ж застаецца ў Англіі растучага капіталізму, над якою высіцца вобраз Рычарда Кобдэна. Таго, што Англія стала *ўжо* другою, аўтар не заўважае.

З ня меншаю, калі з ня большаю цікавасьцю чытаецца тая частка кнігі, якая прысьвечана палітычным пытаньням. Добра выяўлены ўзаемаадносіны паміж асобнымі часткамі дзяржаўнага апарату, але ня дадзена выстарчаючага тлумачэньня таму, чаму існуюць такія ўзаемаадносіны. Некаторыя тлумачэньні надзвычайна слабыя. Тлумачачы, напр., факт узмацненьня выканаўчай улады, у процівагу старому англійскаму парляментарызму, аўтар гэту зьмену прыпісвае асобе Лейд-Джорджа, і ня бачыць таго, што гэта ёсьць вынік абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй, якія прымушаюць пануючыя клясы ўзмацніць свой па-запарляманцкі ўплыў на краіну цераз узмацненьне выканаўчай улады. Вось чаму аўтар лічыць гэта фактам, які пройдзе скора, а мы назіраем, у асаблівасьці ў сувязі з забастоўкай англійскіх гарнякоў, яшчэ большае падзеньне парляментарызму і ўзмацненьне выканаўчай улады.

Вялікую цікавасьць мае высьвятленьне раскладу англійскага лібэралізму, хоць, зразумела, ён не разглядаецца з пункту погляду росту клясавых супярэчнасьцяй, якія ўзмацняюць крайні консэрватызм, з аднаго боку, і рабочы рух—з другога, за кошт лібэралізму.

Але выключную цікавасьць мае асьвятленьне рабочай партыі. Гэта асьвятленьне з знадворнага боку адпавядае таму, што дае наша савецкая пэрыодычная і спэцыяльная літаратура. Аўтар правільна адзначае, што так званая „рабочая партыя" ня ёсьць партыя, як гэта мы разумеем, зьвязаная адзінствам палітычнай ідэі, мэты, а ёсьць „фэдэрацыя розных палітычных організмаў". Ён правільна адзначае, што гэта партыя не рэспубліканская, а монархічная, не партыя колектывізму, а якогасьці туманнага падабенства соцыялізму, што, знаходзячыся ва ўлады, яна абярнулася ў „партыю ўраду яго вялічаства", што з тых часоў, як яна атрымала доступ да ўлады, яна „імкнецца заняць належнае месца ў старынным нацыянальным абсталяваньні, ня ўносячы залішняга непарадку", што гэта партыя „глыбака варожа марксызму і прытрымліваецца дэмократычных ідэй, якія ўжо ўсюды вышлі з моды ў гусьце дэізму і нават піэтызму, прымае клясавую сьвядомасьць, але адмаўляючыся ад усякае клясавае барацьбы і разам з ёй ўсякае формы

гвалтоўнай рэволюцыі". Але разам з тым аўтар малюе нарастаньне рэволюцыйных сіл у рабочай клясе, пад уплывам крызісу гаспадаркі і становішча рабочае клясы, якое ўвесь час пагаршаецца: „Вайна,—кажа ён,—павялічыла інтэнсыўнасьць рабочага руху, і экономічныя патрабаваньні рабочых ускладніліся тайнымі рэволюцыйнымі мысьлямі". „Утварылася новая форма профэсыянальнага руху з чыста рэволюцыйнымі тэндэнцыямі". „Поруч з офіцыяльнымі профэсыянальнымі саюзамі ўтварыўся новы тып юніонізму, самавольнага і органічна ня зьвязанага з рэштаю профэсыянальнага руху. Узьніклі заводзкія старасты. Скора ў некаторых мясцовасьцях яны згрупаваліся ў камітэты на кожным прадпрыемстве з задняю думкаю ў *канцы-канцоў кіраваць ім. Гэта організацыя вельмі падобна была на організацыю расійскіх саветаў у пачатку іх існаваньня*" (падкрэсьлена мною І. Г.).

Далей мы маем карціны таго, як старыя бюрократы трэд-юніонізму вымушаны рухам мас выкідаць соцыялістычныя, рэволюцыйныя лёзунгі для таго, каб тармазіць іх ажыцьцяўленьне на практыцы; як „ранейшыя пажы каралевы" ўваходзяць у рабочую партыю, каб паменшыць яе рэволюцыйнасьць. Мы ведаем, што буржуазна-імпэрыялістычная політыка рабочай партыі ва ўлады ня была імпровізацыяй, а раней прадуманай і падрыхтаванай. Праўда, поруч з гэтым аўтар тлумачыць зьяўленьне рабочай партыі ва ўлады памылкаю Болдуіна ў той час, калі ў расійскай літаратуры няўхільнасьць утварэньня рабочага ўраду была выясьнена задоўга да ўтварэньня яго.

Да дэфэкту кніжкі, што залежыць не ад аўтара, а ад часу яе выданьня (выдана ў Францыі ў 1924 г. і трохі спазьнілася выданьнем на расійскай мове) трэба аднесьці тое, што яна не дае магчымасьці зрабіць агульныя вывады: 1) у значнай ступені займаецца спэцыфічнай экономікай ваеннага часу; 3) самыя апошнія экономічныя весткі ня ідуць далей 1923 г., калі яшчэ вельмі сільна адчуваўся пасьляваенны час. Нясумненна, гэтым тлумачыцца тое, што асьвятленьне вельмі цікавай проблемы стабілізацыі фунта стэрлінгаў застарое таксама, як і асьвятленьне значэньня фунта ў параўнаньні з далярам і значэньне міжнароднага крэдыту і гандлю Паўн. Ам. Злуч. Штатаў, у параўнаньні з крэдытам і гандлем Англіі. У гэтым сэнсе брошура англійскага экономістага Дж. Кэйнса „Экономічныя вынікі валютнай політыкі містэра Чэрчыля" (выдана ў 1925 г. на расійскай мове Ценр. Управ. ВСНХ СССР. М. 1925 г.), праца расійскага экономістага Капэлюша—„Фунт и Доллар", таксама, як артык. проф. Любімова—„Финансовые і психологическия условия современного международного крэдита" (часопісь „Международная Летопись", Масква, 1925 г) пакідаюць далёка за сабою кнігу Зігфрыда.

Нясумненна таксама, дэфэктам кнігі зьяўляецца тое, што яна занадта надае значэньне псыхолёгічным момантам, „духу нацыі", „благароднай традыцыі" і г. д., а часамі зусім упадае ў сантымэнтальна-падсалоджаны тон, і голы інтарэс гандлёвага прыбытку заменьвае быццам-бы ўласьцівым ангельскаму буржуа „разуменьнем таго, што дабрабыт другіх зьяўляецца для яго толькі дабром"; абарачае Англію ў натхніцеля сусьветнага „матэрыяльнага прогрэсу", тлумачыць інтарэсы лёндонскага Сіті к стабілізацыі фунта гонарам вялікай нацыі, глыбокім пачуцьцём комэрцыйнага сумленьня і сьвядомасьцю політычнай моцы; адшуквае парлямантарызм „заложаным у крыві ангельцаў". Гэтыя сэнтэнцыі ўжываюцца поруч з тым, што „аўтар добра бачыць, што ў эпоху, якую мы перажываем, індустрыяльная дэмократыя ідзе ў напрамку да соцыялізму". Менш усяго

такія сэнтэнцыі могуць мець уплыў на чытача СССР.

Але ўсё такі шкада, што выдавецтва не дадало да кнігі прадмовы, у якой-бы паведамлялася, калі зьявілася кніга ў Францыі і кім зьяўляецца аўтар.

Усё-ж такі кніжка зьявілася своячасова, надзвычайна карысна для чытача СССР, выдана вельмі акуратна і чытаецца лёгка, хоць патрабуе ад чытача некаторага знаёмства ў экономічных пытаньнях.

**І. Герчыкаў.**

**К. Німчинов.** *Українськиӣ язик у минулому ӣ тепер. II выд. Дзяржаўнага Выдавецтва Украіны, Харкаў 1926 г. 232×157 мм. 88 ст., 5.000 экз. Ц. 65 кап.*

Украінская мова дачакалася свайго навуковага вывучэньня і дасьледаваньня, у якім гэта кніжка займае адно з першых месц. Яна складаецца з трох разьдзелаў: месца украінскай мовы сярод спародненых, гісторыі разьвіцьця украінскай мовы і гісторыі украінскай літаратурнай мовы, у якіх аўтар, на падставе сапраўды навуковых даных, без асаблівай полемікі, нішчыць пэўныя вялікадзяржаўныя пагляды на украінскую мову.

Кожная мова ў пэўны час свайго існаваньня зьяўляецца вынікам разьвіцьця папярэдняга часу і, разам з тым, нясе у сабе пачаткі новых зьмен. Апошнія пры спрыяючых умовах становяць сабою з часам новыя мовы. Так паўсталі сучасныя мовы з кола спародненых славянскіх моваў, што, у сваю чаргу, выніклі з інда-эўропэйскай прамовы. Адсюль аўтар зусім слушна не пагаджаецца з поглядамі акад. Шахматава, які сапраўды надта захапляўся ідэяю „рускай дзяржаўнасьці" і, паміж іншым, дапушчаў паўднёва-славянскую прамову для беларускай і украінскай моваў. Наконт апошняга аўтар данай працы, Німчынаў, кажа, што „наогул, пытаньне аб беларускай мове належыць да найбольш складаных пытаньняў ўсходнеславянскага мовазнаўства. Ставіць Беларушчыну ў найбліжэйшую сувязь з украінскаю моваю не дае мажлівасьці такая найстарадаўняя адменнасьць яе ад украінскай мовы, як памякчэньне прыгалосных перад *е;* з другога боку—аб'ядноўваць Беларушчыну з паўднёва-расійскаю падмовою старадаўніх часоў не дазваляе своеасаблівы характар аканьня, які паказвае, што гэта рыса Беларушчыны зьяўляецца вынікам пазьнейшага ўплыву паўднёва-расійскіх гутарак. Вельмі мажліва, што *беларуская мова становіла сабою цалкам асобную групу гаворак яшчэ ў праўсходнеславянскай мове*" (падкрэсьлена намі. М. Ал.). Тутата Німчынаў успамінае погляд акад. Карскага на існаваньне аднаго з беларускіх пляменьняў яшчэ ў VI ст. нашае эры.

Украінская літаратурная мова, як кажа аўтар, у аснове сваёй мае кіеўска-палтаўскую гутарку, але ў выпрацоўцы яе прымалі ўдзел і паўднёва-заходнія пісьменьнікі, што прынесьлі свае асаблівасьці ва ўсеукраінскую літаратурную мову. Існаваньне паасобных гутарак на Украіне толькі даводзіць патрэбу літаратурнай мовы. Аўтар не пагаджаецца з патрабаваньнем некаторых украінскіх дзеячоў пісаць моваю Шаўчэнкі, бо новыя часы выклікаюць і новую, зьмененую мову з тае прычыны, што старая ня можа абслужыць новых зьяваў жыцьця.

З другога боку, аўтар лічыць немагчымым тлумачыць аднолькавыя моўныя рысы ў расійскай, польскай, беларускай, украінскай і інш. мовах запазычаньнем, бо гэтага не дазваляе сама масавасьць падобных рыс, пэўная пасьлядоўнасьць і законамернасьць тоесамых моўных зьяваў, а таксама тое, што блізкасьць моваў у слоўнікавым стасунку зьяўляецца вынікам аднолькавых культурна-гістарычных умоў.

Наогул, уся праца надта цікавая і каштоўная ня толькі затым, што яна гаворыць пра мову братняга народу, ёсьць вельмі добры вынік сталай навуковай працы, але і затым, што нагадвае нам неабходнасьць мець хутчэй такую працу аб нашай мове.

**М. Алесін.**

**А. І. Барычэўскі.** *Поэтыка літаратурных жанраў. Апрацаваў на ўзорах бел. літаратуры* **Ул. Дзяржынскі.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск. 1927, ст. 163.*

Працу А. І. Барычэўскага мне прышлося разглядаць яшчэ ў рукапісе. У выніку разгляду былі адзначаны мною наступныя яе станоўчыя бакі: 1) Поэтыка літаратурных жанраў пабудавана па стройнаму пляну, які вычэрпвае, у межах навучальнага падсобніка, усе віды мастацка-літаратурнае творчасьці, якія звычайна сустракаюцца ў чытацкай і навучальнай практыцы. 2) Характарыстыка літаратурных жанраў і цэлых жанравых груп зроблена вельмі прадумана і грунтоўна, не па шаблёнах старых падручнікаў данага роду, а на аснове грунтоўнага знаёмства аўтара з сучасным станам тэорыі поэзіі ў расійскай і чужаземнай навуковай літаратуры. 3) Вылажэньне сьціслае, але цікава як па багацьцю даных, што раскрываюць той ці іншы жанр з боку яго зьместу і формы, так і па стылю самога выкладаньня—яснаму і выразнаму, нярэдка жывому і вобразнаму. 4) Апісаньне літаратурных жанраў праароблена не аднабока, а па магчымасьці ў двух асноўных кірунках — соцыолёгічным і фармальна - мастацкім, што вытрымліваецца аўтарам ва ўсіх выпадках, калі гісторыя, літаратурная апрацоўка і ўвязка з жыцьцём данага жанру даюць для гэтага даволі матэрыялу. 5) У тэорыю літаратурных жанраў увязаны патрэбныя спраўкі з гісторыяй іх разьвіцьця (гістарычная поэтыка). 6) Тэорыя літаратурных жанраў ілюструецца часткова матэрыялам чужаземных літаратур, але, галоўным чынам, узорамі беларускай мастацкай літаратуры, што надае данай працы цікавасьці і каштоўнасьці іменна для беларускага чытача і для беларускай школьнай практыкі.

Пры гэтых станоўчых баках мною адзначаны былі і некаторыя недахопы,—галоўным чынам два з іх: 1) Характарыстыку літаратурных жанраў прыходзіцца няміноча ўвязваць з поэтычнай стылістыкай і мэтрыкай, у той час як ні стылістыка, ні мэтрыка не прадпасланы данай працы аб літаратурных жанрах, і, значыцца, гэта ўвязка можа аказацца часамі невыстарчальна ўстаноўленай і невыстарчальна выясьненай для чытача, мала знаёмага з стылістыкай і мэтрыкай. Трэба, зразумела, агаварыцца, што аўтар амаль заўсёды дае поруч свае тлумачэньні асобных стылістычных і мэтрычных элемэнтаў, па меры таго, як яны пападаюць у сфэру яго разважаньняў аб тым ці другім жанры. Тым ня менш, лепш было-б, калі-б чытач быў наперад падрыхтаваны к стылістычнаму і мэтрычнаму ўспрыйманьню тэорыі літаратурных жанраў. 2) Ілюструючы літаратурныя жанры ўзорамі беларускай літаратуры, аўтар або дае занадта мала, або зусім не дае такіх самых ілюстрацыйных спасыланьняў на ўзоры заходня-эўропэйскай і расійскай літаратур, што ня толькі пазбаўляе часамі яго тэорытычныя выкладкі належнай конкрэтнасьці, але і не дае чытачу выстарчаючай магчымасьці прылажыць вычытаныя ў данай працы тэорытычныя схэмы да знаёмых яму ад другіх ці па яго чытацкай практыцы чужаземных літаратурных узораў і тым самым іх тэорытычна прадумаць і абмеркаваць.

Пры канчатковым пераглядзе свайго рукапісу аўтар унёс некаторыя дадаткі ў свае нарысы ў інтарэсах унікненьня гэтых двух недахопаў:

першы недахоп некалькі аслаблены тым, што аўтарам унесен у нарысы шэраг дапаўняючых заўваг і паясьненьняў поэтычнага стылю і мэтрыкі наконт асобных літаратурных жанраў; часткова выпраўлен і другі недахоп шляхам дадатковых спасыланьняў на ўзоры іншых літаратур, апрача беларускай.

Наогул праца А. І. Барычэўскага, дапоўненая прыкладамі ў апрацоўцы Ул. Дзяржынскага, прадстаўляе сабою вельмі цікавую і карысную кнігу для выкладчыкаў мовы і літаратуры ў пэдтэхнікумах, у сярэдніх і старэйшых групах сямілетак і ў адпаведных школах павышанага праграмнага тыпу, для студэнтаў пэдфаку і наогул для студэнтаў-літаратурнікаў, а таксама для масавага чытача, які мае патрэбу ў літаратурнай асьвеце.

Выдана кніга добра; шрыфт выразны, лёгкі для чытаньня. Цана (1 р. 10 к.—163 стар.) нявысокая.

**І. Замоцін.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Літаратура, тэатр, мастацтва, музыка.**

* *Якуб Колас* закончыў і здаў да друку Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву другую частку аповесьці „У глыбі Палесься“. Адначасна друкуюецца другім выданьнем яго аповесьць „У палескай Глушы“.

* *Цішка Гартны* здаў у друк новы зборнік сваіх апавяданьняў размерам 14 друкаваных аркушаў пад назвай „Прысады“.

* Пачаў друкавацца Белар. Дзярж. Выдавецтвам новы зборнік вершаў пад назвай „Зорнасьць“ А. Гурло.

* *М. Грамыка* здаў у друк у БДВ зборнік сваіх твораў пад назвай „Дзьве поэмы“.

* У БДВ друкуецца зборнік вершаў „З палёў Заходняе Беларусі“ поэты Ул. Жылка.

* У Бабруйску П. Тараймовіч у прыватных асоб нашоў рукапісь аповесьці „Гапон“ беларускага пісьменьніка В. Дуніна-Марцінкевіча. Рукапіс і новая фотографія поэты Дуніна перасланы ў Інстытут Беларускае Культуры.

* Драматург і рэжысэр Беларускага 1-га Дзярж. Тэатру Е. Міровіч піша музычную комэдыю, якая адбівае жыцьцё гораду.

* Саюзам Рабіс распрацованы і ўнесены ў Наркамасьветы на зацьвярджэньне проэкт аб організацыі ў Менску беларускай філармоніі на 40 чалавек. Мэта філармоніі—аб'ядназньне ўсіх лепшых музыкальных сіл г. Менску і популярызацыя музыкі сярод шырокіх колаў працоўных.

* Надовечы адбыўся шырокі дыспут, пераважна моладзі, аб пастаноўках Беларускага Першага Дзяржаўнага тэатру за 1927 год. Дыспут выклікаў вялікія спрэчкі, у якіх выступала шмат рабочай моладзі з фабрык і заводаў.

* Вядзецца падрыхтоўчая праца аб рэорганізацыі студыйнага хору, які знаходзіцца пад кіраўніцтвам Галоўпалітасьветы—у беларускую дзяржаўную капэлю.

* Беларускае Т-ва Культурнай сувязі з заграніцай прыступіла да рэгулярнага выданьня свайго бюлетэню. У бюлетэні, галоўным чынам, будзе шырока асьвятляцца культурнае становішча Беларусі. Хутка выходзіць першы нумар бюлетэню.

* 14 мая г. г. закончыў свой сэзон Бел. 1-ы Дзярж. Тэатр. Напаследак была пастаўлена першы раз опэра „Русалка“ на беларускай мове, якая прайшла з вялікім посьпехам.

* Да канца сёл. году Белдзяржкіно выпусьціць 2 нацыянальныя беларускія фільмы сваёй вытворчасьці, а ўласна—„Кастусь Каліноўскі“ і „Гірш Лекерт“.

Работа па падрыхтаваньню гэтых фільм праходзіць вельмі пасьпешна. Карціна „Гірш Лекерт“ зроблена ўжо на 70 пр.

Для здымку карціны „Кастусь Каліноўскі“ шыюць спэцыяльныя гарнітуры эпохі 1863 г.

У зрыхтаваньні гэтых фільм прымаюць удзел вядомыя артысты былога Александрынскага тэатру Грыгор Ге і Кандрат Якаўлеў.

[Фільмы будуць зусім гатовы ў верасьні-кастрычніку.

* У жніўні месяцы г. г. мае быць наладжана ў Менску другая ўсебеларуская мастацкая выстаўка. Лепшыя экспонаты будуць накірованы на ўсесаюзную мастацкую выстаўку, якая адбудзецца ў Маскве ў верасьні гэтага году. Для падрыхтоўчай працы вылучана організацыйная камісія.

* 11-га ліпня ў Франкфурце на Майне (Нямеччына) адбудзецца ўсясьветная выстаўка народнай музыкі. Ад Савецкай Беларусі на гэту выстаўку пасылаюць народныя музычныя прылады: трубы, якія ўжываюць пастухі, жалейкі, ліры, дуды і цымбалы.

Да струмантаў дадаецца гістарычнае апісаньне іх.

Для дэмонстрацый выкану сьпеваў і ігры на народных музычных струмантах маюць быць пасланы ў Франкфурт артысты Сэлях, Поло і цымбалісты Савіцкі.

* За два месяцы Беларускі Дзярж. Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам Галубка наведаў самыя глухія куткі Калініншчыны і паставіў 44 спэктаклі, на якіх прысутнічала каля 20.000 чалавек.

* Па пастанове Наркамасьветы Першы Бел. Дзярж. тэатр пачне свой зімовы сэзон у Віцебску, Другі Бел. Дзярж. тэатр—у Менску, Яўрэйскі Дзярж. тэатр—у Гомелі.

* Пры Наркамасьвеце ўтворана аб'яднанае тэатральнае кіраўніцтва, якое будзе кіраваць мастацкай працай усіх тэатраў Беларусі.

* Мастакі М. Лебедзева і М. Эндэ працуюць над казкамі для дзяцей.

### У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве.

* Зацьверджан новы выдавецкі плян Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва на 1927-28 год. Усяго за выдавецкі год мае быць выдана звыш 1.500 друкаваных аркушаў. На беларускай мове—1050 аркушаў, яўрэйскай — 250, расійскай — 100, польскай—95, латыскай і літоўскай—30.

* Белдзяржвыдавецтва заказала ў Маскве зрабіць 2.000 штук глёбусаў на беларускай мове, патрэбных для беларускіх школ. Глёбусы будуць гатовы к пачатку акадэмічнага году.

* Зданы ў друк адрыўны каляндар на беларускай мове на 1928 год.

* Друкуецца Бел. Дзярж. Выд. шмат мастацкай дзіцячай літаратуры: „Габрусь і Рудзік“, „Разам лепей“ (апавяданьні), Няверова—Як у нас вайна была (апав.), Чарняўскай—„Варка“ (апав.) і інш.

* У хуткім часе выйдзе з друку дзіцячы сьпеўнік В. Луцэвіча і Савёнак.

* З 1-га кастрычніка 1926 г. па 1-ае мая 1927 г. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва выпусьціла на беларускай мове 114 аркушаў падручнікаў з агульным тыражом у 45.000 экз. Апроч таго, у друку знаходзіцца яшчэ 122 аркушы *вучэбнай літаратуры.* З 1-га кастрычніка 1925 г. па 1-ае красавіка 1926 г., г. зн. амаль што за тыя-ж месяцы мінулага выдавецкага году, было выдадзена 131 аркуш падручнікаў (тыраж 173.000) і ў друку знаходзілася 130 аркушаў.

*Мастацкай літаратуры* на беларускай мове з 1-га кастрычніка 1926 г. па 1-ае мая 1927 г. надрукована 17 аркушаў (тыраж 12.000 экз.), у друку знаходзіцца 54 аркушы і падрыхтоўваецца да друку 35 аркушаў. За вышэйпаказаныя месяцы мінулага выдавецкага году мастацкай літаратуры было выдадзена 17 аркушаў і ў друку знаходзілася 79.

*Сялянскай літаратуры* ў бягучым годзе надрукована 7 аркушаў (тыраж 15.000 экз.); у друку знаходзіцца 11 аркушаў, падрыхтоўваецца да друку 33 аркушы. У мінулым годзе на 1-ае кастрычніка быў выдадзен 21 аркуш і ў друку знаходзілася 23 аркушы.

*Ленінскай літаратуры* ў бягучым годзе надрукована 20 аркушаў з тыражом 5.000; у друку знаходзіцца 13 аркушаў. Апроч таго, падрыхтоўваюцца да друку *чатыры томы поўнага збору твораў У. І. Леніна*. Першыя чатыры томы, якія павінны быць выдадзены ў бягучым годзе, будуць мець 100 друкаваных аркушаў. У мінулым годзе на 1-ае кастрычніка было надрукована 13 аркушаў ленінскай літаратуры і ў друку знаходзілася 45 аркушаў.

*Політычнай літаратуры* на 1-ае мая бягучага году надрукована 10 аркушаў, у друку знаходзіцца 35 аркушаў, падрыхтоўваецца да друку 10 аркушаў. На 1-ае красавіка мінулага году быў выдадзен 21 аркуш і ў друку знаходзілася 13 аркушаў.

*Комсамольскай літаратуры* ў бягучым выдавецкім годзе надрукована 7 аркушаў. У друку знаходзіцца 34 аркушы. У мінулым годзе на 1 красавіка было надрукована 18 з пал. аркушаў; у друку нічога ня было.

Вялікі рост дало выданьне популярнай *літаратуры для работніц і сялянак*. У мінулым годзе было выдадзена ўсяго 4 друкаваных аркушы, а ў бягучым годзе выдадзена ўжо 8 кніжак „Бібліотэчкі работніцы і сялянкі“, што складае 10 аркушаў. Апроч таго, у друку знаходзіцца яшчэ тры кніжкі.

Упяршыню ў гэтым годзе Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва наладзіла выданьне *дзіцячай літаратуры*. Ужо выдадзена адна кніжка разьмерам у друкаваны аркуш. У друку знаходзіцца яшчэ 5 кніжак (2 з пал. аркушы); падрыхтоўваецца да друку 47 назваў, у тым ліку 20 назваў народных казак, апрацованых Якубам Коласам.

Праца Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва ў галіне выданьня літаратуры *на яўрэйскай мове* характарызуецца наступнымі лічбамі: з кастрычніка мінулага году да мая бягучага году выпушчана 10 кніг (33 аркушы, у друку знаходзіцца 42 аркушы, падрыхтоўваецца да друку 32 аркушы і заказана 60. У мінулым годзе па 1-ае красавіка было выдадзена 11 з пал. аркушаў, у друку знаходзіўся 41 аркуш.

*На польскай мове* ў бягучым годзе надрукованы дзьве кніжкі (13 аркушаў), знаходзіцца ў друку 5 кніжак (12 аркушаў) і падрыхтоўваецца да друку 31 аркуш. На 1 красавіка мінулага году было надрукована 18 аркушаў і ў друку знаходзілася 28 з пал. аркушаў.

*На расійскай мове* ў бягучым годзе надрукована 4 кніжкі (12 аркушаў); у друку знаходзіцца тры назвы (5 аркушаў) і падрыхтоўваецца да друку 54 аркушы. У мінулым годзе на 1 красавіка было выдадзена 17 аркушаў і ў друку знаходзілася 36 аркушаў.

Апроч таго, па-за плянам у бягучым годзе паўторнымі выданьнямі выпушчаны на беларускай мове 138 аркушаў. Гэта--галоўным чынам--падручнікі. У друку ў бягучы час знаходзіцца яшчэ 120 аркушаў кніг, якія выходзяць другімі і трэцімі выданьнямі.

* Друкуюцца асобнымі кніжачкамі творы Леніна: „Аб сусьветнай вайне“, „Трэці Інтэрнацыянал і яго месца ў гісторыі“, „Аб савецкай дзяржаве“, „Аб профсаюзах“.

* *А. Ляжневіч* здаў да друку Беларускаму Дзярж. Выдавецтву „Беларускі дэкляматар“, „Варажба“—пераклад п'есы Маркава.

* Бел. Дзярж. Выдавецтва друкуе патрэбную для шырокага кола сялянства кніжку Серады—„Вэтэрынарыя і зоогігіена“.

**Рознае**

* 29 мая г. г. ў Менску адбылося ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае 10-годзьдзю сьмерці беларускага песьняра Максіма Багдановіча. Аб творчасьці Багдановіча былі прачытаны даклады профэсароў І. Замоціна і М. Піотуховіча. Вечары-успа-

міны аб М. Багдановічу праведзены па ўсёй Беларусі.

* На гэтых днях выходзіць першы нумар часопісі Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна. У часопісі будзе зьмешчаны шэраг навуковых матэрыялаў па пытаньнях сельскай і лясной гаспадаркі.

* Вядомы расійскі дасьледчык мастацтва ў Маскве тав. Тугенхольд зьвярнуўся да адпаведных беларускіх інстытуцый з просьбай прыслаць фотографіі з рэчаў беларускага мастацтва.

Да гэтага часу пасланы ў Маскву фотографіі па малярству, графіцы і скульптуры.

* Гісторыка-археолёгічны аддзел БДМузэю выставіў для агляду пяць шчытоў з нашытымі на іх рознымі прадметамі, якія былі знойдзены пры земляных работах летам і восеньню 1926 г. на Нямізе.

Большая частка экспонатаў адносіцца да прадметаў хатняга ўжытку— нажы, вілкі, лыжкі, прымітыўныя лучнікі, ліхтары і г. д.; каваныя гвазды, замкі, ключы, кайданы, пікі, абсацы і конскія падковы, тапары, часткі аружжа, лапаты і г. д. Прадметы адносяцца да XVII-XVIII ст. і пачатку XIX ст.

* З цэнтральнага складу па ахове Дзяржаўнага Музэйнага Фонду ў Маскве гэтымі днямі паступіла значная колекцыя экспонатаў, якія цяпер апісваюцца і прыводзяцца ў парадак. Атрымана 29 карцін.

Акрамя карцін, атрыманы розныя старажытныя рэчы з фарфару, шкла і срэбра.

Згодна пастановы, зацьверджанай Прэзыдыумам ЦВК БССР, адзіны дзяржаўны архіўны фонд БССР складаецца з закончаных спраў, кніг, дакумантаў і перапіскі ўсіх, маючых адносіны да БССР, ліквідаваных і існуючых зараз на абшарах БССР дзяржаўных, профэсыянальных, коопэрацыйных і іншых грамадзкіх устаноў, організацый і прадпрыемстваў. Да архіўнага фонду таксама належаць архівы былых памешчыкаў, цэркваў і кляштараў усіх вер і архіўны матар'ял прыватных прамысловых, крэдытных, гандлёвых і іншых устаноў і прадпрыемстваў дарэволюцыйнага часу.

Адзіны дзяржаўны фонд БССР захоўваецца: а) у Цэнтральным Архіве БССР; б) у Менскім, Віцебскім і Магілеўскім гістарычных архівах; в) у акруговых архівах і г) у дзяржаўных, грамадзкіх і іншых установах на працягу пяці год; пасьля гэтага тэрміну яны перадаюцца ў адпаведныя архівы.

Усе ўстановы і дзяржаўныя прадпрыемствы да часу перадачы архіўных матар'ялаў павінны захоўваць іх у цэласьці.

* Цэнтраархіў БССР камандыраваў прадстаўніка ў Маскву дзеля атрыманьня архіўных матар'ялаў б. Менскай казённай палаты і іншых устаноў, што ў свой час былі туды вывезены.

Адначасова робяцца захады да звароту ў Менск архіўных матар'ялаў, які маюць каштоўнасьць для Беларусі, выяўленых у губэрскіх архіўных бюро—Уладзімірскім, Разанскім, Ульлянаўскім, Ленінградзкім, Смаленскім і інш.

* У скорым часе выходзіць з друку літаратурна-мастацкі зборнік, прысьвечаны звальненьню Беларусі ад белапалякаў. У зборніку зьмешчаны творы беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў—Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Чарота і інш., якія адбіваюць жыцьцё Беларусі ў час польскай окупацыі.

* Беларуская дзяржаўная бібліотэка атрымала з Вашынгтону ад Рокфэлераўскага істытуту мэдычных дасьледзін усе працы, пачынаючы з 1920 году. Усяго атрымана 40 томаў кніг.

* З пачатку новага акадэмічнага году адчыняецца ў Менску рабочы унівэрсытэт па прыкладу буйных акадэмічных цэнтраў саюзу.

Курс абучэньня разьлічан на 1-2 гады.

* У хуткім часе Навукова-Дасьледчы Інстытут імя Леніна адчыняе музэй па вывучэньню сельскай і лясной гаспадаркі.

*Беларускі Дасьледчы Інстытут організуе сельска-гаспадарчы музэй. Музэй будзе займаць памяшканьне былой царквы па Шырокай вул., дзе зараз праводзіцца рамонт.

## У Інстытуце Беларускае Культуры

* Пры бібліотэцы Інбелкульту організуецца спэцыяльны аддзел літаратуры па ўсіх пытаньнях, якія датычацца гісторыі, політыкі, гаспадаркі і культуры Заходняй Беларусі. Да гэтага часу сабрана звыш 300 томаў літаратуры па пытаньнях Заходняй Беларусі.

* Польскі аддзел ІБК закончыў апрацоўку матэрыялаў, якія датычаць паўстаньня 1863 году на Віцебшчыне. Матэрыялы ў скорым часе будуць зданы ў друк.

* Інбелкульту прысланы запросіны прыняць удзел у сьвяткаваньні стагодзьдзя са дня нараджэньня вялікага расійскага пісьменьніка Льва Мікалаевіча Талстога.

* Літаратурная камісія Інбелкульту атрымала новыя матэрыялы і ўспаміны Хлябцэвіча аб пісьменьніцы Цётцы.

* На днях выходзіць з друку першы том твораў Максіма Багдановіча. У 1927-28 годзе выйдзе другі том.

* Аддзел мовы і літаратуры наладжвае экскурсію па старажытнаму шляху Смаленск—Парэчча—Вяліж для вывучэньня дыялектычных асаблівасьцяй памянёнай мясцовасьці.

* *Т. Красьнянскі* склаў гісторыю г. Віцебска, пачынаючы з XI сталецьця. Гісторыя ў хуткім часе выйдзе з друку.

* Інбелкульт распачаў вывучэньне народнага беларускага мастацтва размалёўкі хат, малюнкаў на сьценах, разьбы на шчыце хат, вырабу розных дзіцячых цацак і г. д.

* *В. Ластоўскім* пераданы у тэатральны музэй ІБК архіў тэатру Буйніцкага (1910-1911 г.), які складаецца з 13 афіш, 17 програм і інш.

* ЦБ Краязнаўства падало ў прэзыдыум Інбелкульту проект новага статуту Цэнтральнага Бюро. У аснову проекту пакладзены наступныя прынцыпы: Цэнтральнае Бюро вядзе навуковую працу пад непасрэдным кіраўніцтвам прэзыдыуму Інбелкульту. У адносінах штатаў і каштарысу ЦБ зьяўляецца самастойнай організацыяй. Уводзіцца інститут корэспондэнтаў для ўстанаўленьня неабходнай сувязі з актывам краязнаўчых організацый на мясцох.

* Прэзыдыум Інбелкульту пастанавіў запрасіць з Нямеччыны для вядзеньня палеолетычных раскопак у Беларусі проф. архэолёгіі Эбэрта. Палеолетычныя знахадкі былі выкрыты ў мінулым годзе ў в. Бердыш, Чачэрскага р., і маюць сусьветнае значэньне. Проф. Эбэрт зьяўляецца выдатнейшым вучоным у галіне архэолёгіі.

* На апошнім пасяджэньні навуковай рады была разгледжана частка новага статуту Інбелкульту. Згодна новага статуту, Інбелкульт будзе будавацца па тыпу Акадэміі Навук. Мяркуецца стварыць наступныя асноўныя аддзелы: мовы і літаратуры, прыроды і гаспадаркі, гісторыка-соцыолёгічны і мастацтва.

* *Выстаўка хатняга рамяства.* Сёлета ўвосені ў Менску мае быць організавана выстаўка экспонатаў хатняга і саматужнага рамяства.

У організацыі выстаўкі прымаюць удзел падсэкцыя хатніх рамёстваў ІБК, ВСНГ, Беларускі коопэрацыйны саматужны саюз і Беларускі Дзяржаўны Музэй.

* Інбелкульт выпусьціў 1-шы том Беларускага Архіву, які зьмяшчае шмат матар'ялаў, датычных гісторыі Магілеўшчыны да 16-17 стагодзьдзя, розныя акты вялікага княства Бела-

руска-Літоўскага, розная перапіска Жыгімонта II-га з Янам Хадкевічам і інш.

* Польскі аддзел ІБК выпусьціў з друку зборнік матэрыялаў, якія малююць паўстаньне 1863 г. на Меншчыне.

* Інбелкульт вызначыў некалькі замежных камандыровак па розных галінах навукі.

Тав. Касьпяровіч камандыруецца ў Фінляндыю, Латвію і Літву для вывучэньня пастаноўкі краязнаўчай справы ў гэтых краінах; проф. Скандракоў у Польшчу і Чэха-Славакію дзеля вывучэньня тэхнікі сялянскае гаспадаркі; т. Аршанскі—у Нямеччыну і Амэрыку дзеля вывучэньня старэйшых дакумантаў яўрэйскай літаратуры.

* У гэтым годзе камісія па вывучэньню вытворчых сіл БССР вызначыла досьледы шэрагу галін прыроды. Глебазнаўчымі досьледамі будзе кіраваць проф. Афанасьеў, геолёгічнымі—проф. Блюдуха, гео-батанічнымі—Палянская, гео-магнэсавымі здымкамі—проф. Сіроцін, досьледамі мінэральных угнаеньняў—проф. Скандракоў, вывучэньнем курортных мясцовасьцяй (крыніц і г. д.)—д-р Трамповіч.

У наступным годзе Інбелкульт мяркуе наладзіць досьледы паўвадкіх выкапняў (сапрапэльляў) нашых балот і вазёр, якія знаходзяцца пад торфам. Сапрапэльлі пры сухой перагонцы даюць парафін і тлустасьць. У РСФСР даўно ўжо існуе інстытут па вывучэньню сапрапэльляў.

* Настаўнік Дукорскай сямёхгодкі Шатэрнік склаў слоўнік Чэрвеншчыны. Слоўнік зьмяшчае каля 10 тысяч слоў і зьяўляецца вельмі каштоўным укладам у скарбніцу нашае мовазнаўчае справы.

ІБК у хуткім часе прыступае да надрукаваньня слоўніка.

* ІБК выпускае з друку зборнік прац першай беларускай акадэмічнай конфэрэнцыі. Працы складаюць 28 друкаваных аркушаў.

* Аддзел мовы і літаратуры выпускае зборнік філёлёгічных дакладаў яго членаў, якія былі прачытаны на пасяджэньнях аддзелу.

* У хуткім часе выйдзе з друку ў адным томе (абедзьве часткі) краёвы слоўнік Віцебшчыны, укладзены тав. Касьпяровічам.

Слоўнік выходзіць памерам у 22 друкаваныя аркушы і зьмяшчае ў сабе да 10 тысяч слоў.

## ХРОНІКА З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* У Харкаве адчынілася з 15 мая г. г. першая ўсеукраінская мастацкая выстаўка Асоцыяцыі Мастакоў Чырвонай Украіны (МХЧУ).

На выстаўцы прадстаўлена каля 730 экспонатаў. Найбольшае месца займаюць працы мастакоў С. Розэнбаума (Палтава), Сапожнікава (Днепрапятроўск), Трахіменка (Кіеў), Жукава (Адэса), Іванова (Харкаў), Козік (Кіеў) і інш.

* Пісьменьнікі Д. Загул і Я. Савчэнка працуюць над кнігаю „Гісторыя украінскай літаратуры XX стагоддзя".

* Часопісь „Заря" (Днепрапятроўск) апавясьціла конкурс на лепшае апавяданьне з рабочага жыцьця за пэрыод рэволюцыйнай эпохі.

* У Кіеве адчыняецца украінскі мінэралёгічны музэй, які будзе ўваходзіць у склад навукова-дасьледчага інстытуту.

* Споўнілася гадавіна працы інстытуту Тараса Шэўчэнкі. Інстытут мае габінэты: 1) жыцьцяпісу Шэўчэнкі, 2) дасьледзін творчасьці Шэўчэнкі 3) бібліографіі Шэўчэнкі і новай украінскай літаратуры, 4) дашэўчэнкавай літаратуры, 5) пасьляшэўчэнкавай літаратуры і 6) кастрычнікавай літаратуры.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны пачынае выдаваць на расійскай мове мастацка-літаратурную часопісь „Красное Слово". У часопісі прымуць удзел украінскія і расійскія пісьменьнікі і поэты.

* У маі месяцы 1927 г. памёр вядомы украінскі пісьменьнік Марко Чэрэмшына (Іван Семанюк).

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ

Стар.

**ЦАНА 1 р. 50 кап.**

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1927 г.

на БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

# „ПОЛЫМЯ“

([illegible]ты год выданьня)

пад рэдакцыяй: З. Жылуновіча, М. Зарэцкага і Я. Ліманоўскага.

**У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ САМЫЯ ВЫДАТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ І НАВУКОВЫЯ СІЛЫ**

У 1927 ГОДЗЕ
Ў СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ УВАХОДЗЯЦЬ:

Адамовіч А., Адамовіч Я., Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў М., Баліцкі А., Бандарына З., Барашка І., Білецкі А. проф. (Харкаў), Бываеўскі Н., Быхоўскі Б., Бядуля З. (Ясакар), Бузук П. проф., Бэнч-Асмалоўскі А. (Масква), Барычэўскі Е. проф., Багдановіч А., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Гартны Ц. (Жылуновіч З.), Гарэцкі М., Гарабурда К., Гарэцкі Г., Гарбацэвіч В., Грамыка М., Гурло А., Глебка П., Грэдынгер М. проф., Герчыкаў І., Даркевіч П., Дрэйзін Ю., Дзяржынскі Ў., Дружчыц В., Жарскі П., Жарынаў З. проф., Жылка Ў., Журба Я., Замецін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ўс. проф., Імшэньнік Ф., Карклін М., Каліноўскі Ў., Кацэнбоген С. проф. (Саратаў), Каган Л., Канаплін Н., Кіпель Я., Колас Я. (Тарас Гушча), Купала Янка, Круталевіч А., Крыніцкі А., Лёсік Яз., Ліманоўскі Я., Лявонны Ю., Маракоў В., Марук Я., Моркаўка А., Мурашка Р., Мялешка М., Некрашэвіч С., Нёманскі Я., Ніканові́ч М., Нодэль В. (Ташкент), Окіншэвіч Л. (Кіеў), Падабед Я., Пічэта Ў. проф., Пушча Я., Пфляумбаум Е., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Сэрбэнта В., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Цьвікевіч Аляксандар, Чарвякоў А., Чарнушэвіч З., Чарот М., Чорны Кузьма, Чарнушэвіч Н., Шатэрнік М., Шыпіла Ів., Шлюбскі А., Шчакаціхін М., Шукевіч-Трацьцякоў Р. і інш.

## ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ПАЎТАРА МЕСЯЦЫ 8 КНІЖАК НА ГОД, РАЗЬМЕРАМ КОЖНЫ НУМАР 12 ДРУКАВАНЫХ АРКУШОЎ.

**ГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ НА 1927 г. АТРЫМОЎВАЮЦЬ ПА ВЫБАРУ БЯСПЛАТНА ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК ПА ДЗЬВЕ КНІЖКІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ і ПОЭТАЎ.**

ПОЎГАДОВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ Ў ДАДАТАК АТРЫМОЎВАЮЦЬ АДНУ КНІЖКУ.

**АКРАМЯ ТАГО, ГАДАВЫМ ПАДПІШЧЫКАМ ПРАДСТАЎЛЯЕЦЦА РАССРОЧКА З УПЛАТАЮ: 1 студзеня—4 р.; 1 ліпня—3 р. 50 к.; 1 кастрычніка—2 руб. 50 кап.**

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| | |
|---|---|
| На год | 10 руб. — кап. |
| „ 6 месяцаў | 5 руб. — кап. |
| „ 3 месяцы | 2 руб. 50 кап. |

**АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ 1 руб. 50 кап.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часоп. „Полымя“ (Менск, Савецкая 63), у цэнтральнай кнігарні Бел. Дзярж. Выдавецтва (Менск, вуг. Ленінскай і Савецкай), ва ўсіх акруговых аддзяленьнях Бел. Дзярж. Выдавецтва, ва ўсіх паштовых аддзяленьнях і ў канторы падпіскі на газэты „Правда“ і „Известия“ (Менск, Савецкая 61).